# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 (104) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2023 г.

# Лідзе - 700 гадоў
# 1323 - 2023











***Алена Шчэліна, загадчык Лідскага аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 (104) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2023 г.

## *У НУМАРЫ:*



На першай старонцы вокладкі: *Язэп Драздовіч. Агульны выгляд руінаў Лідскага замка. Паўночна-заходні мур замка. З альбома "Лідскі замак", 1929 г.*



? *

Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ "Аб сродках масавай інфармацыі" ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-З

Выдавец:
Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства "Пружмень"

Рэдактар:
Станіслаў Вацлававіч Суднік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, г. Ліда, вул. Лётная, 7 а.
АДРАС САЙТА:
http// nslowa.by

Наклад 150 асобнікаў
12,5 друк. аркушаў

Часопіс падпісаны да друку 30.12.2023 г.

Часопіс надрукаваны 24.04.2024 г. у ПВП "ЛітАРы": 230025, г. Гроднаа, вул. К. Маркса, 11, пам. 1/2.

Замова № 19/26.

ISSN 2218 – 1792






# Кроніка Ліды



З 1 верасня 2023 года стары будынак школы № 9 г. Ліды па вул. Малахава, 40 перастаў выкарыстоўвацца ў якасці аб’екта адукацыі. Будынак будзе прададзены з аўкцыёну.

18 кастрычніка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы прайшла прэзентацыя кнігі **Тарэзы Смольскай** "Няхай новыя песні пра Ліду складаюць…". Гэты зборнік вершаў - дар роднаму гораду да 700-гадовага юбілею, вершаванае прызнанне ў любові, напісанае сэрцам.








21 кастрычніка 2023 года біскуп Гарадзенскі Аляксандр Кашкевіч асвяціў капліцу Маці Божай Ружанцовай ў Дворышчы Лідскага раёна.



22 кастрычніка ў аграмястэчку Дворышча адбылася прэзентацыя кнігі "Мінулае і сучаснае Дворышча" пад аўтарствам пробашча Тракелькага касцёла ксендза **Юрыя Бяганскага**. Падчас прэзентацыі, якую падрыхтавалі супрацоўнікі філіялаў "Інтэграваная бібліятэка агрм. Дворышча" і "Дварышчанскі Дом культуры", успаміналіся гістарычныя вехі жыцця і развіцця Дворышча.









30 кастрычніка прызначаны новы галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Лідскага раёна. Ім стала **Алена Садоўская**. Раней Алена Садоўская працавала намеснікам галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Лідскага раёна, а да 2021 года шмат гадоў загадвала аддзелам эпідэміялогіі Лідскага занальнага ЦГЭ.

2 лістапада адляцела ў Нябесную Беларусь былая актывістка ТБМ з Ліды, адна з заснавальніц у Лідзе першай беларускай арганізацыі новага часу "Рунь" (1988 г.) **Тамара Чарняк**. Было ёй 63 гады.





3 лістапада новы дзіцячы сад на 190 месцаў адкрыўся ў Лідзе. Сучасны будынак вырас у мікрараёне Поўнач, які стане яшчэ і самым вялікім у горадзе: забудова разлічана больш чым на 33000 жыхароў. Назва новай установы адукацыі для дашкольнікаў "Паўночнае ззянне" абралі самі лідзяне падчас анлайн-галасавання.



13 лістапада 2023 г. прызначаны новы начальнік Лідскага раённага аддзела следчага камітэта. Кіраўніком Лідскага РАСК стаў **Кулак Зміцер Мікалаевіч**. Раней ён працаваў намеснікам начальніка Гарадзенскага міжраённага аддзела СК. Стаж следчай працы - 18 гадоў.



У лістападзе прызначаны новы начальнік кіравання гандлю і паслуг Лідскага райвыканкама. Ім стаў **Зміцер Банюк**. Да свайго прызначэння на дзяржаўную службу ён працаваў загадчыкам крамы ТАА "Санта Рытэйл" у Лідзе.

29 лістапада ў Лідзе выйшаў № 48 (100) газеты "Наша слова.pdf".



наша слова.pdf

Другі год выдання — № 48 (100) 29 лістапада 2023 г.

**Піліпаўскія вечары ў Лідзе**

**ЖАЎНЕР**

**"Наша слова.pdf" № 100**



2 снежня не стала кіраўніка літаб'яднання "Суквецце", паэта і журналіста **Алеся Мацулевіча**. За тыдзень да таго здарыўся абшырны інфаркт. Пасля двух дзён у рэанімацыі Алеся перавялі ў кардыялогію, ён адзваніўся ўсім знаёмым, што ідзе на папраўку. Але...

Алесь Мацулевіч нарадзіўся 19 студзеня 1981 года ў Лідзе. Скончыў Лідскае педагагічнае вучылішча (2000), Берасцейскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна (2005, філалагічны факультэт).

Журналісцку працу пачаў у незалежнай газеце "Тэлескоп" (рэдактар С. Суднік). Пасля закрыцця "Тэлескопа" перайшоў у дзяржаўную "Лідскую газету". Праз увесь час супрацоўнічаў з газетамі "Наша слова" і "Наша слова.pdf".




Дзяржаўная ўстанова культуры "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" выпусціла інфармацыйна-краязнаўчы буклет "Краязнаўчы каляндар Лідчыны на 2024 год".




Лідскі гістарычна-мастацкі музей выпусціў чарговы насценны каляндар з серыі "Скарбы Лідчыны". Фармат А-3. Гэта ўжо трэці выпуск серыі. Сёлета каляндар прысвечаны 65-годдзю музея.

20 снежня 2023 г. прызначаны новы дырэктар шклозавода "Нёман". Кіраўніком прадпрыемства стаў **Лапіцкі Сяргей Аляксандравіч**, які раней займаў пасаду дырэктара філіяла "Гомельскі горна-ўзбагачальны камбінат" ААТ "Гомельшкло".









20 снежня 2023 года ў канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы прайшла прэзентацыя кнігі педагога, журналіста, краязнаўцы **Наталлі Анашкевіч** "Герб горада Ліды - гісторыка-геральдычны помнік Беларусі".

Тры "золаты" і два сусветныя рэкорды. Такія вынікі паказалі спартоўцы СКА "Бердаўка" ў снежні 2023 г.

У Маскве прайшоў IX Чэмпіянат свету па паўэрліфтынгу. У спаборніцтвах прынялі ўдзел атлеты з 29 краін свету. Рэспубліка Беларусь у камандным заліку заняла другое месца, саступіўшы зборнай Расіі, апярэдзіўшы зборную Ірана. Выступ спартоўцаў і ў гэты раз быў проста бліскучым.

У чарговы раз паспяхова выступілі атлеты СКА "Бердаўка". У намінацыі "Дзяўчаты да 16 гадоў", у сілавым дваяборстве, у вагавай катэгорыі да 44 кілаграмаў першае месца заняла **Вікторыя Бяляўская**. Набраўшы ў суме 107,5 кілаграмаў, сямікласніца Бердаўскай базавай школы ўстанавіла сусветны рэкорд. Яе аднакласнік **Павел Дземяндзееў** (вагавая катэгорыя да 52 кілаграмаў) выступаў у намінацыі "Юнакі да 16 гадоў" і ў сілавым двaяборстве таксама ганараваўся залатой




узнагародай.

Але не толькі моладзь паказала вышэйшы клас. Трэнер спартоўцаў, **Сяргей Страхаліс**, прыняў удзел у чэмпіянаце свету ў намінацыі "Майстар" (60-69 гадоў). У вагавай катэгорыі да 100 кілаграмаў у жыме штангі лежачы Сяргей Іванавіч таксама заваяваў золата і ўстанавіў новы сусветны рэкорд - 151 кілаграм.



У канцы снежня ў Лідскім раёне адкрылася першае дашкольнае лясніцтва. Яго ўдзельнікамі сталі 10 выхаванцаў дашкольнай адукацыі Ваверской сярэдняй школы, якія тройчы прамовілі: "Клянёмся!" і ўрачыста паабяцалі беражна ставіцца да прыроды. Лясніцтва атрымала назву “Вавёрачка”.





У канцы 2023 года ў аграмястэчку Беліца з'явіўся новы аўтамабільны мост цераз Нёман. Агульны кошт праекта - больш за 40 мільёнаў рублёў. Стары мост дэмантуюць праз паўгода.

# Гасцініцы "Ліда" - 50 гадоў

50 гадоў назад, 18 кастрычніка 1973 года расчыніла дзверы гасцініцы "Ліда" і дагэтуль цешыць падарожнікаў сваёй гасціннасцю. Пастаяльцам прапануецца вялікі выбар нумароў ад эканом-класа да класа люкс, у якіх камфортна праводзіць час як дзелавому чалавеку, які прыехаў у камандзіроўку, так і турыстам. Да паслуг пастаяльцаў ахоўваная аўтастаянка, карыстацца якой могуць як госці, так і жыхары горада.



У 2010 годзе гасцініца стала адным з аб'ектаў нашага горада, якія былі рэканструяваны да рэспубліканскіх Дажынак. Будынак моцна змяніўся, абнавіліся фасад і прылеглая тэрыторыя, значныя змены адбыліся і ўсярэдзіне. Першымі пастаяльцамі гасцініцы пасля яе рамонту сталі хлебаробы краіны, якія прыехалі на рэспубліканскае мерапрыемства, а нумар VIP наведваў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

Сёння еўрапейскі ўзровень выгод і абслугоўвання гарантаваны пастаяльцам у любым з 152 нумароў. Нягледзячы на тое, што максімальная колькасць пастаяльцаў, якую "Ліда" можа адначасова прыняць, 195 чалавек, час ад часу тут здараюцца і "аншлагі". У апошні раз стоадсоткавая запаўняльнасць гасцініцы была на свята 700-годдзя горада, якое адзначалася ў першых днях верасня гэтага года.

Станоўчыя водгукі пастаяльцаў у Сусветным павуцінні пра знаходжанне ў гасцініцы "Ліда" - не рэдкасць. У тым, што ў адрас установы пішуцца добрыя словы - заслуга ўсяго калектыва, які на сённяшні дзень налічвае тры дзясяткі працаўнікоў. У стварэнні станоўчага іміджу адной з "візітных картак" нашага горада - штодзённая праца адміністратараў, касіраў, загадчыка гаспадаркі, пакаёвак, аператараў пральнага абсталявання, слесара-сантэхніка, электраманцёра, прыбіральшчыка тэрыторыі.




У гонар паўвекавога юбілею ўстановы Палацам культуры была арганізавана святочная праграма. Удзел ва ўрачыстай сустрэчы прынялі старшыня Лідскага раённага выканаўчага камітэта Сяргей Ложачнік, дырэктар Лідскага ГУП ЖКГ Аляксандр Сіневіч, дырэктар-галоўны рэдактар ДУ "Рэдакцыя "Лідамедыякампанія" Павел Івуць. Ганаровыя госці павіншавалі калектыў гасцініцы з юбілеем, падзякавалі за працу і ўручылі ўзнагароды лепшым працаўнікам.





- Як тэатр пачынаецца з вешалкі, так і Ліда пачынаецца з гасцініцы. Вось ужо 50 гадоў вы аказваеце адну з найгалоўнейшых паслуг нашым гасцям - абаграваеце іх лідскім хатнім цяплом, дорыце клопат. У персаналу гасцініцы гэта добра атрымліваецца - узровень абслугоўвання высокі. За гэтым стаіць увесь калектыў, - адзначыў у сваім віншаванні Сяргей Ложачнік. - Шчыра віншую са святам, жадаю душэўнага спакою, і, што немалаважна, спакойных і ўдзячных кліентаў.

Кіраўнік рэгіёна таксама падзяліўся з прысутнымі планамі развіцця ў рэгіёне турыстычнай сферы, адным з важных звёнаў якой, з'яўляецца гасцініца "Ліда".

Як адзначыла ў гутарцы з журналістамі начальнік гасцініцы Таццяна Асіпчук, неўзабаве ва ўстанове будзе абноўлена актавая зала: сучаснае абсталяванне дазволіць больш камфортна праводзіць бізнэс-сустрэчы, семінары, нарады.

***Паводле СМІ.***

# Лідскаму музычнаму каледжу - 50 гадоў:
## вандроўка ў свет мастацтва даўжынёй у паўстагоддзя

**Тут музыка пануе ва ўсім…**

Сёлета Лідскі дзяржаўны музычны каледж адзначае вельмі прыгожы юбілей - 50-годдзе. Ён займае трывалыя пазіцыі ў сістэме музычнай адукацыі Рэспублікі Беларусь - ажыццяўляе падрыхтоўку кваліфікаваных спецыялістаў для галіны культуры: настаўнікаў дзіцячых музычных школ мастацтваў і дзіцячых школ мастацтваў, артыстаў аркестра, ансамбля, кіраўнікоў творчых калектываў, канцэртмайстраў.



У наш час у каледжы ажыццяўляецца падрыхтоўка музычна-педагагічных кадраў па чатырох спецыяльнасцях: "Фартэпіяннае выканальніцтва", "Інструментальнае выканальніцтва (аркестравыя струнна-смычковыя інструменты, духавыя і ўдарныя інструменты, інструменты народнага аркестра)", "Харавое выканальніцтва (акадэмічны хор, народны хор)", "Музыказнаўства".

Каледж неаднаразова з'яўляўся арганізатарам грамадска-культурных мерапрыемстваў самага высокага ўзроўню: рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах імя І.І. Жыновіча, рэспубліканскага конкурсу вакалістаў імя Л. Аляксандроўскай, абласнога адкрытага конкурсу імя К. Горскага, абласной музычна-тэарэтычнай алімпіяды, абласнога конкурсу для навучэнцаў сельскіх ДШМ і ДМШМ, адкрытых рэгіянальных фэстаў-конкурсаў юных выканаўцаў "Навагодні феерверк" і "Вясновыя сустрэчы", якія праводзяцца ў дыстанцыйнай форме.




Штогод тут праходзіць арганізацыя метадычных мерапрыемстваў рэгіянальных і абласных узроўняў. У 2022 годзе навучальная ўстанова стала пляцоўкай для рэспубліканскага семінара "З досведу працы ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны музычны каледж" па падрыхтоўцы кадраў для галіны культуры і мастацтвы".

**Самая творчая кузня кадраў**

У розныя перыяды гісторыі навучальную ўстанову ўзначальвалі: Эдуард Васільевіч Кірыленка, Мар'ян Андрэевіч Баяровіч, Канстанцін Мікалаевіч Сцяпанаў. З 2011 года на пасаду дырэктара Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа заступіла Алена Віктараўна Серакова.



- *Яшчэ ў 90-я гады я прыехала ў Ліду ў якасці канцэртмайстра на абласны адкрыты конкурс імя К. Горскага, і ён вызначыў мой далейшы лёс,* - з цеплынёй успамінае Алена Віктараўна свае ўражанні пра наш горад і каледж. - *Першае, што запала ў душу - гэта Лідскі замак. А ў музычнай вучэльні мяне ўразіла цёплая творчая атмасфера, якая панавала ў калектыве, і я зразумела, што хачу звязаць сваё далейшае жыццё з гэтым навучальнай установай, таму, не разважаючы, прыняла прапанову на працу. З 1 верасня 2003 па 31 жніўня 2006 года я працавала выкладчыкам музычна-тэарэтычных дысцыплін, а затым была прызначана на пасаду намесніка дырэктара па выхаваўчай працы, якую заўсёды сумяшчала з выкладаннем і працягваю гэта рабіць дагэтуль. Люблю выкладчыцкую дзейнасць менавіта за творчае самаразвіццё: пры наяўнасці адпаведных задаткаў сапраўды можна выхаваць выдатныя асобасныя якасці. Цікава назіраць за працэсам сталення навучэнцаў. Прыходзячы ў каледж з дзіцячай школы мастацтваў, яны выходзяць у вялікае жыццё сацыялізаванымі грамадзянамі і прафесійнымі музыкамі, каб працягнуць творчую дзейнасць у навучальных установах, прафесійных творчых калектывах або на кантрактнай службе.*

З моманту стварэння каледжа ў ім працуюць музычныя калектывы. Колькасць творчых звязаў вы-



кладчыкаў і навучэнцаў увесь час павялічваецца. Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь народны аркестр рускіх народных інструментаў апошнія пятнаццаць гадоў узначальвае намеснік дырэктара па навучальнай працы Алена Эдуардаўна Сечка.

*- Варта адзначыць, што аркестраў, якія маюць званне Заслужанага ў нас у рэспубліцы не так шмат, таму, я лічу, што гэта адпаведная заслуга ўсяго калектыва. Наш музычны каледж імкнецца весці даволі актыўнае конкурснае жыццё. Бо конкурсы дапамагаюць адсочваць і паднімаць узровень музычнага развіцця нашых выхаванцаў, развіваць у іх упэўненасць у сваім прафесіяналізме. Мы ганарымся сваімі выпускнікамі і навучэнцамі, якія ў конкурсна-фэставых мерапрыемствах блізкага і далёкага замежжа пакарылі мноства краін. Пра нас можна гаварыць шмат і доўга,* - адзначае Алена Эдуардаўна.



У мэтах паляпшэння падрыхтоўкі маладых спецыялістаў на базе Лідскай музычнай вучэльні ў 1975 годзе была адкрыта музычная школа. Зараз гэта Цэнтр практыкі, якім кіруе выкладчык па класе баяна Галіна Барысаўна Пушкіна.

*- Я прыйшла працаваць у каледж у 1990 годзе, а з 1995 года ўзначальваю практычную працу студэнтаў. Гэтую дзейнасць давялося арганізоўваць з нуля. Працуем мы ў цесным звязку з навучэнцамі, каб максімальна наблізіць іх да будучай прафесіі. У 2005 годзе была прызначана кіраўніком народнага аматарскага калектыва "Аркестр беларускіх народных інструментаў". Аркестр і практыка з'яўляюцца асноўнымі кірункамі ў маёй дзейнасці. Мы імкнёмся працягваць традыцыі і перадаваць новаму пакаленню той дух і той кірунак, якім ідзём самі,* - распавядае Галіна Барысаўна.





Амаль 40 гадоў назад Ніна Мікалаеўна Сушко, выкладчык спецыяльнага фартэпіяна, прыехала ў Ліду з далёкага сонечнага Казахстана.

*- Я нават кансерваторыю скончыла ў Алма-Аце,* - смяецца Ніна Мікалаеўна. *- А лёс занёс у Беларусь. Казахстан, наогул, шматнацыянальная краіна, у нас там было шмат сяброў, жыццё было напоўнена яркімі падзеямі. Аднак муж быў родам з Беларусі, як і мая бабуля, таму я не стала пярэчыць і прыехала сюды разам з мужам. Трэба сказаць, што адразу ж адчула сябе, як дома. Нібы і праўда вярнулася на радзіму да бабулі. Праўда, тут мяне ніхто не ведаў, але, тым не менш, усё адно атрымалася хутка асвоіцца, і вось ужо больш за 30 гадоў я выкладаю спецыяльнае фартэпіяна ў нашым Лідскім музычным каледжы. За гэты час многія мае навучэнцы паступілі ў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі. Мне ўдалося рэалізаваць уласныя планы. Вучні ўсе аднолькава дарагія і па-ранейшаму працягваюць цешыць.*

**Будучыня - за музыкай!**

*- Каледж - гэта тое месца, дзе можна набыць неабходныя навыкі, уменні і веды для будучай прафесіі ў музычнай сферы. Вучоба тут дае магчымасць адчуць сябе чалавекам, які адбыўся,* - упэўнены навучэнцы каледжа Юлія Раманюк, Алеся Таўкач, Зміцер Някрасаў, Максім Вадэйка, Вадзім Ладынін, Раман Віткевіч. *- Тут заўсёды можна сустрэць новых людзей, завесці цікавыя знаёмствы, прыняць удзел у класных мерапрыемствах. У каледжы, як нідзе, пануе дружалюбная атмасфера, прысутнічае падтрымка і добрыя партнёрскія адносіны.*

За 50 гадоў у навучальнай установе сфармаваўся творчы калектыў высокакваліфікаваных спецыялістаў-аднадумцаў, якія ўвабралі ў сябе прафесійны досвед, мудрасць і глыбокія веды ў сферы музычнай педагогікі. За ўвесь гэты час навучальная ўстанова падрыхтавала каля 6000 спецыялістаў. Лідскі дзяржаўны музычны каледж - сапраўдная творчая лабараторыя па падрыхтоўцы канкурэнтаздольных кадраў, музыкаў-выканаўцаў і музыказнаўцаў - будучых носьбітаў культуры.

***Паводле Аксаны Глінінай,***
***lidanews.by.***

# Аптэцы №130 у Лідзе споўнілася 50 гадоў

У канцы кастрычнікаі ў сценах аптэкі № 130 у Лідзе сустрэлася некалькі пакаленняў прафесіяналаў. Яны "пісалі" яе гісторыю на працягу пяцідзесяці гадоў і стварылі сапраўдны брэнд "аптэкі на Кірава".

Гасцей свята павіншаваў Генадзь Владыка, намеснік старшыні Лідскага райвыканкама. Ён падзякаваў супрацоўнікам за іх прафесіяналізм.

Урачыстае мерапрыемства наведалі калегі з Гарадзенскага РУП "Фармацыя". Гэта начальнік планава-эканамічнага аддзела Ганна Сульжыцкая і начальнік аддзела кадраў Надзея Філіповіч.

*- Юбілей - гэта нагода сабрацца разам, успомніць гісторыю. Мы сёння пагарталі альбомы, прасякнуліся гісторыяй гэтай аптэкі. Хачу пажадаць кожнаму захоўваць свае традыцыі, часцей сустракацца ў фармальных і нефармальных абставінах, а таксама жадаю вам моцнага здароўя,* - сказала ў сваім віншаванні Надзея Міхайлаўна.

*- Так атрымалася, што я аднагодка вашай аптэкі,* - адзначыла Ганна Станіславаўна. *- Для маладой жанчыны гэта не ўзрост, а для аптэкі - паказчык стабільнасці. Вядома, за гэтымі гадамі стаяць людзі, супрацоўнікі аптэкі. Дзякуй велізарны за тое, што вы захавалі тыя традыцыі, якія захоўваліся на лідскай зямлі, за тое, што вы перадалі досвед і мы ўсе яго адчулі на сабе. Ваша зямля выгадавала трох генеральных дырэктараў. Міхась Ілліч Трусь і Мікалай Мікалаевіч Грыцэвіч працавалі менавіта ў гэтай, 130-й аптэцы. Пад іх кіраўніцтвам наша Гарадзенскае РУП "Фармацыя" стала лепшым прадпрыемствам у Рэспубліцы Беларусь.*

Сярод супрацоўнікаў аптэкі ёсць і сямейныя дынастыі - гэта Таццяна Станцель і Ала Тэхнерадава. Ала Адамаўна ўзначальвала аптэку з 1978 па 1982 год. Таццяна Юр'еўна займае пасаду намесніка загадчыка аптэкай №130. Вось што яна распавядае пра тое, чаму вырашыла абраць прафесію сваёй мамы:

*- Калі казаць пра дынастыі, пра шлях, які працягваем мы - дзеці, то адразу хочацца адзначыць, наколькі моцная была любоў да роднай справы, што нашы бацькі змаглі і дзецям перадаць. З самага ранняга дзяцінства я памятаю пах аптэкі, што атачаў маю маму, якая вярталася дахаты з працы. Мне вельмі падабаўся гэты пах. Падрастаючы, я заўважала радасць і прыемнае хвал-ванне ў вачах роднага чалавека, калі яна дзялілася навінамі, рознымі падзеямі, звязанымі з працай. І ўжо тады мне здавалася, што лепш прафесіі ў свеце няма… І вось ужо 24 гады я працую ў сценах гэтай аптэкі і хачу сказаць, як калісьці казала мне мая мама, што гэта самая лепшая аптэка, што ў нас самы лепшы калектыў, што ў мяне самая лепшая прафесія. Квітней і маладзей, наша аптэка на Кірава! І хай кожны наведвальнік выносіць праменьчык надзеі ў сваю хату!*



Дар'я Шэўка на дадзены момант - правізар аптэкі № 51. Яна рабіла першыя крокі ў аптэцы №130 і менавіта тут праходзіла інтэрнатуру.

*- Мне тут падабалася працаваць. Я гэта казала, калі ў мяне скончалася інтэрнатура і трэба было пераходзіць у 51-ю аптэку. Я сыходзіла з невялікім смуткам на сэрца, таму што пасябравала тут з усімі без выключэння, з калегамі старэйшымі за мяне і са сваімі аднагодкамі. Прыходзячы сюды, адчувала сябе як дома, у поўным камфорце, пачувалася тут абароненай. І калі ў сілу сваёй неспрактыкаванасці не ведала нейкіх нюансаў, мне заўсёды дапамагалі. Ніколі не заставалася без дапамогі сваіх калегаў. І калі я рабіла нейкія памылкі, мяне накіроўвалі на правільны шлях,* - распавядае Дар'я Андрэеўна.

За 50 гадоў працы аптэка стала знакам прафесіяналізму і клопату пра здароўе жыхароў горада. Яна працягвае развівацца і ўдасканальвацца, захоўваючы свае традыцыі і прыцягваючы новых таленавітых спецыялістаў.

Дар'я Громак, загадчыца аптэкі №130:

*- Для нас гэта, вядома, хвалюючая і ўрачыстая падзея. Аптэка адкрылася ў далёкім 1973 годзе ў статусе цэнтральнай. Затым гэтыя паўнамоцтвы былі перададзены аптэцы №146, але для людзей мы ўсё адно застаёмся аптэкай у цэнтры горада. Мы заўсёды рады прыходзіць на працу, імкнёмся дапамагчы кожнаму. Так, можа быць, у нас не заўсёды ўсё атрымліваецца, але мы кожны раз укладваем душу ў нашу агульную справу.*




***Паводле Цімафея Аўсейчыка, lidanews.by.***

# ГІМНАЗІЯ № 1 г. ЛІДЫ АДСВЯТКАВАЛА 30-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

Гімназія № 1 - адна з самых паспяховых школ не толькі Лідчыны, але і краіны. Тут працуюць майстры сваёй справы, таленавітыя і крэатыўныя педагогі, якія не толькі перадаюць дзецям свой досвед і веды, але і служаць прыкладам высокай маральнасці і сумленнага стаўлення да працы. І ў восеньскія дні 2023 года ўстанова адукацыі - юбіляр!




*- Сёння наша ўстанова адукацыі вядома далёка за межамі Лідскага рэгіёна, а яе выпускнікі - гэта спецыялісты ў кожнай вобласці, якія ёсць у нас у рэспубліцы: інжынеры, вайскоўцы, настаўнікі, выратавальнікі, лекары... Мы не стаім на месцы, працягваем традыцыі, укараняем новыя падыходы ў сістэму адукацыі гімназіі, працуем у эксперыментальным рэжыме. У гэтым годзе адкрылі групу інжынернай накіраванасці. Нашы хлопцы навучаюцца ў Нацыянальным дзіцячым тэхнапарку, перамагаюць у рэспубліканскіх і абласных алімпіядах, канферэнцыях, моладзевых конкурсах "100 ідэй для Беларусі", "Стартаптур. Інтэнсіў для маладых прадпрымальнікаў", "Лідэр года" і іншых. За гэта ўсё асобныя словы ўдзячнасці педагагічнаму калектыву. Нашы настаўнікі ўзбагачаюць дзяцей новымі ведамі, выхоўваюць лепшыя чалавечыя якасці, фармуюць іх актыўную грамадзянскую пазіцыю, раскрываюць здольнасці кожнага дзіцяці. Не забываюць развівацца і расці ў прафесійным плане самі. І ўсё ж, паўтаруся, важнымі дасягненнямі нашага педагагічнага калектыву становяцца лёсы выпускнікоў, якія з цеплынёй успамінаюць сваіх настаўнікаў, сваю альма-матэр,* - адзначыла дырэктар гімназіі №1 г. Ліды Ірына Рубцэвіч.

**Дарога даўжынёю ў 30 гадоў...**

Гімназія № 1 г. Ліды з'яўляецца адной з самых эфектыўных школ Гарадзенскай вобласці. Першай з больш чым 3000 устаноў агульнай і сярэдняй адукацыі яна была занесена на Рэспубліканскую Дошку гонару. Творчая і наватарская праца педагагічнага калектыву неаднаразова адзначалася Падзячнымі лістамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, граматамі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Навучальная ўстанова мае званне "Брэнд адукацыі Гарадзенскай вобласці", неаднаразова ўзнагароджваліся дыпломамі першай ступені сярод устаноў адукацыі Лідскага раёна. За сваю трыццацігадовую гісторыю гімназія прайшла велізарны шлях развіцця, скласіся свае традыцыі, у яе сценах было рэалізавана мноства творчых ідэй. Стварала і ўзначальвала гэты прафесійны, творчы калектыў гімназіі на працягу 25 гадоў заслужаны настаўнік краіны, Ганаровы грамадзянін горада Ліды, таленавіты чалавек, кіраўнік з вялікай літары Наталля Андрэеўна Зайцава. За асабісты ўклад у правядзенне рэформы адукацыі, наватарства і ўкараненне новых формаў у навучанне і выхаванне моладзі, творчы падыход у арганізацыі работы з адоранымі дзецьмі імя Наталлі Андрэеўны было занесена ў Кнігу славы Гарадзенскай вобласці.






Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел ганаровыя госці, ветэраны педагагічнай працы, выпускнікі, бацькі вучняў і, вядома ж, настаўнікі, якія працуюць сёння ў навучальнай установе, для якіх лёс гімназіі і іх лёс - адно непадзельнае цэлае. Пад бурныя апладысменты залы намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Лідскага райвыканкама Ірына Лобан уручыла Ганаровыя граматы Лідскага райвыканкама і Ганаровыя граматы Лідскага раённага Савета дэпутатаў людзям, якія ўнеслі ўклад у развіццё навучальнай установы. Гэта Ганна Санюк, Алена Герасімчук, Таццяна Хаменка, Галіна Піваварчык, Альфрэд Ладыка. Граматамі ўпраўлення адукацыі Лідскага райвыканкама ўзнагароджаны Ірына Клейда, Віктар Чункевіч, Наталля Курганская, Валерый Махнач, Ала Ярмантовіч.

- *Жадаю педагагічнаму калектыву творчага натхнення, дабрабыту, новых прафесійных поспехаў у рэалізацыі цікавых адукацыйных ідэй і праектаў. Хай маладосць душы, добрыя сэрцы, мара, надзея і вера заўсёды жывуць у сценах установы. Прыміце мае шчырыя віншаванні з юбілеем,* - сказала Ірына Янаўна.







Юбілей - гэта нагода азірнуцца назад, падвесці пэўныя вынікі, ацаніць пройдзены шлях, убачыць, чым можна ганарыцца, а што яшчэ наперадзе. 30 гадоў установа адукацыі "Гімназія № 1 горада Ліды" запрашае новых вучняў і выпускае добрую, таленавітую моладзь. З 1994 года са сцен установы адукацыі выйшлі 1642 выпускнікі, з іх 354 - з залатымі і сярэбранымі медалямі. 2784 навучэнцаў - пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд па вучэбных прадметах, прычым 288 дамагліся перамогі на заключным этапе алімпіяды. Амаль усе выпускнікі сталі студэнтамі ВНУ. Цяпер гэта высокакваліфікаваныя спецыялісты, сярод іх ёсць магістры, кандыдаты навук і дацэнты. І ўсе яны - гонар сваёй альма-матэр!

***lidanews.by.***




25 лістапада ў касцёле святога Юзафа Каласанса ў Лідзе 25-гадовы юбілей адзначыла парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Як паведамляе Прэс-служба Гарадзенскай дыяцэзіі, у касцёле святога Юзафа Каласанса, заснавальніка манаскага Ордэна Пабожных школаў - піяраў, якія служаць у гэтай парафіі, на свята сабралася вялікая колькасць вернікаў.

Цэлебрацыю ўрачыстай святой Імшы ўзначаліў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі. У супольнай малітве ўзяў удзел і заснавальнік парафіі, біскуп Гарадзенскі Аляксандр Кашкевіч.

Па запрашэнні піяраў на свята прыбылі таксама дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і госці з польскага горада Кракаў - настаяцель Польскай правінцыі ордэна піяраў айцец Матэвуш Піндэльскі SP са сваім асістэнтам айцом Яцэкам Волянам SP. Удзельнічалі ва ўрачыстасцях айцы піяры са Шчучына, іншыя духоўныя асобы, законныя сёстры.

Мерапрыемства распачалося з даклада Таццяны Заблоцкай "Шлях піяраў у Ліду".

Выступоўца падкрэсліла вялікую ролю піяраў, якія на працягу стагоддзяў рабілі вялікі ўнёсак у навучанне і фармацыю мясцовых жыхароў.

Потым адбылася ўрачыстая святая Імша падзякі за парафіяльную супольнасць, за дар уласнай святыні, за святароў, якія служылі тут раней і служаць сёння.

Пробашч айцец Аляксандр Махнач SP на пачатку Літургіі прывітаў прысутных і заахвоціў падзякаваць Богу за парафію, за дары, атрыманыя ад Яго на працягу мінулых гадоў, і папрасіць аб далейшым дабраслаўленні, каб усе парафіяне маглі працягваць узрастаць у веры.

Арцыбіскуп Юзаф Станеўскі ў гаміліі адзначыў, што ўжо 25 гадоў у святыні, пабудаванай ва ўжо новай гісторыі горада Ліды на хвалу Пана і на карысць людзей, *"б'еццца любоўю сэрца Эўхарыстычнага Бога і сэрца скрушанага чалавека".*

Іерарх пакрэсліў, што, калі вернікі ўсведамляюць, якую багатую спадчыну атрымалі з мінулага, *"калені самі схіляюцца, а сэрца спявае словы гімна "Цябе, Бога, праслаўляем" за вялікія справы, здзейсненыя Панам праз чалавека ўчора і сёння на гэтай умілаванай лідскай зямлі".*

# У Лідзе 25-ю гадавіну адзначыла парафія, заснаваная біскупам Кашкевічам

Арцыбіскуп нагадаў, што сёлета Ліда адзначае 700-годдзе з часу свайго заснавання, і дадаў: *"Сведкаў мінулых падзей ужо няма з намі, але мы адчуваем іх прысутнасць у таямніцы веры лучнасці святых"*.



Па словах Мітрапаліта Менска-Магілёўскага, гэтая малітоўная сустрэча - нагода дакрануцца да *"чароўнай Божай і лідскай цішыні"*, акунуцца ў атмасферу супакою, якая спрыяе сустрэчы з Панам, магчымасці адкрыцця на Бога і чалавека.

Напрыканцы святой Імшы да прысутных звярнуўся настаяцель Польскай правінцыі ордэна піяраў айцец Матэвуш Піндэльскі SP, які падзякаваў парафіянам за трыванне ў веры, вялікую любоў да Маці Божай і пашану да святога Юзафа Каласанса.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч, у сваю чаргу, падкрэсліў вялікі ўнёсак піяраў у адраджэнне Касцёла на Гарадзеншчыне, падзякаваў за іх вялікія старанні ў душпастырскай працы, асабліва за клопат аб дзецях і моладзі.

Пробашч айцец Аляксандр Махнач SP, падзякаваўшы ўсім за супольную малітву, коратка нагадаў пра самыя значныя падзеі з жыцця парафіі.

Свята завяршылася дабраслаўленнем мемарыяльнай шыльды, устаноўленай у касцёле з нагоды юбілею.

Мясцовыя вернікі і госці атрымалі памяткі пра юбілейныя ўрачыстасці з малітвай за парафію. Была магчымасць зрабіць у фотазоне перад касцёлам фотаздымак на памяць.





На працягу года ў парафіі будуць праходзіць розныя мерапрыемствы, звязаныя з юбілеем.

Previous.

**З гісторыі парафіі**

Парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе была заснавана рашэннем біскупа Аляксандра Кашкевіча 19 лістапада 1998 года.

1 лістапада 2000 года ў часовай капліцы парафіі адбылася першая святая Імша.

11 траўня 2002 года біскуп Гарадзенскі дабраславіў фундамент будучага парафіяльнага касцёла. У тым жа годзе ў Кракаве Папа Ян Павел II дабраславіў вуглавы камень для касцёла.

Новапабудаваны касцёл святога Юзафа Каласанса, пастаўлены ў памяць пра касцёл піяраў, які раней знаходзіўся ў цэнтры Ліды, быў высвечаны 25 жніўня 2008 года.

У 2015 годдзе у парафіі адбыліся Святыя місіі, якія правялі айцы рэдэмптарысты і якія глыбока перажываліся вернікамі.

2 чэрвеня 2019 года біскуп Аляксандр Кашкевіч дабраславіў у лідскім касцёле новы арган.

25 жніўня 2017 года адбылося ўрачыстае прысвячэнне касцёла на вечнае карыстанне Бога.

15 жніўня 2018 года адбылося дабраслаўленне трох званоў на званіцы касцёла, якія цешаць парафію да сённяшняга дня і паводле якіх, можна сказаць, жыве раён.

Такім чынам, за 25 гадоў парафія пабудавала свой касцёл і ўзрастала ў веры. За гэты час у ёй было здзейснена 1363 хросты, 1069 дзяцей прыступілі да Першай Камуніі, 640 чалавек прынялі сакрамэнт канфірмацыі, было заключана 457 сужэнстваў, паўтары тысячы чалавек прынялі сакрамэнт намашчэння хворых і віятык. Адышло ў вечнасць за ўсе гэтыя гады 677 парафіянаў.

***Прэс-служба Гарадзенскай дыяцэзіі.***
***Фота: Дзяніс Казачэнка.***
***Grodnensis.by.***

# 20-гадовы юбілей адзначыў Лідскі аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры

Установа культуры мае багатую гісторыю. На працягу вось ужо многіх гадоў творчы калектыў паспяхова рэалізуе задачу па захаванні і развіцці народных рамёстваў і традыцыйных промыслаў Лідчыны. Майстры "пішуць" слаўную гісторыю нашага краю, адраджаючы даўнія традыцыі продкаў, ствараюць сённяшнюю культурную спадчыну і перадаюць яе будучым пакаленням.



Мерапрыемства з нагоды ўрачыстасці прайшло ў цёплай абстаноўцы. Госці з парога акунуліся ў атмасферу свята і творчасці.

- У нашай установе працуюць самыя лепшыя людзі, спецыялісты высокай кваліфікацыі, - расказвае загадчык аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры Алена Шчэліна. - Памятаю, як усё пачыналася: нехта прыйшоў на працу, будучы настаўнікам у школе, нехта ўвогуле не меў дачынення да традыцыйнай культуры. Але на сённяшні дзень магу з гонарам сказаць, што ў многіх толькі адзін запіс у працоўнай кніжцы. У нашай установе людзі працуюць і больш за дзесяць, і больш за дваццаць гадоў. І сёння яны застаюцца вернымі свайму выбару. Па працы бачна: тое, чым займаюцца нашы супрацоўнікі, яны любяць усёй душой, усім сэрцам, з поўнай адказнасцю адносяцца да сваёй справы. Прычым кожны - майстар на ўсе рукі: і спяваюць, і танцуюць, і працуюць разам у батлейцы, і распрацоўваюць свае асабістыя калекцыі. Накірункі розныя. Цудоўныя роспісы па дрэве, яйкі-"пісанкі" - гэта Марына Савіцкая. Захапляюць калекцыі ручнікоў Валянціны Сільвановіч, этнаграфічныя і фальклорныя лялькі, вырабы лапікавага шыцця Ірыны Дыдышкі, кераміка і ганчарства Алены Свідэрскай, а самая лепшая калекцыя выцінанак Гарадзенскай вобласці ў Дар'і Шафак. Кожны супрацоўнік як брыльянт, у якога вельмі шмат граней. І ўсе гэтыя грані гавораць пра яго высокі ўзровень!



Жыццё ў калектыве кіпіць. Сёння супрацоўнікі аддзела ладзяць экспедыцыі, займаюцца зборам этнаграфічных рэчаў, элементаў адзення, прадметаў побыту, найбольш каштоўных мастацкіх вырабаў Лідскага раёна, а таксама вывучэннем рэдкіх узораў ткацтва, вышыўкі, дрэваапрацоўкі і іншых рамёстваў. Адно з самых значных дасягненняў - таленавітыя майстры наладзілі адраджэнне рэдкіх тэхнік ручнога ткацтва і актыўна працуюць над стварэннем новых вырабаў і элементаў сучаснага дэкору. Носьбіты традыцый разумеюць, што моладзь, выхаваная на мясцовай культуры, будзе душой прывязана да роднага краю і ўсвядоміць сябе адной этнічнай супольнасцю. Важную ролю адыгрывае і выхаваўча-эстэтычная функцыя тканых рэчаў. Дзякуючы супрацоўнікам аддзела рамёстваў і





традыцыйнай культуры элемент "Традыцыйнае белаўзорыстае ткацтва Панямоння" ў 2018 годзе ўключаны ў дзяржаўны спіс гістарычна-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.



Шмат цёплых слоў гучала ў гэты дзень у адрас юбіляраў. Начальнік аддзела культуры Лідскага райвыканкама Наталля Леўшунова пажадала ўстанове развіцця і росквіту, а калектыву - новых творчых праектаў.

- Аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры сёння з'яўляецца месцам адраджэння, захавання і распаўсюджвання традыцыйных рамёстваў, творчай лабараторыяй, дзе не толькі выкарыстоўваюцца страчаныя тэхналогіі, але і з'яўляюцца новыя прыклады майстэрства. Праекты, якія рэалізуюцца ў сценах установы, унікальныя. Але самае галоўнае, што кожны з іх - гэта вынік карпатлівай працы, яркі прыклад захопленасці сваёй справай, вялікай любові да народнай культуры. Жадаю калектыву толькі поспехаў, - адзначыла Наталля Фёдараўна.

Цяжка не згадзіцца з гэтымі словамі. Помніцца, у 2003 годзе, калі ствараўся Дом рамёстваў, не было ні майстэрняў, ні матэрыяльна-тэхнічнай базы. Усё даводзілася пачынаць з нуля. Алена Валянцінаўна Шчэліна сама збірала калектыў. І, што важна, людзі, якія ўліліся ў вялікую творчую сям'ю шмат гадоў таму, засталіся вернымі традыцыям і дагэтуль.

Не абышлося ў гэты дзень і без яшчэ адной значнай падзеі. У рамках "Свята ткацтва" адбылося адкрыццё выставы "Карункі" з этназбору аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры па Лідскім раёне. Кожная з работ, размешчаных у зале, зачароўвае і выклікае захапленне. Гармонія з навакольным светам, жаданне зрабіць яго яшчэ лепшым адчуваюцца ў калекцыі карункапляцення Марыі Шылкоўскай, сучаснага майстра па вязанні шыдэлкам. Сярод яе вырабаў дэманструюцца копіі ручніковых "зубоў", "прошвы" - прамавугольныя ажурныя ўстаўкі для абрусаў (настольнікаў) і навалачак на падушкі. Узоры запазычаны з арыгінальных аўтэнтычных экспанатаў з мэтай захавання і папулярызацыі кірунка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва XX ст. Ёсць у Марыі і работы аўтарскай распрацоўкі.





- Карункі - гэта тэкстыльныя ажурна-сеткавыя вырабы, у якіх узор утвараецца перапляценнем нітак, - заўважыла малодшы навуковы супрацоўнік аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры Марына Савіцкая. - Агульнай іх прыкметай з'яўляюцца дзіркі розных дыяметраў паміж ніткамі, якія ўтвараюць узор. Карункі могуць быць як самастойным вырабам, так і элементам дэкору і аздабленнем ручнікоў, накідак, падузорнікаў, фартухоў. Выкарыстоўваюцца для ўпрыгожвання жаночай ніжняй бялізны, жаночых кашуль і галаўных убораў, а таксама ў афармленні інтэр'еру ў выглядзе дэкартыўных пано, цюляў, пакрывалаў.

Марына Савіцкая расказала гасцям выставы гісторыю развіцця і распаўсюджвання карункапляцення на тэрыторыі Беларусі, а яе калега Ірына Дыдышка - пра бытаванне гэтага віда дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на тэрыторыі Лідскага раёна ў XX ст. Яшчэ адным сюрпрызам стала дэфіле-паказ рэплік народных строяў канца XIX - першай паловы XX стагоддзя з тэрыторыі сучаснай Гарадзенскай вобласці. Рэплікі жаночай вопраткі стварыла творчая група аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры, у якую ўвайшлі Ірына Дыдышка (навукова-даследчая праца), Марыя Шылкоўская (ткацтва палатна) і Марыя Андрушкевіч (пашыў адзення).

Свята ткацтва - вялікае свята! Яно завяршае Тыдзень традыцыйнай культуры "Ад даўніны да сучасных дзён", але працягвае добрую справу - знаёміць з гэтым унікальным рамяством. А каб гасцям і ўдзельнікам мерапрыемства было яшчэ і весела, а ногі самі кідаліся ў скокі, музычную праграму для іх падрыхтавалі ўдзельніцы народнага фальклорнага гурта "Талер".

***Вольга Капцевіч.***

***https://lidanews.by/news/life/31427news.html***

# Гістарычна-краязнаўчы музей "Спадчына" Ваверскай школы адзначыў дзесяцігадовы юбілей

У першым Наўгародскім летапісе ў спіску рускіх гарадоў упамінаецца горад Ваверэск. Не выключана, што ён знаходзіўся на тым самым месцы, дзе зараз раскінуўся аграгарадок Ваверка. У 13 стагоддзі горад быў знішчаны мангольскім палкаводцам Бурундаем, а на яго месцы заснавана новае паселішча. Па-рознаму трактуецца і назва аграгарадка: яна блізкая да беларускага слова "вавёрка", хаця нічога агульнага з ім не мае. Старажытная назва балтыйскай тапаніміяй тлумачыцца інакш: "vaivoras" - расліна вераніка, але блізкая да яе і аснова з сэнсавым значэннем "ткачы". Нездарма ж Ваверка сёння славіцца сваімі ручнікамі. Гісторыя Ваверкі, сапраўды, поўная таямніцаў. Свае таямніцы ёсць і ў шматлікіх экспанатах школьнага гістарычна-краязнаўчага музея. Легенды з гісторыяй тут пераплячіся так шчыльна, што часам іх немагчыма раздзяліць. Ніхто і не спрабуе, бо кожная легенда цалкам можа аказацца ісцінай. Так ці інакш, цікаўных - багата, гэта пацвердзіла і ўрачыстае свята з нагоды першага круглага юбілею школьнага музея.







**Усё пачыналася з… праса**

Школа ў гэтыя дні ўпрыгожылася да Новага года, але адбітак, безумоўна, наклала і юбілейная дата. Вучні і кіраўнік музея Лілея Петрусевіч віталі гасцей яшчэ з парога - вершамі і пачастункамі. Тым часам, у актавай





зале сабралася ўся школа ад малога да вялікага. Сярод запрошаных гасцей - педагогі-ветэраны і тыя, хто стаяў ля вытокаў музея, а таксама сябры - супрацоўнікі Ваверскага Дома культуры, бібліятэкі і проста неабыякавыя жыхары.

Кожны клас трымаў віншавальнае слова і рабіў музею падарункі - новыя экспанаты. Цікава, што сярод іх аказалася адразу некалькі старадаўніх прасаў (дарэчы, менавіта з праса - першага экспаната - і пачынаўся калісьці музейны пакой Ваверскай школы!), былі тут гадзіннікі, карціны і многае іншае.

Адметна, што невялікая вясковая школа з размахам святкавала невялікі, усяго толькі дзесяцігадовы юбілей музея. Гэты факт сведчыць, наколькі важнае значэнне іграе музей у школе. Вядома, ён з'яўляецца цэнтрам захавання спадчыны. Акрамя таго, рэгулярна пажынае лаўры і адпаведна дае падставу для гонару школы. Кожны наведвальнік, перш чым пераступіць музейны парог, зверне ўвагу на сцяну з доўгай чарадою дыпломаў і грамат рознага кшталту. Апошнія з іх - за перамогу (1 месца) у раённым этапе рэспубліканскага конкурсу экскурсаводаў музеяў устаноў адукацыі і ў раённым злёце юных краязнаўцаў.

- У Ваверскай школы глыбокія краязнаўчыя традыцыі, - адзначыў дырэктар школы Іван Баяроўскі. - Наш музей папулярызуе жыццё вёскі. Выхоўвае дзяцей,

праз гісторыю прывівае любоў да малой радзімы, падштурхоўвае вяртацца і заставацца на сваёй зямлі. Працяг юбілейнага свята адбыўся ўжо ў сценах музея, дзе другакласнікі, выхаванцы аб'яднання па інтарэсах "Юныя фалькларысты", прадставілі інсцэніроўку народнага абрада "Багач".

**Месца, дзе спыніўся час**

Апынуўшыся ў музеі, больш за ўсё хочацца застацца сам-насам з гісторыяй.

Музей Ваверскай школы аднаўляе атмасферу мінулага розных эпох. Ад старадаўніх часоў - адлюстроўваючы быт вясковай хаты, уклад жыцця сялян, далей - пераносячы ў хрушчоўку 80-х, паказвае рэчы, якімі не так даўно карысталіся нашы бацькі і якія сучаснай моладдзю аднесеныя ў разрад рарытэтаў. У музеі можна вярнуцца ў школу 80-х, пасядзець за драўлянай партай з вечкам. Ёсць магчымасць дакрануцца да памяці аб трагічных падзеях Вялікай Айчыннай вайны.







Колькасць унікальных рэчаў, якія захоўваюцца ў музеі сёння, можна назваць толькі прыблізна - каля шасцісот, бо калекцыі папаўняюцца пастаянна. Вымераць іх каштоўнасць з дапамогай матэматыкі немагчыма нават прыблізна. Бо ў кожнай рэчы ёсць свая гістарычная значымасць… Напрыклад, глебазачэп або трохвугольны калёсны шып (упэўнена: многія нават не ведаюць, што гэта такое) узгадвае гісторыю трактараў СХТЗ-15-30, якія сыходзілі з канвейера Сталінградскага завода абмежаваным выпускам і толькі на працягу сямі год, з 1930-га па 1937-ы. А пяцігранная маслабойка, характэрная толькі для ваверскай мясцовасці, здзіўляла нават універсітэцкіх навуковых супрацоўнікаў, што аднойчы пабывалі ў музеі.

Адметнай рысай Ваверскага гістарычна-краязнаўчага музея можна назваць і той факт, што ў яго ўкладзена шмат любові і чалавечай душы. Увогуле, музей - гэта людзі і лёсы. Настаўнікі, што кіравалі ім у розныя гады, літаральна ўклалі ў яго часцінкі сябе. Гэтыя словы тычацца заснавальніцы музейнага пакоя, былой настаўніцы гісторыі Тамары Бункевіч і сучаснай кіраўніцы - настаўніцы пачатковых класаў Лілеі Петрусевіч.

- *У Ваверцы я нарадзілася, вучылася, тут жыву. Стала педагогам, дзякуючы сваёй першай настаўніцы Валянціне Паўлаўне Фоміч. А кіраўніком музея - дзякуючы настаўніцы гісторыі Тамары Яўгенаўне Бункевіч,* - гаворыць Лілея Юр'еўна. - *Лічу, калі сам любіш малую радзіму, то не менш будзеш любіць і гісторыю свайго краю. Таму сваю справу я вельмі люблю.*



Напрыканцы застаецца дадаць: музей Ваверскай школы вывучае не толькі мінулае, але і нацэлены ў будучыню. Дарэчы, некалькі год таму ён стаў яшчэ і віртуальным: музейныя экспазіцыі можна наведаць на сайце школы і ў сацыяльнай сетцы “Інстаграм”. Перспектыўныя кірункі работы музея вызначае магчымасць злучэння ў сабе навукова-даследчых, культурна-асветных і дасугавых функцый. Узяць хаця б музейную педагогіку, якая стварае галоўныя ўмовы для станаўлення асобы грамадзяніна. Гэта экскурсіі, падрыхтоўка экскурсаводаў, напісанне рэфератаў, даследчых прац і інш. Над чым працуюць вучні зараз? Ствараюць маршрут "Сем цудаў Ваверкі". Цікава!

***Вольга Яхантава.***

## 100 гадоў КПЗБ

*Леанід Лаўрэш*

# КПЗБ у Лідзе

У канцы кастрычніка 1923 г. на канферэнцыі прадстаўнікоў Беластоцкага, Берасцейскага і Віленскага акруговых партыйных камітэтаў у Вільні, згодна з рашэннем II-га з'езда Камуністычнай рабочай партыі Польшчы, які прызнаў мэтазгодным стварэнне беларускай тэрытарыяльнай партыйнай арганізацыі, была арганізацыйна аформлена Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. У партыйных арганізацыях на момант абвяшчэння КПЗБ налічвалася 528 чал. Такім чынам, Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Камуністычнай партыі Польшчы на правах тэрытарыяльна-аўтаномнай арганізацыі, была створаная 100 гадоў таму[1].

Выпадкова ці не, але якраз у канцы 1923 г. лідскі староста звярнуўся да навагрудскага ваяводы з просьбай пачаць разбудову агентуры ў сваім павеце: *"Інфармацыйная агентура* [...] *патрабуе агульнай рэарганізацыі*, - пісаў ён. - *На гэта ёсць некалькі прычын, а менавіта: Лідскі пав. з'яўляецца адным з найвялікшых паветаў ва ўсёй Рэчы Паспалітай, а яго насельніцтва - змешанае. Тут жывуць беларусы, літоўцы, палякі, а сам павет знаходзіцца на мяжы з Літвой. У такіх умовах запатрабаванай з'яўляецца як мага шырэйшая дзейнасць агентуры. На жаль, зрабіць гэта немагчыма пры сённяшнім нешматлікім складзе агентуры з сямі чалавек разам з кіраўніком, якія да таго ж маюць нізкі інтэлектуальны ўзровень. Адсутнасць спецыяльных крыніц фінансавання на ўтрыманне канфідэнтаў дадаткова ўскладняе працу* [...]. *Некаторыя з агентаў, працуючы доўгі час у адных і тых жа асяродках, ужо паспелі дэканспіравацца"*. У канцы дакумента староста прасіў павялічыць выдаткі на арганізацыю выведкі да 3 мільёнаў марак і павялічыць колькасць агентаў амаль у два разы. У адказ з Навагрудка прыйшла катэгарычная адмова. Таму, на пачатку 1920-х гг. неабходная інфармацыя, патрэбная для супрацьдзеяння камуністычнаму падполлю, здабывалася ўладамі з вялікай цяжкасцю[2].

Вядома, што першапачаткова, падчас польска-савецкай вайны 1919-1920 гг. ролю галоўнага арганізатара ўнутранай службы бяспекі выконвалі польскія вайсковыя службы. Аднак, бліжэй да восені 1921 г. пачалася ліквідацыя органаў дэфензівы пры польскай арміі, а іх абавязкі разам з архівамі і сеткай канфідэнтаў перадаваліся мясцовай паліцыі. Таму, без разгалінаванай сеткі інфарматараў органы бяспекі часта не панавалі над сітуацыяй. Яшчэ ў 1921 г. лідскі староста Здановіч прасіў ваяводу прыслаць яму *"некалькіх здольных тайных агентаў, якія б, з аднаго боку, сачылі за антыдзяржаўнай агітацыяй, а з другога назіралі за дзейнасцю мясцовай адміністрацыі, што дазволіла б зменшыць злоўжыванні з боку мясцовых функцыянераў і паспрыяць росту даверу да ўлады з боку мясцовага насельніцтва"* [3].

Цікава, што на пачатку кіраўніцтва Камуністычнай партыі Польшчы, а разам з ім і кіраўнікі КПЗБ, выступалі супраць індывідуальнага тэрору. Але ўжо ў сярэдзіне 1920-х гг. у сувязі з выкарыстаннем польскімі службамі бяспекі агентаў для ліквідацыі канспірацыйных установ пашыраецца гэтак званы "ахоўны тэрор", які пазней быў зацверджаны на партыйных канферэнцыях КПЗБ. Ужо напрыканцы 1925 г. ЦК КПЗБ заклікаў працоўных "самім пазбаўляцца правакатараў" [4].

### 1924-29 гг.

Камуністычныя арганізацыі ў Польшчы былі паза законам. Тым не менш у канцы 1924 г. у шэрагах КПЗБ налічвалася 2 296 чал., аб'яднанных у 433 гурткі, 45 райкамаў і 6 акруговых камітэтаў, а ў канцы 1927 г. - 3 254 чал. У 1924-1929 гг. дзейнічалі 6 акруговых (Баранавіцка-Слонімскі, Беластоцкі, Берасцейскі, Віленскі, Гарадзенскі, Пінскі) і больш за 50 раённых камітэтаў КПЗБ. У сакавіку 1932 г. у КПЗБ налічвалася 3 600 чалавек, з іх каля 20% пражывала ў гарадах і каля 80% - у вёсцы. У перыяд з 1933 па 1934 г. КПЗБ налічвала ў сваіх шэрагах ад 3 800 да 4 000 чал. У гэты перыяд дзейнічалі 11 акруговых (Лідскі, Маладзечанскі, Навагрудскі, Пастаўска-Глыбоцкі, Свянцянска-Браслаўскі) і больш за 90 раённых камітэтаў партыі. Пад кіраўніцтвам КПЗБ дзейнічалі Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі і Міжнародная арганізацыя дапамогі рэвалюцыянерам Заходняй Беларусі, філія Міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі МАДР, па-руску "МОПР" [5]. Ва ўсіх тэкстах лідскай паліцыі выкарыстоў-

[1] Ладысеў У. Выпрабаванні часам і жыццём // Беларускі гістарычны часопіс. 1998. № 4. С. 37.

[2] Чарнякевіч Андрэй. "Быць канфідэнтам": штодзённае жыццё інфарматара польскай службы бяспекі ў паўночна-ўсходніх ваяводствах II Рэчы Паспалітай (1921-1939) // Homo Historicus 2022. С. 185.

[3] Там жа. С. 183-184.

[4] Там жа. С. 195.

[5] Камуністычная дабрачынная арганізацыя, створаная па рашэнні Камінтэрна ў якасці камуністычнага аналагу "Чырвонага Крыжа".

валася рускамоўная абрэвіятура "МОПР", гэтак жа і без двукосся, буду выкарыстоўваць яе і я.

У красавіку 1926 г. выязная сесія Акруговага віленскага суда разглядала справу сяброў камуністычнай арганізацыі, якая дзейнічала ў Лідзе і ваколіцах. Перад судом паўсталі кіраўнік арганізацыі Клінцэвіч з шараговымі чальцамі Карнавухам, Шыдлоўскім і Анжыным. Пры тым, што суд меў усе неабходныя доказы, усе абвінавачаныя не прызналі сваё сяброўства ў камуністычнай партыі. Паліцыя знайшла шмат дакументаў, якія даказвалі віну падсудных: партыйныя пасведчанні, падпісаныя Клінцэвічам, розныя партыйныя цыркуляры, дастаўленыя ў Ліду з Менска, дакументы, якія паказвалі неаднаразовую прысутнасць падсудных у Менску і г. д. Абвінавачаныя актыўна вялі партыйную працу на Лідчыне: стваралі камсамольскія ячэйкі, вялі агітацыю і выконвалі атрыманыя з Менска партыйныя даручэнні. Сведкамі на працэсе выступалі супрацоўнікі паліцыі. Дарэчы, пракурор заўважыў, што згодна з апошнімі партыйнымі інструкцыямі камуністы не павінны захоўваць партыйныя пасведчанні ці іншыя дакументы, якія паказваюць іх сувязь з камуністычнай партыяй. Адвакат, ратуючы падсудных, даказваў, што Карнавух і Шыдлоўскі (абодва 1903 г. н.) пераходзілі польска-савецкую мяжу, ратуючыся ад прызыву ў польскае войска, што было значна меншай правінай, чым прыналежнасць да КПЗБ. У выніку Клінцэвіч быў асуджаны на 3, а іншыя камуністы на 2 гады турмы[6].

У беларускай газеце "Беларускае Слова", якая належала паланафільскай Беларускай Нацыянальнай Радзе, жыхар Ліды пісаў: *"У нас моцна пачала працаваць Грамада і ахапіла вялікія абшары. Нашая ж газета перастала выходзіць нармальна, бо Бел. Нац. Рада ня мае сродкаў. У гэты момант, мне здаецца, трэба вось што рабіць. Нам усім - як працаўнікам, сябрам і прыхільнікам трэба на гэтую мэту злажыць патрэбную суму грошай, хто колькі можа ... я пэўны, што беларусы адклікнуцца і падтрымаюць сваю нацыянальную газету (бо) Грамада на бальшавіцкія грошы шле і раздае дарма сваю атручаную газету і літаратуру ў вялікім ліку"* [7]. Аўтар *"Праваслаўны беларус"* з Лідчыны ў той жа газеце заклікаў хрысціян усіх канфесій змагацца з камуністамі, бо *"камунізм гэта жыццё без Бога ... ягоная мэта - зьняважыць вобраз Хрыста і Яго вучэньне ... . У сумежнай нам Маскоўшчыне замучылі шмат паважаных духоўнікаў ... а так сама веруючых хрысціян, якія баранілі сваю веру і сьвятыні. Лічба гэтых мучанікаў дасягае страшэннай цыфры. ... Усё гэта церпяць і нашыя браты-беларусы з Усходняй Беларусі"* [8].

**1929-1934 гг.**

Да пачатку 1930-х гадоў КПЗБ налічала 4 000 чалавек. Акрамя таго, каля 3 000 чальцоў партыі стала знаходзіліся ў турмах.

У Лідзе 7 лютага 1930 г. пачаўся суд над жыхаром г. Ліды Лейбам Беліцкім, якога абвінавачвалі ў членстве ў КПЗБ, *"якая мае за мэту зруйнаваць дзяржаўны лад РП і пасягае на тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы праз адрыванне ўсходніх ваяводстваў і далучэнне іх да Савецкай Расіі"*. Лейба Беліцкі атрымаў 4 гады турмы ўзмоцненага рэжыму[9]. У сакавіку таго ж года газета "Наваградскае жыццё" паведаміла аб ліквідацыі ЦК КПЗБ - *"у ЦК не было ніводнага беларуса"* [10].

29 траўня 1931 г. у Лідзе пачаўся суд над 9-цю камуністамі - членамі мясцовага камітэта КПЗБ. На лаве падсудных знаходзіліся Кратко Зэлман Гірш, Васілеўскі Людвік, Місялевіч Зішаль, Кель Уладзіслаў, Гельман Абрам, Аржахоўскі Мардух, Дабчэўскі Гірш і Рыбак Ян. Адзін з гэтай васьмёркі, нейкі Дабчэўскі, не быў арыштаваны і меў вольны доступ у суд. Пад канец працэсу ён зразумеў, што наперадзе - турма, выйшаў з залы і знік. Дабчэўскі (завочна) і яшчэ адзін камуніст атрымалі па 6 гадоў турмы, два лідары Лідскага камітэта - па 8 год турмы (адзін з іх - Кратко Зэлман). Ян Рыбак быў апраўданы[11].

У сярэдзіне кастрычніка таго ж года пачаўся *"працэс маладых камуністаў. Учора Акруговы суд у Лідзе распачаў разгляд справы маладых камуністаў МіхалаКата, Сямёна Варанка, Яна Гардзейчыка і Паўла Хільмановіча ... . Разгляд працягваўся некалькі гадзін. У якасці доказаў віны паліцэйскія ўлады прапанавалі суду вялікую колькасць улётак і асабістую карэспандэнцыю. Некаторыя лісты дасылаліся з Францыі. Суд прыгаварыў Ката і Варанка да 6 месяцаў турмы, а астатніх падсудных апраўдаў, пакінуўшы іх пад наглядам паліцыі"* [12].

Пры канцы лютага 1933 г. Лідскі Акруговы суд прыгаварыў камуністаў - жыхароў Іўя - Мойшу Шмуйловіча (узрост 19 галоў) да 4 гадоў турмы і пазбаўлення грамадзянскіх правоў на 4 гады, Ёселя Рогава (узрост 18 гадоў) і Янкеля Беранштайна (узрост 18 гадоў) да 2 гадоў турмы і пазбаўлення грамадзянскіх правоў на 4 гады, Жынеля Бакшта (узрост 18 гадоў) да 2 гадоў турмы і пазбаўлення грамадзянскіх правоў на 2 гады, Вольфа Янкялевіча (узрост 21 год), Лейзара Шмуклера (узрост 17 гадоў) і Хаіма Лібермана (узрост 17 гадоў) да 2 гадоў папраўчага дома[13].

[6] Slowo № 82 (1092), 11 kwietnia 1926.

[7] Беларускае Слова № 28, 14 снежня 1926.

[8] Беларускае Слова № 11, 24 красавіка 1926.

[9] Kurjer Wilenski № 33 (1675), 9 lutego 1930.

[10] Zycie Nowogrodzkie № 74 (788), 28 marca 1930.

[11] Slowo № 122 (2630), 30 maja 1931.

[12] Slowo № 239 ( 2741), 17 pazdziernika 1931.

[13] Kurjer Wilenski № 52 (2593), 27 lutego 1933.

Паводле польскай паліцыі, канфідэнтаў можна было падзяліць на тры катэгорыі: "ганаровыя", платныя ды выпадковыя. Найбольш дакладнымі і сумленнымі з'яўляліся "ганаровыя" канфідэнты, бо яны дапамагалі органам паліцыі выключна з ідэалагічных прычын і патрыятычных пачуццяў. Платныя канфідэнты за невялікім выключэннем не карысталіся добрай рэпутацыяй і даверам, аднак менавіта гэтая катэгорыя канфідэнтаў найчасцей выкарыстоўвалася органамі паліцыі. Паліцыя лічыла найбольш эфектыўным мецць інфарматараў непасрэдна сярод сяброў антыдзяржаўных арганізацый[14] . Якраз такім платным і эфектыўным канфідэнтам быў агент у Лідзе Чорны, пра якога пойдзе вялікая гаворка ніжэй.

Трэба адзначыць, што маральная і чалавечая якасць канфідэнтаў не заўсёды задавальняла кіраўніцтва паліцыі. Напрыклад, у сярэдзіне 1920-х гг. фельчар Андрэй Булер (ён жа Земайціс) і музыкант Юзаф Квіро пасля таго, як былі звольнены з працы канфідэнтаў палітычнай паліцыі ў Лідзе, самі аказаліся пад наглядам службаў бяспекі. Высветлілася, што Булер займаецца нелегальнай медыцынскай практыкай. Фактычна кіраўнік выведкі ў Лідзе Станіслаў Яскаржынскі прыняў іх на працу толькі на падставе допісу на візітцы свайго беластоцкага калегі з той нагоды, што будучыя агенты ведалі літоўскую мову і надаваліся для працы на мяжы з Літвой[15] .

Гісторык Андрэй Чарнякевіч падрабязна расказаў пра Алену Лужыс - канфідэнта польскай паліцыі ў літоўскім нацыянальным руху, кіраўнічку літоўскай "святліцы" ў вёсцы Дубічы (раней у Лідскім павеце, сёння ў Варэнскім раёне Літвы). Яна была дэканспіраваная і потым доўга шукала працу і звярталася па падтрымку да польскіх уладаў. У рэшце-рэшт Алене Лужыс удалося ўладкавацца на працу: спачатку ў бібліятэку ў Лідзе, а пасля ў мясцовы кааператыў "Еднасць". Цікава, што адразу пасля ўсталявання новай улады Алена Лужыс пачала шукаць месца службы ўжо ў савецкіх установах. Захаваліся яе заявы, пададзеныя ў лідскую ашчадную касу, паштовае аддзяленне і на чыгунку, а ў далучаных аўтабіяграфіях на расійскай мове былая агентка згадвала сялянскае паходжанне. У выніку на кароткі час яна ўладкавалася санітаркай у мясцовы шпіталь (па іншых звестках - санітаркай у службу хуткай дапамогі). 7 верасня 1940 г. Лідскі аддзел НКУС на падставе прадстаўленых дакументаў польскай паліцыі абвясціў яе ў вышук. Цікава, што ў савецкіх органаў бяспекі не атрымалася хутка знайсці былую канфідэнтку. Алена Лужыс была арыштавана толькі ў лютым 1941 г. Увесь гэты час яна заставалася ў горадзе. Праз два месяцы, 28 траўня 1941 г. жанчына была асуджана на 5 гадоў. Цікава, што ў судовай справе яна фігуравала як "беларуска" [16].

Данясенні агента польскай паліцыі па мянушцы Чорны за 1932-1937 гг. датычаць дзейнасці Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ) у г. Лідзе і дазваляюць як вызначыць рэальныя ўплывы камуністаў у жыцці горада, так і даць ацэнку эфектыўнасці працы канфідэнта.

У гэтай частцы я буду шмат спасылацца на даклады канфідэнта паліцыі, вядомага пад псеўданімам Чорны. Яго асабістая справа захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Гарадзенскай вобласці. На вокладцы пазначана, што агентам быў Мікалай Ляўковіч. У справе насамрэч прысутнічаюць асабістыя паперы Ляўковіча Мікалая Пятровіча, 1907 г. нар., завербаванага 27 кастрычніка 1930 г. Але ўдалося высветліць, што яшчэ ў чэрвені 1931 г. ён уцёк у СССР[17], дзе працаваў шафёрам на Ірбіцкім металургічным камбінаце ў Свярдлоўскай вобл. 12 кастрычніка 1937 г. Мікалай Ляўковіч быў арыштаваны органамі НКУС, асуджаны і расстраляны 21 лістапада 1937 г.[18]

Такім чынам, ён не мог быць канфідэнтам Чорным. Згаданая архіўная справа Чорнага пачынаецца якраз з інфармацыі пра камуніста Мікалая Ляўковіча і яго атачэнне ў Баранавіцкім пав. Відавочна, мела месца памылка кагосьці з паліцэйскіх чыноў, які далучыў улікавую картачку канфідэнта Ляўковіча пасля яго ўцёкаў у СССР да асабістай справы Чорнага.

Снежнем 1932 г. датуецца першае з захаваўшыхся паведамленняў ад канфідэнта "Чорнага" ў Лідзе. У тэчцы ляжаць не інфармацыя інфарматара, а адмыслова аформленыя і ўжо апрацаваныя паліцэйскія паведамленні, якія звычайна пачынаюцца са спасылкай на нумары ранейшых паведамленняў па тэме і словамі: *"Чорны інфармуе…"* ці *"Ч. інфармуе….".* Тут жа могуць быць напісаныя і даручэнні канфідэнту пра неабходнасць далейшай распрацоўкі тэмы, і ёсць ацэнка якасці прадстаўленай інфармацыі, звычайна: *"Інфармацыю можна лічыць верагоднай, яна пацвярджаецца паказаннямі …".*

Заўважу таксама, што ў паведамленнях Чорнага маюцца вялікія пропускі, якія звычайна супадаюць з

[14] Чарнякевіч Андрэй. "Быць канфідэнтам": штодзённае жыццё інфарматара польскай службы бяспекі. С. 190-191.

[15] Там жа. С. 187-188.

[16] Там жа. С. 179-183; 199.

[17] Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобл. (ДАГВ). Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 2. Донесения конфидента полиции "Черный" (Левкович Николай Петрович) о деятельности членов организации КПЗБ в городе Лида, Лидском повете и других местах, переписка по данным вопросам.

[18] База дадзеных "Ахвяры палітычнага тэрору ў СССР" Міжнароднага гісторыка-асветнага таварыства "Мемарыял". [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://base.memo.ru/person/show/2080220. Дата доступу: 01.01.2023.

арыштамі камуністаў. Магчыма, нехта ў свой час выняў гэтыя даносы Чорнага са справы.

**Лідскія камуністы ў 1932 - 1934 гг.**

Калі не блытаюся ў падліках, у 1931 г. камуністычная арганізацыя ў Лідзе была разгромлена ўжо ў трэці раз. Пасля гэтага камуністы чацвёрты раз аднавілі сваю працу ў горадзе і павеце, але зараз за імі ўжо цікаваў канфідэнт "Чорны".

У 1932 г. "Чорны" (далей пачну пісаць без двухкосся) ужо меў сталыя кантакты сярод лідскіх камуністаў і карыстаўся іх поўным даверам. Я вывучыў яго паведамленні і магу з адказнасцю цвердзіць, што працаваў ён з вялікай жарсцю і выдатнымі вынікам. У маленькім горадзе не грэбаваў нават вонкавым назіраннем - калі трэба, працаваў звычайным філёрам, стала ўдзельнічаў у камуністычных сходах, а пра вынікі нарадаў больш высокага ўзроўню, на якія сам патрапіць не мог, даведваўся ад асоб, якія на тых нарадах прысутнічалі. Ужо з яго першых даносаў бачны высокі ўзровень канфідэнта - ён падрабязна расказвае нават пра тое, сведкам чаго не быў. Вывучаючы яго паведамленні, можна зрабіць высновы, што яго крыніцамі з'яўляліся самі ўдзельнікі і відавочцы, якія потым пераказвалі Чорнаму падзеі, на якіх прысутнічалі. Канфідэнт меў талент камунікацыі з людзьмі, талент выклікаць да сябе абсалютны давер. Яго праца працягвалася гадамі, і ніхто не задаваў сабе пытанне, "а чаму я ўсё расказваю гэтаму чалавеку?" Чорны карыстаўся поўным даверам з боку сваіх таварышаў, і камуністы, штодзень ходзячы пад пагрозай арышту, здагадваліся пра правакатараў у сваіх шэрагах, але чамусьці менавіта Чорнаму давяралі абсалютна.

Усе 5 гадоў, за якія маюцца дакументы дзейнасці Чорнага ў Лідзе, ён знаходзіўся дзесьці на 3 - 4 прыступках партыйнай іерархіі, калі лічыць ад сакратара гаркама КПЗБ у Лідзе (далей - ГК КПЗБ Ліда ці проста ГК). Паліцыя ведала амаль што ўсё пра дзейнасць лідскіх камуністаў, але іх арышты праводзіла серыямі - арыштаваўшы членаў гаркама, заўсёды пакідалі камуністаў сабе "на развод", магчыма, каб не застацца без працы. І камуністы хутка абіралі новы гаркам, склад якога таксама быў вырачаны на арышт. Таму з сумнай усмешкай чытаў я пра канспіратыўныя захады і прыдумкі лідскіх камуністаў, якія павінны былі "заблытаць" паліцыю - пра гэта Чорны таксама дакладваў неадкладна.

З паведамленняў Чорнага бачна, што ў 1932 г. сярод сяброў КПЗБ асаблівай актыўнасцю вылучаўся Абрам Любецкі. Сустрэчы з партыйцамі ён праводзіў падчас шпацыраў па горадзе. Таксама сустракаўся з імі ў будынку пажарнай аховы або ў сінагозе. Так, раніцай 29 лістапада 1932 г. менавіта ў сінагозе камуністычны актыў сустрэўся з Раймондам Урбановічам[19] (акрамя Любецкага там быў яшчэ Хаім Дубчанскі і Мардух Айзікавіч). Дубчанскі назваў Урбановіча *"сваім хлопцам"*, бо той некалі ўжо працаваў у кампартыі і паведаміў, што Урбановіч будзе патрэбны дзеля стварэння ў Лідзе *"гарадскога камітэта* [камуністаў - *Л. Л.*] *хрысціян"*. Такі камітэт не быў створаны, але ідэя яго арганізацыі выказвалася і пазней.

Пасля таго, як сустрэча закончылася і Урбановіч сышоў, Любецкі прызнаўся Айзіковічу, што апасаецца арышту, бо яго ведае паліцыя. Каб не страціць новага для партыі чалавека, ён абяцаў скантактаваць Айзіковіча з селянінам з вёскі Бенявічы. Таксама Любецкі паведаміў, што ў рамеснай школе ў Лідзе ёсць хлопец з тых жа Бенявічаў, якога можна выкарыстаць для працы ў вёсцы[20]. Праз 5 месяцаў Чорны даведаўся, што хлопца з вёскі Бенявічы Дакудаўскай гміны завуць Аркадзь Казлоў[21] і ён вучыцца ў 3-м класе Гандлёвай школы[22].

4 снежня 1932 г. каля 21-й гадзіны ў памяшканні пажарнай аховы па вул. Сувальскай сабраўся партыйны актыў. Камуніст Пайкоўскі выказаўся крытычна адносна Урбановіча: *"Што да пытання прыняцця Урбановіча ў кампартыю, дык трэба захоўваць асцярожнасць, бо ён прафесійны жлукта, а выпіўшы, можа ўсё разбалбатаць"* [23].

Трэба сказаць, што ў памяшканні лідскай пажарнай аховы камуністы збіраліся рэгулярна. Сярод актывістаў КПЗБ у Лідзе былі два Абрамы Гельманы. Адзін з іх знаходзіўся ў шэрагах пажарнай аховы Ліды і пасля Другой Сусветнай вайны напісаў цікавыя ўспаміны пра пажарную справу ў горадзе[24]. Таксама частым месцам сустрэч камуністаў з'яўляўся гарадскі рынак. Так, 28 лістапада 1932 г. на рынку сустракаліся Мардух Айзікавіч, Хаім Дубчанскі[25] і Хаім Каплан[26]. Падчас сустрэчы Каплан заўважыў, што ўся праца МОПР[27] па зборы грошай спынілася, бо ў Стоўбцах арыштаваны кур'ер з СССР[28].

[19] Жыве вул. Школьная, 76.

[20] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 12.

[21] Сын Пятра і Ганны, 1913 г.н.

[22] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 20 адв.

[23] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 12 адв.

[24] Лаўрэш Леанід. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 425-426.; Sefer Lida. Former residents of Lida in Israel and the Committee of Lida Jews in USA. Tel-Aviv. 1970. P. 192-193.

[25] Сын Ёселя і Шэйны, 1911 г.н. кравец, жыў па вул. 3-га Мая, 74. Арыштоўвася 30 красавіка 1931 г. па ст. 102 КК, выракам апеляцыйнага суда апраўданы. У 1936 г. будзе адбываць пакаранне ў Лідскай вязніцы.

[26] Сын Нохіма і Добы, слесар, нарадзіўся ў 1910 г. у Эйшышках, жыў ў Лідзе па вул. Сувальская, 20. Тэхнік ячэйкі КПЗБ, у 1929-30 гг. прыгавораны да 1 год вязніцы, тэрмін адбыў.

[27] Международная организация помощи революционерам (рус.).

[28] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк.13.

У канцы лістапада 1933 г. Чорны паведаміў паліцыі спіс сяброў гарадскога камітэта КПЗБ у Лідзе. У склад камітэта ўваходзілі Лейба Разенштайн[29], Мойша Рафэл[30], яго брат Бэрка (былы сакратар ячэйкі КЗМЗБ, які ў 1930 г. быў арыштаваны і асуджаны на 3 гады вязніцы)[31]. Таксама Чорны даносіў, што ў канцы 1932 г. Хаім Каплан па партыйных справах ездзіў у Вільню[32]. Праз некалькі тыдняў канфідэнт даведаўся, што ён быў пасланы ў Вільню Любецкім па грошы для лідскіх вязняў[33].

На пачатку красавіка 1933 г. канфідэнт інфармаваў, што пасля судовага прысуду па справе Абрама Гельмана (1931) сярод камуністаў горада пануе ўзаемны недавер, а з партыйнай працы застаўся толькі збор грошай на МОПР[34].

Назіранне Чорнага пацвердзілася на партыйным сходзе, які адбыўся вечарам 16 красавіка 1933 г. на кватэры ў Разенштайна[35]. На ім Любецкі паведаміў камуністам, што да гэтага часу не мае кантактаў з кіраўніцтвам Віленскай акругі КПЗБ (далей: Акруга) і прапанаваў не рабіць ніякіх палітычных мерапрыемстваў падчас святкавання 1 Мая, бо за вывешаны транспарант ці за ўлётку трэба плаціць гадамі вязніцы. Ён таксама паведаміў, што Акруга мае непасрэдныя кантакты з камуністамі ды іх прыхільнікамі ў вёсцы, і там могуць адбыцца пэўныя палітычныя падзеі без ведама гарадскога камітэта[36] (далей: ГК)[37].

Дзеля аднаўлення кантактаў з Вільняй 3-4 траўня 1933 г. туды ездзіў Разенштайн[38]. 14 траўня партыйны актыў сабраўся вечарам на рынку і канстатаваў, што пасля аднаўлення кантактаў з Акругай камуністы ў Лідзе павінны актывізаваць працу. Дзеля гэтага ў Ліду *"прыязджала нейкая вельмі прыстойная студэнтка-яўрэйка. Яна жыла ва ўладальніка піўной, што на перасячэнні вул. Сувальскай і Крупаўскай, Рэцькі. Яўрэйка мела псеўданім Шкляр"*. Камуністы планавалі правесці шэраг акцый у Лідзе і ў павеце" [30].

Кантакты з віленскім кіраўніцтвам працягваліся, 21 траўня партыйнае мерапрыемства адбылося падчас шпацыру па вуліцы Сувальскай. Першымі сустрэліся Мардух Айзікавіч і Абрам Любецкі і потым, *"ідучы ў бок кінатэатра Маленькае яны сустрэлі невядомага яўрэя гадоў 24 - 25 (брунет, доўгі твар трошкі ў веснінах, апрануты ў сіні гарнітур), якога Любецкі прадставіў як партыйца з Вільні. Пасля гэтага Любецкі ўзяў госця пад руку, і яны разам пайшлі ў бок пошты. Аб нечым паціху размаўлялі, а Айзікавіч ішоў за імі. Каля пошты Любецкі і партыец з Вільні развіталіся, а лідскія пайшлі ў бок Пастаўскай вуліцы"* [40].

На звыклым вечаровым сходзе 24 траўня на рынку Любецкі меў добры настрой і паведаміў калегам, што праца сапраўды значна актывізавалася. Любецкі прапанаваў Айзікавічу заняцца партыйнай тэхнікай і спытаў, ці мае Айзікавіч месца, дзе можна было б схаваць партыйную літаратуру. Чорны ў сваёй інфармацыі заўважыў, што Айзікавіч жыве ў "яўрэйскай бажніцы" [41].

У чэрвені 1933 г. лідскія камуністы даведаліся, што ў Воранаве створаны камітэт КПЗБ, у склад якога ўваходзіць сястра Груні Троцкай[42], Груня ў свой час атрымала 6 гадоў вязніцы за камуністычную дзейнасць. Яна мела кантакт з Любецкім і павінна была прыехаць у Ліду[43] (трэба заўважыць, што *Троцкі* ці *Троцкая* - папулярнае на поўначы Лідскага павета прозвішча, паходзіць яно ад назвы горада Трокі, сёння - Тракай).

Падобна, што размовы пра актывізацыю працы так і засталіся толькі размовамі. Адзінае, што, камуністы чакалі на гастролі ў Лідзе групу артыстаў з СССР - *"яна прывязе нешта цікавае"*. Верагодна, гэтыя гастролі не адбыліся, бо тагачасная прэса не паведамляла пра прыезд савецкіх артыстаў у Ліду.

Каб нечым напоўніць свае даклады, Чорны паведамляў, што Любецкі *"імкнецца знаходзіцца сярод тых жыхароў Ліды, якія лаяльна ставяцца да дзяржавы"*[44]. Ён, дарэчы, быў актывістам яўрэйскага спартыўнага клуба і выкарыстоўваў выезды на спаборніцтвы для партыйнай працы. Чорны таксама інфармаваў, што на пачатку жніўня Любецкі кантактаваў са "студэнтам,

[29] Сын Мейлаха і Двейры, 23.12.1909 г .н., жыў па вул. Рынак, 13, цырульнік, кавалер. Разэнштайн у 1927 г. належаў да КПЗБ і выракам суда прыгавораны на 6 гадоў вязніцы, палова тэрміна яму даравана, рэшту адбыў і 05.11.1931 г. быў звольнены.

[30] Сын Янкеля і Юдэсы з Ілютовічаў, 1913 г .н., кавалер, жыў з бацькамі па вул. 3-га Мая, 39.

[31] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк.18.

[32] Там жа. Арк. 14.

[33] Там жа. Арк. 16.

[34] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 21.

[35] Прысутнічалі: Абрам Любецкі, Хаім Каплан, Мардух Айзікавіч і Разэнштайн.

[36] Тамсама, арк. 22.

[37] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 22.

[38] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 22.

[39] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 24.

[40] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 25.

[41] Там жа.

[42] Дачка Хаіма-Альтэра і Дабрусі, 1909 г .н.

[43] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 26.

[44] Там жа. Арк. 28.

які жыве ў Лідзе (прозвішча невядома, бландзін), і ўжо тыдзень працуе ў аптэцы Стукатара. Гэты студэнт у 1929 г. чытаў даклады ў яўрэйскіх прафсаюзах і належаў да камсамольцаў Ліды. Любецкі на ровары ездзіў у Бастуны, верагодна для сустрэчы з кімсьці з Воранава"[45]. Праз некалькі дзён Чорны яшчэ раз паведаміў пра студэнта з аптэкі Стукатара. Гэта быў Рафал Сахін [46].

Наступны сход адбыўся 2 верасня 1933 г. у памяшканні пажарнай аховы[47]. Хтосьці з прысутных прапанаваў да Міжнароднага дня моладзі падрыхтаваць рукапісныя адозвы і расклеіць іх па горадзе. Асцярожны Любецкі не пагадзіўся: *"Гэта нам нічога акрамя вязніцы не дасць"*. Адкінуў Любецкі і прапанову знайсці сталае памяшканне для партыйнай працы. Магчыма, ён нешта ведаў пра планы паліцыі, бо нават прапанаваў камуністам на нейкі час наогул прыпыніць партыйную працу. У верасні адбылося яшчэ некалькі сходаў у цырульні Лейбы Разенштайна і ў кватэры Ёселя Бляховіча (вул. 3 Мая, 35), але пра іх вынікі канфідэнт не паведамляў, бо, пэўна, не меў інфармацыі.

З паведамленняў Чорнага даведваемся, што камуністы адчувалі небяспеку і нават адсунулі ранейшых актывістаў ад партыйнай працы. 27 студзеня 1934 г. падчас шпацыру па вул. Мілоснай прайшоў сход, на якім быў абраны новы ГК КПЗБ Ліды ў наступным складзе: Абрам Ваўкавыскі[48], Іцка Валоцкі, Двейра Сасноўская, Мардух Каброўскі[49] і Цадзік Іцэксан. Функцыі гэтых новых асоб яшчэ не былі вызначаны, але кантакт з Акругай у Вільні павінен быў падтрымліваць Абрам Ваўкавыскі[50].

Далей у даносах Чорнага маецца пустка. Паведамленне № 5/1/34 паліцыя атрымала 3 лютага, а № 5/2/34 - толькі 1 сакавіка 1934 г. З даносу даведваемся, што новыя сябры ГК пачалі падазраваць у супрацы з паліцыяй Мардуха Айзікавіча, які па даручэнні Любецкага быў тэхнікам Камітэта. Падчас сустрэчы Любецкага з Айзікавічам 18 лютага 1934 г. на вул. Сувальскай Любецкі прапанаваў апошняму працаваць толькі ў МОПР, але той адмовіўся, бо лічыў неабходным *"ачысціцца перад партыяй"* ад падазрэнняў. Любецкі заўважыў, што на падазрэнні не трэба звяртаць увагі, а асабіста ён давярае Айзікавічу[51]. Пасля сустрэчы з Айзікавічам, Любецкі сустрэўся з сынам вядомага лідскага друкара[52] Шлёмам Зяльдовічам і Эльяшам Шапірам, якія былі студэнтамі Універсітэта Стэфана Баторыя[53]. Утрох яны каля гадзіны шпацыравалі па вул. Сувальскай.

Вечарам таго ж дня Любецкі сустрэўся з Іцкам Валоцкім і працяглы час размаўляў з ім. Сустрэча адбылася на вул. Чырвонай. Гэта была вельмі кароткая (не болей за 50 м) і вузкая вуліца, дзе камуністы лічылі сябе ў поўнай бяспецы, бо візуальна кантралявалі ўсё наваколле. Тым не менш Чорны здолеў і тут прасачыць за імі.

У тым жа паведамленні ў паліцыю канфідэнт інфармаваў, што Хана-Бейля Платоўская з Васілішак паведаміла Мардуху Айзікавічу, што *"калі яе яшчэ раз затрымае паліцыя, яна выдасць усіх васілішскіх камуністаў. У партыі ёй абвясцілі байкот"* [54], што можа сведчыць пра рост напружанасці сярод камуністаў.

Наступнае паведамленне № 5/3/34 канфідэнта датавана 2 чэрвеня 1934 г. Чорны паведаміў, што актыў КПЗБ збіраўся ў лесе за вёскай Раслякі каля Ліды. Гаворка ішла пра канспірацыю. Член ГК Цадзік Іцэксан заявіў прысутным: *"Мы яшчэ не пачалі партыйную працу, а паліцыя ўжо ўсё ведае"*. Пра крыніцу сваёй інфармацыі ён не сказаў, але паведаміў, што хутка пачнуцца арышты. Таксама запэўніў, што падчас допытаў ён нічога не скажа, не будзе канфідэнтам і папярэдзіў прысутных супраць сустрэч на вуліцы[55]. Як бачым камуністы даведаліся, што партыйныя нарады падчас шпацыраў па вуліцы не ратуюць іх ад паліцэйскага вока. Верагодна, нейкая ўцечка інфармацыі ішла да іх з боку ўладаў. Вядома, што даклады Чорнага аддрукоўваліся ў некалькіх экземплярах і рассылаліся пракурору і ў Ваяводскі следчы аддзел паліцыі. Гэтыя дакументы маглі бачыць тэхнічныя работнікі паліцыі ці адміністрацыі.

У тым жа паведамленні № 5/3/34 Чорны інфармаваў, што ў сувязях з паліцыяй пачалі падазраваць Мардуха Каброўскага, які насамрэч не быў канфідэнтам. Пра гэта на паведамленні Чорнага напісаў начальнік Лідскага следчага аддзела. Пасля гэтай сустрэчы, як паведаміў Чорны, многія выехалі з Ліды. Іцэксан выехаў у Вільню, але таксама былі чуткі, што ён перайшоў мяжу з СССР. Абрам Любецкі - у Воранава або ў Вільню. Разенштайн - у Вільню[56].

[45] Там жа. Арк. 29.

[46] Сын Міхеля і Песі з Івянецкіх, 1905 г. н., член Камуністычнага Звязу моладзі (КЗМ).

[47] Сабраліся Абрам Любецкі, Хаіма-Мойша Закройскі, Лейба Ліпнішцкі і Мардух Айзікавіч.

[48] Сын Хаіма-Айзіка, 1911 г .н.

[49] Сын Арона, 1910 г .н.

[50] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 36.

[51] Там жа. Арк. 37.

[52] Да таго часу яго бацька ўжо памёр: "Сёння, пасля 13 гадзіны выйшаўшы з хаты, на вуліцы раптоўна памёр уладальнік адной з друкарняў горада Зяльдовіч. Памёршы цешыўся вялікай павагай мясцовага грамадства." - Гл: Wieczorny Kurjer Grodzienski №24, 24 czerwca 1932.

[53] Віленскі універсітэт імя Стэфана Баторыя (УСБ).

[54] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 37.

[55] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 38.

[56] Там жа.

Далей зноў ідзе вялікая паўза ў даносах, і наступную інфармацыю канфідэнта № 5/4/34 афармляюць 25 ліпеня 1934 г. З гэтай паперы мы даведваемся, што Абрам Любецкі насамрэч уцёк у СССР. Абрам Любецкі (сын Гірша, 1885 г .н.), у 1935 г. быў арыштаваны ў Растове-на-Дану і 14 красавіка 1938 г. расстраляны[57]. Стандартны шлях усіх, хто ў той час збег на *"Радзіму сусветнага пралетарыяту"*.

Трэба заўважыць, што папярэджаная Чорным паліцыя ў той момант не праводзіла арыштаў, і сярод актывістаў пашырылася меркаванне, што менавіта Іцэксан быў правакатарам, які разваліў усю партыйную працу. Між тым Абрам Ваўкавыскі аднавіў кантакты з Віленскай акругай КПЗБ. Аднак, як паведамляў Чорны, баяўся распачынаць партыйную працу, сцвярджаючы, што *"калі Іцэксан быў правакатарам, дык зараз нікому нельга верыць"* [58].

Пасля гэтага ў тэчцы канфідэнта Чорнага на працягу 1,5 гадоў адсутнічаюць даносы. Магчыма, яны былі выняты са справы.

### "Лідская рэвалюцыя"

Агульнагарадскі штрайк 1936 г., які гараджане называлі *"рэвалюцыяй"*, я падрабязна апісаў у кнізе "Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг." (Гродна, 2017). Данясенні канфідэнта дадаюць новую інфармацыю пра тыя падзеі.

Пры канцы 1935 г., вечарам 21.12.1935 г., на сходзе ГК ў кватэры Ісака Нісялевіча[59], сакратар ГК Гельман яшчэ нічога не казаў пра штрайк і ўвагу прысутных засяродзіў на неабходнасці ствараць адзінкі КЗМ у Лідзе. Пры канцы сходу збіралі грошы на МОПР - Нісялевіч і Гельман далі па 25 гр.[60]

Штрайк стаў нечаканасцю для камуністычнага актыву.

Акцыянернае таварыства гумовай вытворчасці "Ардаль" па вул. Фабрычнай, 8 было найвялікшым прамысловым прадпрыемствам горада. Слова "ардаль" на ідыш азначае "боты, галёшы". Фабрыка "Ардаль" сапраўды выраблялa зімовы і летні гумовы абутак. Першая прадукцыя была выпушчана ў 1929 г. Акцыянерны капітал, які ў тым годзе складаў 750 тыс. злотых, у 1939 г. павялічыўся да 1 830 тыс. злотых.

На заводах і фабрыках людзі працавалі ў цяжкіх ўмовах. У беларускай газеце "Наша воля" сітуацыя на найбуйнейшым прадпрыемстве Ліды, фабрыцы "Ардаль", апісвалася наступным чынам: *"800 работнікаў, пераважна работніц, маладых дзяўчат. Многа малагадовых, ад 15 гадоў. Працуюць усе "на акорд"* (здзельная аплата працы. - *Л. Л.*) *А гадзіне 12 абед. Ніхто не мае часу памыць рукі, грызуць чэрствы хлеб, стоячы пры варштатах працы. Работніцы зарабляюць ад 1 зл*[отага] *30 гр*[ошаў] *на дзень, пры гэтым варта адзначыць, што пакуль дойдзе да такой платы, то кожная мусіць папрацаваць 2 тыдні толькі за 30 гр. на дзень, другія два - па 50 гр., трэція - па 80 гр. Работнікі зарабляюць па 2 зл., а некаторыя па 2 зл. 50 гр. Палавіна работнікаў і работніц ужо хворая, другая палавіна мае пачаткі хваробы. Усе маюць выгляд твараў як у сухотнікаў. Да гэтага часу былі не арганізаваны. Фабрыкант кожны дзень адных выкідаў на вуліцу, а з вуліцы браў іншых, за цяжкую працу плаціў колькі падабалася"* [61].

Не дзіўна таму, што ў самым канцы 1935 г. на фабрыцы "Ардаль", дзе за некалькі месяцаў да таго паралельна са Звязам прафсаюзаў пачаў дзейнічаць і Прафесійны Звяз працоўных хімічнай вытворчасці, выбухнуў штрайк[62]. Непасрэдныя прычыны штрайку віленская кансерватыўная газета "Slowo", якая пільна сачыла за сітуацыяй на фабрыцы, вызначала так: *"У галіне вырабу гумовага абутку ёсць два сезоны: летні і зімовы. Летні пачынаецца ў студзені і заканчваецца ў чэрвені, і за гэты час вырабляецца тавар, які мае меншы збыт. У зімовы час, ад ліпеня да снежня, выраб-ляюцца галёшы, боты і іншыя больш складаныя рэчы, якія карыстаюцца лепшым попытам. А таму ў зімовы сезон працуе больш рабочых, чым у летні. Традыцыйна пры канцы снежня пэўная колькасць непатрэбных рабочых звальняецца. Так было заўсёды. Так было і ў 1935 годзе. 28 снежня рабочыя атрымалі абвешчанні, і ў адпаведнасці са звычаем завод на працягу двух тыдняў спыніўся для рамонту. Аднак паколькі заставалася шмат лішняй сыравіны для працы, рабочыя ў дадатак працавалі яшчэ два дні, 30 і 31 снежня, але ўжо ў колькасці на 70 чалавек менш, чым у звычайны зімовы перыяд"* [63].

Каб зразумець умовы, у якіх праходзіў агульнагарадскі лідскі штрайк 1936 г., працытую інфармацыю з той самай беларускай газеты "Наша Воля", з таго самага яе нумара, які паведамляў пра ўмовы працы на "Ардалі". Герой гэтага артыкула - самы вядомы заходнебеларускі камуніст, чыім імем названы вуліцы нашых гарадоў. Артыкул мае назву "Стрэлы ў залі Віленскага акружнога Суда": *"Небывалы ў гісторыі польскага суда выпадак здарыўся 27 студзеня 1936 года падчас працэсу над Р. Кабленцам і іншымі з ліку 17 асоб, абвінавачаных у прыналежнасці да Камуністычнай*

[57] База дадзеных "Ахвяры палітычнага тэрору ў СССР" Міжнароднага гісторыка-асветнага таварыства "Мемарыял". [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.memo.ru/memory/magadan/mag_11_2.htm. Дата доступу: 01.01.2024.

[58] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 39.

[59] Сын Ёселя і Хаі, 1909 г.н., цырульнік, жыў па вул. Рынак, 55.

[60] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 44.

[61] Наша Воля. № 3 (4), 4 лютага 1936.

[62] Там жа.

[63] Slowo. № 60 (4267). 1 marca 1936.

*партыі Заходняй Беларусі. Падчас паказанняў сведкі Якуба Стрэльчука з пасярод публікі, якая была на залі, выбег малады чалавек, схапіў сведку левай рукой за каўнер і з рэвальвера, які меў у правай руцэ, чатыры разы выстраліў у яго са словамі: "Вось табе, прадажнік!" Пасля гэтага кінуўся ўцякаць да выхадных дзвярэй, выстраліўшы два разы ў кірунку следчай паліцыі, якая знаходзілася ў залі і пачала яго даганяць. Падстрэлены паліцыянтам, ён упаў на сходы. Гэта быў Сяргей Прытыцкі. Абодвух - Стрэльчука і Прытыцкага - карэтка скорай помачы ўвязла ў шпіталь. Паводля акту абвінавачання, Стрэльчук родам з вёскі Крывая Бельск-Падляскага павету. У 1931 годзе пасля вайсковай службы, атрымаў прапазыку запісацца ў камуністычную партыю. Аб гэтай прапазыцыі паведаміў начальніку бяспекі … староства і ўвайшоў у кампартыю, дзе здабыў сабе давер у кіраўніцтва і быў прызначаны інструктарам"* [64].

Стрэльчук і наш Чорны - калегі два разы - абодва камуністы і канфідэнты паліцыі.

Але вернемся да падзей у горадзе.

З-за звальнення згаданых 70-ці рабочых кіраўніцтва прафсаюза хімічных рабочых вывела 30 снежня 1935 г. рабочых і работніц з фабрыкі і спыніла машыны. Усяго забастоўку абвясцілі 720 рабочых, якія запатрабавалі павелічэння акордных выплат на 25%, дзённых заробкаў для мужчын у памеры ад 2 зл. 50 гр. да 3 зл., а для жанчын - 1 зл. 50 гр.[65]

Дырэкцыя фабрыкі спачатку намагалася аднавіць яе працу пры дапамозе штрайкбрэхераў. 1 студзеня 1936 г. уладальнік прадпрыемства Саламон Мелуп правёў іх вярбоўку, адначасова звярнуўшыся па дапамогу да паліцыі. 5 студзеня пад аховай паліцыянтаў на фабрыку былі дастаўленыя 30 рабочых, пасля чаго запусцілі станкі, якія, аднак, працавалі ўхаластую. Штрайкавы камітэт даручыў устанавіць прозвішчы штрайкбрэхераў і абысці іх кватэры, да некаторых з іх былі ўжытыя пагрозы. У выніку 10 студзеня, пасля пяці дзён халастой працы, С. Мелуп быў вымушаны адмовіцца ад сваёй задумы з пускам фабрыкі.

Пачаліся перамовы дэлегатаў рабочых і прадстаўнікоў прафсаюза з дырэкцыяй, прытым яны адбываліся як на месцы ў Лідзе, так і ў Варшаве пры пасярэдніцтве Міністэрства сацыяльнай апекі[66]. Аднак, да згоды бакам прыйсці так і не ўдалося, паколькі прафсаюз, паводле паведамленняў тагачаснай прэсы, яшчэ больш павялічыў свае патрабаванні да адміністрацыі. Сярод іншага фігуравалі, напрыклад, такія патрабаванні, як агульнае павелічэнне заробкаў на 25%, забарона сезоннага летняга звальнення часткі рабочых і да т. п.[67]

Пасля правалу перамоваў адміністрацыя выставіла рабочым ультыматум, абвясціўшы, што хто ў тэрмін да 22 студзеня не выйдзе на працу, той будзе звольнены. Да 20 студзеня кіраўніцтву фабрыкі ўдалося набраць каля 200 новых рабочых, што дазволіла аднавіць працу прадпрыемства. Ранейшыя ж рабочыя ў поўным складзе прынялі рашэнне да працы на ўмовах дырэкцыі не прыступаць, у выніку чаго ўсе 720 рабочых былі звольненыя[68]. У такіх умовах усё большы ўплыў на настроі рабочых пачаў аказваць больш радыкальны Звяз прафесійных звязаў (Звяз звязаў)[69], актывісты якога праз тры дні пасля аднаўлення працы фабрыкі заблакавалі ўваход на яе, не дазваляючы прыступаць да працы штрайкбрэхерам. У выніку адміністрацыя зноў была вымушана прыпыніць працу прадпрыемства на неакрэслены тэрмін[70].

Менавіта падчас штрайку наступіў "зорны час" лідскіх камуністаў. Ужо 3 студзеня 1936 г. на кватэры Саны Гаперштэйна[71] адбылася "канферэнцыя" з удзелам гаспадара, Абрама Арцішэўскага[72] і *"невядомай асобы яўрэйскай нацыянальнасці, высокага росту, каля 22 гадоў, худога, у рогавых акулярах і жоўтай скураной куртцы, а таксама невядомай яўрэйкі з псеўданімам Берта. На канферэнцыі абмяркоўваўся штрайк на "Ардалі" … Берта прапанавала праводзіць сярод работнікаў працу па падрыхтоўцы штрайку, а да штрайкбрэхераў ужываць тэрор. Працу весці так, як быццам страйк насамрэч быў рэвалюцыяй"* [73].

У канцы студзеня Чорны высветліў, што Берта таксама прыязджала ў Ліду ў апошнія дні кастрычніка 1935 г. і *"гэта тая самая яўрэйка, якая 03.01.1936 г. прымала удзел у канферэнцыі ў памяшканні Саны Гаперштэйна па вул. Пастаўскай, 32. Берта ідэнтычна Лібе Дыновіч, дачцы Бенцяна-Янкеля, 1911 г.н."* [74].

На пачатку 1936 г. сакратар ГК Абрам Гельман[75] атрымаў ад ЦК КПЗБ прапанову ўзначаліць штрайк рабочых фабрыкі "Ардаль", а таксама інструкцыі пра тактыку штрайку. Гельман афіцыйна ўвайшоў у прафе-

[64] Наша Воля. № 3 (4). 4 лютага 1936.

[65] Наша Воля. № 4 (5). 29 лютага 1936.

[66] Slowo. № 60(4267). 1 marca 1936; Наша Воля. № 4 (5). 29 лютага 1936.

[67] Slowo. № 60(4267). 1 marca 1936.

[68] Наша Воля. № 4 (5). 29 лютага 1936.

[69] "Zwiazek Zwiazkow Zawodowych", ZZZ. Гл: https://pl.wikipedia.org/wiki/Zwi%C4%85zek_Zwi%C4%85zk%C3%B3w_Zawodowych

[70] Slowo. 1936. 1 marca. № 60; Наша воля. 1936. 29 лютага.

[71] Сын Кушаля і Фэйгі, 1910 г .н., жыў па вул. Пастаўская, 32, член ГК КПЗБ.

[72] 1916 г .н., скарбнік ГК КПЗБ.

[73] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 46.

[74] Там жа. Арк. 48 адв.

[75] Сын Рубіна, 1912 г .н.

сійны Звяз працоўных хімічнай вытворчасці і пачаў удзельнічаць у сходах як гэтага аб'яднання, так і Звязу звязаў, аб'яднання праўладных прафсаюзаў. Ён казаў *"несупрацьзаконныя"* прамовы і імкнуўся прыцягнуць да штрайку самых радыкальна настроеных рабочых. Гельман меў сціслыя стасункі з сакратаром аддзела прафесійнага Звязу працоўных хімічнай прамысловасці ў Лідзе Святоям Бенцьянам[76] і на партыйных сходах прапаноўваў *"у адносінах да штрайкбрэхераў … праводзіць тэрор. Для гэтага прызначаны рабочыя-камуністы: Гершман Рафал*[77]*, Абрам Каплан*[78] *і Лейба Левін*[79]*. Усе яны жывуць у Лідзе, пра іх паведамлялася раней, і яны ўжо караліся за камуністычную дзейнасць. Ёсць і іншыя, прозвішчы якіх … не вядомы"* [80].

Зборам грошай для штрайкуючых рабочых займаліся Абрам Гельман, Шлёма Рыбацкі[81] і Янкель Гярбоўскі[82]. Канфідэнт даносіў, што сакратар ГК Гельман і член ГК Абрам Ваўкавыскі маюць цесны кантакт са Станіславам Кісялём[83]. Гельман сказаў Ваўкавыскаму, што Кісель *"наш хлопец і вельмі добры работнік"* [84].

5-6 лютага ў Лідзе пры ўдзеле акруговага інспектара працы пачаліся новыя перамовы, на якіх мусілі абмяркоўвацца ўмовы заканчэння штрайку. У якасці перамоўных бакоў выступалі дырэкцыя фірмы "Ардаль", а таксама прадстаўнікі абодвух прафесійных звязаў. Прафесійныя звязы высунулі наступныя патрабаванні:

1) даць працу ўсім рабочым згодна з колькасцю гадоў, адпрацаваных імі паводле стану на 28 снежня 1935 г.;

2) нікога не звальняць за ўдзел у штрайку;

3) прызнаць прафсаюзныя арганізацыі на прадпрыемстве;

4) падвысіць плату за здзельную працу на 25%;

5) гарантаваць штодзённую здзельную заработную плату на 20-25% вышэйшую, чым дзейсная дзённая стаўка.

Для дырэкцыі прадпрыемства гэтыя патрабаванні выглядалі, аднак, завышанымі і нерэалістычнымі. Са свайго боку яна заявіла, што не мае намеру звальняць каго-небудзь за ўдзел у штрайку і будзе наймаць рабочых, гледзячы на іх кваліфікацыю і свае патрэбы. Заробкі рабочых на "Ардалі" значна вышэйшыя, чым на іншых прадпрыемствах у горадзе, а падчас агульнага зніжэння цэнаў падвышэнне заробкаў не з'яўляецца актуальным, тым больш што фабрыка мае неспрыяльнае становішча. Яна размешчана на значнай адлегласці ад асноўных цэнтраў пастаўкі сыравіны, што значна павялічвае вытворчыя выдаткі[85].

Каб абмеркаваць сітуацыю, увечары 5 лютага 1936 г. у памяшканні прафесійнага Звяза працоўных хімічнай вытворчасці па вул. Школьнай сабраліся сакратар ГК Абрам Гельман, Бэр Рафэл[86] і Рубін Сталінскі[87]. Сталінскі прапанаваў на шапірографе надрукаваць улёткі і пералічыць у іх усіх канфідэнтаў паліцыі, што будзе эфектыўнай барацьбой з правакатарамі. Гельман лічыў, што гэтага рабіць нельга, бо будзе дрэнна для іх арганізацыі[88].

11 лютага сакратар ГК Абрам Гельман падчас размовы на вул. Сувальскай з Лейбам Левіным і Мардухам Каброўскім прапанаваў арганізаваць групы па 5-7 асоб са штрайкуючай моладзі - сяброў прафсаюза з "Ардаля" і правесці з імі палітычныя заняткі[89].

16 лютага сакратар ГК вярнуўся з паездкі ў Вільню, Эйшышкі і Воранава, дзе ён вёў перамовы пра дапамогу штрайкуючым рабочым. Колькі грошай прывёз Гельман з Вільні і Воранава - невядома, але ў Лідзе і Эйшышках ён сабраў 33 зл.[90]

Думаю, што памеры гэтай дапамогі і суадносіліся з рэальным уплывам камуністаў на штрайк[91]. Камуністы хутка спатрэбяцца ў якасці баевікоў рабочай міліцыі, у гэтай справе яны дамінавалі, бо ва ўсе часы людзей гатовых да непасрэднага канфлікту з уладай было не шмат. . Прыехаўшы з Вільні, Гельман сабраў партыйны актыў[92] у доме Хаіма Каплана (на той момант жыў па вуліцы

[76] Сына Абрама, 1911 г .н.

[77] Сын Мендаля і Сары, 1910 г .н.

[78] Сын Мойшы, 1910 г .н.

[79] Сын Гдалі і Басі, 1911 г .н. член ГК.

[80] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 48.

[81] Сын Бенцяла, 1910 г .н.

[82] Сын Мойшы, 1909 г .н.

[83] Сына Караля і Агаты, 1911 г .н. нарадзіўся ў Свянцяніскім павеце, выселены з памежнага пасу, караўся за камуністычную дзейнасць, жыў у Лідзе вул. Пастаўская, 35.

[84] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 48 адв.

[85] Codzienna gazeta Handlowa. № 34. 11 lutego 1936.

[86] 1911 г. н.

[87] Сын Мейра, 1899 г .н., працаваш ў лясніцтве.

[88] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 49.

[89] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 50.

[90] Там жа. Арк. 51.

[91] Там жа.

[92] Прысутнічалі Абрам Ваўкавыскі, Абрам Гельман сын Юдаля, 1911 г .н., член ГК КПЗБ Ліда, а таксама Бэр Рафэл,

Шавецкай, 9) для абмеркавання новай партыйнай тактыкі[93].

Між тым перамовы з адміністрацыяй "Ардаля" закончыліся нічым. Да канца лютага рабочыя гуртавалі свае сілы, а 25 лютага на агульнагарадскім мітынгу, на які сабралася каля 2 тыс. чалавек, было прынята аднагалоснае рашэнне арганізаваць у горадзе 24-гадзінны ўсеагульны штрайк, дзеля чаго быў абраны штрайкавы камітэт з 5-ці сяброў Звязу звязаў і 5-ці чалавек ад прафсаюза працаўнікоў хімічнай прамысловасці. На заклік штрайкавага камітэта 27 лютага на працу на ўсіх прадпрыемствах горада не выйшлі каля 4 тыс. чалавек. А 15-й гадзіне ў кінатэатры "Эра" [94] адбыўся мітынг, на які сабраліся ад 2 да 6 тысяч чалавек, пасля чаго адбылася дэманстрацыя пад лозунгам: *"Хай жыве чырвоная рэвалюцыйная барацьба ардалеўцаў!"*. У падтрымку рабочых фабрыкі "Ардаль" выступілі рамізнікі, працаўнікі рэстаранаў, банкаў, кінатэатраў. Лісты і грашовыя сродкі адправілі рабочыя варшаўскай фабрыкі "Рыгавар", прафсаюзы шафёраў і іншыя. У выніку ў гэты дзень у горадзе працавалі толькі рабочыя электрастанцыі і часткова млына. Спынілі працу нават прыватныя рамеснікі.

У нумары віленскай газеты "Slowo" сітуацыя апісвалася такімі словамі: *"Не працавалі рамізнікі, кінатэатры, аркестры, афіцыянты, ніхто наогул не працаваў. Гэта быў вялікі ўсеагульны штрайк - выбітная палітычная дэманстрацыя. Горад быў, як пад акупацыяй або як у часы нейкага бескаралеўя. Нічога дзіўнага, што ў такой сітуацыі натоўп сабраўся на мітынг у кінатэатры "Эра""* [95].

Яшчэ адна маленькая крэска для ўяўлення карціны усеагульнага штрайку ў Лідзе, прывожу словы з допыту 28 кастрычніка 1936 г. сведкі, адваката Францішка Вісманта, ў Лідскім гродскім судзе:

"***Суддзя Вітольд Рудзіньскі:*** *Як сябе паводзіла паліцыя ў дзень усеагульнага штрайку?*

***Сведка:*** *Я яе ўвогуле не бачыў. У гэты дзень я некалькі разоў выходзіў на вуліцу. Гэта мы абмяркоўвалі ў сваім коле. Затое на вуліцы былі падазроныя тыпы з чырвонымі павязкамі. Афіцыянтаў у кавярнях не было. Па каву трэба было ісці самому. Цікавы момант: мелася толькі касірка. Ёй сказалі, што яна "псіхічна хворая" і таму можа працаваць. Перад кавярняй "Амерыка" не было пастарунка паліцыі, які там стаіць заўсёды. […] Адзін мой знаёмы адвакат ехаў з вакзала на дрожках і быў высаджаны з дрожак, бо возніка прымушалі штрайкаваць"* [96].

Супрацоўнікі газеты "Slowo" імкнуліся патлумачыць падзеі выключна як вынік дэструктыўных дзеянняў актывістаў "Звяза прафсаюзаў", якія называліся *"баевікамі"*, *"крымінальнымі элементамі"* і *"камуністамі"*, якія *"тэрорам змусілі абсалютна ўсіх не працаваць, нават прыватных рамеснікаў"* [97], і *"думаюць не пра эканамічныя патрабаванні, а пра палітычную дэманстрацыю"*. У выніку, паводле карэспандэнта гэтай газеты, *"горад быў цалкам захоплены баевікамі"* [98], у той час як большасць удзельнікаў мітынгу і дэманстрацыі нібыта *"прыйшла сюды проста з-за цікаўнасці"*, а на самай справе *"па ўсёй Лідзе пануе абурэнне з нагоды гвалту і тэрору "Звяза прафсаюзаў""* [99]. Супраць лідараў пратэстнага руху вышукваліся розныя факты, што іх асабіста кампраметавалі. Так, лідару "Звяза прафсаюзаў" Раману Бярнацкаму закідалася нібыта меўшае месца наведванне ім у Вільні злачнага месца[100].

Больш узважаную пазіцыю пры асвятленні падзей займалі публіцысты дэмакратычнага "Віленскага кур'ера". У вялікім артыкуле "Прычына і ход штрайку ў Лідзе" прызнавалася, што

*"Прычыны абодвух штрайкаў - на "Ардалі" і генеральнага - несумненна эканамічныя. Гэты быў агульны пратэст рабочых супраць метадаў наступу прыватнага капіталу на нашых землях.*

*Мы неаднаразова пісалі, што ў паўночна-ўсходніх ваяводствах самая танная працоўная сіла ў Польшчы. […]*

*На фабрыцы "Ардаль" жанчыны атрымлівалі ў дзень ад 1 да 1,5 злотых, трыццаць работніц атрымлівалі 2 злотыя ў дзень. Мужчыны зараблялі ад 2 да 3 злотых, толькі некалькі рабочых зараблялі больш.*

*На фабрыцы не было 8-гадзіннага працоўнага дня, працавалі па 10-12 гадзін у дзень. […]*

*Адначасова рабочых раздражнялі высокія заробкі кіраўнікоў, адміністрацыі і супрацоўнікаў заводакіравання. Заробкі там пачыналіся ад 1 тысячы злотых у месяц"* [101].

Пры гэтым адмыслова адзначалася, што *"штрайк праходзіў спакойна"*, а *"паліцыя паводзіла сабе вельмі тактоўна. Нешматлікія паліцэйскія патрулі хадзілі па горадзе без карабінаў"* [102]. Вы-

[93] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 51.
[94] Адрас кінатэатра: Сувальская (Віленская), 58.
[95] Slowo. № 60 (4267). 1 marca 1936.
[96] Slowo. № 298 (4504). 30 pazdziernika 1936.
[97] Там жа.
[98] Там жа.
[99] Slowo. № 58 (4265). 28 lutego 1936.
[100] Slowo. № 60 (4267). 1 marca 1936.
[101] Kurier Wilenski. № 61 (3665). 3 marca 1936.
[102] Там жа.

шэйзгаданы адвакат Вісмант таксама цвердзіў, што паліцыя *"не затрымлівала тыпаў з чырвонымі павязкамі"* [103].

На самым ўздыме страйкавага руху, уплыў камуністаў можна вызначыць як мінімальны, і яны самі здолелі актывізавацца толькі, калі рабочы рух ужо пачаў заціхаць. Напрыканцы сакавіка 1936 г. Абрам Гельман прапанаваў Лейбу Левіну агітаваць рабочых "Ардаля" працягваць страйк і распачаць тэрор супраць страйкбрэхераў. Вырашылі, што галоўная аўдыторыя для прапаганды камуністаў - асобы, раней пакараныя за камуністычную дзейнасць, і звольненыя рабочыя бо губляць ім было ўжо не было чаго. Сам Гельман у кожны вольны час прыходзіў у памяшканне Звязу працоўных хімічнай вытворчасці і Звязу звязаў па вуліцы Сувальскай і агітаваў за працяг страйку і тэрор супраць штрайкбрэхераў[104].

Юзаф Мацкевіч у віленскай газеты "Слова" многа пісаў пра Лідскі страйк (гл. дадаткі). У нумары ад 17 сакавіка ён выказаў меркаванне, што Звяз звязаў спачатку рэвалюцыянізаваў Ліду, а потым гуту "Нёман" у Бярозаўцы. Аўтар тлумачыў чытачам газеты, якія не разумелі, як тое магло быць, што арганізацыя з такімі метадамі і мэтамі мае падтрымку пэўных сіл? Мацкевіч параўноўвае вышэйзгаданы прафсаюз з так званым "зубатаўскім" звязам працоўных 1905 г. у Расіі, абвінавачвае Звяз звязаў у правакацыйнай дзейнасці і далей піша: *"Чулі ад фабрыкантаў-яўрэяў "ці гэта не замаскаваныя эндэкі?". Бо штучнасць існавання Звязу звязаў кідаецца ў вочы. Аб чым тут шмат гадаць: без падтрымкі ўплывовых сіл, арганізацыя за 24 гадзіны была бы выкінутая з працоўнага руху"* [105].

Далей будучы вядомы пісьменнік пісаў: *"Як гэта выглядала ў Лідзе, мы ўжо пісалі і за першую публікацыю былі канфіскаваныя. У папярэднім артыкуле ўспаміналася, што паны з прафсаюза казалі пра акцыю ў Лідзе, штрайк на "Ардалі", усеагульны штрайк і захоп усяго горада баевікамі, як пра спантанную акцыю людзей працы, якія добраахвотна пакінулі свае варштаты. Не было ніякага ціску і г.д.*

*Мы даводзілі нешта адваротнае. Менавіта, што быў ціск і тэрор, які мог быць толькі пры адмысловай бяздзейнасці лідскага старасты.*

*Зараз, так сама, як і мы, кажа сам пан Раман Бярнацкі, арганізатар штрайку і забурэнняў.*

*Справа ў тым, што пан Бярнацкі, сябар Цэнтральнай управы Звязу звязаў, пасварыўся з сакратаром Цэнтральнага Звязу працоўных хімічнай вытворчасці. Абодва паны з Варшавы. Абодва прыехалі да нас займацца дэмагогіяй і падрыўнымі акцыямі, абодва гандлююць сацыяльнымі лозунгамі і абодва думаюць не пра дабро для працоўных, а пра ўласныя кар'еры і ўплывы. На старонках "Працоўнага фронту" (органа Звязу звязаў) пан Бярнацкі, каб даказаць асабістыя заслугі, піша аб "добраахвотным свяце працы" і ў палемічным запале паўтарае тое, што і мы пісалі ў "Слове": "Я меў надзвычай важную справу ў Варшаве, але для Цэнтральнай управы прафсаюза, правядзенне акцыі ў Лідзе было важней. У сераду адбывалася падрыхтоўка. У чацвер мы спынілі ўвесь горад. ... (былі) патрулі, пікеты, міліцыя". Толькі дзе была паліцыя?*

*Аб чым размова! Мы пісалі проста аб тым жа, толькі называліся рэчы сваімі імёнамі: тэрор, пагрозы, баевікі і бяздзейнасць старасты"* [106].

Газета пісала, што мае петыцыю ад 268 рабочых "Ардаля", якія жадаюць працягваць працаваць і арганізаваць свой прафсаюз *"без ціску кіраўнікоў з Варшавы"*. Аднак староста адмовіўся зарэгістраваць новы прафсаюз. *"Хай жа чытач сам знойдзе мужнасць шукаць адказу на пытанне "што такое Звяз звязаў? і хто яго падтрымлівае"*, - заканчвае Юзаф Мацкевіч свой чарговы артыкул[107].

Адначасова з уздымам у Лідзе актыўна штрайкавала гута "Нёман" у Бярозаўцы[108]. Таму сакратар ГК Ліды Гельман накіраваў туды пакаранага на 6 гадоў за камуністычную дзейнасць і толькі што звольненага па амністыі Уладзіслава Келя[109], каб той праводзіў у гуце камуністычную агітацыю[110].

Інфармацыя канфідэнта Чорнага № 5/9/36 была настолькі важнай, што ён перадаў яе паліцыі 24 сакавіка 1936 г. у 1.30 ночы. Канфідэнт паведаміў, што апоўначы ў лесе за вул. Мілоснай адбыўся камуністычны сход з удзелам Абрама Ваўкавыскага, Мардуха Каброўскага, Рафала Гершмана, Уладзіміра Мазя, Пятра Мазя і Ханана Лазоўскага. Ваўкавыскі пераконваў, што мэта штрайкуючых рабочых - не дапусціць аднаўлення працы на фабрыцы "Ардаль". Нават калі дойдзе да крывавай сутычкі з паліцыяй, штрайкоўцы не маюць права праіграць, - выказаў сваё меркаванне камуніст. Тое самае казалі і іншыя. Мазь паведаміў, што са шклозавода "Нёман", які таксама штрайкаваў, павінна прыехаць вялікая колькасць рабочых, з якіх будзе створана баявая група супраць штрайкбрэхераў. З просьбай прысылаць дапамогу таксама звярнуліся ў Вільню.

Ваўкавыскі і Уладзімір Мазь падзялілі прысутных на пікеты. Так, Пётр Мазь павінен узначаліць пікет на

[103] Slowo. № 298(4504). 30 pazdziernika 1936.
[104] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 53.
[105] Slowo № 76 (4283), 17 marca 1936.
[106] Там жа.
[107] Там жа.
[108] Гл: Лаўрэш Леанід. "Лідская рэвалюцыя" 1936 года // Arche. 2014. № 7-8. С. 318-333.
[109] Сын Юзафа, 1900 г .н. з в. Забалаць Ліпнішскай гміны.
[110] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 53.

чыгуначным пераездзе па вул. 3 Мая, Уладзімір Мазь і Ваўкавыскі - за мостам па вул. Гражыны. Гершман, Кабpoўcкi і Лазоўскі - на Расляках і Зарэччы. Кожны з іх возьме з сабой адпаведную колькасць "таварышаў". Пікеты і рабочыя патрулі павінны выйсці на свае месцы ў 4.00, самае позняе ў 4.30. А 7-й гадзіне ўсе пікеты і патрулі павінны былі сабрацца каля "Ардаля" і прымусіць штрайкбрэхераў пакінуць фабрыку. Аналагічны сход у гэты ж час адбываўся ў іншым месцы горада пры ўдзеле сакратара ГК Абрама Гельмана і Лейбы Левіна. Чорны прысутнічаў на сходзе ў лесе за вул. Мілоснай.

Паліцыя пацвердзіла, што з 4-й гадзіны раніцы па горадзе, пераважна ў рабочых раёнах, пачалі хадзіць патрулі штрайкуючых рабочых. Гершмана, братоў Мазяў ды іншых а 5-й гадзіне бачылі на пікетах у вызначаных месцах. А 7-й гадзіне патрулі пачалі сцягвацца да "Ардаля", але паліцыя не дапусціла іх да фабрыкі[111].

Прэса паведаміла, што *"ўчора Ліда зноў перажыла аднадзённы агульны штрайк. З раніцы працу пакінулі рабочыя ўсіх прамысловых і часткова рамесных прадпрыемстваў. Агулам штрайкавала каля 3 000 асоб. Горад патрулявалі шматлікія патрулі паліцыі - было затрымана некалькі чалавек, але спакой нідзе не быў парушаны.*

*Зранку праз горад прайшлі каля 900 рабочых.*

*Прычына штрайку - жаданне уладальнікаў фабрыкі "Ардаль" аднавіць працу пры дапамозе штрайкбрэхераў (да 300 асоб) і некваліфікаваных людзей, прывезеных з адлеглых вёсак. Гэта выклікала вялікае азлабленне штрайкоўцаў. … Пасля поўдня дэлегацыя рабочых сустрэлася з старастам і перадала яму свае патрабаванні. Пасля перамоў старасты з міністрам працы і сацыяльнай апекі, а таксама з міністрам унутраных спраў, ён схіліў абодва бакі канфлікту да прыняцця арбітражу.*

*26 сакавіка фабрыка "Ардаль" працавала, прыняўшы на працу 100 рабочых - выключна тых, хто раней ужо працаваў на ёй да выбуху штрайку. У наступныя дні на працу будуць прынятыя наступныя партыі рабочых.*

*Рабочыя пагадзіліся на гэтыя ўмовы …"* [112].

Штрайк у горадзе паступова заціхаў. Дырэкцыя "Ардаля" не стала помсціць штрайкоўцам, а падняла заробкі і вярнула на працу раней звольненых. Але гута шкла "Нёман" працягвала штрайкаваць і пасля заканчэння страйку на фабрыцы "Ардаль", больш таго - пратэсты на ёй пашырыліся[113].

З даносу Чорнага № 5/10/36 даведваемся, што на пачатку красавіка 1936 г. паліцыя арыштавала ўвесь ГК, а 8 красавіка Абрам Ваўкавыскі праз акно лідскай вязніцы па вул. 3 Мая выкінуў запіску. Яе падабраў Іцка Кабpoўcкi, брат арыштаванага сябра ГК Мардуха Кабpoўcкага. У запісцы Ваўкавыскі прасіў Хаіма Каплана і Бэра Рафэла, каб яны паразумеліся ў нейкай справе з *"вядомай ім кабетай"* у Вільні. Чорны лічыў, што размова ішла пра Нахану Альпяровіч, але ў якой справе, канфідэнт не ведаў[114].

У сярэдзіне красавіка Чорны паведаміў, што камуністы вырашылі ўзмацніць канспірацыю, і пераказаў паліцыі ўсе планы "канспіратараў". Таксама ён перадаў, што Шмуль-Калман Нісялевіч[115], пра якога раней не паведамлялася, *"пачаў кантактаваць з жаўнерам 2-й ці 3-й роты Мейрам (імя невядома, кравец з Вільні, яго брат быў у вязніцы за камуністычную дзейнасць). Жаўнер выязджаў на святы ў Вільню і павінен быў кантактаваць з Наханай Альпяровіч. Пасля вяртання з Вільні ён хацеў сустрэцца з Нісялевічам, але не знайшоў таго і пайшоў у кашары. Ці меў ён у Вільні кантакт з Альпяровіч, невядома"* [116]. Менавіта з Нісялевічам кантактавалі новыя партыйныя актывісты Шмуль Цыгельніцкі[117] і Ёсель Левін[118], а Бэр Рафэл пазнаёміўся з Янкелем Левіным[119], які толькі 10 лютага перабраўся з Браслава ў Ліду і ўладкаваўся на працу ў цырульню Манцыка Балонава па вуліцы 3-га Мая, 43. Сам Рафэл таксама знаходзіўся ў сталым кантакце з Нісялевічам[120].

16 красавіка 1936 г. канфідэнт Чорны інфармаваў паліцыю пра тое, што раней арыштаваныя члены ГК наладзілі сувязь з камуністамі на волі праз Хаіма Дубчанскага[121], які адбываў у лідскай вязніцы пяцігадовы тэрмін пакарання. Ён пісаў, што *"падчас шпацыру Дубчанскі атрымлівае паведамленні ад сакратара ГК Гельмана і іншых, а потым падчас сустрэч пераказвае іх сваёй нявесце Цыпе Школьнікавай*[122]*. Нявеста пера-*

---

[111] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 54.

[112] Kurjer Wilenski № 85 (3686), 26 marca 1936.

[113] Slowo. № 85 (4292). 26 marca 1936; Slowo. № 91 (4298). 1 kwietnia 1936.

[114] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 55.

[115] Сын Абрама-Мойшы і Райкі, 1909 г.н., жыў па вул. Вясёлая, 5.

[116] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 56.

[117] Сын Мойшы і Фрыды-Пэсі, 1912 г .н., жыў па вул. Райская, 30.

[118] Сын Цалкі, 1911 г.н

[119] Сына Лейбы, 1914 г .н., кавалер, цырульнік, былы член ГК КПЗБ Браслаў.

[120] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 56.

[121] Сын Ёселя, 1911 г .н., актывіст камуністычнага руху, але ў 1936 г. у лідскай вязніцы адбываў тэрмін у 5 гадоў за цялесныя пашкоджанні.

[122] Дачка Шмуля, 1912 г .н., жыла вул. Гедзімінаўская, 5, працавала на "Ардалі".

*дае інфармацыю камуністам на волі. Такім чынам Гельман ды іншыя цікавіліся ў Шмуля Цыгельніцкага працай па арганізацыі Класавага Звязу працоўных хімічнай вытворчасці. У Лідзе гэты Звяз быў арганізаваны па ініцыятыве Гельмана напярэдадні яго арышту. Потым працу па стварэнні Звязу перанялі іншыя камуністы"* [123].

У траўні 1936 г. у Лідзе адбыўся суд над галоўнымі арганізатарамі штрайкаў на фабрыцы "Ардаль" і на гуце Нёман. На лаве падсудных апынуліся прафсаюзныя лідары Раман Бярнацкі і Малеўскі. Супраць іх сведчылі ўладальнікі абодвух прадпрыемстваў, а таксама іншыя сведкі[124]. У выніку 12 траўня Лідскі акруговы суд прысудзіў Бярнацкага за *"антыўрадавую дзейнасць і тэрор"* на 3 гады турмы, а Малеўскага - на 2[125]. Асуджаныя падалі справу на апеляцыю, але, як аказалася, толькі сабе на шкоду, бо ў кастрычніку 1936 г., разгледзеўшы справу паўторна, апеляцыйны суд у Вільні замест палёгкі дадаў Раману Бярнацкаму яшчэ 5 гадоў зняволення ў турме для рэцыдывістаў, прысуд жа Малеўскаму пакінуў без зменаў[126].

Нягледзячы на рэпрэсіі, у тым жа траўні 1936 г. быў абраны новы склад ГК Ліды і гарадское кіраўніцтва МОПР. Працай па аднаўленні ГК заняўся Ашар Каплан[127]. Усіх "старых" камуністаў паліцыя ведала, і таму ў ГК абралі "маладых": Вульфа Крупскага[128]; Генаха Барана[129] (Крупскі і Баран - члены Класавага прафсаюзнага прамыслова-будаўнічага звязу) і Ашара Каплана. Крупскаму і Барану была даручана тэхнічная праца, а Каплан заняў пасаду сакратара ГК. 27 траўня ў лесе за вёскай Расляκі адбылася "канферэнцыя" камуністаў[130]. Праз месяц Чорны дадаў, што ў новы ГК таксама ўвайшоў Хаім-Неах Гульнік[131].

Падчас следства па справе раней арыштаванага ГК камуністы актыўна працавалі са сведкамі. Напрыклад, калі акруговы следчы з Вільні Абрамовіч выклікаў на допыт сведкаў-яўрэяў, якія належалі да Класавага прафсаюзнага звязу работнікаў хімічнай прамысловасці для допыту, то *"новы сакратар ГК Ашар Каплан навучаў іх, як трэба адказваць, каб не абцяжарыць абвінавачаных"* [132]. Таксама дзеля юрыдычнай дапамогі арыштаваным Ашар Каплан кантактаваў з Мардухаем Камянецкім[133], які працаваў у юрыдычнай канторы адваката Вагнера[134], Чорны паведамляў, што юрыдычныя парады супрацоўніка канторы Вагнера[135] маюць вялікую карысць для камуністаў.

13 чэрвеня 1936 г. паліцыя жорстка разагнала рабочых гуты шкла “Нёман”. Шмат рабочых, у тым ліку і жанчыны, былі моцна збітыя, выпадкова пацярпелі нават два цалкам невінаватыя чыноўнікі фабрыкі, якіх ніяк нельга было абвінаваціць у сімпатыі да рабочых, а 6 чалавек былі арыштаваныя[136]. Інфармацыя пра гвалтоўныя падзеі, што адбыліся на гуце “Нёман”, выклікала выбух новага агульнага штрайку ў Лідзе.

Кульмінацыяй агульнага штрайку стаў панядзелак 15 чэрвеня. У 25-тысячным горадзе спынілася ўся прамысловасць. Штрайкавалі машынабудаўнічыя фабрыкі Бэнланд і Поланд, фабрыка цвікоў “Дротіндустрыя”, хімічная фабрыка “Карона”, фабрыка гумовых вырабаў “Унігум”, бровары Памірмайстра і Пупко, млыны Аўтамат, Віленскага, Шалаховіча і Пупко, тартакі Гурвіча, Мельніка, Палячака і Рафаловіча, алярні “Шэмен” і “Аліт”, кафлярні “Тануф”, “Рааф” і Пупко, фабрыка сукна і лямцу братоў Жыжэмскіх, лямцавая фабрыка Рабіновіча. Не працавалі нават кінатэатры, цырульні і рамізнікі. Крамы былі адчынены толькі часткова. Перасталі працаваць нават беспрацоўныя, якія выконвалі грамадскія работы па будаўніцтве дарог у прыгарадзе Ліды. Не баставалі ў выніку фактычна толькі супрацоўнікі дзяржаўных устаноў. Грамадскі парадак у горадзе, аднак, не парушаўся.

16 чэрвеня сітуацыя часткова ўлагодзілася. Аднавіліся грамадскія работы, выехалі на працу рамізнікі, адчыніліся кінатэатры. Агульная колькасць штрайкоўцаў у горадзе зменшылася з 1050 да 950 чалавек. 17 чэрвеня была адноўлена праца ўсіх прадпрыемстваў[137].

У чэрвені 1936 г. у Ліду прыехала інструктар

[123] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 57.

[124] Slowo. 1936. 28 kwietnia. № 116; 8 maja. № 126.

[125] Slowo. 1936. 15 maja. № 133.

[126] Kurjer Wilenski. 1936. 15 listopada. № 314.

[127] Сын Абрама і Фейгі, 1911 г .н.

[128] Сын Пінхуса, 1917 г .н.

[129] Сын Рубіна і Хані з Сольцаў, 1918 г .н., нарадзіўся 22.01.1918 г. у Лідзе і жыў па вул. Балотнай, 13, іудзейскага вызнання, слесар, кавалер, член камітэта КЗМ г. Ліда.

[130] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 58.

[131] Сын Вульфа і Сары, 1917 г .н., пекар, кавалер, жыў па вул. Школьная, 7.

[132] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 59.

[133] Сынам Арона і Гені, 1913 г .н. з Пінску, скончыў 8 класаў гімназіі, кавалер, жыў у Лідзе па вуліцы Сувальскай, 47.

[134] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 59.

[135] Адвакат Якуб Вагнер, Сувальская, 11, тэл. 116.

[136] Slowo. № 165 (4729). 17 czerwca 1937.

[137] Slowo. № 165 (4729). 17 czerwca 1937.

акружнога камітэта КПЗБ Хана Пудзінская[138]. Сваю працу яна пачала са збору матэрыялаў пра гвалтоўны разгон штрайкоўцаў паліцыяй на шклозаводзе "Нёман" 13 чэрвеня[139]. Каб не прыцягваць да сабе ўвагі, Пудзінская шукала працу на "Ардалі". Яна ж вяла размовы з камуністамі, якія не належалі да арганізацый, г. зн. не вялі партыйнай працы. Гэтым людзям прапанавала стварапь свае ячэйкі па 5 чалавек. Падобна, што падобных камуністаў было даволі шмат.

12 ліпеня 1936 г. у лесе за вёскай Раслякі Хана Пудзінская правяла нараду з лідскім актывам КПЗБ і прапанавала стварыць піянерскую арганізацыю з вучняў лідскіх школ, бо лічыла, што менавіта з гэтых дзяцей вырастуць выбітныя і добра вышкаленыя ў ідэалогіі камуністы. Для гэтага яна паставіла камуністам задачу даставіць у Ліду адпаведную літаратуру.

У тым жа месяцы Хана Пудзінская аплаціла паездку Нісялевіча ў Беліцу, Наваградак і Дзятлава дзеля наладжвання кантактаў з тамтэйшымі камуністычнымі арганізацыямі[140]. Напрыканцы ліпеня Пудзінская прапанавала Нісялевічу і Каплану ў ноч з 1 на 2 жніўня зрабіць надпісы на сценах дамоў: *"Прэч вайну, прэч фашызм"*. Нісялевіч адмовіўся, сказаўшы, што ніякага эфекту гэта не дасць, толькі справакуе новыя рэпрэсіі[141].

Таксама Чорны паведаміў, што на пачатку жніўня ў Лідзе быў створаны ГК камсамолу Заходняй Беларусі, у які ўвайшлі сябры камуністычнага ГК Генах Баран і Хаім-Неах Гульнік[142], а таксама Шыман Ілютовіч[143] і Мардух Камянецкі.

З дакладу бачна, што канфідэнт меў добрыя стасункі з Генахам Бараном, бо ў дакладзе паліцыі занатавана: *"Па словах Генаха Барана ў першай палове жніўня з Вільні праехала дэлегатка КЗМ ЗБ (асоба не ўстаноўлена), у студэнцкай шапцы, але не студэнтка і прывезла камуністычную літаратуру. … 20.08 у 8-46 Генах Баран аўтобусам выехаў у Вільню. Да аўтобуса яго праводзіў Хаім Гульнік. З Вільні вярнуўся ў той жа дзень а 22-й гадзіне таксама аўтобусам. Яго спаткалі Шыман Ілютовіч, Фішаль Рыбацкі і Хаім Гульнік. Баран вуліцай Сувальскай прайшоў з імі да вуліцы 3-га Мая, тут развітаўся і пайшоў дахаты. Камуністычнай літаратуры не прывёз. Да каго ездзіў у Вільню невядома"* [144]. Баран паведаміў Чорнаму, што 20 жніўня ён ездзіў у Вільню на канферэнцыю, у якой удзельнічалі 8 дэлегатаў з моладзевых камуністычных арганізацый розных гарадоў. Канферэнцыяй кіраваў малады яўрэй, які прыняў даклады ад дэлегатаў пра дзейнасць на месцах, а потым вучыў прысутных асновам камуністычнай дзейнасці і канспірацыі[145]. Многія даносы Чорнага пачыналіся са спасылкі на Барана.

За падзеямі ў Лідзе ўважліва назірала кіраўніцтва кампартыі. Адпаведна, у горадзе працавала не толькі інструктар Віленскай акругі КПЗБ Пудзінская. 28 жніўня 1936 г. Ліду наведаў інструктар ЦК КПЗБ Якуб Казлоўскі[146]. У змроку на вул. Мацкевіча ён сустракаўся з Іцкахам-Якубам Гросманам[147]. Паліцыя не ведала, пра што яны размаўлялі, але адзначыла, што Гросман меў кантакт з членам ГК КЗМ Мардухам Камянецкім.

Напрыканцы жніўня паліцыя правяла ў актывістаўператрусы з фатаграфаваннем знойдзенага[148].

10 верасня 1936 г. падчасператрусу ў сакратара ГК Ліды Ашара Каплана паліцыя шукала камуністычную літаратуру, а потым яго дапытвалі ў Следчым аддзеле. Паліцыя нічога не знайшла, але Каплан адсунуўся ад палітычнай дзейнасці. Чорны паведаміў, што ў склад ГК увайшоў яшчэ адзін Абрам Гельман[149], які быў вядомы паліцыі, бо раней караўся за камуністычную дзейнасць. Між тым ЦК КПЗБ, не зважаючы на спад рабочага руху, даручыў лідскім камуністам арганізаваць штрайк на "Ардалі". Дзеля гэтага Гельман сустракаўся з сакратаром аддзела Звяза працаўнікоў хімічнай прамысловасці ў Лідзе Беньямінам Святоем[150].

Канспіратыўныя сходы ГК КПЗБ з абмеркаваннямі падзей адбываліся ў кватэры Ісака Нісялевіча (Рынак, 55) ці ў Абрама Пупко[151] (Жалезная, 9). Каб пры налёце паліцыі растлумачыць мэты сходу, удзельнікі заўсёды трымалі на стале ігральныя карты. У сходах бралі ўдзел Абрам Гельман, Абрам Арцішэшскі, Ісак Нісялевіч і Абрам Ваўкавыскі.

138 Дачка Лейбы, 1910 г .н.

139 ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 61.

140 Там жа. Арк. 62.

141 Там жа. Арк. 64.

142 Баран і Гульнік - члены ГК КПЗБ

143 Сын Ізраіля і Іты, нарадзіўся ў 1917 г. у Лідзе і жыў па вуліцы Садовай, 41,. іудзейскага вызнання, сталяр, халасцяк, член камітэта КСМ г. Ліды.

144 ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 65.

145 Там жа. Арк. 66.

146 Сын Мойшы і Цыпы, 1913 г.н., жыў у Вільні.

147 Сын Данеля і Гіты, 1918 г .н. жыў па вул. Мацкевіча, 30 кв. 1., кавалер, слесар, працаваў на фабрыцы Шапіры.

158 ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 43.

149 Сын Юдаля, 1911 г .н., бляхар, жыу у Лідзе па вул. Пяскі, 4.

150 Сын Абрама і Мушы, 1911 г .н., кавалер, 8 класаў гімназіі, жыў з бацькамі па вул. Райская, 29, належаў да Лігі дапамогі працоўным у Палестыне (філіял Паалей-Цыон - правіцца).

151 Сына Хаіма і Ханы, 1894 г .н., кравец, жыў па вул. Жалезнай, 9.

Вечарам 20 кастрычніка на рагу вуліц Сувальскай і Лідскай, член ГК Абрам Гельман і сакратар управы МОПРа Ёсель Левін[152] сустрэліся з невядомым маладым яўрэям з Эйшышак *("апрануты ў скураную куртку, касы на адно вока")*. Пасля кароткай размовы яны пайшлі па вуліцы Сувальскай і 3-га Мая. За імі шпацыравалі Хаім-Нахам Гульнік і член ГК КЗМ Генах Баран. Усе разам дайшлі да Пескаў і пагрукаліся да старога яўрэя Ліпы Платоўскага, сын якога Янкель, сталяр, працаваў разам з Гульнікам. Тут знаходзіліся больш за паўгадзіны[153].

Камуністы ўжо ведалі, што за іх шпацырам па вуліцам могуць назіраць, і таму, каб гарантаваць адсутнасць сачэння, Гульнік з Баранам ішлі пасля галоўнай групы, але ўсяроўна Чорны, якога яны добра ведалі ў твар, увіжаваў іх на вузкіх вуліцах старой Ліды.

Відавочна, што ніякія камуністычныя агітатары не маглі ўзняць народ на такі рэвалюцыйны ўздым, як падчас лідскіх штрайкаў, калі *"дастаткова было запаліць запалку, каб усё выбухнула"* [154]. Такі стан рэчаў мог скласціся толькі з-за грунтоўнай незадаволенасці людзей сваім эканамічным і сацыяльным становішчам і, дарэчы, гэта было выяўлена падчас судоў над прафсаюзнымі дзеячамі.

Наступныя гады пасля масавых рабочых выступленняў адзначыліся выразным паляпшэннем эканамічнай сітуацыі як у польскай дзяржаве ў цэлым, так і ў Лідзе ў прыватнасці. Сярод іншых дынамічна развівалася і фабрыка "Ардаль", на якой вясной 1938 г. працавалі ўжо 800 чалавек. Пасля 1936 г. яе ўладальнік дадаткова падпарадкаваў сабе збанкрутаваныя фабрыкі "Pe Pe Ge" (Polski Przemysl Gumowy, Польская гумовая прамысловасць) у Грудзёндзы. Пасля набыцця гэтых фабрык уладальнік "Ардаля" мог прэтэндаваць на лідарства сярод польскіх вытворцаў гумовага абутку, бо яму ў 1937/1938 гг. стала належаць каля 25 % усёй польскай вытворчасці гумовага абутку. Частка абутку, выраблената "Ардалем", экспартавалася[155].

Але штрайк 1936 г. не быў дарэмным, бо прымусіў уладальнікаў прадпрыемства сярод іншага сур'ёзна задумацца пра паляпшэнне ўмоў працы і павелічэнне заробкаў рабочых. Так, у адным з артыкулаў, надрукаваных у лістападзе 1938 г. у газеце "Codzienna Gazeta Handlowa", можна прачытаць, што на фабрыцы "Ардаль" пастаянна паляпшаецца ахова здароўя і ўмовы бяспекі. Маецца спецыяльныя станцыя для дапамогі маці і дзецям, дзіцячы сад, дзе працуюць спецыялісты, хуткі медыцынскі кантроль за жанчынамі - гэта сведчыць пра сацыяльны, адукацыйны і гігіенічны догляд фабрыкі за сваімі працаўнікам[156].

У 1920-1930-я гг. эканамічны патэнцыял Ліды рос вельмі хуткімі тэмпамі, у горадзе ўзнікла шмат новых прадпрыемстваў, якія давалі працу сотням рабочых. У той жа час нізкія заробкі і дрэнныя ўмовы працы выклікалі жаданне лідскіх рабочых змагацца за свае правы, што знайшло ўвасабленне ў маштабных штрайках на розных прадпрыемствах, пік якіх прыпаў на 1936 год. Канфлікты ў рэшце-рэшт удалося залагодзіць, але ўзгодненыя і салідарныя рабочыя выступленні далі свой плён. Уладальнікі прадпрыемстваў мусілі звярнуць увагу на паляпшэнне ўмоваў жыцця сваіх рабочых, што, у рэшце рэшт, кампенсавалася ім павелічэннем прадукцыйнасці іх працы.

Варта адзначыць, што паводзіны польскіх улад падчас лідскіх штрайкаў былі дастаткова ўзважанымі. Так, лідскі стараста Чушкевіч не стаў адназначна на бок уласнікаў прадпрыемстваў і падтрымаў патрабаванні рабочых. Адначасова з ціскам на прадпрымальнікаў улады імкнуліся адсякаць ад пратэстаў камуністаў.

Трэба сказаць, што паводзіны тагачасных польскіх уладаў не заўсёды былі такімі ўзважанымі. Можна ўзгадаць падзеі так званага "Вялікага сялянскага штрайку", які адбыўся 16-25 жніўня 1937 г. Гэта было масавае палітычнае выступленне сялян пад лозунгам аднаўлення грамадзянскіх правоў, законнасці, парадку і бяспекі ў Польшчы, у тым ліку за аднаўленне сакавіцкай канстытуцыі 1921 г., дэмакратычных выбараў у парламент і г. д. У штрайку ўдзельнічала некалькі мільёнаў чалавек, галоўным чынам польскіх сялян, а таксама беларусаў і ўкраінцаў. Дзяржаўная паліцыя тады забіла 44 селяніны, было арыштавана 5000 чалавек і 617 пасаджана ў турму па прысуду суда[157].

Таму не дзіва, што ўжо 25 кастрычніка 1936 г. газета "Слова" паведаміла, што лідскі стараста Чушкевіч зняты з пасады і пераведзены на пасаду радцы Наваградскага ваяводства. Лідскім старастам быў прызначаны былы гродскі стараста варшаўскага сярод-месця Тадэвуш Міклашэўскіё[158].

Падзеі 1936 г. заставаліся ў памяці жыхароў Ліды праз гады і дзесяцігоддзі. Калі на схіле савецкай улады, змучаная пастаянным пагаршэннем узроўню жыцця, застрайкавала ўся Беларусь, не выключаючы і лідскіх прадпрыемстваў, то старыя лідзяне былі схільныя праводзіць з тымі часамі непасрэдныя паралелі, чаму сведкам быў сам аўтар гэтых радкоў.

[152] Сын Цалкі і Тайбы, 1911 г .н., раней караўся на 4 года вязніцы за камуністычную дзейнасць.
[153] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 40.
[154] Slowo. № 126 (4332). 8 maja 1936.
[155] Ciehanowicz L. Przemysl gumowy "Ardal" S. A. // Zemia Lidzka. 1999. № 1.
[156] Там жа.
[157] Wielki Strajk Chlopski 1937. Warszawa: LSW, 1957.
[158] Slowo. № 293(4499), 25 pazdziernika 1936.

**Лідскія камуністы ў 1936-1937 гг.**

З другой паловы 1930-х гг. камуністы пераходзяць да тактыкі народных франтоў. Другі з'езд КПЗБ у траўні 1935 г. вызначыў умовы стварэння народнага фронту: адмена рэакцыйнай канстытуцыі, усталяванне дэмакратычных свабодаў, бясплатнае забеспячэнне сялян зямлёй, увядзенне 8-гадзіннага працоўнага дня і ліквідацыя канцлагера ў Бярозе-Картузскай. У 1936 г. кампартыя нават заключыла дамову аб сумесных дзеяннях з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй.

Яшчэ пасля штрайку распачалося следства па справе камуністаў Ліды. Паліцыя шмат ведала пра іх дзейнасць, але суд патрабаваў матэрыяльныя доказы (напр., камуністычную літаратуру), а не даносы канфідэнта. У свой час на працэсе Грамады ў Вільні ў якасці сведкаў выступалі і канфідэнты паліцыі, але, зразумела, што пасля гэтага, яны ўжо не маглі працаваць па "прафесіі". Не атрымаўшы такіх доказаў, суд выпускаў лідскіх камуністаў на волю. Следства па іх справе працягвалася, але камуністы жылі ў сваіх хатах. Напрыклад, на пачатку лістапада з вязніцы выпусцілі Беньяміна Арцішэўскага, і ён перадаў актыву просьбу вязняў сабраць грошы для юрыдычнай дапамогі[159]. Чорны дакладваў, што нават пад следствам сябры ліквідаванага ГК Цыгельніцкі і Арцішэўскі кантактуюць з супрацоўнікам аддзела продажу фабрыкі "Ардаль" Неахам Эпштэйнам і распытваюць пра настроі на фабрыцы. Актыў не страчваў надзеі на чарговы штрайк[160].

З інфармацыі сярэдзіны лістапада (№ 5/28/36) даведваемся, што інструктар ЦК КПЗБ Якуб Казлоўскі быў арыштаваны, але з-за недахопу ўлікаў вызвалены. Пасля вызвалення ён таксама далучыўся да збору грошай. Па справе прававой дапамогі для арыштаваных 14 лістапада ў Вільню ездзіў член ГК Шыман Ілютовіч, але канфідэнт не ведаў ні мэт, ні вынікаў яго паездкі[161].

Да канца 1936 г. афіцыйныя абвінавачанні атрымалі 12 чалавек разам з былым сакратаром ГК Гельманам. Камуністы спадзяваліся, што суд пачнецца на пачатку студзеня 1937 г., і пачалі прыспешваць збор грошай для юрыдычнай дапамогі.

У той жа час адбыўся апеляцыйны суд па справе прафсаюзных лідараў, якія стаялі на чале "Лідскай рэвалюцыі". Суровы вырак галоўнаму абвінавачанаму на гэтым працэсе Раману Бярнацкаму - 8 гадоў[162] выклікаў разгубленасць сярод актыву[163].

Паліцыя ведала ад Чорнага, што з Вільні па справе дапамогі абвінавачаным прыехалі двое: *"Першы - высокага росту, худы, твар доўгі, паголены, мае каля 25 гадоў, шатэн, апрануты ў шэрае восеньскае паліто, у шапцы-матацыклетцы, доўгіх нагавіцах і камашах, другі - малога росту, узрост 22-25 гадоў, брунет, доўгі паголены твар, апрануты ў брунатнае восеньскае паліто і шапку-матацыклетку"*. Перамовы з гасцямі вёў Абрам Гельман, сустрэчы адбываліся ў піўной Абрама Пупко па вул. Сувальскай ці на бакавых вуліцах, а вечарам 11 лістапада - у кватэры Пувіна Альшанскага па вул. Мацкевіча, 13. Пра што вяліся перамовы, канфідэнт не ведаў[164].

Напрыканцы лістапада Груня Голь-Троцкая прывезла з Вільні 180 зл. дапамогі арыштаваным[165]. У снежні Генах Баран прывёз з Эйшышак 18 зл. Усе сабраныя грошы захоўваў абвінавачаны, але вызвалены да суда Абрам Арцішэўскі. Потым іх забраў Камянецкі, які працаваў у адвакацкай канторы Вагнера[166].

У снежні прайшла рэарганізацыя партыйнага кіраўніцтва. 18 снежня 1936 г. лідскі актыў правёў канферэнцыю *"за праваслаўнымі могілкамі"*. Прысутнічалі Мардух Арахоўскі[167], Абрам Гельман, Неах-Хаім Гульнік, Ёсель Левін, Груня Голь-Троцкая, Лейба Казарэскі і невядомыя Чорнаму яўрэй і яўрэйка. *"Канферэнцыя за могілкамі працягвалася каля гадзіны. Гельман паведаміў, што яго разам са Шмулем Цыгельніцкім выклікалі ў следчы аддзел з-за антыдзяржаўнай дзейнасці і зараз ён знаходзіцца пад сталым наглядам паліцыі. Было вырашана на пэўны час адсунуць Цыгельніцкага ад партыйнай працы. Прысутныя выказалі згоду на рэарганізацыю ГК наступным чынам: сакратаром ГК стаў Мардух Арахоўскі, функцыі тэхніка будзе выконваць Шумаль-Калман Ніясялевіч, скарбніка - Хаім Каплан.*

[159] Там жа. Арк. 41.

[160] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 42.

[161] Там жа. Арк. 67.

[162] Яшчэ ў траўні 1936 г. у Лідзе пачаўся суд над галоўнымі арганізатарамі страйкаў на фабрыцы "Ардаль" і на гуце "Нёман". На лаве падсудных апынуліся прафсаюзныя лідары Раман Бярнацкі і Малеўскі. Супраць іх сведчылі ўладальнікі абодвух прадпрыемстваў, а таксама іншыя сведкі. У выніку 12 мая Лідскі акруговы суд прысудзіў Бярнацкага за "антыўрадавую дзейнасць і тэрор" на 3 гады турмы, а Малеўскага - на 2. Асуджаныя падалі справу на апеляцыю, але, як аказалася, толькі сабе на шкоду, бо ў кастрычніку 1936 г., разгледзеўшы справу паўторна, апеляцыйны суд у Вільні замест палёгкі дадаў Раману Бярнацкаму яшчэ 5 гадоў зняволення ў турме для рэцыдывістаў, прысуд жа Малеўскаму пакінуў без зменаў. - Гл: Лаўрэш Леанід. "Лідская рэвалюцыя" 1936 года / / Arche. 2014. № 7-8. С. 331.

[163] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 67.

[164] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 68.

[165] Там жа. Арк. 69.

[166] Там жа. Арк. 71.

[167] Сын Юдаля і Фрумы, 1908 г. н.

*Пасля вяртання з вязніцы ў снежні 1936 г. Арахоўскі не выяўляў актыўнасці, Каплан таксама некалькі месяцаў паводзіў сябе нейтральна"* [168].

Наступны сход, які меў характар справаздачнага, адбыўся 16 студзеня 1937 г. у кватэры Міны Левін [169][170]. Чорны на ім не прысутнічаў, а пра яго ход даведаўся ад Генаха Барана. У сходзе прынялі ўдзел Сакратар ГК Мардух Арахоўскі, член ГК Шмуль Цыгельніцкі, члены ГК КЗМ Гульнік Хаім-Неах і Генах Баран, кіраўнік лідскага МОПР Іцхак Лацкі, а таксама Фішаль Разенштэйн, Давід-Мардух Берман[171], Ёсель Мірскі[172]. На сходзе прысутнічаў таксама невядомы камуніст з Вільні, якога Генах Баран так апісаў Чорнаму: *"Хрысціянін, каля 30 гадоў, апрануты ў паліто, у капелюшы, прыстойны, размаўляў па-беларуску […] сакратар Акругі КПЗБ з Вільні"* [173]. Зразумела, што ў лідскіх камуністаў-яўрэяў роднай мовай быў ідыш, але яны добра разумелі і беларускую мову.

Падчас гэтага сходу сакратар лідскага ГК зрабіў вусную справаздачу сакратару Віленская акругі. З яе можна было даведацца, што ў Лідзе налічвалася 80 камуністаў, існавалі ГК КПЗБ і ГК КЗМ, ячэйка МОПР, ячэйкі КПЗБ на "Ардалі", у ліцейні Шапіры, на шклозаводзе "Нёман". Камуністычныя фракцыі былі ў прафсаюзах: Класавым звязе работнікаў хімічнай вытворчасці, Класавым звязе вытворцаў вопраткі і прадаўцоў гатовага адзення, Класавым звязе будаўнікоў і Звязе звязаў. Таксама Арахоўскі казаў пра рэгулярны збор складак на карысць МОПР, прыём у партыю новых сяброў, узгадненне пазіцый з іншымі арганізацыямі, напрыклад, са Звязам звязаў. Інфармацыю Арахоўскага пацвердзілі прысутныя на сходзе. Напрыканцы ён адзначыў, што лідскай арганізацыі не хапае партыйнай літаратуры[174].

Праз некалькі дзён Чорны даведаўся ў Барана пра тое, што памяшканне для сходу арандавалася ў Абрама Левіна (вуліцы Пастаўская, 25) за 4 злотыя, і паліцыя зрабіла там праверку. Чорны дакладаў, што звычайна камуністы карыстаюцца кватэрай Хілеля Сапатніцкага[175] (вуліца Сувальская 66-а). 22 студзеня 1937 г. на гэтай кватэры адбыўся чарговы сход актыву, на якім абмяркоўваўся суд над камуністамі[176].

21 студзеня 1937 г. у Лідскім акруговым судзе пачаўся вялікі працэс супраць 12 чалавек, "абвінавачаных у камуністычнай дзейнасці". На лаве абвінавачаных знаходзіліся асобы, *"выкрытыя ў камуністычнай дзейнасці і прыналежнасці да КПЗБ"*. Гэта: Гельман Абрахам, Ваўкавыцкі Абрам, Рыбацкі Шалом, Левін Лейба, Гаперштэйн Сана, Арцішэўскі Абрам, Каброўскі Мардух, Гершман Рафал, Грэбень Канстанты, Пашкоўскі Арсені, Лернэр Діна, Вайтулевіч Вацлаў. Большасць абвінавачаных мела ўзрост ад 20 да 25 гадоў, аднак раней ужо каралася за камуністычную дзейнасць. Усе абвінавачваліся па артыкулах 97 і 93 к.к. Акт абвінавачвання даказваў іх прыналежнасць да КПЗБ і арганізацыі гарадскога камітэта гэтай партыі ў Лідзе. Значная частка абвінавачвання грунтавалася на факце стварэння імі прафсаюзу Звязу звязаў на фабрыцы "Ардаль" і арганізацыі штрайку на гэтай жа фабрыцы.

Абвінавачаных баранілі адвакаты з Вільні Сукяніцкая, Петрусевіч, Хыл, Перайштэйн і мясцовыя адвакаты Цыдаровіч і Скіндар. Абвінавачваў пракурор з Вільні Паўлуць.

Па справе пракурорам і адвакатамі выклікаліся больш за 30 сведкаў. У якасці сведкі ў судовую залу ў кайданках быў нават прывезены асуджаны раней на 8 гадоў турмы Раман Бярнацкі.

У 10 гадзін раніцы суд у складзе суддзі Чайкоўскага і членаў суда Барысаўскага і Гуткоўскага пачаў пасяджэнне. Акт абвінавачвання чытаўся каля гадзіны. Потым перайшлі да допытаў абвінавачаных. Ніводзін з абвінавачаных сваёй віны не прызнаў.

Абвінавачаны Гельман казаў, што ім рухала пачуццё як маральнай, так і матэрыяльнай крыўды, якую цярпелі і церпяць працоўныя на "Ардалі". Штрайк выбухнуў з-за звальнення 70 працоўных, якія выступілі ў сваю абарону і хацелі стварыць "класавы Звяз".

Абвінавачаны Левін Лейба, адзін з тых 70 звольненых за арганізацыю прафсаюза працоўных "Ардаля", казаў, што не належыць ні да якой партыі і не належаў нават да ініцыятыўнай групы, якая згодна з Актам абвінавачвання, арганізавала прафсаюз на фабрыцы. Штрайк на фабрыцы выбухнуў сам па сабе з-за эканамічных умоў.

Абвінавачаны Арцішэўскі, службовец Яўрэйскага Народнага банка, па версіі следства быў кіраўніком гарадскога камітэта КПЗБ. Аднак пад час суда ён казаў, што з'яўляецца сіяністам і ідэйным праціўнікам камуністаў.

Абвінавачаны Канстанцін Грэбень, рабочы з "Ардаля", страціў здароўе з-за дрэнных санітарных умоў і цяжкай працы. Казаў, што заробкі на фабрыцы былі вельмі малыя, законны час штогадовых адпачынкаў свавольна скарачаўся адміністрацыяй на палову ці адпачынкі наогул не даваліся. Ён бачыў, што ўсюды дзе няма Звязу звязаў, пануюць такія парадкі. Таму ўсімі сіламі

[168] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 72.
[169] Дачка Гірша, 1910 г .н., жыла па вул. Рынак, 14.
[170] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 73.
[171] Сын Шлёмы і Песі з Гершанзонаў, 1912 г .н.
[172] Сын Пінхуса, 1916 г .н. з Дзятлава, жыў ў Лідзе.
[173] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 90.
[174] Там жа.
[175] Сын Мойшы і Двейры з Арахаўскіх, 1915 г .н., кавалер.
[176] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 89.

дапамагаў страйку на "Ардалі".

Абвінавачаны Грэбень з рабочым Перавозным былі арыштаваныя каля польска-савецкай мяжы. На пытанне пракурора, чаму спрабаваў уцячы ў Саветы, адказваў няўцямна, але суду стала зразумела, што меў за мэту паехаць ваяваць у Іспанію.

Пракурор паказаў суду ліст на беларускай мове пра падзеі на "Ардалі", напісаны для ЦК КП у Варшаве, прычым графолаг даказаў, што пісьмо напісана рукой абвінавачанага Гершмана. Адвакат Петрусевіч патрабаваў не дадаваць гэты ліст да справы з-за сумніўнасці аўтарства[177].

На другі дзень лідскага працэсу дапытана некалькі дзясяткаў сведкаў.

Першыя паказанні даў галоўны сведка, кіраўнік следчага аддзела паліцыі ў Лідзе Міхноўскі. Ён падрабязна распавёў пра дзейнасць кожнага з абвінавачаных. Неаднаразова ўспамінаў пра *"канферэнцыю ў хмызняку па вуліцы Міласнай"*, у якой бралі ўдзел Ваўкавыцкі і Каброўскі. Са сведчанняў Міхноўскага вынікае, што на лаве падсудных знаходзіцца гарадскі камітэт КПЗБ, сфармаваны ўвосень 1935 г. Да камітэта належалі Гельман, Рыбацкі, Ваўкавыцкі, Каброўскі, Арцішэўскі, Гаперштэйн. Іх наведвала інструктарка партыі "Берта", а галоўнай мэтай камітэта было пачаць штрайк на "Ардалі". Штрайку спрыяла незадавальненне працоўных фабрыкі з-за дрэнных умоў працы і малых заробкаў. Сведка падрабязна расказаў пра стварэнне прафсаюза на "Ардалі": прафсаюз паўстаў з ініцыятыўнай групы, якую ўтварылі камуністы.

Абарона ўказала на пэўныя памылкі Міхноўскага.

Пасля кароткага перапынку выступіў былы лідар лідскага штрайку Бярнацкі. Атрымаўшы 8 год турмы, ён пачаў даваць сведчанні супраць сваіх паплечнікаў. Бярнацкі даводзіў, што не хоча, каб людзі, якія сядзяць на лаве падсудных, лічыліся сярод працоўных пакутнікамі за іх справу, бо ўсё добрае, што Звяз звязаў рабіў для працоўных, камуністы імкнуліся спаралізаваць ці надаць характар палітычнага пратэсту.

Сведка Даніэль Аляксандровіч, дырэктар фабрыкі "Ардаль", адказваючы на пытанні абароны казаў, што стараннямі кіраўніцтва фабрыкі стан жыцця працоўных перад штрайкам быў добрым: *"Штрайк матэрыяльных умоў не палепшыў, ... адзіна больш пачалі зарабляць працоўныя-пачаткоўцы, замест 30 - 50 гр. у дзень"*.

Сведкі Баярскі і Пупко расказалі, што абвінавачаны Гельман працаваў у іх як кравец і зарабляў па некалькі дзясяткаў злотых штотыднёва.

Сведка Каток Сымхэ, саўладальнік фабрыкі “Карона”, ведаў абвінавачанага Гаперштэйна як надта працавітага сталяра і даў яму выдатную характарыстыку.

Сведка Зубрыцкі, уладальнік саду, таксама ведаў Гаперштэйна, бо той, адпрацаваўшы дзень, прыходзіў ноччу пільнаваць суседні сад, які належаў яго бацьку.

Былы старшыня гарадской рады Звязу звязаў, сведка Люцыян Брыльскі казаў, што прычыны штрайку трэба шукаць толькі ў надзвычай цяжкім становішчы рабочых "Ардаля" (дзённы заробак жанчыны ў сярэднім ад 0,9 да 1 зл., пачаткоўцы па 30 гр., мужчыны да 2 зл.), надта дрэннымі былі на фабрыцы і гігіенічныя ўмовы. На пачатку 1936 г. пасля выбуху штрайку патрабаванні працоўных былі: прыняць на працу 70 раней звольненых за арганізацыю прафсаюза і падвысіць заробкі да 1,5 зл. для жанчын і 3 для мужчын. Брыльскі сцвярджаў, што ён саступіў пасаду старшыні рады Звязу звязаў Бярнацкаму, калі той прыехаў у Ліду з Варшавы, а потым не згаджаўся з Бярнацкім па пытаннях тактыкі штрайку.

Іншыя сведкі казалі, што дырэкцыя "Ардаля" не давала штогадовых адпачынкаў ці як магла іх памяншала. Праца заўжды цягнулася болей за 8 гадзін. Напрыклад, сведка Акасімскі, які працаваў на "Ардалі", за апошні год працы атрымаў толькі 5 дзён адпачынку[178].

На трэці дзень працэсу эксперт з Вільні пацвердзіў, што ліст у ЦК напісаны рукой Гершмана. Адвакат Петрусевіч пратэставаў.

Сведка Пэся Мытлярская расказвала, што абвінавачаны Каброўскі працаваў у яе на вырабе мацы і ніколі не быў заўважаны ў палітычнай дзейнасці.

Сведка Штэнберг, віца-прэзідэнт Лігі Дапамогі Працоўнай Палястыне, прызнаў, што ў яго арганізацыі, а таксама ў аналагічнай яўрэйскай арганізацыі “Паалей Сіон” ніхто з падсудных удзелу не прымаў.

У сваёй канчатковай прамове пракурор прааналізаваў камуністычную дзейнасць пасля ўхвалы 7-м кангрэсам Камінтэрну ідэі стварэння народных франтоў і антыфашысцкіх народных блокаў, расказаў пра стварэнне Звязу звязаў у Лідзе. Аналізуючы віну кожнага з абвінавачаных, пракурор больш увагі засяродзіў на дзейнасці Гельмана, Гершмана і Дзіны Лернар. Сказаў, што акрамя канфідэнцыяльнай інфармацыі доказаў віны Арцішэўскага няма[179].

На чацвёрты дзень лідскі судовы працэс скончыўся. Суд вынес вырак:

Гельман Абрам і Лернар Дзіна - па 8 гадоў турмы і пазбаўленне грамадзянскіх правоў на 10 гадоў.

Гершман Рафал - 6 гадоў турмы і пазбаўленне грамадзянскіх правоў на 10 гадоў.

Ваўкавыцкі Абрам, Рыбацкі Шалом, Левін Лейба - 5 гадоў турмы і пазбаўленне грамадзянскіх правоў на 5 гадоў.

Пашкоўскі Арсені і Вайтулевіч Вацлаў - 2 гады турмы, Вайтулевічу выкананне пакарання адкладзена на 5 гадоў.

Гаперштэйн Сана, Арцішэўскі Абрам, Каброўскі

[177] Kurjer Wilenski № 22 (3984), 23 stycznia 1937.
[178] Kurjer Wilenski № 23(3985), 24 stycznia 1937.
[179] Kurjer Wilenski № 24(3986), 25 stycznia 1937.

Мардух, Грэбень Канстанты апраўданы[180].

Усе асуджаныя прынялі вырак спакойна.

Было ўстаноўлена, што Дзіна Лернар - інструктар ЦК Кампартыі. Суд паверыў Бярнацкаму, бо вырак Лернар грунтаваўся на яго сведчаннях. Гершман прасіў адпусціць яго пад заклад зямельнага надзела яго бацькі (60 га). Гершман і Лернар падалі апяляцыю.

Усіх апраўданых адпусцілі ў зале суда. Толькі Грэбень застаўся ў турме, бо адбываў адміністрацыйную кару ў 6 месяцаў за спробу пераходу мяжы[181].

Пасля аб'яўлення судовага выраку, вечарам 25 студзеня 1937 г. члены ГК сабраліся на кватэры Сапатніцкага. У сходзе бралі ўдзел Мардух Арахоўскі, Шмуль-Калман Цыгельніцкі, Абрам Гельман і член ГК КЗМ Шыман Ілютовіч. Мардух Арахоўскі заявіў, што судовы працэс і шматгадовыя прысуды яўрэям сталі вынікам даносу асуджаных разам з імі хрысціян Вацлава Вайтулевіча, Канстанціна Грэбеня і Арсеня Пашкоўскага. Грэбеня суд наогул апраўдаў, Вайтулевіч атрымаў умоўны прысуд, а Пашкоўскі - толькі два гады. Бярнацкага (старшыню Звязу звязаў) назваў правакатарам.

Арахоўскі падкрэсліў, што гэты суд з'яўляецца папярэджаннем для камуністаў-яўрэяў, каб у будучым яны не мелі ніякіх партыйных кантактаў з "хрысціянамі", бо апошнія маюць схільнасць да правакацый і здрады. Ён заклікаў да поўнага аддзялення ад "хрысціян" і лічыў, што тыя павінны ўтвараць асобныя арганізацыі. Дарэчы, канфідэнт Чорны быў "камуністам-іудзеем" і карыстаўся поўным даверам сваіх таварышаў.

Патлумачу, што называючы камуністаў-неяўрэяў "хрысціянамі", Арахоўскі не меў на мэце кагосьці пакрыўдзіць, бо ў той час нават і ў афіцыйных дакументах менавіта так вызначалася этнічная прыналежнасць. А ў тагачаснай прэсе звычайным быў выраз накшталт "хрысціянская крама", азначала гэта, што гаспадар крамы не быў яўрэем.

Але вельмі цікава тое, ці адбыўся гэты падзел на "камуністаў-хрысціян" і "камуністаў-іудзеяў". Як бачым, перакананым "інтэрнацыяналістам" быў камуніст Заходняй Беларусі, сакратар Лідскага ГК таварыш Мардух Арахоўскі.

Далей на сходзе актывісты прыйшлі да высновы, што суровыя прысуды Гельману, Ваўкавыскаму і іншым не адштурхнуць ад партыйнай працы камуністаў, але ім трэба захоўваць максімальную канспірацыю.

Таксама было вырашана *"ў бліжэйшыя дні правесці пашыраны сход на якім будуць прачытаны даклады пра апошнія падзеі ў Савецкай Расіі ў сувязі з працэсамі трацкістаў. Камуністы ў Лідзе ганяць бандыцкую дзейнасць Радэка з яго таварышамі і вераць у іх віну, падкрэсліваючы пры гэтым, што група Радэка жадала выдаць на здзек айчыну сусветнага пралетарыяту"* [182]. Сталінскі дух захапіў і іх.

У нечым паказальны для таго часу сход камуністаў адбыўся раніцай 12 чэрвеня 1937 г. у лесе каля вёскі Малейкаўшчына. Прысутнічалі Рафэл Сахін, Абрам Каплан[183], Генах Баран, Шыман Ілютовіч, Лейба Казарэскі, Абрам Крупскі[184] і Чорны. Рэгулярныя арышты партыйнага кіраўніцтва паступова ўвялі канфідэнта ў вузкае кола партыйных актывістаў.

Сход *"у лесе каля Малейкаўшчыны"* адбыўся з-за таго, што камуністаў хвалявалі падзеі ў СССР - знішчэнне Сталіным былых партыйных куміраў. А партыйным кіраўнікам у Лідзе трэба было кантраляваць настроі камуністаў і даводзіць ім *"лінію партыі"*, якая ішла з Масквы. Першым прамаўляў Сахін. Ён *"заклікаў да захавання спакою з-за падзеяў у Савецкай Расіі, бо яшчэ бракуе дакладнай інфармацыі аб смяротным выраку маршалу Тухачэўскаму. Сказаў, што нягледзячы на тое, што савецкая прэса напісала пра расстрэл асуджаных, магчыма яны - Тухачэўскі і яго сябры, насамрэч сасланыя ў Сібір ці Іспанію. Сахін жадаў ведаць меркаванне прысутных пра гэтую падзею і запытаў, як належыць ставіцца да такіх здраднікаў радзімы пралетарыяту, як Тухачэўскі і іншыя абвінавачаныя, на што адзін з удзельнікаў сходу - Лейба Казарэскі адказаў, што, калі гэта праўда, дык гэтых людзей толькі і можна "ставіць да сценкі". Сахін заклікаў прысутных для далейшай эфектыўнай працы ў партыі але не даў ніякіх указанняў"* [185]. Напрыканцы сходу прыехаў на ровары рэдактар газеты "Lider Wolksblat" Разенталь[186]. Ён прывітаўся з прысутнымі, але не выступаў і з'ехаў разам з Сахіным. Перад ад'ездам Сахін прапанаваў чытаць газету "Unser Tage", якая выходзіла ў Вільні, замест "Wilner Tage". Казарэскі паабяцаў прывесці некалькі рабочых з "Ардаля", бо праца на фабрыцы па тэхнічных прычынах спынілася на некалькі дзён. Калі ўжо разыходзіліся, Казарэскі сказаў Чорнаму, што ў Наваградскі павет прыехала некалькі камуністаў з савецкай Расіі. У інфармацыйным паведамленні паліцыі было пазначана, што Разенталь ужо год жыве ў Лідзе на кватэры Іосіфа (Ёселя) Альбірта[187], вядомага праз сваю камуністычную дзейнасць[188].

[180] Kurjer Wilenski № 25(3987), 26 stycznia 1937.

[181] Kurjer Wilenski № 26(3988), 27 stycznia 1937.

[182] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 89 адв.

[183] Сын Лазара і Рохі-Іты, 1915 г .н., сталяр, жыў па вул. Сувальская, 146.

[184] Сына Нісана і Леі, жыў па вул. Лідская, 29.

[185] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 75 - 75 адв.

[186] Сын Нахіма і Фрумы, 30.10.1913 г.н. у Вільні. Па прафесіі журналіст, жыў ў Лідзе, вул. Садовая, 14 кв. 2.

[187] Сына Монэса, 1907 г .н., літаратар, жыў у Лідзе па вул. Садовая, 14. Альбірт з красавіка 1936 г. вядомы паліцыі сваёй камуністычнай дзейнасцю.

[188] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 75 адв.

Варта адзначыць, што Альбірт Іосіф Мацвеевіч - вядомы лідскі паэт і пісьменнік, у 1938 г. - аўтар чатырох томікаў паэзіі. Пасля 1950-х гг. ён стаў членам Саюза пісьменнікаў СССР, жыў у Маскве. Аўтар кніг "Зорка майго пакалення", "Іскры", "Сэрца маёй зямлі". У 1970 г. эмігрыраваў у Ізраіль.

У ліпені па справах МОПР у Ліду прыязджала *"яўрэйка … з партыйным псеўданімам Хаша"*. Сустрэча "Хашы" з сябрам фабрычнай ячэйкі КПЗБ "Ардаля" Сарай Бацян[189] адбылася так, як паказваюць у фільмах пра шпіёнаў. Хаша прамовіла пароль "Крывы" - Сара адказала "Свянцяны", і толькі пасля гэтага паміж канспіратарамі пачалася размова. Але Чорны ўсе ведаў і далажыў паліцыі: *"Хаша цікавілася справай камуніста Станіслава Кісяля, які знаходзіцца ў лідскай турме. … Частка грошай сабраных МОПРам у Лідзе прызначаны для Кісяля. Адваката яшчэ не знайшлі (раней, у сакавіку 1936 г., Кісель перад арыштам збег з Ліды і да снежня 1936 г. хаваўся ў Свянцянскім павеце). Бацян паведаміла Хашы, што Класавы звяз працаўнікоў хімічнай вытворчасці распаўся, бо большасць рабочых не плаціць складак, але яна мае 50 пэўных людзей якія ўсімі магчымымі спосабамі жадаюць утрымаць гэты звяз. Звяз высоўвае новыя патрабаванні па заробку і, калі дырэкцыя не згодзіцца, абяцае штрайк"* [190]. Потым Бацян выказалася пра работніка "Ардаля" Рудольфа Радзігу[191] як пра аднаго з лепшых партыйных работнікаў (ён быў сябрам фабрычнай камуністычнай ячэйкі "Ардаля"). У Класавым звязе Бацян сцісла працаваў з Юдалем Сапожнікавым[192] і Ням'яхам Шварбардам[193].

Кіраўнік лідскага следчага аддзела на палях данясення адзначыў, што інфармацыю Чорнага лічыць верагоднай, бо яна пацвярджаецца інфармацыяй канфідэнта Янкі[194]. Так у справе Чорнага першы раз прагучала мянушка іншага паліцэйскага "крата" ў шэрагах лідскай КПЗБ. Акрамя Чорнага і Янкі ў асяроддзі лідскіх камуністаў таксама дзейнічалі канфідэнты пад псеўданімамі Абрамовіч, Бужынская і Герман (гл. далей).

У жніўні 1937 г. інфарматар з мянушкай Бужынская дакладвала, што Ёха Сікурць у Лідзе мела кантакт з былым членам камуністычнай ячэйкі "Ардаля" Ядвігай Барысевіч[195] і "невядомым яўрэйчыкам". Яшчэ раней, у першай палове ліпеня, Барысевіч два разы сустракалася з *"невядомым яўрэйчыкам"*, а таксама з Сікурць і з Сарай Бацян. Невядомы актывіст дакараў Барысевіч за тое, што яна кінула працу на "Ардалі" і пасля апошніх рэпрэсій, і, праўдападобна, з-за ўгавораў свайго брата-чыгуначніка, адышла ад партыйнай работы. "Яўрэйчык" казаў Барысевіч, што яна павінны пачаць ствараць камуністычныя ячэйкі на вёсцы і такім чынам вярнуць давер партыі. *"Пра тое ж яе прасілі Бацян і Сікурць. Па словах Сікурць, невядомы яўрэйчык кіруе працай КЗМ сярод яўрэйскіх моладзевых арганізацый у Лідзе. Ён сын рэзніка, па прафесіі кравец"* [196].

Камуністы адчувалі ціск паліцыі, і на пачатку кастрычніка 1937 г. Херц Гярцоўскі[197], у размовах з камуністамі прапанаваў устрымацца ад партыйнай працы і абмежавацца зборам грошай на дапамогу арыштаваным[198].

22 кастрычніка Чорны паведаміў, што на кватэры сябра кіраўніцтва МОПР Груні Левін, (вул. Завальная, 8) сабраліся Херц Гярцоўскі, сябар ГК КЗМ Фішаль Разенштайн, сябар лідскага выканаўчага камітэта МОПР Фішаль Рыбацкі і Берка Аркаў, які прыехаў з Воранава[199]. Абмяркоўваліся справы матэрыяльнай дапамогі арыштаваным Абраму Гельману і іншым камуністам, а таксама іх сем'ям. Бачачы шматгадовыя арышты камуністаў у Лідзе, Аркаў запытаў у прысутных, ці вядомы ім імёны правакатараў, вінаватых у арыштах. Гярцоўскі і Левін адказалі, што правакатараў трэба шукаць сярод работнікаў "Ардаля", але канкрэтных прозвішчаў яны не ведаюць. Увесь гэты час Чорны лічыўся у актыўным партыйцам і не выклікаў ніякіх падазрэнняў сваіх таварышаў. Аркаў абвінаваціў прысутных у ігнараванні правіл канспірацыі, што прывяло да з'яўлення правакатараў. Ён адзначыў, што ў Воранаве і Эйшышках ужо некалькі гадоў не было арыштаў[200]. Воранаўскі актывіст не здагадваўся, што паліцыя ведала камуністаў ва ўсіх мястэчках Лідчыны. Арышты не адбываліся, бо паліцыя не лічыла іх своечасовымі з-за недахопу ўлікаў, а можа нават і з-за таго, што не жадала застацца без працы.

13 чэрвеня 1937 г. інфарматар Бужынская інфармавала паліцыю, што Ёха Сікурць[201], якая працавала ў аддзеле продажаў "Ардаля" і належала да КЗМ, некалькі разоў паказвала Бужынскай на вуліцах горада *"яўрэйчыка 18 - 20 гадоў, сярэдняга росту, бландзіна … сказала, што гэты яўрэйчык кіруе іх арганізацыяй.*

[189] Дачка Ашэра і Бейлі 1915 г .н.
[190] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 86.
[191] Сын Оскара, 1912 г .н.
[192] Сын Эльяша, 1912 г .н.
[193] Сын Лейбы і Басі 1916 г .н.
[194] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 86 адв.
[195] Дачка Казіміра, 1915 г .н., жыла ў в. Зінявічы Ваверская гміны.
[196] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 155. Арк. 3.
[197] Сын Шаваха і Віхны, 1909 г .н.
[198] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 76.
[199] Сын Шлёмы і Ханы, 1911 г .н. (сакратар ячэйкі КПЗБ Вярэнаў).
[200] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 77.
[201] Дачка Арона і Бейлі, 1917 г. н. жыла па вул. Шавецкая, 5, працавала па Ардалю.

*Невядомы яўрэйчык, па словах Сікурць, з'яўляецца сябрам арганізацыі Hechaluc-Pioner*[202]*. ... Ёха Сікурць часта бывае разам з невядомым яўрэйчыкам"*[203]. У дадатках да гэтага паведамлення, кіраўнік Следчага аддзела, аспірант паліцыі Ю. Піўкоўскі напісаў: *"Інфармацыю лічу верагоднай. Яна пацвярджаецца канфідэнтам "Янкай""* [204].

Праз нейкі час паліцыя даведваецца, што *"невядомым яўрэйчык"*, гэта Лейба Кашчанскі[205].

З даносу Чорнага даведваемся, што напярэдадні 7 лістапада 1937 г. у Лідзе былі арыштаваны камуністы Шапіра, Баран, Сікурць, Гаперштэйн ды іншыя. Канфідэнт давёў паліцыі, што Гярцоўскі заклікаў камуністаў пашыраць сярод насельніцтва творы Іосіфа Альбірта. У шэрагах камуністаў, якія засталіся на волі, зноў наступіла замяшанне бо арыштаваныя атрымалі абвінавачанні ў прыналежнасці да камуністычнай партыі. Раней, пры ператрусах у іх кватэрах не знайшлі камуністычнай літаратуры і таму мелася надзея, што арыштаваных выпусцяць з вязніцы. Камуністы зноў зразумелі, што паліцыя ведае значна болей пра КПЗБ у Лідзе, чым яны думалі.

Таму новы сакратар ГК КПЗБ Херц Гярцоўскі, як вялікі канспіратар, 30 лістапада 1937 г. паведаміў менавіта Чорнаму, што ён мусіць адысці ад партыйнай работы і прапанаваў канфідэнту заняцца справамі МОПР і сабраць грошы для абароны абвінавачаных. Потым Гярцоўскі паінфармаваў Чорнага, што да яго звернецца асоба з паролем "Радам" і гэту асобу ён мусіць прыняць[206].

Сакратар ГК Херц Гярцоўскі сапраўды адышоў ад спраў, але працягваў рэкламаваць яўрэйскую газету "Lider Folksfrajt", якую ў Лідзе выдаваў і рэдагаваў Альбірт. Канфідэнт паведамляў, што Альбірт ужо некалькі тыдняў кантактуе з настаўнікам 7-класнай яўрэйскай школы Цэнтральнай арганізацыі яўрэйскіх школ, якая знаходзілася пад уплывам левых яўрэйскіх партый, Сімхай Гёніхам. Гёніх разам з жонкай Цэцыліяй 21 верасня 1937 г. пераехаў у Ліду з Глыбокага. Яго жонка ўладкавалася на працу ў бюро фабрыкі "Ардаль". Паводле інфармацыі паліцыі Глыбокага, Гёніх меў стасункі з камуністамі і з-за гэтага быў звольнены з пасады настаўніка[207].

Інфарматар паліцыі па мянушкі Герман пры канцы 1938 г. паведамляў, што Альбірт кантактуе з *"прыхільнікам камуны"* студэнтам Эмануэлям Глазманам. Глазман вучыўся ў політэхніцы горада Пізы і летам 1938 г. адпачываў у бацькоў у Лідзе[208].

Канфідэнт Чорны карыстаўся даверам лідскіх камуністаў. Ён знаходзіўся на высокіх прыступках партыйнай іерархіі. Як агент паліцыі ён працаваў даволі эфектыўна. У невялікім горадзе, дзе ўсе ведалі адзін аднаго, Чорны не грэбаваў нават вонкавым назіраннем і часам дзейнічаў як звычайны філёр. Ён удзельнічаў у камуністычных сходах у Лідзе, а пра вынікі нарад больш высокага ўзроўню, на якія сам патрапіць не мог, даведваўся ад прысутных там асоб. Меў поўны давер з боку таварышаў, якія чамусьці Чорнаму абсалютна давяралі. Вывучаючы даносы Чорнага, можна зрабіць выснову, што галоўнымі крыніцамі інфармацыі для яго з'яўляліся самі ўдзельнікі падзей. Магчыма, ён быў карэнным жыхаром Ліды і меў шмат сяброў і знаёмых. Відавочна, што гэты агент таксама меў талент камунікацыі і ўмеў выклікаць давер.

Паведамленні канфідэнта Чорнага заканчваюцца ў снежні 1937 г. Асоба гэтага канфідэнта, як і яго далейшы лёс, пакуль застаюцца таямніцай. Што сталася з Чорным, невядома, але я ўпэўнены, што гэты агент, калі перажыў арышты НКУС у перыяд "першых Саветаў" і Галакост у часы нямецкай акупацыі, паспяхова "працаваў" і пры наступнай уладзе.

У лістападзе 1937 г. за захоўванне камуністычнай літаратуры і прыналежнасць да КПЗБ судзілі жыхара Дакудаўскай гміны Сцяпана Бандарука. Прыналежнасць да кампартыі ў судзе не была даказана, а кнігі ён легальна прывёз з Францыі, дзе жыў да 1936 г., і таму суд яго апраўдаў[209].

**1938 г.**

Газета "Кур'ер Віленскі" пісала на пачатку лютага 1938 г.: *"Камуністычны працэс. Перад Акруговым судом у Лідзе 27 і 28 студзеня адбыўся судовы працэс над 9 асобамі, абвінавачанымі ў прыналежнасці да КПЗБ. На лаве абвінавачаных былі: Абрам Гельман, Бэнцьян Дубінскі, Лея Дражнін, Сара Бацян, Генах Баран, Антоні Перавозны*[210]*, Ёха Сікурць, Ісак Шапіра, Сана Гаперштэйн. Усе абвінавачаныя займаліся*

---

[202] Сіяністцкая моладзевая арганізацыя.

[203] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 155. Арк. 1.

[204] Там жа.

[205] Сын Янкеля і Гінды, нарадзіўся 11.11.1917 г. у Лідзе і там жа жыў па вул. 3-га Мая, 33, вызн. іудзейскага, рэзнік, кавалер, тэхнік камітэта КПЗБ у Лідзе.

[206] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 80.

[207] Там жа. Арк. 81.

[208] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 189. Арк. 1.

[209] Kurjer Wilenski № 312(4272), 13 listopada 1937.

[210] Антоні Перавозны (1903 г .н.) арыштаваны ў Лідзе 30 кастрычніка 1939 г. і загінуў у лагеры. Яго жонка, Адэля Перавозная (1909 г .н.) была выслана ў Казахстан, у 1941 г. выйшла замуж за савецкага грамадзяніна - Гл: Michal Szymielewicz. Wysiedlenie do Kazachstanu w r. 1940 znacznej czesci mieszkancow powiatu lidzkiego // Fundacja-Zaklad narodowy im. Ossolinskich. Katalog Rekopisow akcesyjnych Akc. 26/56. S. 45.

*камуністычнай дзейнасцю ... на фабрыцы гумовых вырабаў "Ардаль". Па справе заслухана 37 сведкаў. У выніку суд прыгаварыў: Лею Дражнін на 6 гадоў турмы і 10 гадоў пазбаўлення правоў, Сару Бацян на 3 гады турмы і 6 гадоў пазбаўлення правоў. … Астатніх суд апраўдаў.*

*Абвінавачваў пракурор Марціноўскі, адвакаты былі Заштаўт-Сукянніцкая, Чэрніхаў і Хыл"* [211]. Для параўнання, у тым нумары газеты паведамляецца, што за забойства вандроўнага спевака ў рэстаране на Лідскім рынку суд прыгаварыў нейкага Чэслава Урбановіча на 4 гады турмы[212].

Пры канцы 1938 г. начальнік лідскага Следчага аддзела даручыў інфарматару Герману пераехаць з Жалудка, *"працаўладкавацца ў Лідзе і даведацца пра стан кампартыі ў Лідзе. Ці працуе тут партыя бальшавікоў-ленінцаў (трацкісты), на якім этапе знаходзіцца яе арганізацыйны стан?"* [213].

***

Да канцы 1930-х гадоў беларускі рух у Лідзе быў практычна ліквідаваны. У падполлі дзейнічала толькі КПЗБ, большасць сяброў якой у нашым горадзе былі яўрэямі. У 1937 г. віленскае "Слова" перадрукоўвае з газеты "Польскі Меркурый" фрагмент характэрнага ліставання двух маладых камуністаў з-пад Ліды. Нейкі Апанас піша да Восіпа, які ў гэты час служыць у войску (ліст напісаны па-беларуску): *"... арыштавалі Мішку, Голдэнберга, Віцьку, але ты, Осіпка, не бядуй, у турме іх толькі трошкі патаўклі, а ў морду ніхто не даў, дык ніхто і не прызнаўся. Дзела не такое і кепскае ..."* [214].

КПЗБ была распушчаная пастановай Выканкаму Камінтэрну ў жніўні 1938 г. Газета "Беларускі фронт" пісала ў тым жа месяцы: *"Нелегальны орган КПП (Кам. Партыі Польшчы) "Czerwony Sztandar", які выходзіць цяпер па-польску (даўней выходзіў і па-беларуску як "Чырвоны Сьцяг") у нумары за чэрвень сёлета зьмяшчае камунікат Камінтэрну, у якім паведамляецца ўсім сябрам КПП, што Цэнтр. Камітэт КПП разьвязаны, разьвязаны такжа ўсе раённыя і мясцовыя камітэты і што вызначаны новыя ўлады КПП. Разам з гэтым рэарганізаваны і Цэнтр. Камітэт КПЗБ. "Чыстка" наступіла з тэй прычыны, што партыйны апарат складаўся з трацкістаў і правакатараў. Апроч гэтага з Масквы прыйшлі весткі аб растрэле павадароў польскага камунізму, якія былі ўцяклі ў Саветы: Ленскага (Лешчынскага), Варскага, Сохацкага, Жарскага, Пурмана і інш"* [215].

**1939 г.**

Аднак новы, 1939 г., пачаўся з суда над камуністамі: *"Прыгавор камуністам. Тры дні ў Акруговым судзе ў Лідзе слухалася справа камуністаў. 17 снежня вынесены прыгавор: Перэс Левін*[216] *і Лейба Кашчанскі атрымалі па 6 гадоў турмы, Даніэль Карасін*[217] *- 4 гады, Шыман Ілютовіч і Генах Баран - па 3 гады турмы, акрамя турэмных тэрмінаў усе былі пазбаўлены грамадзянскіх правоў на 10 гадоў"* [218]. У сувязі з гэтым працэсам лідскі стараста забараніў павятовыя аддзелы трох яўрэйскіх таварыстваў: "Frejchejt", "Haszemer Hacair", "Hehaluc pienier" *"за тое, што ў гэтых арганізацыях працавалі элементы шкодныя для польскай дзяржаўнасці, і яны пагражалі грамад-скай бяспецы"*[219]. Праз тыдзень нават забараняецца дзейнасць знакамітага лідскага яўрэйскага спартовага клубу "Макабі" і не выдадзены дазвол на рэгістрацыю маладзёжнага яўрэйскага таварыства "Histadrut Acade-menoim Zionim" [220].

А 14 лютага 1939 г. Наваградская ваяводская следчая ўправа дакладала ў Варшаву: *"... па пастанове пана міністра Унутраных спраў былі звольнены з лагера ў Бярозе-Картузкай ніжэй пералічаныя камуністы:*

*14.01.1939 г. Мармыш Юльян, сын Паўла і Еўдакіі, 1914 г.н., жыхар вёскі Маскалі Арлянскай гміны Шчучынскага павета.*

*29.01.1939 г. Рудзян Мардух, сын Астнэла і Рыўкі, 1910 г.н., жыхар м. Эйшышкі Лідскага павета.*

*29.01.1939 г. Ігнат Баклага, сын Мікалая і Ірэны, 1910 г.н., жыхар вёскі Воля-Крупіца, Арлянскай гміны Шчучынскага павета.*

*... Усе вышэй пералічаныя вярнуліся ў свае месцы пражывання, дзе пастаўлены пад нагляд"* [221].

---

[211] Kurjer Wilenski № 32 (4350), 2 lutego 1937.

[212] Там жа.

[213] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 189. Арк. 1.

[214] Slowo № 81 (4645), 23 marca 1937.

[215] Беларускі фронт. № 8 (30), 5 жніўня 1938.

[216] Сын Лейбы і Хаі-Шэйны, нарадзіўся 19.10.1910 г. у Браславе, жыў у Лідзе па вуліцы Райнеса, 11, вызн. іудзейскага, бухгалтар, кавалер, сакратара камітэта КПЗБ г.

[217] Сын Міхала і Сары-Рывы, нарадзіўся у 1916 г. у в. Зарэчча гміны і павета Браслаўскага, жыў у Лідзе па вуліцы Райнеса, 11, іудзейскага вызнання, сталяр, кавалер, сакратар камітэта КЗМ г. Ліды

[218] Kurjer Wilenski № 19(4695), 19 stycznia 1939.

[219] Kurjer Wilenski № 20(4696), 20 stycznia 1939.

[220] Kurjer Wilenski № 28(4704), 28 stycznia 1939.

[221] Archiwum Akt Nowych. Inwigilacja, aresztowanie i osadzanie w Berezie Kartuskiej [dzialaczy komunistycznych ] z woj. nowogrodzkiego. Korespondencja Prokuratury Okragowej i Urzadu sledczego w Nowogrodku. Zesp. 349/1 Sygn. 169. 2/349/1/4.6/169 K. 17.

**Накірункі дзейнасці камуністаў Ліды**

**Партыйная літаратура**

З усіх даносаў паліцэйскіх агентаў бачна, што партыйная літаратура мела выключанае значэнне для камуністаў. Толькі праз друкаванае слова было магчыма данесці да людзей сваю інфармацыі, свае ідэі, сваю інтэрпрэтацыю падзей.

У данясеннях канфідэнтаў чамусьці не ўзгадваецца савецкае радыё ў якасці крыніцы інфармацыі, і таму можна выказаць здагадку пра невысокую якасць і нецікавасць радыёперадач з СССР як найменей для лідскіх яўрэяў. Але танныя, дэтэктарныя прыёмнікі ўжо мелі шырокі распаўсюд, і напрыклад віленская прэса ў 1937 г. пісала пра неабходнасць пабудовы новай радыёстанцыі ў Лідзе ці Баранавічах *"бо дэтэктарныя прыёмнікі, якія ў ... павятовых гарадах ёсць у кожнай другой хаце, поўныя галасоў з Менска і бальшавіцкай агітацыі"*[222]. Ад свайго бацькі ведаю, што заходнія беларусы з цікавасцю слухалі радыё з Менска на роднай мове.

Толькі адзін раз, у паліцэйскім каментарыі да інфармацыі канфідэнта Бужынскай пра Лявона Гірыка[223] (партыйная мянушка - "Юрак", у Лідзе кантактаваў з камуністычнымі дзеячамі Станіславам Кісялём, Абрамам Гельманам і Арсенем Пачкоўскім, лічыўся *"добрым партыйным работнікам"*), паведамляецца: *"Лявон Гірык вядомы Следчаму аддзелу як прыхільнік камуністаў, апошнім часам бярэ ўдзел ў праслухоўванні агітацыйных радыёстанцый з Савецкай Расіі. Закончыў рамесную школу ў Лідзе, жыве на станцыі Нёман"* [224]. Як бачым, праслухоўванні савецкіх радыё-перадач былі калектыўнымі.

Пасля арышту ўсяго ГК КПЗБ Ліды, 1 траўня 1936 г. планавалася дастаўка камуністычнай літаратуры з Вільні ў Ліду, але на гэты раз, камуністы не мелі намеру раскідваць літаратуру па гораддзе бо гэта магло выклікаць новыя рэпрэсіі. Актывіст Нісялевіч прапанаваў размеркаваць гэтую літаратуру малымі пакункамі па сялянскіх вазах на рынку. Па яго меркаванні: гэта не выклікала бы падазрэння паліцыі і яна шукала бы камуністаў па вёсках[225].

Аднак пра дастаўку літаратуры дамовіліся толькі ў жніўні 1936 г. Цікавым з'яўляецца тое, як гэта дастаўка была арганізавана, Чорны дакладвае: *"…камуністычны дзеяч Шмуль-Калман Нісялевіч, … па камандзе інструктаркі Акругі КПЗБ Вільні Ханы Пудзінскай, чакаў прыезду камуністычнай літаратуры на збегу вуліц Гражыны і Вызвалення ў Лідзе. Адкуль павінны былі прывезці літаратуру … невядома. Вазніца фурманкі з літаратурай павінен быў мець твар, перавязаны чорнай хусткай, а Нісялевічу патрэбна было сказаць яму пароль: "Ці маеце на продаж карову". Адказ: "Маю, каштуе 16 злотых""*. Па невядомых прычынах літаратура не была прывезена[226].

У жніўні 1936 г. у Ліду камуністычную літаратуру з Вільні прывезла функцыянерка КЗМ. З дакладу канфідэнта Чорнага мы даведваемся, якую літаратуру чыталі лідскія камуністы: *"Гэта літаратура была выдадзена раней, часткова да лютага 1936 г. - у асноўным інструкцыі і некалькі асобнікаў 7-га Кангрэсу Камінтэрну на яўрэйскай мове ў брашурах на 32 старонкі, адна з брашур на польскай мове. Таксама некалькі брашур "Пастанаўленне 2-га З'езда Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі", датаваных "Вільня, 1935 г.", некалькі асобнікаў "Чырвонага Штандара" на беларускай і польскай мовах і адзін асобнік на нямецкай мове, яны датаваныя: "Вільня, 1936 г.", некалькі асобнікаў адозвы на польскай, беларускай і яўрэйскай мовах, у тым ліку: "Да Віленскай моладзі". Адозва крытыкуе рэдактара газеты "Слова" Станіслава Мацкевіча з-за яго выступу на працэсе над камуністамі-навукоўцамі ў Вільні і заклікае да барацьбы за Польскую савецкую рэспубліку. Уся гэта літаратура важыць каля 1 кг і прызначана для лідскіх камуністаў. Невядомая яўрэйка, якая перадала Барану літаратуру, дала яму кантакт у Вільні"*[227].

Аднак на пачатку верасня 1936 г. літаратура яшчэ не была размеркавана. І толькі пры канцы лістапада да Шымана Ілютовіча па літаратуру прыехалі *"два яўрэйчыкі з Эйшашак, адзін мае прозвішча Красілаў"* [228].

На самым пачатку новага, 1937 г., размаўляючы з Гельманам, Чорны даведаўся, што з Вільні ў Ліду павінны даставіць камуністычную літаратуру і размеркаваць яе сярод рабочых "Ардаля", бо на працягу 2 тыдняў падчас рамонту на фабрыцы, рабочыя засталіся без працы. Літаратуру павінны былі даставіць наступным чынам: *"Балагол Ёхель Ёселевіч[229] часта ездзіць па тавары ў Вільню, там падчас пастою ён атрымае пачак для перадачы Фэйдзе Гельман[230], а тая перадасць яго Абраму Гельману. Партыйныя актыві-сты Шыман Ілютовіч, Генах Баран і Зэлік Рыбацкі абяцалі да 18 ліпеня 1937 г. прывесці камуністычную літаратуру адмыслова для рабочых "Ардаля""* [231].

---

[222] Kurjer Wilenski № 151(4113), 2 czerwca 1937.

[223] Гірык Лявон сын Канстанціна і Альжбеты з Шыманскіх, нарадзіўся 23.04.1916. у г. Клін, беларус, кавалер, праваслаўны, па прафесіі механік, жыў ў в. Сялец.

[224] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 5.

[225] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 56.

[226] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 64.

[227] Там жа. Арк. 65.

[228] Там жа. Арк. 70.

[229] Сын Янкеля і Фрыды, 1893 г .н. жыў па вул. Сувальская, 126.

[230] Дачка Рувіна і Хаі-Сары, 1916 г .н. жыла па вул. Пастоўская, 8.

[231] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 86 адв.

**Праца з легальнымі грамадскімі арганізацыямі**

Лідскія камуністы-яўрэі выкарыстоўвалі шматлікія культурніцкія і грамадска-палітычныя яўрэйскія арганізацыі горада для прапаганды сваіх ідэй.

12 жніўня 1933 г. камуніст Мойша Каплан у памяшканні Паалей Цыон[232] па вуліцы Фалькоўскага легальна прачытаў дыскусійны рэферат пра ідэалогію камунізму[233], а раней асуджаны на 11 гадоў да вязніцы і датэрмінова вызвалены Хаім Каплан вёў камуністыч-ную агітацыю сярод сіяністаў-рэвізіяністаў[234][235].

Камуністы шчыльна працавалі з ідэйна блізкімі ім прафсаюзамі.

Увосень 1936 г. Абрам Гельман сцісла супрацоўнічаў з камуністамі - членамі Класавага звязу вытворцаў вопраткі і прадаўцоў гатовага адзення ў Лідзе - Шмулем Цыгельніцкім, Якубам-Элхананам Конам[236], Гіршам Герцоўскім[237] і Шмулем-Калманам Нісялевічам, а таксама Бэрам Рафэлам. Месцам канспіратыўных сходаў актывістаў прафесійнага звязу служыла кватэра Рубіна Альшанскага[238], вядомага паліцыі па ранейшай камуністычнай дзейнасці[239]. Канфідэнту Чорнаму было загадана даведацца, ці мае гэты прафесійны Звяз сваю камуністычную ячэйку.

У кастрычніку 1936 г. камуністы мелі поспех у арганізацыяй штрайку сярод краўцоў-шапнікаў, якія працавалі для аптовага гандлю - штрайкавала 7 краўцоў. Яны патрабавалі павышэння расцэнак на 25%, і ўжо ў лістападзе члены Класавага звязу вытворцаў вопраткі і прадаўцоў гатовага адзення, вырашылі палову свайго дзённага заробку за тыдзень перадаць Народнаму фронту Іспаніі[240]. 7 лістапада Чорны паведаміў, што вышукваў у гэтым Звязе камуністычную арганізацыю, але не здолеў выявіць, у каго знаходзяцца грошы сабраныя для дапамогі Іспаніі[243].

Актывістка кампартыі Груня Троцкая-Голь з'явілялася членам Класавага звязу прафсаюзу вытворцаў вопраткі і прадаўцоў гатовага адзення і вяла працу сярод членаў свайго звязу. У канцы 1936 г. кожную пятніцу ў памяшканні прафсаюзу яна арганізавала дыскусіі, пад час якіх чытала даклады на розныя палітычныя тэмы. Такім чынам Троцкая спадзявалася падвысіць самасвядомасць рабочых[242].

17 снежня 1936 г. адбыўся сход у доме Ліпы Камянецкага[243] па вуліцы Гедзімінаўская, 6, у памяшканні Класавага звязу прафсаюза вытворцаў вопраткі і прадаўцоў гатовага адзення. Сабраліся член ГК КПЗБ Абрам Гельман, сакратар МОПРа Ёсель Левін, Янкель Гярбоўскі і Груня Голь-Троцкая, потым прыйшоў Мардух Арахоўскі *"разам з невядомым яўрэйчыкам … і невядомай яўрэйкай …"*. Абрам Гельман коратка выступіў перад членамі звязу пра неабходнасць барацьбы з фашызмам у абарону пралетарыяту. Голь-Троцкая прызвала членаў звязу да арганізацыі вечароў дыскусій, на якіх будуць абмяркоўвацца розныя палітычныя пытанні[244].

**МОПР**

З-за бясконцых арыштаў і адбывання тэрміну ў вязніцу выключную ролю для камуністаў меў збор грошай для дапамогі сваім таварышам падчас суда і адбывання тэрміну пакарання.

Пасля страты кантактаў з кіраўніцтвам Віленскай акругі КПЗБ ў 1931 г. грошы, сабраныя МОПР-ам у Лідзе, ішлі толькі на дапамогу лідскім вязням. Да гэтага грошы накіроўваліся ў Вільню і адтуль размяркоўваліся па месцах[245], гэтакая сітуацыя працягвалася як мінімум да восені 1933 г.

4 снежня 1932 г., каля 21-й гадзіны ў памяшканні Пажарнай аховы па вуліцы Сувальскай сабраліся Абрам Любецкі, Хаім Пайкоўскі, Айзіковіч Мардух і нехта Янкель - маляр з Вільні. На гэтым сходзе абмяркоўваліся справы МОПР - Міжнароднай арганізацыі пралетарскай дапамогі. Падчас размовы, партыйцы канстатавалі слабы збор грошай для вязняў[246].

У лістападзе 1933 г. Чорны дакладаў, што галоў-

---

[232] "Паалей Цыён" ("Працоўныя Сіёна") - яўрэйская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя.

[233] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 30.

[234] Там жа. Арк. 32.

[235] Сіяністы-рэвізіянізм - сацыял-дэмакратычная плынь у палітычным сіянізме, якая абапіраецца на ідэі Уладзіміра Жабацінскага. Дэклараваныя мэты сіяністаў-рэвізіяністаў уключалі ўсталяванне яўрэйскай большасці ў Палястыне, аднаўленне распушчаных пасля Першай сусветнай вайны яўрэйскіх узброеных фармаванняў і кантроль над тэрыторыяй, адведзенай Лігай Нацый для стварэння яўрэйскай дзяржавы.

[236] Сын Гірша і Кейлі, 1914 г .н., жыў па вул. Школьная, 47.

[237] Сын Шэваха і Вінчы, 1909 г .н., жыў вул. Школьная, 53.

[238] Сын Натала і Хані, 1906 г .н., шавец, жыў вул. Мацкевіча, 13.

[239] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 44.

[240] Там жа. Арк. 41.

[241] Там жа. Арк. 42.

[242] Там жа. 69.

[243] 1906 г .н.

[244] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 72.

[245] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 22.

[246] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 12 - 12 адв.

ным актывістам МОПР у Лідзе падчас ліквідацыі кампартыі ў 1930 г. быў Самуэль Айзіковіч - ён таксама арыштоўваўся, але з-за недахопу ўлікаў быў вызвалены судом. *"Зараз Айзіковіч хворы на запаленне лёгкіх і кошт яго лячэння: лекарская дапамога, лекі і ўтрыманне, аплачвае Абрам Любецкі, які вельмі часта ходзіць у госці да Айзіковіча. 23 лістапада Любецкі сабраў у Айзіковіча кансіліум лекараў заплаціў ім за гэта 25 зл."*[247] Такія адносіны да сваіх таварышаў не могуць не выклікаць павагі.

У жніўні 1933 г. камуністы прыпынілі актыўнасць і займаліся толькі зборам грошай для МОПР, *"прычым тыднёвы агульны збор не перавышаў 6 зл. Гэта кажа ... што для апекавання над палітычнымі вязнямі ў Лідзе грошай не хапае"* [248]. У верасні таго ж года складкі для МОПРа збіраў член КПЗБ Мойша Рафэл[249]. 12 лістапада 1936 г. Цыгельніцкі і Гульнік збіралі складкі на МОПР сярод будаўнікоў і краўцоў[250].

20 кастрычніка 1933 г. Абрам Любецкі даручыў самому канфідэнту Чорнаму выехаць у Іўе і Эйшышкі па справе МОПРа. Для дапамогі тым, каго Чорны сам пасадзіў у вязніцу, канфідэнт прывёз з Іўя 6 зл.[251]

Для збору грошай на МОПР нават выкарыстоўваліся розныя сямейныя святы. Гэтак, падчас "Лідскай рэвалюцыі", на пачатку сакавіка 1936 г. грошы збіраліся прама на вяселлі Мардуха Каброўска. Збор грошай пачаўся ўначы, сабралі 7 зл. 20 гр.[252]

Пасля арышту вясной 1936 г. усяго складу ГК КПЗБ, МОПР узмацніў збор грошай. Гэтак Груня Гольт-Троцкая, якая раней каралася за камуністычную дзейнасць і ўвесь час жыла ў Воранаве, з'ездзіла ў Вільню і прывезла адтуль 84 зл. Гэтыя грошы яна перадала Ашару Каплану, якога хутка абралі новым сакратаром Лідскага ГК[253]. Тады ж пры новым ГК было выбрана і новае кіраўніцтва МОПРа. У яго увайшлі: Фішаль Разенштайн[254], Ёсель Левін (сакратар), Іцхак Лацкі[255].

У ліпені 1936 г. Чорны паведаміў[256], што ў склад новага выканаўчага камітэту МОПР дадаткова абраны асобы: Фішаль Рыбацкі[257] і Лейба Казарэскі[258].

Асаблівую цікаўнасць мае інфармацыя канфідэнтаў пра асоб, якія не займаліся палітыкай, але здавалі грошы на дапамогу вязням.

12 лістапада 1932 г. Чорны даведаўся, што нейкі Айзік Шляхтман (1907 г. н.), які жыў па вуліцы Лідскай, здаў 50 грошаў у МОПР. Паліцыя адзначыла, што Шляхтман у антыдзяржаўнай дзейнасці раней заўважаны не быў[259]. 20 кастрычніка 1936 г. Гульнік і Цыгельніцкі *"увайшлі ў аптэку Стукатара і паведаміўшы яму, што збіраюць грошы для палітычных вязняў, яны атрымалі ад Стукатара 1 злоты"* [260]. Стукатары - вядомая ў Лідзе сям'я, якая валодала аптэкай і двухпавярховай камяніцай ў самым цэнтры горада па вуліцы Сувальскай. Паліцыя занатавала гэта, але дапамога МОПРу аптэкару не пашкодзіла.

У траўні 1937 г. у Лідзе на гастролях знаходзіўся яўрэйскі тэатр, свае прадстаўленні ён паказваў у кінатэатры "Эра". 10 траўня Зэлік Рыбацкі[261] і Мардух Жукоўскі[262] збіралі тут грошы для МОПР. Канфідэнт Чорны бачыў, як ім здалі грошы Рафэл Сахін[263], Додзік Шмуйловіч (уладальнік прадпрыемства па продажы дзяржаўных латарэй), Арахоўскі і іншыя, прозвішчаў якіх канфідэнт не ведаў. Тое, што Чорны прысутнічаў на прадстаўленнях яўрэйскага тэатра, кажа пра нацыянальнасць канфідэнта, бо зразумела, што прадстаўленне ішло на ідыш. 12 траўня Мардух Жукоўскі падчас наступнага прадстаўлення гэтага ж тэатра сабраў 18 зл. для МОПР.

У кастрычніку 1937 г. зборам грошаў займаліся Шыман Ілютовіч і новы актывіст Зэльман Капельман (да гэтага часу паліцыя яго не ведала)[264], грошы збіраліся *"сярод рабочых розных варштатаў"* [265]. А 3 лістапада сакратар ГК КПЗБ Херц Гярцоўскі (калі яго абралі сакратаром, не вядома, але на пачатку кастрычніка ён быў

[247] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 18 адв.
[248] Там жа. Арк. 29.
[249] Там жа. Арк. 32.
[250] Там жа. Арк. 67.
[251] Там жа. Арк. 33.
[252] Там жа. Арк. 52.
[253] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 58.
[254] Сын Мейлаха і Двейры, 1918 г.н.
[255] Сын Янкеля, 1916 г .н.
[256] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 63.
[257] Сын Мендаля і Цыпы, 1912 г .н., сталяр, жыў па вул. Віленская, 73.
[258] Сын Вульфа і Эстэры, 1916 г .н., кравец, жыў па вул. Завальная, 17, працаваў у краўца Радунскага па вул. Сувальскай, 7., у 1937 г. жыў па вул. Лідская, 29.
[259] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 13.
[260] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 40.
[261] Сын Мендаля і Цыпы, 1915 г .н.
[262] Сын Абрама і Файбы, 1912 г .н.
[263] Сын Міхеля і Пэсі, 1905 г .н., жыў па вул. Турэцкая, 11, фармацэўт.
[264] Сын Шмуля і Рывы, 1913 г .н., кавалер, жыў па вул. Сувальская, 181.
[265] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 77.

яшчэ толькі членам ГК) звярнуўся да ўладальніка млына Ёселя-Бэра Баярскага[266] з просьбай ахвяраваць грошы для арыштаваных камуністаў і атрымаў ад яго 10 зл., якія Гярцоўскі ў той жа дзень передаў скарбніку МОПР Левіну[267], *"Баярскі сімпатызуе кампартыі"*, - паведамляў канфідэнт. Праз некалькі дзён Герцоўскі передаў 12 зл. члену ГК КЗМ Ліда Шыману Ілютовічу, загадаў дадаць да іх 3 зл. і перадаць грошы сем'ям арыштаваных камуністаў Шапіры, Барана, Сікурця і Гаперштэйна[268].

Чорны інфармаваў, што сем'ям Хаіма-Неаха Гульніка, пасаджанага у лагер Картуз-Бяроза, а таксама Абрама Ваўкавыскага і Абрама Гельмана, пасаджаных у гарадзенскую вязніцу, МОПР штомесяц выплачвае па 10 зл.. На гэтыя грошы іх родныя павінны былі дасылаць пасылкі ў вязніцы[269].

Пасля чарговага арышту камуністаў новы сакратар ГК адышоў ад спраў і даручыў Чорнаму займацца МОПР-ам. 1 снежня да канфідэнта звярнуўся знаёмы яму член ячэйкі КПЗБ Мойша-Хаім Святы з Эйшышак і передаў 25 зл., сабраных у гэтым мястэчку для праўнай дапамогі арыштаваным камуністам. Гэтыя грошы Чорны ў той жа дзень здаў Абраму Крупскаму, які жыў па вуліцы Лідская, 29. Збіраць грошы для новых арыштаваных таксама пачалі Беньямін Баран[270], Хаім Файншрайбер[271], Рахмель Васілішскі[272], Абрам Крупскі[273], Фішаль Разенштэйн і Шыман Ілютовіч[274].

Чорны інфармаваў, што 6 снежня член Лідскага ГК КЗМ Фішаль Разенштайн і *"яўрэйчык"* Зэйдаль *("прозвішча не вядома, працуе на ліцейнай Шапіры")*, здалі 12 зл. 10 гр. Абраму Крупскаму. 9 снежня Шыман Ілютовіч сабраў у горадзе 8 зл. 75 гр., якія передаў Чорнаму, гэтыя грошы канфідэнт здаў Крупскаму.

Сакратар ГК КПЗБ Херц Гярцоўскі паведаміў камуністам, што ён падзяліў грошы, якія прыходзяць з мястэчак на дапамогу абвінавачаным. Да таго часу сабралася ўжо дастаткова вялікая сума і па меркаванні канфідэнта, да гэтага часу, грошы, верагодна, захоўваліся ў Гярцоўскага і Крупскага. Таксама Гярцоўскі сказаў, што абаронцу для Леі Дражнін нойме і аплаціць камуністычная арганізацыя мястэчка Жалудок.

Збіраць грошы на абарону абвінавачанага Антона Перавознага Гярцоўскі прызначыў Неаха Гярцоўскага (камуністычны актывіст на "Ардалі"). Тады ж сем'і абвінавачаных камуністаў, акрамя Перавознага і Дражніна, ездзілі ў Вільню каб наняць адвакатаў. Грошы на дарогу і на задатак адвакатам яны атрымалі ад Крупскага. Чорны паведамляў: *"Абвінавачаных Генаха Барана, Ісака Шапіру і Ёху Сікурць будзе абараніць адвакат Сукяніцкая за 250 зл., абвінавачанага Сану Гарэнштэйна і Бенцьяна Дубінскага - адвакат Черніхаў за 200 зл., абвінавачаную Сару Бацян - адвакат Андрэеў за 300 зл, абвінавачанага Абрама Гельмана - адвакат Гіль за 150 зл. Усе адвакаты з Вільні"* [275].

У канцы снежня 1937 г. з Вільні ў Ліду перадалі 150 зл. для праўнай дапамогі абвінавачаным камуністам[276].

Канфідэнт Герман пры канцы 1938 г. інфармаваў, што *"арганізацыя "Ha-Szomer Ha-Cair"*[277] *праводзіць шырокую акцыю па збору грошай для МОПР-а. Гэта адносіцца не толькі да Ліды, але да і іншых гарадоў, дзе маюцца аддзелы гэтай арганізацыі. Члены "Ha-Szomer Ha-Cair" знаходзяцца пад уплывам КПЗБ. У Лідзе актыўная дзейнасць камуністаў у арганізацыі "Ha-Szomer Ha-Cair" да моманту арышту праводзіў Іцхак Карабельнік. Ён знаходзіўся ў сціслым кантакце з камуністычным дзеячам Ёселем Альбіртам"* [278]. Паліцэйскі каментарый да даносу: *"Інфармацыю лічу верагоднай, яна пацвярджаецца паказаннямі Чорнага і Янкі"* [279].

Трэба дадаць, што Ісаак Герцавіч Карабельнік (1920-1984) нарадзіўся ў Лідзе, з 1937 па 1939 г. працаваў наборшчыкам у друкарні "Графіка". З 1936 г. - член КЗМ, у канцы 1930-х гг. быў членам ГК КЗМ, арыштоўваўся паліцыяй. Пасля прыходу Чырвонай Арміі, у верасні 1939 г. стаў членам лідскага рэўкама, працаваў начальнікам архіва НКВД. У 1941 г. быў паранены. Пасля вайны вярнуўся ў Ліду, працаваў начальнікам аддзела збыту мясакамбіната, а потым у аўтапарку.

**Уцёкі ў БССР**

На пачатку 1933 г. Чорны паведаміў паліцыі пра тое, што нейкі партыйны функцыянер кіраўніцтва Акругі КПЗБ Вільні, пры канцы лістапада мінулага года

[266] Сына Гіраша і Двэйры, 1907 г .н. уладальніка млына, жыў па па вул. Мацкевіча, 21.
[267] 1909 г .н.
[268] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 78.
[269] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 74.
[270] Жыў па вул. Балотная, 13.
[271] Жыў па вул. Садовая, 31.
[272] Член ГК КПЗБ Ліда, жыў па вул. Сувальская, 137.
[273] Член ГК КЗМ Ліды.
[274] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 80.
[275] Там жа. Арк. 81.
[276] Там жа. Арк. 83 адв.
[277] Адна з сіянісцкіх сусветных моладзевых арганізацый левай арыентацыі. Заснавана ў 1916 г. як яўрэйскі аналаг скаўцкіх арганізацый.
[278] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 189. Арк. 1.
[279] Там жа.

ездзіў у Іўе і кантактаваў там з звольненым з вязніцы пад грашовы заклад у 1000 зл. членам камітэта КПЗБ у Іўі Абялёвічам Бэрэ-Мендалем, *"... той Абялёвіч дапамог уцячы ў Расію Голдбергу Ісаку, Кантаровічу Залману і Блоху Шмулю, усе з Іўя, і зараз мае намер уцячы сам"* [280]. Паліцыя звярнулася да віца-пракурора ў Лідзе з прапановай аб прэвентыўным арышце Абялёвіча да судовага разгляду, што і было зроблена[281]. Як бачым, данос Чорнага прывёў гэтага чалавека ў польскую вязніцу, але ўратаваў ад гарантаванага расстрэлу ў СССР. Каб Чорны мог гэта ведаць, дык на пытанне сваіх партыйных таварышаў: "Хто ты?", мог адказаць цытатай з "Фаўста" Гётэ, я:

- *Частка сілы той ліхой,*
*Дабро ўтвараецца з якой*[282].

Людзі, якія не належалі да КПЗБ, але вырашылі ўцячы ў БССР, шукалі кантактаў з камуністамі. З інфармацыі канфідэнта Чорнага бачна, што браць грошы за такія паслугі было звычайнай справай. Напрыклад, 4 - 5 ліпеня 1933 г. *"да мясцовага камуніста Мардуха Айзікавіча звярнуўся невядомы хрысціянін, сярэдняга ўзросту - каля 25 гадоў, паходзіць з-пад Стоўбцаў. Ён сказаў, што хаваецца ад паліцыі і мае намер уцячы ў Расію і прасіць дапамагчы яму за пэўныя грошы ... Айзікавіч адказаў, што трэба некалькі дзён, покуль ён удакладніць інфармацыю"* [283].

Пры канцы верасня 1933 г. Чорны інфармаваў паліцыю, што Барух-Лейба Шасун[284] які раней збег у СССР, зараз піша сваёй сям'і, хоча хутка вярнуцца ў Польшчу. Яго брат сказаў канфідэнту, што збеглы закончыў у СССР камуністычныя курсы[285].

**Праца камуністаў у войску**

У 1932 г. у Лідзе адбыўся шэраг судовых працэсаў па справах аб шпіянажы ў Лідскім 5-м лётным палку. 25 красавіка 1932 г. па выраку Лідскага Ваенна-палявога суда да кары смерці праз павешанне былі прыгавораны савецкія шпіёны Іосіф Турбач і Міхал Чаховіч. Позна ўначы 26 красавіка з Варшавы прыйшла адмова прэзідэнта Польшчы памілаваць шпіёнаў, і на раніцы 27 красавіка, кат, які прыехаў з Варшавы, павесіў абодвух на дзядзінцы Лідскай турмы[286].

На пачатку лістапада 1932 г. Ваенна-палявы суд ў Вільні разглядаў справу савецкіх шпіёнаў: сталага жыхара Ліды, 22-х гадовага Станіслава Маркоўскага (партыйная мянушка - "Блакітны", прафесія - сталяр, рыма-каталік), 29-ці гадовага Зміцера Сая (мянушка - "Буш", селянін, праваслаўны, бацька траіх дзяцей), брата Маркоўскага, лідзяніна Рышарда Маркоўскага (28 гадоў, сталяр) і Пятра Русака (селянін, бацька 4-х дзяцей). Усе чацвёра з 1931 г. шпіёнілі на карысць СССР і былі выяўлены амаль што выпадкова. Суд прыгаварыў Станіслава Маркоўскага і Зміцера Сая да павешання, а Рышарда Маркоўскага і Пятра Русака да пажыццёвага турэмнага пакарання[287].

7 кастрычніка 1933 г. у Лідскім акруговым судзе быў зачытаны вырак па справе аб сям'і Клімашэўскіх: Францішкі, Людвікі, Вацлава, Браніслава, а таксама Браніслава Драбка - усіх іх абвінавачвалі ў шпіянажы. Гэтыя людзі былі асуджаны на вялікія турэмныя тэрміны[288].

Усе гэтыя шпегі здабывалі інфармацыю пра 5-ты лётны полк.

Камуністы заўсёды мелі цікаўнасць да польскага войска, але, як убачым далей, не мелі кантактаў вышэй за шарагоўцаў. Таму ў студзені 1933 г. вялікую цікаўнасць паліцыі выклікала інфармацыя Чорнага пра тое, што Любецкі мае кантакт з нейкім маёрам і праз нейкага капрала павінен пазнаёміць з ім члена кампартыі, жаўнера Мардуха Айзіковіча. *"Маёр мае праводзіць антыдзяржаўную работу сярод войска і адначасна мае быць шпегам"* [289]. Потым у справе Чорнага інфармацыі пра маёра больш няма, бо, верагодна, яна не пацвердзілася.

У лістападзе таго ж года Чорны паведаміў, што ў варштатах 5-га лётнага палка, працуе сталяром нейкі Троцкі. Ён хутка збіраецца скрасці ў палку нейкія сакрэтныя планы і збегчы з імі ў Расію. Паліцыяй было адразу выяўлена, што ў 5-м палку і насамрэч працуе Антон Троцкі[290], але з наяўных паліцэйскіх дакументаў даведацца пра яго далейшы лёс немагчыма[291].

24 лістапада 1933 г. канфідэнт Чорны паведаміў, што Мойша Рафэл кантактуе з жаўнерам тэрміновай

[280] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 189. Арк. 15.
[281] Там жа.
[282] Гётэ Ё. Фаўст. Пер. з ням. і камент. В. Сёмухі. Мінск, 1991. С.53. (Падрадковы пераклад з нямецкай мовы: "Частка той сілы, // Якая заўсёды хоча зла і але робіць (стварае) дабро".)
[283] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 27.
[284] Сын Мендаля і Рыўкі, 1906 г .н., у Лідзе жыў вул. Сувальская, 136.
[285] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 32.
[286] Slowo № 97 (2904), 28 kwietnia 1932.
[287] Slowo № 277(3084), 4 listopada 1932.
[288] Kurjer Wilenski № 271 (2812), 9 pazdziernika 1933.
[289] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 16.
[290] Сын Вінцэнта і Евы, 1904 г .н. нарадзіўся ў Рызе, жыў ў Лідзе па вуліцы Тартакі, 9.
[291] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 13.

службы Мардухам Каброўскім[292]: *"Трэба думаць, што кампартыя праз Каброўскага збіраецца ствараць сваю ячэйкі ў войску"*. У прыналежнасці да КПЗБ Каброўскага падазравалі яшчэ ў 1930 г. але не мелі дастатковай інфармацыі. Пра тое, што ён мае сувязі з камуністамі, паліцыя паведаміла кіраўніцтву 19 палка[293].

З сакавіка 1933 г. Чорны вышпегаваў, што *"Мардух Каброўскі кантактаваў з Рафэлам Бэрам, потым да іх далучыўся Хаім Дубчанскі, і яны ўтрох пайшлі па вуліцы Сувальскай"* [294]. 10 сакавіка каля 10-30 Каброўскі недалёка ад сінагогі па вуліцы Школьнай сустракаўся з актывістамі Мойшам Рафэлам і Хаімам Дубчанскім і распавёў ім пра настроі ў войску і пра харчаванне жаўнераў[295]. Аднак ужо 24 сакавіка 1933 г. Мардух Каброўскі паведаміў партыйцам, што ён *"не можа нічога рабіць у войску, бо за ім сочаць"* [296].

Летам 1936 г. Чорны паведамляў, што Блюма Левіна[297] працавала ў цукерні яе швагра Абрамовіча па вуліцы Сувальская, 79 і рэгулярна ўступала ў размовы з жаўнерамі, якія заходзілі ў цукерню. Падчас размоў яна выпытвала жаўнераў пра час і месца вайсковых манеўраў, пра новую зброю, муштру і настроі ў войску. Інфармацыю перадавала інструктару Віленскай акругі КПЗБ Хане Пудзінскай і сакратару ГК Каплану[298].

У жніўні 1936 г. у сувязі з вайсковымі манеўрамі ГК КЗМ планаваў прывесці і распаўсюдзіць сярод жаўнераў камуністычную літаратуру[299]. Аднак літаратура для жаўнераў не патрапіла ў Ліду[300].

Тады ж Абрам Гельман меў кантакт з жаўнерам 7 роты 77 пяхотнага палка ў Лідзе Ізраілем Вальтарам[301]. Камуністаў цікавіла ўсе тое ж кола пытанняў - настроі сярод жаўнераў, харчаванне, абмундзіраванне і іншыя побытавыя рэчы[302]. А што яны яшчэ маглі даведацца ад жаўнера?

Верагодна праца з войскам уваходзіла ў пераклік першачарговых спраў, займацца якімі павінны былі партыйцы. Але рэальна яны не маглі даведацца пра нешта больш цікавае, чым харчаванне і абмундзіраванне жаўнераў.

**Асабістае жыццё камуністаў**

У даносах канфідэнтаў няма інфармацыі пра асабістае жыццё камуністаў. Тым цікавей увага канфідэнта Чорнага да адносінаў Абрама Любецкага і Фані Шмуйловіч. У лістападзе 1933 г. канфідэнт паведаміў: *"Член кампартыі Абрам Любецкі кантактуе з Фаняй Шмуйловіч*[303] *... Любецкі бывае у яе вельмі часта"* [304].

Каб даведацца пра лёс Фані Шмуйловіч, вернемся ў 1927 г.

У ноч з 30 красавіка на 1 траўня 1927 г. у Жалудку на тэлеграфным слупе быў вывешаны чырвоны сцяг з нашытымі на ім белай стужкай і камуністычнымі лозунгамі. Раніцай паліцыя зняла сцяг і знайшла пад слупам гузік ад паліто. Па гузіку знойдзены гаспадар паліто і такім чынам быў арыштаваны ўвесь камітэт камуністычнай моладзі Жалудка, а потым і ўвесь павятовы камітэт камуністычнай моладзі Лідчыны. Па гэтай справе ў Лідзе арыштаваны: Фаня Шмуйловіч (узрост 21 год), Лейба Разейнштайн (18 гадоў), Хаім Кур (19 гадоў). У Жалудку арыштаваны: Мойша Казарэскі (20 гадоў), Шэпсаль Рэмза (18 гадоў), Цадзік Іцансон (21 год) і Шлёма Левін (18 гадоў). У Шчучыне была арыштавана амаль што ўся камсамольская ячэйка[305]. У Ражанцы быў арыштаваны сакратар моладзевай ячэйкі Хаскель Жукоўскі[306].

У верасні 1929 г. у Лідзе ў пачаўся суд над камуністамі, і прэса адразу назвала гэты працэс *"сенсацыйным"*. Пад час суда жыхар Жалудка Фішаль Байкальскі расказаў, што перад 1-м траўнем 1927 г. пазычыў сваё паліто Шэпсалю Рэмзу. Менавіта ў тое паліто быў апрануты Рэмза, калі страціў гузік, вывешваючы чырвоны сцяг на слупе. Па гэтым гузіку паліцыя знайшла і гаспадара паліто, а Шэпсаль Рэмза падчас допытаў расказаў пра камуністычную арганізацыю ў Жалудку і паказаў месца партыйных збораў у гаі каля мястэчка. Былі арыштаваны ўсе жалудоцкія камуністы, а праз іх паліцыя выйшла на камуністаў іншых населеных пунктаў Лідчыны. Такім чынам ліквідавана практычна ўся пар-

[292] Сынам Арона і Ханы, 1910 г. н. нарадзіўся ў Лідзе, кавалер, служыў у 19-м палку лёгкай артылерыі ў Лідзе.

[293] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк.18.

[294] Там жа. Арк.19.

[295] Там жа. Арк. 20.

[296] Там жа Арк. 25.

[297] Дачка Гірша і Рымы, 1914 г .н. жыла па вул. Рынак, 14.

[298] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 62.

[299] Там жа. Арк. 65.

[300] Там жа. Арк. 66.

[301] Сынам Хаіма і Малкі, 1912 г .н., з Варшавы

[302] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 44.

[303] Дачка Іцкі і Паі, 17.12.1905 г.н., панна, скончыла 6 кл. Лідскай каадукацыйнай гімназіі, жыла на вул. Вызвалення, 22. У 1927 г. была прыгавораная да 6 гадоў вязніцы за прыналежнасць да КПЗБ. Тэрмін у вязніцы часткова скарочаны, вызвалена 15.05.1931 г.

[304] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 18.

[305] Kurjer Wilenski № 107 (856), 12 maja 1927.

[306] Kurjer Wilenski № 106 (855), 11 maja 1927.

тыйная арганізацыя павета, 36 чалавек селі на лаву падсудных. Віленская калегія акружнога суда ў Лідзе сярод іншых прыгаварыла Фаню Шмуйловіч да 6 гадоў турмы ўзмоцненага рэжыму[307].

У 1932 г. у Фані за плячамі ўжо было 3 гады турмы, пасля датэрміновага вызвалення, яна мела ўжо 27 гадоў - як для нас дык была маладой дзяўчынай, але ў той час 27 - гэта ўжо шмат.

Чорны неадступна сачыў за Фаняй і колам яе сяброўак. Ён інфармаваў, што *"28.02.1933 г. у поўдзень мясцовы камуніст Абрам Любецкі кантактаваў з Фаняй Шмуйловіч і Фрыдай Сталіцкай*[308] (жыла ў адной кватэры са Шмуйловіч - *Л. Л.*)". У паліцэйскай зводцы запісана: *"Можна дапусціць, што Фрыда Сталіцкая далучылася да актыву і будзе працаваць у Лідзе. Сталіцкая - вельмі спрытная, у 1929 і 1930-м гг. падазравалася ў прыналежнасці да МОПР, але не хапіла ўлікаў"* [309]. Імя Сталіцкай у паліцэйскіх зводках больш не з'яўлялася.

У траўні 1933 г. Чорны зноў дакладвае, што *"Абрам Любецкі сцісла кантактуе з Фаняй Шмуйловіч"* [310]. І такіх дакладаў шмат.

Тэма *"Шмуловіч - Любецкі"* знікае з даносаў, бо верагодна паліцэйскім надакучыла ведаць пра тое, як гэтыя людзі праводзяць свой асабісты час, і Чорны атрымаў загад больш не падглядваць праз фіранкі, а скарыстаць сваю энергію на больш неабходныя для паліцыі рэчы. Верагодна, Чорны сам меў свае планы адносна Фані Шмуйловіч.

З цікавага, можна дадаць, што ў адным з даносаў паведамляецца, што *"ў памяшканні Лейбы Разэнштайна часта збіраюцца мясцовыя камуністы і вучаць мову эсперанта"* [313], магчыма, гэтак яны рыхтаваліся да Сусветнай рэвалюцыі.

**Дзейнасць камуністаў на прадпрыемствах**

У верасні 1938 г. інфарматар Абрамовіч, які працаваў на фабрыцы-ліцейні Шапіры, паведаміў, што Зэлік Катлярскі, Іцка-Якуб Гросман, Генах Баран, Неах-Хаім Гульнік і Айзік Пэрлаў, праўдападобна, *"складаюць камуністычную групу. Вышэйпералічаныя, пры кожным кантакце з іншымі рабочымі навязваюць ім размовы на палітычныя тэмы, крытыкуюць польскі ўрад, кажуць, што гэта фашысткі ўрад, які бароніць толькі інтарэсы капіталістаў і ганьбуе рабочых і сялян тым, што забраў у іх сацыяльныя правы. Кажуць, што пры маршале Пілсудскім, яшчэ можна было неяк вытрымаць, а зараз усё зусім дрэнна"* [314]. 9 верасня Іцка-Якуб Гросман і слесар Мойша Галік збіралі сярод рабочых грошы на дапамогу галадаючым дзецям Барселоны. Збіраць грошы на фабрыцы было забаронена, таму яны толькі запісвалі ахвочых, а пасля працы, калі рабочыя выходзілі з фабрыкі, *"каля брамы стаяў Зэлік Катлярскі і збіраў грошы ў тых рабочых, якія былі запісаны Гросманам. Катлярскі сабраныя грошы ў суме 9 зл. 20 гр. разам са спісам перадаў Гросману ў прысутнасці Барана"* [315]. Паліцэйскі, які прааналізаваў гэту інфармацыю, напісаў на тэксце даносу: *"Інфармацыю лічу верагоднай. Па іншай інфармацыі, Катлярскі і Гросман належаць да фабрычнай ячэйкі КЗМ. Баран уваходзіць у склад ГК КЗМ, Гульнік у МОПР"* [316].

25 верасня інфарматар Абрамовіч даў інфармацыю, якая дазваляе ўявіць палітычнае жыццё на ліцейне Шапіры. Некаторыя рабочыя падчас абедзеннага перапынку - *"пераважна яўрэі"*, збіраліся для размовы ў сталярні фабрыцы і там дыскутавалі. Галоўная тэма палітычных дыскусій верасня 1938 г. - падзеі ў Чэхаславакіі. Прамаўлялі пераважна Зэлік Катлярскі, Іцхак Гросман, Генах Баран, Айзік Пэрлаў, Мойша Гэрната, Галька Луньскі, Юзаф Невяроўскі[317], Міхал Ефімец[318]. Невяроўскі і Ефімец у размовах з іншымі рабочымі агітавалі іх не прымаць ўдзел у мітынгах і дэманстрацыях супраць Чэхаславакіі і тлумачылі, што пралетарыят Чэхаславакіі бароніць незалежнасць сваёй дзяржавы, а фашысцкія дзяржавы прагнуць вайны, каб цалкам падпарадкаваць пралетарыят і адабраць усе правы, але ім гэта не ўдасца, бо польскі рабочы пры дапамозе "таварышаў" пераможа ў барацьбе за свае правы. Пра якіх "таварышаў", якія павінны былі дапамагчы, прамоўцы не казалі. Усе астатнія партыйцы ліцейні таксама агітавалі за няўдзел рабочых у мітынгах супраць Чэхаславакіі[319].

Апошняй паперай ў справе інфарматара Абрамовіча, з'яўляецца даклад лідскай паліцыі ў Навагрудскі Ваяводскі следча-палітычны аддзел паліцыі, пра тое, што Следчы аддзел у Лідзе не здолеў знайсці сведкаў, якія бы маглі даць паказанні супраць Зэліка Катлярскага і іншых у справе арганізацыі імі нелегальнага збору грошай для Чырвонай Іспаніі. *"Таксама паведамляем, што у адносінах да Катлярскага і яго таварышаў былі прыкладзены старанні каб звольніць іх з працы ў ліцейні Шапіры. З іншых падазроных, Генах Баран і Шыман Ілютовіч 30.09.1938 г. былі арыштаваны і знахо-*

[307] Kurjer Wilenski № 214 (1559), 19 wrzesnia 1929.

[308] Дачка Майра і Нахамы, 1906 г.н. у Лідзе, панна, жыла вул. 17-га Красавіка, 9.

[309] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 19.

[310] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 14.

[311] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 53. Арк. 18 адв.

[312] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 120. Арк. 1.

[313] Там жа.

[314] Там жа.

[315] Юзаф Невяроўскі сын Барталамея і Разаліі, 1900 г .н.

[316] Міхал Ефімец, сын Мацея і Параскевы, 1886 г .н.

*дзяцца ў вязніцы"* [318].

Як бачым, ціск на палітычных актывістаў праз звальненне з працы - старая прыдумка.

**Падсумаванне**

Знаёмства з даносамі канфідэнтаў і аналіз інфармацыі тагачаснай прэсы, дазваляе сцвярджаць, што галоўнымі справамі лідскіх камуністаў у 1930-х гг. было захаванне арганізацыі і дапамога сваім арыштаваным і зняволеным таварышам. Практычна ўся іх дзейнасць зводзілася да размоў пра палітыку і чытання партыйнай літаратуры. Даволі шмат камуністаў наогул не займалася палітычнай дзейнасцю і знаходзіліся па-за арганізацыяй. Аўтарытэт камуністаў не быў высокім, бо нават сам факт сувязі з кампартыяй кампраметаваў прафсаюзных актывістаў перад рабочымі. Тым не менш, на асобных прадпрыемствах існавалі камуністычныя арганізацыі.

Вялікага ўплыву на жыццё горада камуністы не мелі і не маглі мець, бо заставаліся маргінальнай групай, сярод якой пераважалі яўрэі. У той час яўрэі складалі каля паловы насельніцтва Ліды і жылі ва ўмовах выразнага нацыянальнага ціску. Але і сярод яўрэяў камуністы былі хутчэй маргіналамі, бо, напрыклад, на выбарах яўрэйскага самакіравання ў 1932 г. найвялікшую колькасць галасоў набраў блок "Рамеснікі", другое месца занялі "Дробныя купцы", на трэцім месцы былі "Сіяністы"[319].

Знойдзеныя архіўныя крыніцы дазваляюць сцвярджаць, што КПЗБ у Лідзе не цікавілі праблемы беларускай культуры і адукацыі. Чорны ў даносах толькі аднойчы паведаміў пра факт размовы па-беларуску сакратара Акругі КПЗБ з Вільні. Падчас суда пасля "Лідскай рэвалюцыі" згадвалася ліставанне камуніста Рафала Гершмана на беларускай мове[320]. З даносаў вядома, што партыйная літаратура друкавалася па-беларуску, па-польску і на мове ідыш[321]. І гэта практычна ўсё, што можна сказаць пра беларускі след у дзейнасці лідскага ГК КПЗБ. Пры гэтым Чорны старанна фіксаваў наяўнасць нацыянальнай варажнечы ў партыі *"інтэрнацыяналістаў"* і іх імкненне аддзяліцца ад *"камуністаў-хрысціян"*.

Сярод яўрэйскага насельніцтва пераважалі прагматычныя погляды на палітыку. Аднак было і іншае. Цікавым будзе прывесці ўспамін жыхара мястэчка Жалудок, у якім камуністы мелі значны ўплыў: *"Кампартыя была забаронена і працавала ў падполлі. У мястэчку здагадваліся аб асобах-прыхільніках камуністычных ідэй і аматарах Савецкага Саюза, яны знаходзіліся на ўліку ў паліцыі, за імі вялося таемнае сачэнне, але паколькі ніякіх сур'ёзных спраў не прымалася, то яны заставаліся на волі. У турму можна было патрапіць за захоўванне літаратуры, распаўсюджванне ўлётак, за чырвоны сцяг ці святкаванне 1 Мая. Многія мястэчкоўцы правялі ў турмах па некалькі гадоў за актыўную дзейнасць у падполлі. Пераважная колькасць рамеснікаў у душы спачувала ідэям камунізму, з цеплынёй адклікалася аб Савецкай краіне, дзе пануе праца, свабода і справядлівасць.*

*Мой бацька і яго сябры былі перакананымі прыхільнікамі Савецкай улады, з вялікай цікавасцю чыталі ўсё, што здабывалі пра жыццё Расіі, захапляліся яе поспехамі, яўрэйскай рэспублікай Бірабіджан і вялікімі кіраўнікамі краіны Сталіным, Молатавым, Варашылавым і, вядома, Кагановічам. Дзе гэта магло такое быць, каб яўрэй, сын працоўнага, стаў чацвёртым чалавекам у кіраўніцтве дзяржавай, правай рукой таварыша Сталіна, правадыра і настаўніка ўсіх народаў!*

*Па вечарах слухалі забароненыя перадачы з Менска, дзе на яўрэйскай мове перадавалі размовы і спявалі яўрэйскія песні. Зачыняліся, чыталі перакладзеныя на ідыш "Ціхі дон" і "Узнятую цаліну" Шолахава, а кнігу "Дзі мутэр" ("Маці") Горкага перачытвалі шмат разоў, і яна стала для многіх пуцяводнай зоркай у рэвалюцыю.*

*У нашай сям'і казалі аб вялікім шчасці некаторых знаёмых, якім удалося перамахнуць цераз мяжу і перабрацца ў Расію. Праўда, пра іх далейшы лёс нічога не было вядома, з Расіяй не было сувязі, але якое гэта мела значэнне: галоўнае, што яны ТАМ і бязмерна гэтым шчаслівыя...*

*О, святая наіўнасць! Усе яны апынуліся ў 1937-м у Гулагу, і толькі адзінкі засталіся жывымі і памерлі сваёй смерцю.*

*Бацька расказваў мне пра цудоўную Савецкую краіну, дзе ўсе людзі роўныя, няма бедных і багатых, усеагульная справядлівасць і сяброўства паміж народамі і галоўнае - наогул няма антысемітызму. А мы яго вельмі адчувалі ў Польшчы. На местачковым бытавым узроўні гэта было не вельмі прыкметна, але прапаганда ў газетах, у антысеміцкіх лістках, у нацыяналістычных партыях, нарэшце, левыя лавы для яўрэйскіх студэнтаў*[322]*, прыгнёт у сферы гандлю, культуры, усё гэта вылівалася бруднай плынню, і польскія школьнікі на сценах дамоў выводзілі мелам антысеміцкія заклікі, накшталт "Жыды да Палестыны", "Бейліс" і далей у такім родзе.*

*Антысемітызм ахапіў многія краіны. У Нямеччыне грамілі яўрэйскія крамы і масамі высылалі яўрэяў за межы краіны.*

[317] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 120. Арк. 2.
[318] ДАГВ. Ф. 662. Воп. 2. Спр. 120. Арк. 2.
[319] "Kurier Nowogrodzki. 1932, nr 157 (242), 5 lipca.
[320] "Kurjer Wilenski". 1937, nr 22 (3984), 23 stycznia.
[321] ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 65.
[322] У Віленскім універсітэце ў 1930-я гг. для студэнтаў-яўрэяў выдзялялі асобныя лавы. Каб прадэманстраваць свае адносіны да гэтага, разам з імі садзіліся студэнты-беларусы і дэмакратычна настроеныя палякі.

*Таму цяга да Савецкага Саюза была вельмі моцная. Праўда, часам даходзілі чуткі, што там лютуе тэрор, людзей расстрэльваюць без суда і адпраўляюць у Сібір, нават друкаваліся фатаграфіі рэпрэсаваных, але ў нашай сям'і і сем'ях сяброў у гэта не верылі і казалі, што ўсё гэта выдумкі ворагаў Савецкай улады"* [323].

Незадаволенасць уладай выявілася ў верасні 1939 г., калі значная частка яўрэйскага насельніцтва Ліды з энтузіязмам сустрэла прыход Чырвонай арміі. Да таго ж мясцовыя яўрэі добра ведалі пра становішча яўрэяў у Германіі і баяліся прыходу Гітлера. Калі замест немцаў у горад увайшла Чырвоная армія, яўрэі сустракалі яе кветкамі. Для іх гэта было вызваленне ад фашысцкага лагера. Лідзянка Яўгенія Ярмант успамінала: *"Раніцай горад абляцела вестка, што ў Ліду ўступілі рускія войскі, і на ўскраіне горада яўрэі сустрэлі іх хлебам-соллю. Мама сцісла пракаментавала: "Яўрэі гатовы хоць чорта вітаць, абы не прыйшлі немцы""* [324].

***Дадатак***

## "Лідская рэвалюцыя" ў нарысах Юзафа Мацкевіча

***Ад аўтара:*** *Падаю пераклады артыкулаў Юзафа Мацкевіча пра "Лідскую рэвалюцыю". Юзаф Мацкевіч хутка стане вельмі вядомым літаратарам, і мне як пісьменніку было цікава перакладаць тэксты гэтага таленавітага чалавека. Дадам, што Юзаф Мацкевіч як і яго брат, рэдактар віленскай газеты "Слова", мелі самыя правыя перакананні. І таму, што надзвычай цікава для мяне, Юзаф Мацкевіч адлюстроўвае падзеі ў Лідзе як вораг "рэвалюцыянераў", што дадае аб'ёму агульнай карціне.*

*Трэба адзначыць, што браты Мацкевічы не заплюшчвалі вочы на рэаліі свайго часу, гэта ў сакавіку 1939 г. прывяло рэдактара газеты "Слова" нават у лагер Картуз-Бяроза.*

**Як гэта было ў Лідзе**

Учора нумар нашай газеты з інфармацыяй пра штрайк у Лідзе быў канфіскаваны, аднак да падзей, якія там робяцца, мы павінны падыходзіць без нерваў[325]. Паспрабуем спакойна, па-чарзе, каб праясніць сітуацыю, расказаць, як ўсё там адбывалася.

**А было ўсё так**

Як для нас, Ліда з'яўляецца індустрыяльным горадам, тут ёсць некалькі млыноў, чатыры тартакі, алярня, фолюш, фабрыка цвікоў, дзве ліцейні і дробныя прамысловыя прадпрыемствы. Аднак самае буйное прадпрыемства - фабрыка гумовага абутку "Ардаль", у Лідзе працуюць 3 000 рабочых, з іх на "Ардалі" - да 800 чалавек.

**Фірма "Ардаль"**

Фірма "Ардаль" канкурыруе з іншымі фабрыкамі сваёй галіны, размешчанымі ў Варшаве і Лодзі. У

---

323 Мордухович Мирон. Местечко Желудок // Желудок: память о еврейском местечке. Москва, 2013. С. 287-288.

324 Ярмонт Е. В тени замка Гедимина. Лида. 1995, С. 95.

325 Артыкул з канфіскаванага нумара газеты:

**"У горадзе Лідзе.**

Як мы ўжо паведамлялі ва ўчарашнім нумары, Звяз звязаў 27 гэтага месяца справакаваў у Лідзе усеагульны штрайк.

*[Абзац выкраслены цэнзурай]*

Баявікі Звязу звязаў атакавалі гарадскую электроўню і спрабавалі спыніць яе працу. У гэтым адзіным выпадку паліцыянты актыўна супрацьстаялі злачынным замахам і не дапусцілі захопу электроўні.

Скліканы Звязам звязаў мітынг у кінатэатры "Эра" сабраў узбуджаныя натоўпы, на ім выступілі генеральны сакратар Звязу звязаў Бярнацкі і шэраг членаў аб'яднання, некаторыя з іх былі камуністамі. Прамовы мелі падбухторча-рэвалюцыйны змест. Яны паказалі, што арганізатары штрайку маюць на мэце не эканамічныя патрабаванні, а палітычную дэманстрацыю. У натоўп кідаліся лозунгі: "Далоў фашысцкі ўрад", "Няхай жыве рэвалюцыя ў Іспаніі!". Гаварылася аб абароне рабочага, аб адзіным фронце пралетарыяту і іншыя вядомыя камуністычныя лозунгі.

Варта адзначыць, што большасць слухачоў прыйшла на мітынг толькі з цікаўнасці. Па ўсёй Лідзе пануе аднастайнае абурэнне супраць гвалтавання і тэрору Звязу звязаў.

*[Абзац выкраслены цэнзурай]*

Учора пачалі працаваць фабрыкі (акрамя "Ардаля") і прамысловыя прадпрыемствы. Аднак беспарадкі не ліквідаваны. Рабочыя фабрыкі "Ардаль", якія жадаюць працаваць, могуць хадзіць па горадзе толькі вялікімі групамі, інакш на іх нападаюць баявікі Звязу. Каля 800 чалавек застаюцца без хлеба, дзякуючы дэмагогіі некалькіх кіраўнікоў!

*[Абзац выкраслены цэнзурай]*

Таксама ходзяць чуткі пра сродкі на штрайк. Сярод іншага грошы ідуць ад лодзінскіх фірмаў, якія канкуруюць з "Ардалем".

Падрабязна беспрэцэдэнтную сітуацыю ў Лідзе мы абмяркуем у заўтрашнім нумары". - *Гл: W miescie Lidzie // // Slowo. 1936. № 59. - Л. Л.*

галіне вырабу гумовага абутку ёсць два сезоны: летні і зімовы. Летні пачынаецца ў студзені і заканчваецца ў чэрвені, і за гэты час выробляецца тавар, які мае меншы збыт. У зімовы час, ад ліпеня да снежня, выробляюцца галёшы, боты і іншыя больш складаныя рэчы, якія маюць лепшы попыт. А таму ў зімовы сезон працуе больш работнікаў, чым у летні. Традыцыйна пры канцы снежня пэўная колькасць непатрэбных працоўных, звальняецца. Так было заўсёды. Так было і ў 1935-м г.

28 снежня працоўныя атрымалі апавяшчэнні, і ў адпаведнасці са звычаем завод на працягу двух тыдняў спыніўся на рамонт. Аднак, паколькі заставалася шмат лішняй сыравіны для працы, работнікі ў дадатак працавалі яшчэ два дні 30 і 31 снежня, але ўжо ў колькасці на 70 чалавек меншай, чым у звычайны зімовы перыяд.

**Хімічны звяз і Звяз звязаў**

Да гэтага часу працоўныя фабрыкі "Ардаль" ужо некалькі месяцаў належалі да Прафесійнага звязу хімічных рабочых, управа якога знаходзіцца ў Кракаве. У той жа час як большасць працоўных у Лідзе належаць да Звязу звязаў, арганізацыі, пра мэты і паходжанне якой я не стаў бы пісаць у гэтым артыкуле. Звяз звязаў вядомы яшчэ і тым, што заўсёды спрабуе пераўзыйсці ў дэмагогіі аналагічныя арганізацыі і такім чынам прыцягнуць да сябе чальцоў і прадэманстраваць сваю дзейнасць. Ва ўсякім выпадку, не будзем пісаць пра рэчы, з-за якіх канфіскуюць наклад газеты, а давайце пагаворым хутчэй, пра тое, што адбылося ў Лідзе.

**Першая авантура**

Звальненне 70 рабочых выклікала скандал. 30 снежня кіраўнікі Звязу хімічных рабочых спынілі станкі і выгналі рабочых з фабрыкі, дайшло да бойкі і скандалу. Фабрыка звярнулася ў паліцыю і атрымала там дапамогу. Аднак затэрарызаваныя рабочыя спынілі працу насуперак сваёй волі. Пачаліся нудныя перамовы са Звязам хімічных рабочых, і нечакана былі вылучаны дэманстратыўныя патрабаванні, такія як падвышэнне агульных заробкаў на 25 %, праца летам у поўным "зімовым" складзе і г. д. Перамовы былі сарваныя.

**Калі выгналі паліцыю**

20 студзеня фабрыка "Ардаль" пачала працаваць, папярэдне вывесіўшы абвесткі, што прымае на працу работнікаў. Работнікаў патрэбна некалькі сотняў! Натуральна дэмагогі са Звязу пачалі шчыраваць сярод працоўных. Дырэкцыя фабрыкі звярнулася па дапамогу ў паліцыю і ў другі раз атрымала яе. Перад фабрыкай, каб не дапусціць эксцэсаў, паўсталі паліцэйскія пасты.

Што ж рабілася на трэці дзень? На трэці дзень да фабрыкі прыбылі баевікі Звязу звязаў. Што гэта такое? А тое самае. Звяз звязаў хоча пераўзыйсці Прафесійны звяз хімічных рабочых і паказаць рабочым, што яго дзеянні больш эфектыўныя. Вядома, яны маюць рацыю.

Прывядзём такі факт: у тую хвіліну, калі пад фабрыкай стаў пікет Звязу звязаў, пасты паліцыі зышлі. Па чыёй камандзе баевікі Звязу звязаў не дапусцілі працоўных на фабрыку? Фабрыка спынілася, была вывешана аб'ява, што яна не будзе працаваць неабмежаваны тэрмін.

Няма пра што казаць! Уся Ліда можа бачыць, што са Звязам звязаў змагацца немагчыма.

Такім чынам Прафесійны звяз хімічных рабочых пераможаны. Публічна і афіцыйна супраць дырэкцыі "Ардалю" выступае Звяз звязаў. Кіраўніком гэтай дэмагагічнай групы ў Лідзе ёсць "пан прафесар" Брыльскі, настаўнік тэхнічнай школы. Але ў Ліду з Варшавы адмыслова едзе пан Бярнацкі, прадстаўнік цэнтральнай управы і пан Клюкоўскі з Вільні. Наступны этап перамоў з фабрыкай не можа даць ніякіх вынікаў. Звяз звязаў жадае захапіць пад свае "клапатлівыя крылы" 800 рабочых, але яны гэтага не жадаюць. Рабочыя абураны, яны ў сябе дома маюць сем'і, яны хочуць працаваць і зарабляць.

**Палка!**

Але ў Звяза звязаў ёсць выдатны сродак: баевікі. У горад выходзяць людзі, якія заўжды маюць у руках палкі. І б'юць "штрайкбрэхераў". Спраў пра збіццё шмат, яны накіроўваюцца да пракурора.

**Пагалоскі пра грошы**

Варшаўскі "Час" надрукаваў 13 лютага артыкул пра "Ардаль", у якім згадваліся чуткі, што ў лідскі штрайк заангажаваны грошы канкурэнтных фірм з Варшавы і Лодзі. Абмяркоўваючы падзеі ў Лідзе, адзначым для сябе і інфармацыю "Часу".

**Але, як гэта назваць?**

З-за нашай учарашняй інфармацыі быў канфіскаваны наклад газеты. З-за таго, што мы напісалі: лідскі староста падтрымлівае штрайкавую акцыю Звязу звязаў. Гэта не адпавядае праўдзе? Выбачайце, але паўтару тое, што казалі мне рабочыя.

Адзін з іх распавёў:

- Пойдзем на спатканне з "нашай" дэлегацыяй, яны вяртаюцца ад старасты, і яны ўсё нам раскажуць.

- Якой дэлегацыі?

Рабочыя хочуць працаваць, а Звяз звязаў ім не дае. Паліцыя не забяспечвае ім бяспекі падчас працы. Таму рабочыя "Ардалю" вырашылі заснаваць свой уласны прафсаюз і звярнуліся з гэтай справай да ваяводы. Ваявода паставіўся станоўча, але для залатвення фармальнасцяў, накіраваў рабочых да мясцовых улад, г. з. да лідскага старасты. "Фармальнасці" цягнуцца ўжо месяц! Гэта займае шмат часу! Потым рабочым сказалі, што яны не могуць легалізаваць прафсаюз, а могуць стварыць толькі "таварыства". Давялося ўсё перарабляць. Потым тое, потым другое…

Зараз я іду і сустракаю дэлегацыю, якая вяртаецца ад старасты. Ну і што скажыце?

- Стараста сказаў, што дасць адказ у належны час. Але рэферэнт паведаміў, што перадасць паданне ў ваяводства не пазней за 15 сакавіка! (артыкул надрукаваны 1 сакавіка 1936 г. - *Л. Л.*).

- Чаму?

- Бо, ведаеце, стараста трымаецца за гэты Звяз звязаў (так кажуць рабочыя). Не ведаем, што рабіць, проста няма як жыць. Разумееце, мы цяпер можам хадзіць па горадзе толькі групамі, а калі ідзеш адзін, дык альбо каменем альбо палкай па галаве атрымаеш - яны нас зусім затэрарызавалі. Няма да каго звяртацца, няма ў каго прасіць! Працу ў нас забралі і яшчэ і б'юць.

- Каб не гэты Звяз звязаў, - кажа другі, дык даўно б ужо дамовіліся. У нас дома галодныя сем'і.

З гэтага вынікае, што староства чыніць пэўныя перашкоды ў справе легалізацыі рабочага прафсаюза, які хоча працаваць, а не падпарадкоўвацца Звязу звязаў! І гэтак цягнецца ўжо даўно.

**Дзень 27 лютага ў Лідзе**

Гэта дзень адзін з прамоўцаў на мітынгу назваў "эпахальным". І мы насамрэч схільныя лічыць яго такім. Гэта быў нечуваны дзень! Не буду паўтараць дэталі з канфіскаванага ўчора нумара нашай газеты. Коратка толькі скажу, што ўвесь горад быў акупаваны баевікамі Звязу звязаў, якія тэрорам прымусілі ўсіх спыніць працу. Нават прыватных рамеснікаў. Горад выглядаў мёртвым. Па вуліцах хадзілі індывідуумы з чырвонымі паскамі на рукавах.

- Гэта быў дзень дыктатуры пралетарыяту ў Лідзе, - кажа адзін з лідзянаў.

- А паліцыя?

- Падобна, стараста даў распараджэнне не перашкаджаць "святу працы".

Не было дрожак, не было кіно, афіцыянтаў - наогул, ніхто не працаваў. Гэта быў вялікі агульны штрайк з выразным палітычным кантэкстам. Горад як быццам апанавалі чужынцы ці ўсталявалася міжкаралеўе. Што ж дзіўнага - у такой сітуацыі тлумы павалілі на аб'яўлены мітынг у кіно "Эра".

**Мітынг у кіно "Эра"**

Першым выступіў Бярнацкі з крытыкай польскага палітычнага ладу і ў першую чаргу Фонду працы.

Потым выступіў член Звязу звязаў Станіслаў Кісель, які ў свой час быў выселены са Свянцянскага павета як з памежнага паса.

Потым Абрам Гельман.

Потым Баляслаў Карабач са Звязу звязаў.

Сакратар гімназіі і член Звязу звязаў Віктар Гульбіновіч.

Чыноўнік скарбовай управы, член Звязу звязаў Юзаф Міркоўскі.

Не буду пераказваць, што публічна казалі гэтыя спадары пра фронт пралетарыяту, пра Іспанію, пра Італію, як яны крычалі: "Далоў фашызм!". А ў канцы спявалі Інтэрнацыянал!

І ўсё гэта нібы таму, што Звяз звязаў хоча прадэманстраваць сваю моц супраць адной лідскай фабрыкі.

*J. M.* [Мацкевіч Юзаф] *Jak to wygladalo w Lidzie // Slowo. 1936. № 60.*

Пасля артыкула, рэдакцыя дадала наступны тэкст:

*"Некалькі дзён таму Бярнацкі, які, як мы пісалі ўчора, кіруе страйкам у Лідзе, аказваецца, быў тыдзень таму ў Вільні, дзе адразу пасля прыбыцця з ім адбыліся непрыемныя прыгоды. А менавіта, у ноч з суботы на нядзелю Бярнацкі на вуліцы Завальнай быў так збіты, што яму прыйшлося звярнуцца па дапамогу да лекара".*

**Праўдзівае аблічча і неверагодныя подзвігі Звязу звязаў у гуце шкла "Нёман"**

Пасля беспрэцэдэнтнай акцыі Звязу звязаў у Лідзе кіраўнікі гэтага аб'яднання кінуліся на іншы прамысловы аб'ект, а менавіта на гуту шкла "Нёман" пад Лідай.

Работа на "Нёмане" - далейшы этап крымінальных дзеяў Звязу. Аперацыя праводзілася з выкарыстаннем дэмагогіі, тэрору, камуністычных лозунгаў і, вядома ж, грошай. Злачынствам я дазволю сабе назваць гэта не з-за метадаў, а з-за выніку справы: павелічэнне беспрацоўя і галечы ў нашым краі. Прамыслоўцы, чые варштаты працы будуць разбураныя, звычайна яшчэ будуць мець дастаткова грошай, каб пакінуць краіну, але рабочыя застануцца без даху над галавой і наўзамен атрымаюць толькі членскія білеты Звязу.

Бо акцыя Звязу звязаў не мае дачыненне да абароны інтарэсаў працоўных.

Гэта не эканамічная, а палітычная акцыя, якая адмаўляе чарговыя дамоўленасці з працадаўцамі і высоўвае новыя патрабаванні, любой цаной падштурхоўваючы да непаразуменняў. Кіраўнікам Звязу не цікава палепшыць умовы жыцця працоўных, ім важна атрымаць уплыў сярод гэтых працоўных. З якой мэтай? Мой Божа! Партыйныя кар'еры, грошы, пасады ў партыйных штабах … Але, пакінем гэтыя справы для наступнага артыкула.

Так адбываецца паўсюдна, дзе працуе Звяз звязаў. Так было і ў Лідзе, так ёсць на "Нёмане". Бо, што такое гута шкла "Нёман"?

**Гута ў Нёмане**

Велізарная, на амерыканкі манер пабудаваная кампанія, якая прадае свае вырабы не толькі на тэрыторыі Польшчы, але і экспартуе ў Францыю і Англію. Прадпрыемства знаходзіцца ў нашым краі, у Навагрудскім ваяводстве, якое, як і Віленскае, ёсць найменей прамысловае ў Рэчы Паспалітай. Штрайк абясцэньвае высілкі ўлады і таму мае асаблівае значэнне для нас. На тэрыторыі былога Вялікага Княства мы не можам працягваць паляпшаць эканамічны стан маючы цяжкія геапалітычныя варункі. Але калі нам удаецца нешта паставіць на ногі, прыходзяць засланцы з Варшавы і Лодзі,

прыходзяць асобы са Звязу звязаў і ўсё нішчаць.

Аднак, не буду пісаць пра гуту "Нёман", на якой працуе каля 700 рабочых з 2000 жыхароў фабрычнага мястэчка. Таксама я не збіраюся ўваходзіць у ацэнку эканамічных адносін паміж спадарствам Столе і іх рабочымі. Там, дзе ёсць працадаўца і працоўны, заўсёды павінны быць і эканамічныя канфлікты. Я хацеў бы толькі паспрыяць справе выкрыцця сапраўднага аблічча спадароў са Звязу звязаў, якіх, здаецца, таксама менш за ўсё цікавіць эканамічная падаплёка справы. Таксама дазвольце мне прывесці некаторыя сумныя факты, якія даказваюць, што за спіной гэтых спадароў ёсць іншыя спадары, якія, здаецца, на сваіх пасадах менш за ўсё могуць падтрымліваць рэвалюцыйную, антыдзяржаўную справу. Справа ідзе пра некаторых асобаў, адказных за мір і парадак у сваім павеце, але якія сваімі паводзінамі дэманструюць адваротнае.

**Дзіўны збег акалічнасцей**

Спакой і настрой узаемнага даверу панавалі на "Нёмане" ажно да кастрычніка 1935 г., да таго часу, калі, вядомы нам па Лідзе актывіст Звязу звязаў, настаўнік з Ліды Брыльскі, пачаў сваю дзейнасць на пасадзе старшыні мясцовага аддзялення прафсаюзаў работнікаў і работніц гуты шкла "Нёман". Потым адначасова ў асаду (паселішча) "Нёман" прыбылі актывісты прафсаюзу з Ліды Малеўскі і Міркоўскі (апошні - дзяржаўны чыноўнік Лідскай скарбовай управы). Невядома, ці яны ўзялі адпачынак у свайго кіраўніцтва, аднак вядома, што яны пачалі класавую агітацыю сярод работнікаў. Так трымалася да лістапада. У Нёмане знаходзіўся пастарунак паліцыі. З-за дзіўнага збегу акалічнасцяў у часы, калі растуць хваляванні, лідскі стараста палічыў мэтазгодным з 24 лістапада зачыніць пастарунак, нават не гледзячы на тое, што ўладальнікі гуты прасілі пакінуць тут паліцыю да траўня.

**Хто спакусіў рабочых?**

У верасні, занепакоены раптоўнай агітацыяй у спакойнай яшчэ гуце, уладальнік гуты Столе едзе да лідскага старасты Чушкевіча і просіць дапамагчы праясніць сітуацыю і супакоіць людзей. Але стараста адсылае яго да ... пана Брыльскага.

Што ж рабіць? Брыльскі таксама стаў уладай. Што тут скажаш?

Потым нейкі чыноўнік фабрыкі спакусіў работніцу. Потым былі звольнены два работнікі. Добра. Работнікаў зноў узялі на працу, а па справе работніцы пачалося следства. Аказалася, што ў гэткіх справах засвяціўся не адзін чыноўнік. І гэта ўсё? Так, усё. Эканамічных праблем не было.

**Партыйны дыгнітрый з Варшавы**

Але ў снежні 1936 г. з Варшавы прыязджае адзін з лідараў Звязу звязаў Бярнацкі, які покуль нічога не робіць, а толькі піша "агрэсіўны" артыкул у прафсаюзную газету "Рабочы Фронт".

Але людзі працуюць.

Бярнацкі зноў прыязджае ў "Нёман" разам з прафсаюзным лідэрам з Баранавіч Васевічам, каб паразмаўляць з уладальнікамі фабрыкі. Уладальнікі адмаўляюцца весці перамовы з Бярнацкім, яны згодны нешта абмяркоўваць толькі з дэлегатамі ад саміх рабочых, згодны нават размаўляць з панам Брыльскім, якога так настойліва рэкамендуе ім стараста, але яны не могуць размаўляць пра сваіх рабочых з кожным, хто прыедзе з розных куткоў свету. Пан Бярнацкі пакрыўдзіўся.

І стараста "быў вымушаны" заступіцца за Бярнацкага.

**Эканамічных праблем усё няма**

З таго часу пачаліся пастаянныя сустрэчы, перамовы і нарады. Увесь час нешта новае, нейкія новыя перашкоды для паразумення. У асноўным гэта дробязі. Напрыклад, 19 студзеня адбылася нарада ў інспектара працы. Узнімаюцца пытанні пра адпачынкі, працоўныя арганізацыі і іншае. Але покуль рабочыя не высоўваюць эканамічных патрабаванняў, не патрабуюць павелічэння ставак або нечага падобнага.

Тым не менш, з-за працы Звязу звязаў пачынаецца бязладдзе. Распаўсюджваецца агітацыя пад камуністычнымі лозунгамі. Мір парушаецца. Яд дэмагогіі труціць. Усё часцей нехта прыходзіць і сыходзіць, з'яўляюцца новыя агітатары.

**Праз каго стараста перасылае дзяржаўныя лісты**

Пачынаецца непадпарадкаванне адміністрацыі, рабочыя нярвуюцца. На гэтым фоне ў канцы студзеня звальняюць рабочага. Гэта прыводзіць да новых спрэчак з адміністрацыяй. Дзевяць работнікаў адмаўляюцца ад працы. Ідуць скаргі ў Лідскі аддзел Звязу звязаў.

4 лютага ўладальнікі гуты атрымліваюць афіцыйны ліст ад лідскага старасты, якім яны запрашаюцца на перамовы, прызначаныя на 6 лютага. Гэты ліст ад старасты перадае спадарам Столе іх уласны рабочы, чалец Звязу звязаў, ён ведае і змест ліста.

**З сакавіка**

Пра гэтыя справы я пішу падрабязна, бо лічу іх характэрнымі для метадаў дзейнасці Звязу звязаў. Паранейшаму няма патрабаванняў пра заробкі. 8 лютага ў інспектара працы адбыліся перамовы па справе звольненага рабочага, і зноў дасягнута згода.

Але ў канцы месяца з Варшавы з'яўляецца Бярнацкі і зноў пачынае агітацыю. На гэты раз за агульны штрайк, але эканамічных пытанняў не высоўвае …

Што трэба гэтым спадарам? - спытаецца чытач. Рэвалюцыйныя лозунгі.

Толькі 3 сакавіка прыязджае інспектар працы з умовамі. Гэтым разам ён прапаноўвае вярнуцца да рабочых ставак 1933 г. і прыняць умову[326], каб уласнікі

[326] З гэтага бачна, што пасля 1934 г. стаўкі былі "парэзаныя" - *Л. Л.*

гуты не маглі без згоды Звязу звязаў звальняць і прымаць на працу рабочых.

Магчыма, фабрыканты плацяць занадта нізкія стаўкі. Магчыма, такія, якія падказвае ім камерцыйны разлік. Але мы не пра тое. Мы пра тое, што гэтыя патрабаванні з'явіліся толькі 3 сакавіка.

**"Кур'ер Віленскі" ведаў**

4 сакавіка выбухнуў штрайк.

Верагодна, кіраўнікі Звязу звязаў напішуць пра яго, як пра штрайк у Лідзе: *"Гэта спантанны і дынамічны штрайк стаў выразам калектыўнага пратэсту рабо-чых…"*.

А я скажу, што ён не мае дачынення да рабочых людзей і яго арганізавалі некалькі добра аплачаных партыйцаў. Якой арганізацыі? Гэта бачна па органе, які атрымлівае дзяржаўныя субсідыі і падобны старому кавалю ў байцы пра расійскую паліцыю, які *"ведаў аб крадзяжы да яго здзяйснення"*. Гэты орган ёсць "Кур'ер Віленскі", які ў нумары ад 3 сакавіка заўчасна змяшчае падрыхтаваны камунікат Звязу звязаў. [...]

От, і ганьба! Бо штрайк выбухнуў 4 сакавіка![327] Вось праўда пра "стыхійны пратэст і свята працы" ва ўрадавым органе: камунікат напісаны за некалькі дзён!

**Тэрор Звязу звязаў**

Па маім меркаванні, гэты штрайк не мае нічога супольнага з людзьмі працы, бо значная іх колькасць не жадала штрайкаваць, але паддалася з-за тэрору.

Гута працуе. 175 рабочых працягваюць працу. А астатнія? Каб спадары са Звязу не маглі сказаць, як казалі ў Лідзе: *"Усе добраахвотна пакінулі свае варштаты. Не было ніякага ціску, што пацвердзіць кожны паважаны і аб'ектыўны лідзянін"*.

Дазволю сабе дадаць некалькі фактаў, якія ілюструюць нам, як працуюць баевікі Звязу Звязаў і чаму большасць рабочых не працуе:

4 сакавіка выбіты вокны ў хатах Стэфана Лукашэвіча і Францішка Глейзара. У гэты дзень адбыўся напад на Антона Швана, Філіпа Урбана і Франішка Глейзара (можа гэтыя рабочыя не жадалі працаваць?)

5 сакавіка, ужо пасля з'яўлення паліцыі, пагражалі забойствам ці збіццём Станіславе Мішковіч, Чаславу Філіповічу, Уладзіміру Шушчэўскаму, Вітольду Міхальскаму, Антону Бялушку. Ноччу напалі на жытло Генрыка Дэда.

7 сакавіка пагражалі ці нападалі на Вераніку Аблачынскую, Мечыслава Міхальскага, Станіслава Мішчукова, Марыю Цыбульскую, Галіна Мурынаву.

10 сакавіка спрабавалі напасці на Станіслава Шэўчыка. У той жа дзень разбілі каменем галаву Францішку Стафановічу.

11 сакавіка ўначы павыбівалі вокны ў хатах Аблачынскага, Урбана, Буйніцкай, Шэўчыка, Бялушкі. У той дзень заступілі на дарозе, не пушчаючы на гуту, Люцыну Шутовіч і Марыю Кашэўскую.

**Бярнацкі жадае нацыяналізацыі гуты "Нёман"**

Мітынгі Звязу звязаў праходзілі пад камуністычнымі лозунгамі, галоўным быў: "Далоў буржуазію". Падчас мітынгаў, прадстаўнік цэнтральнага апарата прафсаюза Бярнацкі заклікаў да нацыяналізацыі фабрыкі, і адразу па "Нёману" пайшла пагалоска, што так і будзе.

4 сакавіка і сапраўды прыехала некалькі паліцэйскіх, але 8 сакавіка яны з'ехалі з "Нёмана". Між тым, Бярнацкі прызначыў на ноч з 9 на 10-га агульны збройны збор штрайкоўцаў і пачаў агітацыю сярод сялян з суседніх вёсак. Раздаваў чырвоныя паскі і кукарды. Сітуацыя нагадвала настроі бальшавіцкай рэвалюцыі, заклікалася захапіць фабрыку і акупаваць яе.

Занепакоеныя ўладальнікі тэлефанавалі лідскаму старасту. Але старасту не маглі знайсці ні ў офісе, ні дома. Стараста быў у кіно. Таму ўладальнікі гуты звярнуліся да ваяводы ў Наваградак. Толькі пасля гэтага, па камандзе ваяводскай улады прыбыў моцны аддзел паліцыі і ўсталяваў спакой у асадзе. Таму гута і не была "акупавана" рабочымі".

*J. M. [Мацкевіч Юзаф] Prawdziwe oblicze i nieprawdopodobne wyczyny Z.Z.Z. w Niemnie // Slowo. 1936. № 74.*

# Супраць працы ў часы беспрацоўя. Чарговы штрайк у Лідзе

*Ад перакладчыка: улетку 1936 г. у Лідзе зноў пачаўся агульны штрайк. Кульмінацыяй падзеяў стаў панядзелак 15 чэрвеня.*

Ужо ў суботу (13 чэрвеня 1936 г. - *Л. Л.*) штрайкавалі некаторыя ліцейныя, цвіковы завод і млыны. У панядзелак штрайк ахапіў увесь горад. Штрайкавалі машынабудаўнічыя фабрыкі "Бэнланд" і "Поланд", фабрыка цвікоў "Дротіндустрыя", хімічная фабрыка "Карона", фабрыка гумовых вырабаў "Унігум", бровары Памірмайстра і Пупко, млыны "Аўтамат", Віленскага, Шалаховіча і Пупко, тартакі Гурвіча, Мельніка, Палячака і Рафаловіча, алярні "Шэмен" і "Аліт", кафлярні "Тануф", "Рааф" і Пупко, фабрыка сукна і лямцу братоў Жыжамскіх, лямцавая фабрыка Рабіновіча. Крамы былі адчынены толькі часткова. Часткова штрайкавала нават прыслуга, краўцы і шаўцы. У панядзелак не працавалі і кінатэатры. Пякарні не страйкавалі. Штрайк трымаўся да серады. Пры тым грамадскі парадак не парушаўся.

[327] Пра страйк у гуце шкла "Нёман" гл: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 260-264. - *Л. Л.*

**Ліда пасля штрайку**

У сераду праца паўсюдна аднавілася. Крамы працавалі ў звычайным рэжыме. Вуліцы выглядалі нармальна.

Што гэта было? Ці папярэдзілі штрайкоўцы сваіх працадаўцаў. Ці мелі яны нейкія патрабаванні? Паменшай меры, ніхто не ведаў, што адбываецца, і ніхто не чакаў штрайку. Мяркую, што нават самі штрайкоўцы не ведалі, навошта баставалі.

**Рэха штрайку**

Адразу, як прыехаў у Ліду, каб зразумець, што адбываецца, я пайшоў у адну з найвялікшых тутэйшых фабрык гумовай прамысловасці "Ардаль", тут працуе 600 чалавек. У суботу па фабрыцы толькі хадзілі пагалоскі пра штрайк. У панядзелак ніхто не працаваў, і не вядома было, на які час спынілася праца. Размаўляю з кіраўніком. У суботу ўжо хадзілі пагалоскі пра штрайк на фабрыцы, але ўсё роўна мы былі здзіўлены. У панядзелак ніхто не пачаў працаваць. Не вядома, як доўга гэта будзе працягвацца. Каб даведацца, што робіцца, мы паклікалі пастаянных прадстаўнікоў рабочых. Яны таксама не могуць нічога сказаць. Падобна, гэта ініцыятыва Звязу звязаў.

Размаўляю з адным рабочых. На ранку як звычайна яны ішлі на працу і нічога не ведалі пра штрайк. Нейкія індывідуумы затрымалі іх на вуліцы каля фабрыкі, і загадалі вяртацца дадому, бо штрайк. "Што рабіць, штрайк дык штрайк. Кожнаму хочацца, каб галава засталася цэлай". Вярнуліся дамоў.

Іду да ліцейнай братоў Шапіраў. Браты стаяць каля брамы свайго завода. Размаўляюць неахвотна, падазрона. Паказваю пасведчанне. Аднак гэта не павялічвае жаданне гаварыць. Відочна, браты Шапіры не давяраюць усяму свету. Перад фабрыкай стаіць група рабочых. Набліжаюся да іх. Завязваецца размова пра ўчарашні дзень. Яны ветліва скіроўваюць мяне да штабкватэры Звязу па вуліцы Сувальская, 22.

**Там дзе "Новае жыццё ствараем самі, і новы ўстановім лад"**

Іду па ўказаным адрасе. У глыбіні падворка, на першым паверсе. Гэта тут. Заходжу. Панурая кватэра. У глыбіні, на сцяне чырвоная стужка з нейкім надпісам. Непрытульна, панура. Уздрыгануўся. Здаецца мне, што я ўжо тут быў. Я спрабую ўспомніць, што нагадвае мне гэтая кватэра Звязу звязаў. А! Я ведаю. Так, верагодна, выглядаюць "чырвоныя куткі" у савецкіх казармах. Няма тут толькі ў куце гіпсавага бюста Леніна ... .

Нейкія людзі паказваюць мне сакратара. Я прадстаўляюся. Пытаюся пра ходу штрайку, пра прадпрыемствы, якія штрайкавалі. Дае мне інфармацыю вельмі ахвотна. Не адмаўляе што штрайк быў іхняй справай. Яны называюць гэта: "Штрайк салідарнасці". Дзякуй за інфармацыю.

**"Ахвяры" суботніх падзей**[328]

Цяпер жадаю ўбачыць у лідскім шпіталі пацярпелых у суботніх інцыдэнтах, пры якіх учора пісала адна з віленскіх газет. Яна Сэрваткі ў шпіталі няма і не было. А Станіслаў Янцалевіч і Станіслаў Варановіч трапілі не ў шпіталь, а ў ... вязніцу. Мой калега памыліўся з адрасам. Дыск і Каламыцкая цешацца добрым здароўем[329].

**У Нёман**

Ужо маю мала часу. Трэба пакінуць Ліду і наведаць Нёман, які ляжыць больш, чым за 20 км ад Ліды і дзе адбыліся самыя важныя падзеі. Аўто, калыхаючыся, нясе мяне па шашы абсаджанай па баках густымі дрэвамі. Дзе-нідзе вёскі. Маляўнічая мясцовасць, ціхі, лагодны пейзаж, які схіляе не да бойкі, а да згоды.

**Штрайк на Нёмане**

У Нёмане штрайк трывае з 4 сакавіка, але гута працуе. Учора працавалі 273 работнікі. Тыя, хто працуе, каб абараніцца ад штайкоўцаў, на працягу двух месяцаў

[328] "У суботу, у 3-4 гадзіны раніцы, на тэрыторыю фабрыкі "Нёман" прыехаў лідскі стараста Чушкевіч і камендант паліцыі з Навагрfдка. Каля адной з брам фабрыкі група працоўных (па адной версіі - каля 200 чалавек, па іншай - каля 100) затрымала воз з харчамі для штрŷікбрэхераў. Стараста падышоў да натоўпу і загадаў людзям адысці ўбок. Камендант паліцыі загадаў разысціся па дамах. Калі яго не паслухалі, камендант аддаў каманду разагнаць натоўп. Паліцыя гумовымі палкамі пачала выконваць загад. Рабочыя казалі, што паліцыянтаў было каля 50, афіцыйна паведамлялася пра 28 "служкаў закону" з дручкамі.

Натоўп разагналі, некалькі чалавек арыштавалі. Шмат рабочых было моцна збіта. У лідскую бальніцу трапілі збітыя Ян Сэрватка, Станіслаў Янцалевіч, Станіслаў Варановіч. Моцна былі збіты жанчыны: Дыск Эмілія і Каламыцкая Зоф'я. "Эластычнасць" гумовых палак на сваёй шкуры адчулі нават два цалкам нявінныя чыноўнікі фабрыкі, якіх нельга абвінаваціць у сімпатыі да рабочых - Валарчык і дызайнер Ціткоў (галоўны дызайнер і мастак гуты - *Л. Л.*). Арыштавана 6 чалавек, сярод іх Гульбіновіч - сябар рады лідскага Звязу звязаў, які кіраваў акцыяй". - *цыт па: Kurier Wilenski. № 165 (3766). 17 czerwca 1936. - Л. Л.*

[329] Аднак "Кур'ер Віленскі" надрукаваў афіцыйныя медыцынскія даведкі пра збіццё рабочых, прозвішчы якіх пералічаны вышэй. На гэты раз рэдакцыя "Слова" прамаўчала. - *гл: Kurier Wilenski. № 193 (3792). 16 lipca 1936. - Л. Л.*

не выходзілі з завода, тут начуюць і ядуць. Аднак прывозіць ежу вельмі цяжка. Сем'і тых, хто працуе, атакуюць штрайкоўцы. Размаўляю з работніцамі.

Казіміра Гінц несла ежу свайму мужу. На яе напалі і знішчылі ежу.

Ганна Шот несла ежу сваёй сястры. На яе накінуліся, уцякла, але абед разліла.

Юргель нёс абед сваёй жонцы. Калі ўбачылі, што ён крадзецца да гуты, за ім пагналіся. Ён забег у дом Гуркі і зачыніўся ў ім, нападнікі высадзілі акно і моцна збілі Юргеля.

14-ці гадовы хлопец Генрык Дэда нёс ежу бацьку. На яго таксама напалі …

І гэтак бясконца. Пакрыўджаныя расказваюць мне свае гісторыі. Адчуваецца ўзаемная нянавісць.

Я наведаў гуту, каб паглядзець, як жывуць у асадзе. Спалі на стружках, якія выкарыстоўваюцца для ўпакоўкі шкла. Адчуваюць сябе як у вязніцы. Падабенства вязніцы дадае расклад прыбірання, які вісіць на сцяне. Толькі часам, крадучыся, удаецца праскочыць дадому і вернуцца назад, на фабрыку.

**Дэманстрацыя**

Першы раз дэманстрацыя адбылася тут 1 чэрвеня каля 10 гадзіны вечара. Натоўп з 250 чалавек рушыў да фабрычнай брамы і на плошчу каля заводакіравання з песнямі "Чырвоны штандар" [330], "На барыкады" [331] ("Czerwony sztandar", "Na barykady") і выкрыкамі супраць тых, хто застаўся працаваць. ...

Удзень 9 чэрвеня паўтарылася тое самае. Паліцыя нічога не змагла зрабіць, і натоўп ад заводакіравання пайшоў да дамоў працуючых рабочых з выкрыкамі: "На шыбеніцу іх!", "Вылазьце з нор".

11 чэрвеня каля 8 вечара натоўп зноў рушыў да фабрыкі спяваючы "Чырвоны штандар". На Спартыўнай плошчы паліцыя тры разы заклікала разысціся, але без вынікаў.

З фабрыкі на чыгуначную станцыю звыкла курсуе ваганетка, якую цягне адзін конь (па вузкакалейцы - *Л. Л.*), так званая "лорка". Фабрыка атачоная пікетамі. Натоўп не пусціў "лорку", якая везла пошту і чына паліцыі на станцыю Нёман (станцыя Нёман знаходзіцца ў вёсцы Сялец - *Л. Л.*). Крычалі: "Не пусцім лорку з фабрыкі да поезда на станцыю!", "Будзем так сядзець, аж да канцы штрайку". Кабеты сядзелі на рэйках, і значны ўчастак дарогі быў заняты натоўпам.

Натоўп моцна ўзбуджаны.

Чатыры паліцыянты спрабавалі супакоіць натоўп, каб даць дарогу "лорцы", але нічога не змаглі зрабіць, натоўп хапаў за карабіны, пасы і рукі паліцыянтаў. Седзячы ў "лорцы" чын паліцыі крычаў людзям, што ён чыноўнік і едзе па дзяржаўнай справе. Але ўсё без выніку.

У гэты дзень, ніхто з працоўных не пакінуў фабрыку, баючыся быць адрэзаным ад сваіх варштатаў. Пікеты не змаглі перашкодзіць працаваць, але цалкам прадухілілі падвоз харчавання. Таму адбыліся сваркі і бойкі штрайкоўцаў са сваякамі працоўных, якія неслі прадукты сваім родным.

На самой фабрыцы былі ўзнёслыя настроі. Працоўныя рабочыя з цяжкасцю ўтрымліваліся адміністрацыяй ад боек з тымі, хто крыўдзіў іх сваякоў. Яны хапаліся за жалезны інструмент, і ў любы час магла пачацца крывавая масакра.

Познім вечарам рабочыя, якія блакавалі фабрыку, падышлі пад браму і пачалі абзываць працоўных рознымі мянушкамі. Гэта амаль што давяло да штурму брамы, бо з яе абодвух бакоў сабраліся ўзбуджаныя ўзаемнай нянавісцю рабочыя.

Людзі, які працавалі на фабрыцы засталіся галоднымі, бо ў гэты дзень не атрымалі ежы.

**Назаўтра**

13 чэрвеня каля 2-3 ночы наступіла часовае заспакаенне. Але разышлася пагалоска, што каля 3 - 4 раніцы будзе спроба штрайкоўцаў уварвацца на фабрыку.

Аднак гэтага не адбылося.

А палову чацвёртай гадзіны на гуту прыехаў лідскі стараста з камендантам паліцыі, і была зроблена спроба прапусціць на фабрыку воз з хлебам. Адразу натоўп з 80 ці 100 чалавек атачыў воз і не слухаючы ні старасту ні каменданта паліцыі не пусціў яго на гуту. Камендант адказваў натоўпу. Было загадана разагнаць людзей. 26 паліцыянтаў з гумовымі дручкамі выканалі каманду і хутка разагналі натоўп.

**У дырэкцыі фабрыкі**

Мы спыталі пана Столе, што робіцца, каб ліквідаваць штрайк і ці ёсць шанцы дамовіцца?

Перамовы ідуць надта цяжка з-за пазіцыі Звязу звязаў і яго патрабаванняў звольніць тых рабочых, якія не кінулі працу. Таксама штрайкоўцы патрабуюць падвысіць заробкі ад 40 да 120%. Не могуць быць прыняты шмат іншых умоў, якія яны выстаўляюць, бо гэта можа паралізаваць нармальнае функцыянаванне кампаніі. Сярод штрайкоўцаў было шмат тых, хто хоча працаваць, але з-за пагроз баяцца прыходзіць на гуту.

Увесь час штрайку фабрыка часткова працавала”.

*IKS. [Мацкевіч Юзаф] Przeciwko pracy w czasach bezrobocia. Ponowny strajk w Lidzie // Slowo. 1936. № 166.*

---

[330] Чырвоны сцяг ( фр. "Le drapeau rouge", песня таксама вядомая як "Наша кроў даўно ліецца катамі") - песня швейцарскіх анархістаў, напісаная ў 1877 г., з 1882 г. стала рэвалюцыйным баявым гімнам польскага пралетарыяту. - *Л. Л.*

[331] Польская і руская рэвалюцыйная песня часоў рэвалюцыі 1905 г. - *Л. Л.*

# Суд вялікіх недагаворак. Першы дзень камуністычнага працэсу ў Лідзе[332]

### Дзіна не саромеецца

Абвінавачаная Дзіна Лернар падчас абедзеннага перапынку ходзіць у прыбіральню. Выглядае даволі рашучай, ад холаду ў калідоры пад шыю закрываецца сваім паліто. За ёй ступае тоўсты паліцыянт з зацягнутым пад барадой пасам фуражкі.

- Дзе гэта?

Тут, у Лідзе не шыкоўная прыбіральня. Ідуць у яе разам. Але Дзіна Лернар не саромеецца ісці туды з такім вялікім мужчынам. Яна прызвычаілася. Хвіліну таму на працэсе яна шчыра прызналася, што з пятнаццацігадовага ўзросту, а зараз ёй каля трыццаці, вось ужо пятнаццаць гадоў яна сядзіць пад арыштам, у вязніцах, судах - увесь час за адно і тое ж, увесь час за камуністычную дзейнасць.

Увесь час адна і тая ж карціна. Лавы абвінавачаных поўныя яўрэямі, калідор лідскага акруговага суда[333] напоўнены яўрэямі. Як у хедары[334]. За паўгадзіны пачынае прыходзіць "грамадскасць". Пра такія, як гэты працэс, звычайна пішуць: "Выклікаў вялікую зацікаўленасць пры перапоўненай зале ...". Гэты значыць у зале яўрэі і чыноўнікі.

### Замест кіно

Спадары следчыя з партфелямі, спецыялісты па "грамадска-палітычных" справах краю. За сталом ля журналістаў штурхаецца нейкі судовы рэферэнт, ён удома. Спадарыні машыністкі. Бо чым яшчэ заняцца ў Лідзе? Хіба пайсці ў тое самае кіно "Эра", у якім Бярнацкі … у якім ўсё гэта і адбывалася і пра што зараз ідзе разбіральніцтва, толькі не на экране, а ў нашай палітычнай рэчаіснасці і ў судзе. Але асобы з кінатэатра даўно ўсім вядомыя, і таму адна з найпрыгажэйшых практыкантак, калі ідзе гаворка пра *"змену існага ладу і адлучэнне часткі тэрыторыі ад польскай дзяржавы"*, хавае пазяханне ў муфце і чытае раман.

Душна. За вокнамі снег і мароз. Весела звоняць званочкі саняў. А тут душна.

Нейкі засумаваўшы слухач заснуў у крэсле. Дворнік праходзіць асцярожна, каб не штурхнуць яго. Мусіць, значная персона. "Спі мой сябар …, і хай табе прысніцца лепшая Польшча!".

### Заўсёды тыя самыя

Дык вось, з аднаго боку камуністы - самая вялікая небяспека, небяспека для ўсяго свету, а не толькі для нас. А з іншага … Ах, гэтыя зноў нашы! Гэтыя сведкі абвінавачвання з іх бюракратычным светапоглядам і тыповымі думкамі, якія так добра кладуцца на лісты афіцыйных справаздач. Пераважна тыя, чый абавязак - бараніць дзяржаву ад змены ладу і адрыву часткі тэрыторыі. Калі вы іх раз за разам слухаеце на такіх працэсах, нараджаецца сумненне, ці змогуць яны, тыя, якія прысягалі справядлівасці, сумясціць яе з палітычным накірункам свайго кіраўніцтва. Бо як гэта аб'яднаць?

### Не камуністы, а прафсаюз Звяз Звязаў (ЗЗ) імкнуўся да "Адзінага фронту"

Сведка, рэферэнт бяспекі Наваградскага ваявод-

---

[332] Кароткая газетная інфармацыя: ***"Першы дзень працэсу**. Ліда. Падсудныя: Абрам Гельман, некалькі разоў сядзеў за камунізм; Абрам Ваўкавыскі, таксама раней караны; Шлома Рыбацік, Лейба Левін, Сана Гаперштэйн, Абрам Арцішэўскі, Мардух Каброўскі, Рафал Гершман, Канстанты Грэбень, караны; Арсені Пашкоўскі, Дзіна Лернар, Вацлаў Вайтулевіч. Усім ад 26 да 30 гадоў, усе раней караліся і вярнуліся з вязніцаў незадоўга да падзеяў, усе былі членамі гарадскога камітэта КПЗБ. Толькі некаторыя з іх насамрэч былі рабочымі "Ардаля", большасць - ці краўцы, ці цесляры па прафесіі і, відочна, не мелі ніякага дачынення ні да "Ардаля", ні да Звязу хімічнай прамысловасці.*

*Пасля таго, як было зачытана абвінаваўчае заключэнне, яны доўга апавядалі на дрэннай, забруджанай яўрэйскімі словамі мове, пра крытычныя ўмовы на фабрыцы і пакуты рабочых, але не растлумачылі, чаму больш за ўсё яны выступалі за класавую барацьбу ў Еўропе.*

*У штрайку ўдзелу не прымалі. Адзін за адным адмаўляюцца ад удзелу ў КПЗБ, агітавалі толькі за прафсаюз - Класавы звяз, які павінен быў аб'яднаць у сябе працоўны элемент. Некаторыя з падсудных, напрыклад Грэбень, прызнаюцца, што на мітынгу ў кінатэатры "Эра" спявалі рэвалюцыйныя песні, асабліва "Чырвоны штандар". Той жа Грэбень прызнаецца, што баяўся арышту і таму спрабаваў уцячы ў СССР, каб потым патрапіць у Іспанію.*

*Увесь час падсудныя кажуць, што дзейнічалі ў інтарэсах рабочых і сустракаліся ў аднаго антыдзяржаўніка, вядомага паліцыі.*

*Суддзя:*

*- А што вы там рабілі?*

*- Мы раіліся пра паляпшэнне становішча рабочых і вывучалі эсперанта.*

*Абарона прадстаўленае адвакатамі: Сукянніцкай, Петрусевічам, Хылям і Перайштэйнам". - цыт па: Z. A. Z.Z.Z. i Zwiawzek klasowywzniecili "rewolucje" lidzka // Slowo. 1937. № 22. - Л. Л.*

[333] Гэта будынак былой гімназіі Навіцкай, зараз - частка корпуса Лідскага ліцэя. - *Л. Л.*

[334] Хедар - пачатковая яўрэйская школа. - *Л. Л.*

ства Вайнкрайнц, той самы, ужо вядомы нам па лідскай смуце. Ён гаворыць, быццам чытае акт абвінавачвання, кажа, што адбылася змена тактыкі Камінтэрну і камуністы сёння імкнуцца да саюзу з усімі левымі, да адзінага фронту з радыкаламі ўсіх адценняў, ажно да "хрысціянскіх" і г. д., пра што мы добра ведаем. Таму і атрымаўся саюз камуністаў з прафсаюзам ЗЗ.

Але ўжо даказана і ўстаноўлена, што дзеячы прафесійнага Звязу працоўных хімічнай вытворчасці тройчы звярталіся да ЗЗ з прапановай адзінага фронту, і менавіта Бярнацкі з ЗЗ адмаўляўся і адкідваў прапановы, ажно покуль з трэцяга разу "адзіны фронт" не быў прыняты.

Абаронца, спадарыня Заштаўт-Сукянніцкая, пытаецца ў Вайнкрайнца, ці не называў ён Бярнацкага "галоўнай асобай"? Ці не ён, некалі, цвердзіў на папярэднім працэсе, што толькі пасля яго арышту ў Ліду прыйшоў спакой?

Памятаю і сам, што чыноўнік бяспекі казаў гэта, але чыноўнік лічыць сваім абавязкам ухіляцца ад адказаў і блытаць адказы на пытанні абароны - так, ён казаў нешта такое, але меў на ўвазе нешта іншае … гэта значыла не тое.

- Усё ж Бярнацкага арыштавалі раней за гэтых вось яўрэяў на лаве падсудных?

- Раней.

- Яго асудзілі, ён быў прызнаны злачынцам, небяспечным злачынцам, бо ён стаяў на чале акцыі ў Лідзе і трымаў ў сваіх руках усе ніці.

-Так, ён кіраваў і камуністам Гельманам, і Кісялём, і камуністкай Лернар, і Гершманам, і ўсімі.

**Што казаў начальнік бяспекі Бярнацкаму ў кавярні "Амерыканка"**

І тут сведка адкрыта, перад усімі, яшчэ раз пацвярджае тое, што і так усім вядома: Бярнацкі дзейнічаў ад імя цэнтралі ЗЗ у Варшаве. Гэта не навіна. Але даведваемся сапраўдную вялікую навіну. За што арыштоўвалі Бярнацкага і за што ён атрымаў 13 гадоў турмы як небяспечны дзяржаўны злачынца, пры тым, што мог гэтага ўнікнуць. Мог, бо рэферэнт бяспекі спадар Вайнкрайнц разам з начальнікам аддзела бяспекі Наваградскага ваяводства прыйшоў да яго ў лідскую кавярню "Амерыканка", калі Бярнацкі піў каву, і яны сказалі яму: "З'язджай з Ліды і спыніся, бо, калі не супакоішся, будзеш арыштаваны!".

Пачакайце, тут нешта не так. Бо следчыя і іншыя супрацоўнікі следчай службы расказваюць, з якой вялікай цяжкасцю высачылі і гэтую Лернар, і гэтага Гельмана, і астатніх падсудных. Як сачылі, як збіралі доказы, як закідвалі сеці, каб яны не ўцяклі. А тут начальнік аддзела бяспекі кажа: “Уцякай, а то цябе арыштуюць!”

А ён не ўцёк, бо быў занадта ўпэўнены ў сіле тых, хто яго паслаў і хто ім кіраваў. І ўсё ж атрымаў 13 гадоў турмы, бо быў сапраўдным злачынцам.

**А дзе спадарства Шурыг і Марачэўскі?**

Дык чаму ж тут, у Лідзе, на лаве падсудных не сядзяць спадары Марачэўскі і Шурыг ды іншыя, якія кіравалі Бярнацкім у адзіным фронце з камуністамі, а сядзіць толькі Гельман з таварышамі, сядзяць тыя, кім кіраваў Бярнацкі з дазволу Марачэўскага?

Адзін з трох суддзяў, засумаваўшы ад "палітычнага лавіравання" сведкі, кажа яму:

- Адкажыце, калі ласка, толькі коратка: што даў арышт Бярнацкага для супакаення антыдзяржаўнай акцыі, і другое: што даў арышт Гельмана з таварышамі? Якая розніца паміж арыштамі?

Але коратка адказаць сведка не можа. Пачынае блытана балбатаць стандартныя фразы.

- Коратка, - паўтарае суддзя.

- Я да гэтага і імкнуся.

І замест адказу, зноў мутныя разважанні.

Усе пазяхаюць. Сакратарка, якая сядзіць каля мяне, пачынае новы раздзел рамана. Паліцыянты з пасамі пад барадой, пераступаюць з нагі на нагу.

**Галоўны сведка і галоўны абвінавачаны**

Бо, Вайнкрайнц - левая рука тых, хто падтрымліваў у нас ЗЗ, і ён не можа іх кампраметаваць, але перад гэтым ён "зліў" Бярнацкага дык не можа не прызнаць, што Бярнацкі дзейнічаў ад імя ЗЗ. Таму ў канцы ён не ведае, што яму казаць. Яго паказанні трашчаць па швах, і белыя ніткі, якімі быў сшыты адзіны фронт ЗЗ і камуністаў, вылазяць на верх.

Галоўны сведка абвінавачвання жадаў бы раптам абяліць ЗЗ, бо як жа там было з тым начальнікам бяспекі і з тым старастам Чушкевічам і … з ім самім, дык бярэ аргумент, што Гельман з кампаніяй у свой час перамог ЗЗ. "У свой час".

Галоўны абвінавачаны Гельман, камуніст, спрытны яўрэй, малады, гаваркі:

- Чаму сведка кажа, што камуністы змагаліся з ЗЗ, а сам да гэтага казаў, што камуністы шукалі саюза з іншымі левымі арганізацыямі?!

Тармозіць. Зноў няўцямныя тлумачэнні, корпанне ў нататках, фразёрства, фразёрства.

**Памятаю гэтыя 11 тысяч брашур…**

Сведка, кіраўнік следчай службы з Вільні Бляcмановіч. Кажа пра арышт Дзіны Лернар. Перад слухачамі паўстае цэлы патаемны, падпольны свет тых, хто робіць усё, каб нас усіх высадзіць у паветра.

Падсудны Вайтулевіч едзе ў Вільню да свайго швагра Плеўды. Убогая кватэра на прадмесці. Гуляюць у шахматы. Раптам уваходзіць маладая яўрэйка. Гаворыць пароль. Яны даюць ёй ліст. Выходзіць. Чакаюць. Праз дзве гадзіны вяртаецца Лернар з кошыкам. Просіць 6 злотых. Атрымлівае. Пазней Вайтулевіч едзе са шваграм на вакзал. На Завальнай іх затрымлівае паліцыянт. Ператрус. У кошыку 1000 камуністычных брашур (у

тым ліку "Па-просту" [335]).

Адкуль я ведаю гэтыя паказанні? Бо гэта гаварылі тут у Лідзе, на працэсе Бярнацкага. Толькі тады яго характарызавалі як патрэбнага "таварыша" Бярнацкага, таго самага, які дзейнічаў ад імя Шурыга і Марачэўскага. А дзе гэтыя? У Варшаве. Сёння яны заможныя і ў бяспецы.

Лернар таксама жыла ў Варшаве, па вуліцы Валынскай, 6. Там пакінула сваё пазашлюбнае дзіцё ў рабочага гуты. Там яно выхаваецца ў чужых людзей на "партыйнай кватэры", а яна на лаве падсудных у Лідзе.

Не ўсім аднолькава шчасціць.

**"Прашу цішыні"**

Сведка, работніца "Ардаля", маладая дзяўчына з льнянымі валасамі. Яна шчаслівая, калі пытанні ёй пачынае задаваць адвакат Заштаўт-Сукянніцкая. Усё ж - жанчына. Не так страшна.

Так, яна была ў штрайкаме, у хімічным звязе. Але яны не хацелі ні Гельмана, ні Кісяля. "Бо яны казалі пра ўсе чужое, а мы хацелі толькі пра ардаляўцаў".

- Ці ўздымалі палітычныя тэмы?

- Я не ведаю, што такое "палітычныя".

Смех.

- Прашу цішыні.

Дык пра што яны казалі?

- А, пра нейкую Абісінію[336].

- Прашу цішыні.

- А мы не хацелі слухаць такія размовы, не хацелі слухаць пра іншых рабочых ці пра нейкія шахты. Нам было ўсяроўна, мы хацелі працаваць. Бо, я гэтага нават не разумею. Напрыклад, Кісель (камуніст, член ЗЗ) аднойчы пачаў выступаць, але мусіў спыніцца, бо ніхто не зразумеў ані слова.

Зноў смех. Прашу цішыні. Я яе разумею, яна чула безнадзейныя штампы, бессэнсоўнае фразёрства.

**Фразёры**

Толькі баюся, што можа не толькі я адзін, а яшчэ шмат асоб на гэтым працэсе разумеюць, што яны рабілі і робяць тое ж самае, а не толькі Кісель, Гельман, Лернар, Левін, Гершман. Але і Бярнацкі, і многія яго таварышы вартыя месца за кратамі. Толькі за тое, што яны загорнуты ў фразы і жывуць гэтым фразёрствам.

На наступны дзень будзе выступаць Бярнацкі. Ну, паглядзім! Можа, гэты хаця б скажа нешта цікавае?

*J. M. [Мацкевіч Юзаф] Proces wielkich niedomowien. Pierwszy dzien rozprawy komunistycznej w Lidzie // Slowo. 1937. № 22.*

## Другі дзень камуністычнага працэсу ў Лідзе. Загаворшчыкі ці правакатары?! Сенсацыйны бруд за кулісамі агульнага фронту ЗЗ і камуністаў

Не буду паўтараць пунктаў акту абвінавачвання. На лаве падсудных у Лідзе сядзяць пераважна маладыя асобы, пераважна яўрэйскай нацыянальнасці, рабочыя і агітатары, якія бралі чынны ўдзел у добра вядомых намі лідскіх падзеях. У сваёй большасці, яны належалі да прафсаюза, які афіцыйна кіраваўся ППС (Польскай партыя сацыялістычнай - *Л. Л.*). Абвінавачваюцца яны ў камунізме, ва ўдзеле ў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ). Іх дзейнасць выявілася падчас інцыдэнтаў у Лідзе.

**Ахвяры "Адзінага фронту"**

Назіраю гэтую справу на працягу двух доўгіх зімовых дзён, раніцай - з водбліскамі снегу за акном, вечарам - пры бяздушных лямпах судовай залы, і хоць і разумею, што мае цвёрдае перакананне не можа не быць суб'ектыўным, але ўпэўнены ў ім. Для мяне няма ніякага сумневу ў тым, 1) што яны - камуністы, прынамсі, большасць з іх, 2) што органы бяспекі сабралі супраць іх вельмі мала абвінаваўчых матэрыялаў[337], 3) што я чую звычайныя ў нашых судах дробныя плёткі, ахвярамі якіх часцей за ўсё становяцца камуністычныя правадыры - у дадзеным выпадку, падсудныя сталі ахвярай "адзінага фронту" левіцы, а дакладней: саюзу паміж камуністамі і ЗЗ.

Таму асобы гэтай "дробнай рыбы" нас цікавяць меней, чым тлустыя шчупакі, якія сядзяць не ў вязніцах, а ў бяспечных і ўтульных кватэрах. Асабліва мяне цікавяць лідэры аднаго з бакоў "адзінага фронту", а менавіта кіраўнікі ЗЗ. Лічу зразумелым, што камуністычныя лідары сядзяць у Маскве, але калі б яны перакрочылі мяжу РП, дык былі б арыштаваныя. Але кіраўнікі ЗЗ сядзяць у Варшаве, і іх ніхто не арыштоўвае. З лідскага працэсу становіцца зразумелым, што віна адных і другіх абсалютна аднолькавая.

[335] "Па-просту" ("Poprostu") - газета левай інтэлігенцыі Віленскага ўніверсітэта. Дзейнічала пад уплывам КПЗБ. Выдавалася як літаратурна-грамадскі двухтыднёвік на польскай мове ў Вільні з 5.08.1935 г. да 20.03.1936 г. Выступала за стварэнне адзінага народнага фронту, супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, патрабавала амністыі палітвязням. Выйшла 16 нумароў, з іх 6 канфіскаваныя. Яе змяніла газета "Karta" ("Карта"), забароненая на 3-м нумары. - *Л. Л.*

[336] У той час якраз здарыўся Італа-Абісінскі канфлікт. - *Л. Л.*

[337] Як паказвае маё вывучэння спраў лідскіх канфідэнтаў паліцыі, пра дзейнасць лідскіх камуністаў улады ведалі абсалютна ўсё. Але на судовым працэсе карысталіся толькі той інфармацыяй, якую можна было публічна агалосіць. - *Л. Л.*

**Надакучлівае пытанне**

Таму цалкам шчыра прызнаюся, што вельмі чакаў паказанні слыннага Бярнацкага, чакаў нечага сенсацыйнага.

Аказалася, што Бярнацкі не з'яўляецца ані сведкам абароны, ані сведкам абвінавачвання і звярнуўся ў суд добраахвотна, па ўласнай ініцыятыве. Аднак замест сенсацыі, атрымалася балота … Ніяк па-іншаму не магу характарызаваць яго паказанні. Яго выступ паказаў нам не толькі маральны распад асобы - мы ўсе ведаем яго крымінальнае мінулае[338], але яшчэ раз паказаў нам маральны стан нашага краю.

Паліцыянты ўводзяць Бярнацкага ў залу. Ён у шэрым гарнітуры з шалікам на шыі. Тая самая самаўпэўненасць, тая самая тэатральная паходка з высока ўзнятай галавой.

**Бярнацкі "паліць" абвінавачаных**

І вось той самы Бярнацкі, які на сваім першым працэсе ў Лідзе патэтычна ўсклікаў: "Уся мая віна палягае ў тым, што я прыдумаў лозунг: *"Хай жыве чырвоная Ліда"*" - раптам зараз спрабуе "абяліць" падзеі ў Лідзе і выступае не ад свайго імя, а ад ўсяго ЗЗ. І робіць гэта самым агідным, абразлівым і правакацыйным спосабам - ён "паліць" абвінавачаных. Ён кажа, што камуністы - гэта людзі, якія не жадалі ісці пад "легальным сцягам" ЗЗ, што яны перашкаджалі, не жадалі "адзінага фронту" і таму стварылі так званы "Ініцыятыўны камітэт".

- У нас адразу ўзнікала падазрэнне, - кажа Бярнацкі, - нават з-за не польскага гучання назвы ("Komitet inicjatywny" - *Л. Л.*), што тут пахне ўсходам. А мы, як сур'ёзная арганізацыя, хацелі трымаць штрайк у патрэбным рэчышчы.

Бярнацкі выступае ад імя ЗЗ:

- "Нам" паведаміла Рада ЗЗ у Лідзе.

- Каму такому "нам"?

- Цэнтраль ЗЗ у Варшаве. Ну, было абвешчана, што ініцыятыву падхапіў у свае рукі Звяз хімічнай прамысловасці. "Мы былі" вельмі заклапочаны. Страта ініцыятывы азначала б "для нас" паразу. Мы лічылі, што "нашым інтарэсам" у Лідзе пагражаюць, пагражаюць "нашай лініі".

**Як гумовыя дручкі пераконвалі за ЗЗ**

Але што рабілася потым?! Як сведчыць Бярнацкі: *"Цэнтральны аддзел ЗЗ дэлегаваў мяне ў Ліду, каб я любой цаной пераняў штрайк і ўсю ініцыятыву ў свае рукі"*! Якой мела быць гэтая "любая цана"? Трэба разумець, што "адзіны фронт" з камуністамі атрымаўся. Бярнацкі паказвае нам канкрэтныя акалічнасці, якія прывялі да "фронту". З яго аповеду вынікае, што рабочыя "Ардаля" не жадалі ісці пад сцяг ЗЗ. Але іх дэманстрацыі былі разагнаныя паліцыяй. Паліцыянты перад "Ардалем" збівалі іх гумовымі дручкамі і "выказалі пры гэтым вялікі імпэт", як кажа цяпер Бярнацкі.

- Тады настроі рабочых змяніліся, і яны пагадзіліся на "адзіны фронт". Бо рабочыя прыйшлі да высновы, што іх правы і інтарэсы лепш будзе бараніць і эфектыўна адстойваць прафсаюз ЗЗ. Тады і быў створаны штрайкавы камітэт.

Ах, дык вось як гэта было … Як брыдка!

**Бярнацкі бярэ ўладу**

Ад імя ЗЗ Бярнацкі ўзяў уладу."Уладу", - літаральна так потым выказаўся іншы сведка Брыльскі, старшыня рады ЗЗ у Лідзе.

А тым часам Бярнацкі сведчыць:

- Усеагульны штрайк у Лідзе не быў справай Ініцыятыўнага камітэта (камуністаў), а быў справай ЗЗ. Ініцыятыўны камітэт не спадзяваўся, што штрайк выбухне так раптоўна і нават не рыхтаваўся да гэтага. Былі ім непрыемна ўражаны і некаторыя з тут прысутных падсудных, такіх як Ваўкавыскі, Гельман, Гершман, яны спрабавалі паклёпнічаць на ЗЗ і Бярнацкага. А камуністычны орган "Куём зброю" ("Kujmy Bron" - *Л. Л.*) пісаў, што менавіта яны і стварылі "Адзіны фронт".

Адным словам, так паўстаў гэты слынны "Адзіны фронт" з ЗЗ і камуністаў, за першынства ў стварэнні якога, спрачаюцца абодва бакі. Але "фронт" спыніўся. Без сумнення. Але Бярнацкі хацеў бы сёння адлучыць ад яго асобы падсудных камуністаў і таму кажа, што размаўляў з Гельманам у Лідзе на вакзале і той быў незадаволены фронтам.

Гельман тут жа заяўляе, што гэта хлусня і спасылаецца на Кісяля як сведку размовы.

**Падсудны Гельман на чале баевікоў**

Але не ў гэтым справа. Бо, з далейшых паказанняў Бярнацкага даведваемся, што на мітынгах падсудныя камуністы наўпрост заклікалі да рэвалюцыі, на дазволеным старастам Чушкевічам мітынгу ў кінатэатры "Эра", які праходзіў пад старшынствам сябра ЗЗ Сідаровіча, гучалі такія ж антыдзяржаўныя выкрыкі, якія сёння суд ставіць у віну падсудным! На тым самым мітынгу, якім кіраваў дэлегат цэнтральнага аддзела ЗЗ, выступаў і Кісель, які збег у Саветы, і Ваўкавыскі, і, самае важнае, сённяшні галоўны падсудны Гельман.

[338] Бярнацкі быў шматразова судзімым крымінальным злачынцам. Ён казаў, што скончыў 8 класаў гімназіі імя Рэйтана, але з зачытанай на працэсе даведкі з гімназіі бачна, што ён вучыўся толькі ў першым класе гэтай гімназіі ў 1920 г. Арыштоўваўся ў Торуні за падробку вэкселя, тады запісаўся журналістам. Падчас арышту за падробку пячаткі ў Лодзі стаўся ўжо тэхнікам-будаўніком. У 1927 г. у Плоцку скраў два ровары. Адбываў турэмны тэрмін у Варшаве за крадзеж паліто, падробку вэкселя і іншыя злачынствы. У турме рэгулярна праводзіў камуністычную агітацыю і нават за гэта неяк атрымаў па карку ад суседа па камеры. - *Л. Л.*

Дык маю пытанне яшчэ раз: гэта была правакацыя ці падрыўная праца?

Раптам Гельман устае і наўпрост пытаецца ў Бярнацкага пра пэўную дэталь лідскай авантуры - і Бярнацкі ў святле вядомых фактаў не можа адмовіць, што камуніст Гельман ад імя ЗЗ быў упаўнаважаны камандаваць патрулямі баевікоў ЗЗ, якія былі павінны "прымусова зняць з працы краўцоў" (Гельман па прафесіі кравец).

Старшыня суда да Бярнацкага:

- І вы дзейнічалі ад імя ЗЗ?

- Так.

Цішыня ў зале. Шмат публікі ўвапхнулася праз бакавыя дзверы, каб паслухаць Бярнацкага. Ніхто яму не перашкаджае.

**Азеф**

Толькі Гельман зноў устае і пытаецца, ці памятае сведка, як праз Бярнацкага наймалі мастакоў, якія пісалі на платах і дамах антыдзяржаўныя лозунгі?

Бярнацкі:

- Яны не былі антыдзяржаўнымі.

Гельман:

- Гэта былі нелегальныя лозунгі, ініцыятыва напісання і рэдакцыя тэкстаў ляжала на ЗЗ.

Слухаю, і зноў мне здаецца, што Бярнацкі хутчэй за ўсё … правакатар.

І тут Бярнацкі "злівае" падсудных па-поўнай. Тых, хто з ім супрацоўнічаў, якімі ён кіраваў … ад імя ЗЗ. Цяпер ён ужо расказвае, што яны рабілі ў турэмнай камеры, што чуў з іхніх размоў. Адказвае на пытанні пракурора.

Пракурор:

- Што сведка ведае аб бунце, які рыхтаваўся ў вязніцы?

Аказваецца, Бярнацкі ведае і пра гэта, а таксама пра тое, што ў падрыхтоўцы бунту прымалі ўдзел Гельман з таварышамі і расказвае, аб чым яны дамаўляліся. І зноў указвае пальцам па падсудных …

Агідная роля ў правакатара. Агідная асоба Бярнацкага.

Пракурор закончыў задаваць пытанні.

Старшыня суда звяртаецца да абаронцаў (6 адвакатаў):

- Якія пытанні мае абарона?

У першым шэрагу сядзіць адвакат, спадарыня Заштаўт-Сукянніцкая, тая самая, якая ў свой час у двух інстанцыях бараніла Бярнацкага. На гэты раз яна маўчыць. Старшыня паўтарае пытанне.

Заштаўт-Сукянніцкая:

- Да спадара Бярнацкага? … Не маю …

**Шурыг і Бярнацкі на канферэнцыі з прадстаўніком прэм'ера**

Бярнацкі: таварыш, крымінальнік, злодзей і ашуканец, правакатар і шпег, стоўп ЗЗ, член рэдакцыі "Рабочага Фронту", прадстаўнік цэнтральнага аддзела ЗЗ у Варшаве з неабмежаванымі паўнамоцтвамі. Так ён казаў пра сябе і прадстаўляў ЗЗ. Спасылаўся, што ўсё рабіў па загадзе спадарства Марачэўскага і Шурыга.

А ці меў ён права казаць такое? Я паспрабую знайсці адказ на гэтае пытанне, працытаваўшы толькі тыя словы, якія гучалі на судовым працэсе.

На апеляцыйным працэсе Бярнацкага ў Вільні я не быў, але мне казалі, што сакратар цэнтралі ЗЗ, сведка Шурыг, схільны быў падкрэсліць, што з Бярнацкім яго арганізацыя моцнай сувязі не мела. Як гэта суаднесці з тым, што кажа сам Бярнацкі?

- Работніцы Ардаля першапачаткова заштрайкавалі толькі з-за патрабавання прыняць на працу 70 звольненых. Але мы пайшлі далей і запатрабавалі павышэння заробкаў на 12 - 15 %. Па гэтай справе я разам з Шурыгам два разы браў удзел у канферэнцыях, на якіх прысутнічаў начальнік канцылярыі прэм'ера, а таксама гаспадар фабрыкі сп. Мелуп.

Такім чынам на канферэнцыю з удзелам прадстаўніка прэм'ера ад цэнтралі ЗЗ дэлегаваліся толькі Шурыг і Бярнацкі.

**Чаму сп. Брыльскі падаў у адстаўку?**

Сведка Брыльскі, старшыня Лідскай Рады ЗЗ. З яго паказанняў вынікае, што Бярнацкі атрымаў неабмежаваныя паўнамоцтвы. Сведка быў супраць тактыкі Бярнацкага не з ідэалагічных меркаванняў, бо яны адпавядалі партыйнай праграме, а з тактычных. Бярнацкі, як у ліхаманцы, паскараў падзеі. А наколькі моцнай была пазіцыя Бярнацкага ў ЗЗ, якім даверам ён там карыстаўся, сведчыць той факт, што Брыльскі некалькі разоў дамагаўся адклікання Бярнацкага з Ліды, але цэнтральны аддзел адмовіў Брыльскаму.

Брыльскі:

- Я нават па гэтай справе пасылаў адмысловага чалавека ў Варшаву.

Старшыня суда:

- Хто гэта быў?

Брыльскі:

- Міркоўскі, член лідскай рады ЗЗ.

Але Бярнацкі застаўся, выгналі самога Брыльскага.

**І зноў тое самае пытанне**

Незалежна ад тэзісаў абароны і пракурора, ад поглядаў старшыні і рашэнняў суда, я не магу адмовіцца ад пераканання, якое з'явілася яшчэ на пачатку: усе яны - ахвяры "Адзінага фронту" камуністаў і ЗЗ.

А на пытанне, якую ролю ў фронце адыграў ЗЗ пад кіраўніцтвам Бярнацкага, адкажу: падрыўную і антыдзяржаўную. А калі гэта была правакацыя, дык абуральную і агідную.

*J. M. [Мацкевіч Юзаф] Wywrotowcy czy prowokatorzy?! // Slowo. 1937. № 23.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***

**З нагоды 105-ай гадавіны ВЛКСМ**

***Віктар Кудла***

# Мне веды жыцця падарыў камсамол




*Я Віктар Кудла ,*
*нарадзіўся ў Дроздаве ў вясковай хаце*
*з сялянскім побытам сям'і.*
*Паміж шашой, чыгункай, сенажаццю*
*гады дзіцячыя прайшлі.*
*З маленства знаў у полі працу:*
*касіць, грабсці, пасці кароў,*
*дапамагаў бацькам па гаспадарцы.*
*Гуляў у пікара, лапту…*
*Хадзіў па веды перш у школу,*
*затым асіліў інстытут.*
*І вось заўтэхнікам калгасным*
*вярнуўся зноў у родны кут…*

Мы жылі па суседстве з Шутамі і Каханоўскімі, якія былі прыкладам камсамольскай дзейнасці. Таму ўсё маё жыццё, вучоба і працоўная дзейнасць звязана з камсамолам. Захоўваю дарагія камсамольскія рэліквіі і раскажу, як ішла камсамалізацыя…

Мая, старэйшая за мяне, суседка Ядзя Каханоўская ў камсамол ўступіла ў 1951 годзе, негледзячы, што па лясах яшчэ блукалі бандыты і забівалі савецкіх актывістаў. Для яе прыкладам быў родны брат Бранілаў, пры "Першых Саветах" стаў камсамольцам і ў часы вайны супрацоўнічаў з партызанамі. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. А побач з нашай і іхняй хатамі, жыў Шут Генадзь Сцяпанавіч, які яшчэ ў 1940 годзе арганізаваў першую ў Лідскім раёне камсамольскую арганізацыю, куды ўваходзілі: Кудла Іван, Кудла Уладзімір, Курыла Фёдар, Ненартовіч Вацлаў, Каханоўскі Браніслаў, Данэйка Леанід, Кумпяк Віктар. Калі пачалася вайна Шут Г. і Кудла І. падымалі камсамольцаў і моладзь на барацьбу з захопнікамі. Тут яны ўступілі ў партызанскі атрад "Іскра", удзельнічалі ў нападах на нямецкія гарнізоны, спускалі пад адхон варожыя цягнікі … Шут Г.С.быў памочнікам камандзіра атрада па камсамольскай рабоце. Меў урадавыя узнагароды. Пасля вызвалення Лідчыны быў абраны сакратаром Лідскага райкама камсамолу. На жаль трагічна загінуў ад трафейнай гранаты на чацвёрты дзень - 12 ліпеня 1944 года.

Усё толькі добрае захавалася ў маёй памяці аб роднай Ганчарскай школе…

*У творчым натхненні, у пошуках лепшага,*
*Прайшло ў сценах школы нямала гадоў.*
*Крупіцы разумнага, добрага, вечнага,*
*Збіраў калектыў і да мэты нас вёў.*

*З адказнай задачай спраўляўся старанна.*
*Настаўнік, да ведаў шляхі нам адкрыў,*
*Свае абавязкі выконваў дакладна -*
*Жыццё разумець нас на ўроках вучыў.*

*Ды дзе ж адшукаць нам адзіную мерку,*
*Каб працу, старанне яго ацаніць,*
*Душу не адкрыеш усю на паверку...*
*Бо вельмі няпроста настаўнікам быць.*

*Куды б ні закінуў нас лёс апантаны,*
*Ніяк не закрэсліць тых школьных гадоў,*
*Дзе погляды нашы ў жыццё сфармаваны,*
*Дзе лепшы наш час так імкліва прайшоў......*

Усюды, дзе б ні даводзілася мне быць, якія б складанасці жыцця ні зведаў, я часта ўспамінаю родную школу. Усё тое добрае, што ёсць у мяне, закладзена настаўнікамі - тымі, хто фармаваў мой характар, мае здольнасці…

Рыхтуючы гэтае сачыненне перагортваю лісты фотаальбома. З фатакартак глядзяць на мяне замілаваныя, дарагія твары. Успамінаю ўсіх настаўнікаў, іх урокі, заўвагі, строгасць, а падчас і пачуццё гумару. Кожны з настаўнікаў валодаў талентам і ведамі, якія стараліся перадаць сваім вучням. Нялёгка давалася ім гэтае задан-

не, але рашыць яго было неабходна. У кожнага з іх быў свой індывідуальны падыход, свая методыка, цярпенне, уважлівасць. Бліскучымі іскрынкамі свяціліся іх вочы, радавалася душа, калі бачылі, што іх разумелі, паважалі. А нам, вучням, было важна адчуваць сябе побач з тымі, хто ставіўся да цябе з дабратою: утрымліваў ад дрэннага, падтрымліваў за выпадкі, хваліў за станоўчае!

Аб усім гэтым будзе далейшы аповед.

Выкладанне ўсіх прадметаў вялі на беларускай мове. І на нацыянальнае выхаванне звярталася шмат увагі на ўроках, і падчас пазашкольных мерапрыемстваў.

Да школьных заняткаў шчыльна прыглядаліся і бацькі. Іх радавала, што ў школе панаваў беларускі дух. Настаўнікі не толькі на ўроках, а і па-за школай, паміж сабой і з мясцовымі жыхарамі стараліся размаўляць па-беларуску.

Добра ведаў матэматыку, алгебру, геаметрыю - на саўгаснай працы ведаў бухгалтэрыю і вяду цяпер. Асвоіў шахматы і шашкі, удзельнічаў у спаборніцтвах.

Фізіка - гэта асваенне і выкананне электразабяспячэння ў саўгасе і на гаспадарцы, а на караблі - артэлектрык вежавы. Усё жыццё праводзіў фатаграфаванне - служба ў ВМФ, пра наведванне краін - 10 альбомаў, а ў сямейным арсенале - больш за 20 фотаальбомаў.

Геаграфія стала жыццёвай праграмай - наведаў 22 краіны. Так у Еўропе - Данію, Швецыю, ФРГ, Аўстрыю, Венгрыю, Югаславію, Турцыю, Грэцыю, Італію, Ватыкан, Іспанію, Польшчу. У Азіі - Індыю, Шры Ланку, у Афрыцы - Алжыр, Марокка, Мальту, у Амерыцы - Кубу. Безумоўна, і савецкія рэспублікі - Расію, Украіну, Літву, Латвію, Эстонію.

Хімія і заалогія сталі галоўнай навукай у сельскагаспадарчай працы.

Гісторыя разбудзіла краязнаўчую працу. На аснове захаваўшыхся дакументаў і ўспамінаў бацькі ў "Лідскім летапісцы" ў двух нумарах надрукаваны "Экскурс у гісторыю беларускага бежанства ў Першую сусветную вайну", у адзінаццаці - пра "Звесткі аб сялянскім жыцці і навучанні ў Ганчарскай акрузе". Ужо ў чатырох нумарах - "Дроздава. Віткі жыцця родзічаў". Па архіўных матэрыялах у "Лідскім летапісцы" апублікаваны артыкул "Дворышча". Па сабраных успамінах старажылаў рыхтуецца працяг - летапіс Дварышчанскага краю. Многа матэрыяла публікавалася ў "Лідскай газеце", некаторыя трапілі і ў телефільм "Генацыд беларускага народа"…

Актыўна займаюся папулярызацыяй краязнаўчых ведаў пра малую радзіму. Правялі свята вёскі з выкарыстаннем гістарычна-архіўнай спадчыны.

Замежная мова - нямецкая і пасля школы даводзілася прымяняць пры наведванні ФРГ і іншых капіталістычных краін.

У мяне любімыя былі рысаванне, чарчэнне - заўсёды на "выдатна". Як працяг навучання - самастойна асвоіў маляванне алейнымі фарбамі карцін, разьбу па дрэву. На дальнейшай вучобе і службе пісаў плакаты, афармляў наглядную агітацыю, светлагукавыя газеты…

*Храню, словно честь, словно знамя побед,*
*Родной боевой Комсомольский билет.*
*Билет, что великую силу даёт,*
*Что всюду ведет сквозь преграды- Вперёд!*
*С тобою я к цели уверенно шёл,*
*Мне важныя знанья вручал комсомол.*
*Я стал коммунистом, чтоб всюду пронесть*
*Страны моей славу, моей Белоруссии - честь!*

У сакавіку 1957 года я ўступіў у камсамол. У Лідскім гаркаме камсамолу ва ўрачыстай абстаноўцы сакратар Сяргей Цярэнцьевіч Кабяк (потым знакаміты абласны кіраўнік ў Гародні і Віцебску) уручыў вось гэты дарагі камсамольскі білет, з якім я вучыўся, служыў, працаваў і выконваў камсамольскія заданні.




З вялікім гонарам насіў значок ВЛКСМ і трэці спартыўны разрад.

Праводзіліся школьныя вечары з нагоды якойнебудзь даты: Кастрычніцкая рэвалюцыя, Новы год, дзень Перамогі.

На невялікай сцэне праходзілі канцэрты мастацкай самадзейнасці. Як камсамольскі актывіст, я абавязкова быў удзельнікам драмгуртка па вядомых ваенных творах. У былых франтавікоў здымалі з плеч гімнасцёркі, пілоткі, медалі, у маракоў - безказыркі, цяльняшкі. З дошчак выраблялі аўтаматы, наганы, гранаты…..

Ужо, дзесьці з 7-га класа, я праявіў сябе як нядрэнны стралок з малакаліберная вінтоўкі. Трэніраваліся мы ў збудаваным каля ляску пясчаным насыпе стралковым ціры ў любы час, іншы раз у зімовую завіруху, так што мішэні цяжка было відаць.

Быў у складзе каманды Ганчарскай сярэдняй школы на раённых спаборніцтвах. Вінтоўку прыносіў дахаты, вакол падворка падстрэльваў варон і галак. Перажываў, каб удала выступіць, ноччу практычна не засынаў. Раніцай дабіраўся на паўстанак Ганчары, там з Сяльца цягнікам ехаў Дзікевіч Мікалай Мікалаевіч. У Лідзе з вакзала пехатою з вінтоўкамі шпацыравалі па вуліцах. Спаборніцтвы праводзіліся ў ціры на стадыёне,

што насупраць педвучылішча, кожны год - на кастрычніцкія святы, дзень Савецкай арміі, дзень Перамогі… Тады першанствавалі вучні старэйшых класаў Красноўскай школы. Мы ж, малышня, пачалі абстаўляць іх раз за разам, і яны сышлі са спаборніцтваў.



***Каманда стралкоў-пераможцы раённага спаборніцтва пад кіраўніцтва Мікалая Мікалаевіча, злева направа: Гук Рысік, Кудла Віця, Пазняк Дзёма, Раік Толя, Лукашэвіч Ваня***

Некалькі грамат райкама ДАСААФ за перамогу ў раённым спаборніцтве з нагоды 40-годдзя БССР і дня Савецкай Арміі.



ГРАМОТА

Лидский районный совет союза спортивных обществ и организаций награждает команду к-за им. Чкалова занявшую III-е место по шашкам в районных соревнованиях 11 апреля 1959 г.

Председатель совета спортивных обществ и организаций (Ивановский)

ГОТОВ К ТРУДУ И ОБОРОНЕ СССР

Ганчарская школа штогод добра выступала на раённай школьнай спартакіядзе. За першае месца ў асноўным цягаліся з Беліцкай школай. Нашы спартсмены былі мацнейшымі ў валейболе, бегу на розныя



ВСЕСОЮЗНОЕ ДОБРОВОЛЬНОЕ ОБЩЕСТВО СОДЕЙСТВИЯ АРМИИ, АВИАЦИИ И ФЛОТУ /ДОСААФ СССР/

Диплом

ТРЕТЬЕЙ СТЕПЕНИ

Лидский р-ый комитет ДОСААФ и Р-ый комитет физ. и спорта при Лидском Райисполкоме

НАГРАЖДАЕТ

тов. КУДЛО В.И. уч. Гончарской СШ занявшего 3-е место по стрельбе 22 февраля 195[illegible] г.

Пред. Лидского р-ого комитета ДОСААФ /[illegible]/.

Пред. районного комитета физ. и спорта /[illegible]/.



ЗА НАШУ СОВЕТСКУЮ РОДИНУ

ГРАМОТА

ВСЕСОЮЗНОЕ ОРДЕНА ЛЕНИНА И ОРДЕНА КРАСНОГО ЗНАМЕНИ ДОБРОВОЛЬНОЕ ОБЩЕСТВО СОДЕЙСТВИЯ АРМИИ, АВИАЦИИ И ФЛОТУ

Лидский РК ДОСААФ и райсовет ВДСО профсоюзов

НАГРАЖДАЕТ:

тов. Кудло В.И. / лично /.

занявшего I место в соревнованиях по пулевой стрельбе посвященных Дню пограничника, на районной спартакиаде работников агропромышленного комплекса.

Председатель РК ДОСААФ [illegible]

Председатель райсовета ВДСО профсоюзов [illegible]

2[illegible] мая 19[illegible] г.

дер. Ходоровцы.

дыстанцыі, скачках.

Па выніках збіралася зборная раёна на абласную спартакіяду. Спаборніцтвы праходзілі ў Гародні на гарадскім стадыёне. Я ўдзельнічаў у спаборніцтвах па стральбе з малакалібернай вінтоўкі, меў III спартыўны разрад, па выніках быў у перадавіках .

У апошнія два школьныя гады я быў старшынёй вучнёўскай вытворчай брыгады. Восенню школьнікаў пасылалі дапамагаць калгасу імя Булганіна выбіраць бульбу. Было спаборніцтва паміж класамі. Я са сваім класам працаваў у Баравічах, дзе брыгадзірам быў Раік Уладзімір. Бульбу выворвалі парай коней, дзеці падбіралі бульбу ў кошыкі, а трызубцамі перакопвалі баразну. Кошыкамі напаўнялі скрыню на возе, і конь адвозіў яе ў бурт.

Для дзетвары, былі дні, калі з бульбянішча палілі вогнішчы, а ў пяску пад вуглямі пяклі бульбу. Выграбалі печаныя бульбіны з жару, абіралі. Шумна і весела елі такое смакоцце-ласунак.

Самы прыемны і радасным для нас быў вынік працы. Наш клас атрымаў прэмію з рук старшыні калгаса Давіда Яфімавіча Галямполя - даволі аўтарытэтнага сярод калгаснікаў кіраўніка. Ён часта, едучы па дарозе, заўсёды прыпыняўся і падбіраў мяне ў "козліка". Мне некалькі разоў давяралі па-мастацку аформіць альбом калгаса "Эстафета працоўнай славы" для раёна.

На падворку школы была сабрана амаль прыгодная на той час сельскагаспадарчая тэхніка: плугі, бульбакапалка, сеялка і іншае. Наглядны матэрыял для вывучэння школьнага курсу земляробства, згодна з хрушчоўскім заклікам: "Увесь клас у калгас". Што потым і выконвалася…

Каля школы на значнай тэрыторыі быў школьны прысядзібны ўчастак нашай школьнай брыгады. Гэта была наша вотчына і настаўніцы па біялогіі. Там вырошчваліся кветкі і розная гародніна. На градках ставіліся фанерныя таблічкі з назвай раслін на той час нам, вясковым, гэта было дзіковінкай. Летам па графіку замацоўвалі вучняў на практыку. Мне з некалькімі хлапчукамі даверылі шкліць пабітыя вокны і замазваць "кітам" шыбы.

Добра памятаю, як вясной 1958 года (я быў у 9-ым класе) была вялікая паводка і нават адкрытыя шлюзы млына Лупеніцы не ўмяшчалі ўвесь напор вады, і яна хлынула цераз дамбу, размыла вялікую яміну.Турбіны асушыліся, млых стаў. На засыпку дамбы кінулі ўсіх калгаснікаў з падводамі і адзіны на той час грузавік.

Нам адмянілі заняткі ў школе, і нас старшакласнікаў-камсамольцаў з рыдлёўкамі паставілі насыпаць пясок у мяшкі, а падводамі адвозілі ў прорву. Аўрал доўжыўся днём і ноччу некалькі сутак, пакуль не насыпалі дамбу і не ўтайманавалі плынь.

Скончыў Ганчарскую сярэднюю школу ў 1959 годзе на 4-5, атрымаў атэстат сталасці.


ПОХВАЛЬНЫЙ ЛИСТ

Лидский Горком комсомола награждает Похвальным листом ученика 10 класса Гончарской СШ Кудло Виктора за достигнутые успехи в учёбе и за примерную дисциплину

25 октября 58.

*За выдатную вучобу і прыкладныя паводзіны, актыўную камсамольскую працу атрымаў "Пахвальны ліст" Лідскага гаркама камсамолу*


БССР
МІНІСТЭРСТВА АСВЕТЫ

АТЭСТАТ СТАЛАСЦІ

Гэты атэстат выдан Кудла Віктару Іванавічу, нарадзіўшамуся в Дроздава 1941 года, у тым, што ён (яна), паступіўшы ў 1953 годзе ў сярэднюю школу № в Ганчары Лідскага р-на Гродзенскай вобласці скончыў поўны курс гэтай школы і выявіў пры выдатных паводзінах наступныя веды па прадметах:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Беларуская мова | 5 (пяць) | Канстытуцыя СССР | 4 (чатыры) |
| Беларуская літаратура | 4 (чатыры) | Геаграфія | 4 (чатыры) |
| Руская мова | 4 (чатыры) | Фізіка | 5 (пяць) |
| Руская літаратура | 5 (пяць) | Астраномія | 4 (чатыры) |
| Алгебра | 4 (чатыры) | Хімія | 4 (чатыры) |
| Геаметрыя | 5 (пяць) | Замежная нямецкая мова | 4 (чатыры) |
| Трыганаметрыя | 4 (чатыры) | Чарчэнне | 5 (пяць) |
| Прыродазнаўства | 4 (чатыры) | Асновы вытворчасці | 4 (чатыры) |
| Гісторыя СССР | 5 (пяць) | | |
| Усеагульная гісторыя | 4 (чатыры) | | |

Гэты атэстат дае яго ўладальніку права паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Саюза ССР.

Выдан 24 чэрвеня 1959 г. в Ганчары Лідскага Гродзенскай вобласці

№ 423910

*Куды б ні закіўў нас лёс апантанны,*
*Ніяк не закрэсліць тых школьных гадоў,*
*Дзе погляды нашы ў жыццё сфармаваны,*
*Дзе лепшы наш час так імкліва прайшоў…*

Адразу і без экзаменаў паступіў у Гарадзенскі сельскагаспадарчы тэхнікум ў г.п. Сапоцкіна. Як выдатнага навучэнца, актыўнага камсамольца там да мяне за парту падсадзілі дэмабілізованнага з арміі Баньдзюка Мікалая. Пасля тэхнікума ён працаваў дырэктарам саўгаса ў Слонімскім раёне, а потым начальнікам УСГ Лідскага райвыканкама.

Акрамя паспяховай вучобы я прымаў актыўны ўдзел у камсамольскім жыцці: афармляў наглядную агітацыю, стэнды, лозунгі, транспаранты.





***Актыўная рэдкалегія светлагукавой газеты: Койпіш Георгій (пасля тэхнікума - сакратар Воранаўскага, Свіслацкага райкама партыі), Кудла Віктар, Нарон Валерый (стаў афіцэрам СА), Ліпай Пятро (знакаміты паэт)***



ВЛКСМ

ПОХВАЛЬНЫЙ ЛИСТ

Гродненский райком комсомола награждает члена ВЛКСМ КУДЛО Виктора Ивановича-учащегося Гродненского зоотехникума-за хорошую общественную работу и активное участие в выпуске стенной газеты.

Секретарь райкома ...

28 июня ...2 г.

У складзе актыўнай рэдкалегіі я ўнікальна маляваў малюнкі ў светагукавую газету, якая з вялікай цікавасцю дэманстравася ў клубе перад кінафільмамі не толькі студэнтам, а і сапоцкінцам.

Саўгасу "Пагранічнік" маляваў плакаты аб спаборніцтве фермаў.





Ля граніцы на заставе афармляў стэнды ў Музеі імя Віктара Усава - камандзіра пагранічнай заставы, загінуўшага ў першыя дні нападу немцаў.

Адзначаны "Пахвальным лістом" Гарадзенскага райкама камсамолу (1962) і Ганаровай граматай Гарадзенскага абкама камсамолу (1962).



ГАНАРОВАЯ ГРАМАТА

ГРОДЗЕНСКІ АБКОМ ЛКСМ БЕЛАРУСІ УЗНАГАРОДЖВАЕ ГЭТАЙ ГРАМАТАЙ

КУДЛО Виктора Ивановича – учащегося Гродненского зоотехникума в связи с 40-летием ЛКСМБ за активную работу по коммунистическому воспитанию комсомольцев и молодежи.

/ МОГИЛЬНИЦКИЙ /

I . сентября 60

Пасля заканчэння тэхнікума, некалькі месяцаў працаваў заатэхнікам калгаса "Нёман" (в. Дзітрыкі) Лідскага раёна.

У лістападзе 1962 г. быў прызваны ва Узброеныя Сілы і чатыры гады тэрміновай службы з 1962 па1966 год праходзіў на крэйсеры "Камсамолец" Талінскай ваенна-марской базы Двойчы Чырвонасцяжнага Балтыйскага флоту.

Кожны матрос распісаны па пражыванні ў кубрыку, дзе спальнае месца на падвясным ложку з коркавым матрацам і падушкай, унізе - рундук для захоўвання абутку, стол - "бачок" для яды пасля атрымання ежы на камбузе.

Горад Талін упершыню згадваецца ў 1154 годзе. Горад раскінуўся на берагах двух заліваў, падзеленых паўвостравам. На вышыні - стары горад - Вышгарад, дзе стаіць замак Таампеа з вежай "Доўгі Герман". Плошча Раэкоя, дзе ратушу вянчае вежа і на шпілі стаіць стары Тоомас-воін-вартавы - сімвал горада.

Запомніўся першы ўдзел у 1963 годзе ў ваенна - марскім парадзе ў Дзень Ваенна-Марскога Флоту на Няве ў Ленінградзе. Крэйсер з Таліна ішоў Фінскім залівам. Цяплынь, чайкі кружацца над мачтамі, упершыню бачыў "белыя ночы" - спаць не клаліся. Крэйсер стаў насупраць Меднага вершніка. Спусцілі баркас, мне



***Крейсер " Комсомолец"- 68 К***

***Дадзеныя аб крэйсеры:***

*Экіпаж: 680-1200 чалавек.*

*Водазмяшчэнне: 13,5 тыс. тон;*

*Памеры: даўжыня - 200 метраў, шырыня - 19 м., асадка - 7 м;*

*Хуткасць ходу: 17,3 / 33,5 вузла, г. зн. 32/62 км/г;*

*Арт. ўзбраенне: 4 вежы па 3 гарматы калібру 152,4 мм, снарад вагой 52 кг;*

*ДУК - 4 вежы па 2 гарматы - 100 мм унітарны патрон;*

*ДЗК-14 спараных па 2 зенітныя аўтаматы - 37 мм;*

*На крэйсеры ўсё неабходнае для працяглага аўтаномнага плавання:*

*Запасы прэснай вады ў прыкілевых цыстэрнах;*

*Паліва ў мазутных цыстэрнах;*

*Каморы для прадуктаў харчавання;*

*Халадзільныя камеры для мясных прадуктаў;*

*Пякарня;*

*Камбуз (кухня) для падрыхтоўкі ежы;*

*Крама для асабістага складу; душавыя, лазня, гальюны, цырульня;*

*Медсанчастка, друкарня для выпуску карабельнай газеты;*

*Фоталабараторыя;*

*Клуб, для прагляду кінафільмаў, канцэртаў, правядзення сходаў..*

*Кузня, мядняцкая, зварачная;*

*Такелажная: каморкі для абмундзіравання і вадалазнага рыштунку.*

*Для па-за карабельнага плавання: 2 рэйдавыя кацеры, 2 баркасы, 4 шлюпкі.*



маладому - салагу, кручкавому, не патлумачыўшы складанасці, даручылі залезці на "бочку", каб прапусціць фал праз кольца і прывязаць крэйсер. Баркас стукнуўся аб край бочкі, я заскочыў на верх, і бочка закруцілася... а я, што вавёрка ў коле, карабкаўся, намачыў па пояс ногі і, пакуль не спыніў кручэнне бочкі, мог зваліцца... З бака карабля падалі непрыдатны канец, і я прапусціў фал праз кольца. І далей паступова падавалі больш патоўшчаныя канаты. Вось так крэйсер стаў на бочку.

А на Няве прайшоў ваенна-марскі парад караблямі.

Мы з матросамі наведалі Петрапаўлаўскую крэпасць, Зімні палац, Адміларцейства, Музей ВМФ. На ўсё жыццё захавалася памяць аб гэтых велічных, цудоўных, гістарычных, памятных абьектах.



З красавіка, пасля хадавых выпрабаванняў і да глыбокай восені крэйсер баразніў Балтыйскае мора ад Кранштадта, Таліна да Балтыйска ўздоўж тэрытарыяльных вод Польшчы-Швецыі-Фінляндыі. Калі выходзілі ў мора, дрэвы і зеляніна яшчэ не распусцілася, прыходзілі - зеляніны ўжо не было. Да штатнага раскладу экіпажа дапаўнялі курсантаў вышэйшых ваенна-марскіх вучылішчаў для праходжання практыкі. На кожным баявым пасту ішла адпрацоўка дзеянняў па баявой трывозе, па барацьбе за жывучасць карабля. Штодзённыя ППА і ППР забяспечвалі надзейную працу абсталявання..

У Вялікую Айчынную вайну ў Балтыйскім моры затанула шмат нашых караблёў. Там загінулі тысячы нашых маракоў. Пры праходзе месцаў гібелі караблёў на палубе вышыхтоўваўся свабодны экіпаж, давалася



***Са сваімі калегамі на брукаванай талінскай вуліцы Ротасказвуу, сцены Старога горада - Вышгарада, на фоне самага высокага будынка Таліна - Царква Алевістэ***

каманда тварам да мора, прыспускаўся сцяг карабля, і пад гукі трубы на ваду спускаўся памятны вянок.

На наступны год прайшоў грунтоўнае навучанне па кіраванні маламернымі караблямі, паспяхова здаў экзамены па ППС, атрымаў пасведчанне, і мяне прызначылі старшыной камандзірскага кацера РК.

Корпус металічны, даўжыня 11 метраў, матордызель 150 к.с., верхняя палуба - дошка ясень, у рулявым аддзяленні штурвал і кіраванне рухавіком, пасярэдзіне - каюта, на карме-пляцоўка і фаркоп са сцягам ВМФ. У экіпаж акрамя старшыны-рулявога ўваходзілі: матарыст і два кручкавыя.

Пры стаянцы крэйсера на рэйдзе выконваў транспартную сувязь з берагам. Па камандзе гучнамоўнай сувязі: "Кацер да спуску, каманда ў кацер", - мы аператыўна расчахлялі кацер, надзявалі стропы, і грузавой стралой кацер з экіпажам спускаўся за борт.

Падсаджвалі афіцэра з заданнем, паштальёна, сакрэтчыка, і - да берага. Ад Талінскага рэйду гэта не далёка - міль 3-4. А вось у Рызе прыбярэжная плыткаводдзе не дазваляла крэйсеру падысці бліжэй за дзесяць міль. На кацеры мы шуравалі па заданне…



На Кранштадцкім рэйдзе, каля Чумной крэпасці крэйсер швартаваўся "на бочцы". Блізкасць да Ленінграда спрыяла таму што, афіцэры, свабодныя ад вахты, імкнуліся ў горад. Там многія мелі сем'і, сяброваk, сяброў, там вучыліся ў ваенных вучылішчах.

У кацер бралі з перагрузам, але не больш за 12-15 чалавек, а ахвочых з крэйсера было шмат: чарговасць усталёўваў старпам. Даводзілася ад відна да поўначы курсіраваць па фарватэры да Пецергофа.

Быў там цікавы выпадак: на апошні вячэрні рэйс, чакалі камандзіра Талінскай эскадры контр-адмірала Катушава. Кацер стаяў ля пірса. Прыпісаны афіцэр да прыбыцця электрычкі асабіста хадзіў на перон сустрэць комэска. Але яго ўсё не было. Ужо даўно за поўнач, прыйшла апошняя электрычка, афіцэр застаўся на кацеры, а мы ў паўсядзённай белай робе пайшлі глянуць на расклад і раптам тварам да твару сутыкнуліся з патрулём: "Дакументы? Што за форма? Адкуль збеглі? Што тут робіце?" - "Сустракаем контр-адмірала!" - "Не зразумеў!" Паспрабавалі растлумачыць, што так маўляў і так, мы з крэйсера, на прыстані кацер ... але патруль няўмольны: "Што за фокусы? Матросы сустракаюць контр-адмірала?" Бяруць нас у кольцо, і крокам марш у КПЗ. Але тут падкатвае "Волга", выходзіць комэска. Мыпрама ў ногі: "Таварыш контр-адмірал! Нам даручана даставіць вас на крэйсер!" Так усё вырашылася добра.

Асвоіў ваенна-марскія спецыяльнасці артэлектрыка вежавага. З'яўляўся выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі, спецыялістам першага класу. Выбралі сакратаром першаснай камсамольскай арганізацыі дывізіёна ўніверсальнага калібру.

Савецкае кіраўніцтва вялікую ролю ва ўмацаванні дружбы паміж народамі аддавалі візітам дружбы ваенных маракоў. Упартай працай, поспехамі ў ваеннамарской службе, экіпаж крэйсера "Камсамолец" заслужыў права прадстаўляць савецкі народ у капіталістычных краінах - у Даніі і Швецыі.

Больш за месяц увесь асабовы экіпаж старанна і адказна рыхтаваў увесь карабель ад носа да кармы, ад мачтаў да бартоў. Самі маракі дасканала рыхтавалі марскую парадную форму, па слоўніках штудзіравалі замежныя мовы, вывучалі гісторыю наведваных краін.

І не дзіўна, што на выправе ваенных караблёў у адказны замежны паход з задачай дружбы, прысутнічала ўсё кіраўніцтва Эстоніі і камандаванне флотам.



***Урачыстыя провады атрада ваенных караблёў з візітам дружбы.***
***На палубе крэйсера"Камсамолец": камандуючы ДКБФ адмірал флоту Арол А.Е., намеснік камандуючага флотам віца-адмірал Міхайлін В.В., камандзір крэйсера капітан 2-га рангу Гатчынскі В.Г., першы сакратар ЦК КПЭ Кэбін, старшыня ВС Эстоніі Мюрусэпп, старшыня СМ Эстоніі Клаўсон В.І.***

У траўні 1964 года крэйсер і два эсмінцы наведалі Данію з афіцыйным візітам дружбы савецкіх маракоў. У складзе груп знаёміліся з Капенгагенам, палацам Фрэдарыксборг, берагавой цвердзю Кронборг, сімвалам краіны - бронзавай статуяй "Русалачка".

Запомнілася наведванне Ваенна-Марскога музея, піўзавода Карлсберг, парка Цівалі, прайшла аўтобусная экскурсія па паўвостраве..





***Знакаміты дацкі мастак-карыкатурыст Херлуф Бідструп, мічман-пісьменнік Рудзінскі, старшына-карэспандэнт газеты "На варце Радзімы" - Панцюхоў І.***

Чарговы візіт атрада савецкіх караблёў у чэрвені 1965 года ў Швецыю: праход у фіёрдах, маляўнічыя астраўкі, салют Нацый (21 залп даваў наш ДУК) пры ўваходзе ў порт, швартоўка, натоўп стакгольмцаў ля борта ў надзеі займець савецкі сувенір, чарга ля трапа жадаючых паглядзець карабель.

Мы, актыў камсамольскі, арганізавалі сустрэчу з моладдзю-шведамі. На палубе абмен разсказамі, экспанатамі, значкамі, кніжкамі. Закончылася абаюдным канцэртам.

Наведалі крэйсер камандуючы Ваенна-марскім флотам Швецыі, Каралева прыгажосці Швецыі, пасол СССР.



Былі і правакацыі з боку супрацоўнікаў спецслужбаў НАТА і НТС (нацыянальна-працоўны саюз з былых эмігрантаў).

Я быў старшыной, арганізатарам і актыўным удзельнікам Усесаюзнага турыстычнага паходу па месцах баёў абаронцаў Маадзунского архіпелага. Выпушчаны вахтавы часопіс і фотаальбом здадзены ў музей Балтыйскага флоту.

У складзе паходу быў Герой Савецкага Саюза Каняеў (другі злева) - камандзір падводнай лодкі, распавёў, як упершыню прайшоў пад ільдамі Фінскага заліва. Палкоўнік Арцюхоў (трэці злева)-намеснік па палітычнай частцы 150-ай стралковай дывізіі, штурмаваўшай рэйхстаг распавёў: *"Камандзір дывізіі Шацілаў Васіль даў мне і байцам штурмаваць рэйстаг. Ішоў люты бой. А трэцяй гадзіне ночы 30 красавіка 45 года нашы чырвонаармейцы Міхаіл Ягораў і Мелітон Кантарыя ўсталявалі наш сцяг на статуі кайзера Вільгельма, а пад раніцу перанеслі на купал рэйстага. Ён і стаў сцягам Перамогі!"*



Наведвалі выспы Муху, Саарэма. Там знаходзілі ўмацаваныя раёны з дотамі, дзе савецкія байцы мужна абаранялі краіну. Ускладалі кветкі ля помнікаў. (на фота другі справа - Кудла В.)

Там нам удалося пабываць у знакамітага эстонскага пісьменніка Юхана Смуула.



**З камсамольскай харэктарыстыкі:**

*"Зрэшты, за гады ваенна-марской службы Віктару Іванавічу давялося сустрэцца з легендарнымі асобамі. Пад час інспектарскай праверкі, ён на камандзірскім кацеры правёз па гаванях Талінскай ВМБ Героя Савецкага Саюза Міністра абароны Маршала Андрэя Грэчку".*



Да мяне ў рубку кацера зайшоў афіцэр штаба з картай акваторыі Талінскага порта, а на карму - Грэчка А.А. і два афіцэры. Ціхім ходам мы выйшлі з Купецкай гавані, абышлі Мінную і Кабатажную гавані.

Высокі, статны Маршал стаяў высока на карме, як статуя. Развітваючыся пацiснуў мне руку і падзякаваў за добра праведзены экскурс. Тады, напэўна, прымалася канчатковае рашэнне. Таму, што ўжо праз год (я дэмабілізаваўся) эскадру караблёў з Таліна перавялі ў Кранштат, але ненадоўга, а пасля ў Ліепаю.

На Балтыцы праходзіла вучэнне краін Варшаўскай дамовы. Пад час пераходу эскадры караблёў з Таліна да Балтыйска з экіпажам крэйсера сустракаліся: Маршал Савецкага Саюза Кірыл Маскаленка, генерал арміі Хетагураў Х., міністры абароны краін Варшаўскай дамовы. Крэйсер курсіраваў па ўсёй акваторыі Балтыйскага мора, выконваў артылерыйскія стрэльбы з вежаў галоўнага калібру па ўмоўным наземных і марскіх цэлях, а ДЗК - стрэльбы па паветраных цэлях. Па баявой трывозе ў мае абавязкі ўваходзіла забеспячэнне аўтаматычнай падачы з артылерыйскага склепа 100-мм унітарных снарадаў і сінхронная стральба ўсіх гармат.

Мною былі аформлены фотаальбомы з эпізодамі вучэнняў краін Варшаўскай дамовы. Друкарскім наборам залатымі літарамі падпісаны ўсе ўдзельнікі. Ва ўрачыстай абстаноўцы быў уручаны фотаальбом і ў Музей флота.

На падвядзенне вынікаў вучэнняў з удзелам камандуючых флатамі ПНР, ГДР, НРБ было загадана камандзірам крэйсера і эсмінцаў прыбыць у польскі порт Свінавусце на базу падводных лодак. І хоць я ўжо быў вызваленым сакратаром камітэта камсамолу, старпам даручыў мне кацерам даставіць камандаванне.

Паколькі паўнаводная рака Одэр павыносіла шмат пяску, і ў Паморскай бухце значнае плыткаводдзе, то караблі сталі на рэйдзе ўдалечыні ад порта, міль больш за 10, так што берагоў нябачна. Прычаліўшы кацерам да пірса, афіцэры сышлі на нараду, а мы знаёміліся з базай, гулялі ў валейбол з падводнікамі. Паспрабавалі рыбачыць, і хоць не было рыбалоўных снасцей, на самаробны кручок выцягнулі прыстойную рыбёху.

Да вечара надвор'е сапсавалася: шквальны вецер рваў лісце, галлё, падымаў пыл… Прыйшоў наш афіцэр і сказаў, што з прычыны шторму, камандаванне на караблі даставіць буйны польскі буксір, а нас прымуць у падводную лодку. Не прайшло і паўгадзіны, як прыйшлі ўсе камандзіры эскадры. Маўляў, палякі- буксіршчыкі з-за небяспечнага шторму адмовіліся, а нам на маленькім карабліку трэба было здзейсніць небяспечны рэйс. Падыходзім кацерам да марской брамы. На мачце вісяць рэйдавыя знакі, (узровень шторму высокі і забаронены выхад у мора.) Але ў кацеры-камандзіры, а я рулявы… І толькі кацер выйшаў з вусця ракі, як высокая хваля моцна ўдарыла і накрыла: сарвала люк над маёй галавой рулявога, але балазе што ўпаў на карму. Хвалі дасягалі некалькіх метраў, дажджавая імгла засланяла бачнасць, адказны компас гуляў што шалёны, і давялося руліць па інтуіцыі…

Вось тут і пачалася спроба манеўравання па набягаючых хвалях: то поўны наперад, то стопар... больш за гадзіну працягвалася гэтая эпапея. У любы момант хваля магла перакуліць кацер і пазбавіць жыцця ўсіх мора-гора-хадакоў…

Вельмі складаным было высадзіць афіцэраў на эсмінцы. Цяжка апісаць, як пры пяці-васьміметровай хвалі падысці да борта карабля і высадзіць чалавека… Падавалі стралой над кацерам канат і камандзір эсмінца чапляўся за яго, але не паспяваў, бо хваля падымала кацер, і чалавек з канатам у руках валяўся на палубе кацера ... і так па некалькі разоў… Давялося мне дапамагчы камандзірам…

Пасля гэтага, швартуючыся яшчэ да крэйсера даваў задні ход і кармой прыбівала да навяснога трапа. Камандзір і афіцэры хутка выскоквалі. … Яшчэ больш складаным было адначасова застапарыць стропы на чатыры крукі, каб падняць кацер на палубу. За ўсімі нашымі швартовачнымі дзеяннямі на палубе, на вежах галоўнага калібру назіралі і перажывалі маракі. За доблеснае выкананне адказнага і даволі рызыкоўнага задання ў час штармавой непагадзі па дастаўцы кацерам камандавання эскадры з порта Свінаўсце (Польша) да караблёў на рэйдзе за дзесяць міляў, быў заахвочаны кароткатэрміновым адпачынкам на радзіме і ўзнагароджаны юбілейным медалём.

У Дзень Ваенна-марскога флоту СССР пасля ўрачыстага марскога параду на кацерах высокае кіраўніцтва краіны і флоту забраліся на крэйсер: старшыня СМ СССР Касыгін А.Н., Галоўнакамандуючы ваенна-марскім флотам СССР Адмірал Флоту Гаршкоў С.Г., старшыня СМ БССР Кісялёў Ц.Я., кіраўнікі Літвы - Снечкус А.Ю., Латвіі - Рубэн В.П., Эстоніі - Клаўсон В.І.



Шмат хвалюючых, памятных падзей адбылося ў гэты святочны дзень. З рук прэм'ера краіны Касыгіна А.Н. атрымаў юбілейны медаль. На ўсё жыццё запомніў гэтыя ўрачыстыя хвіліны. Нязручна казаць, але згарача так працiснуў руку, што Аляксей Мікалаевіч паморшчыўся.., а я, як памяць, доўга не мыў руку.



Усе 4 гады са мной служылі лідзяне: Залескі Вася, Цыплінскі Ваня, і данбасавец - Кіяшка Коля - намеснік сакратара камітэта камсамолу крэйсера. Пасля маёй адмовы і па рэкамендацыі Кіяшка Коля застаўся ў Таліне сакратаром камітэта камсамолу цывільнага мараходнага вучылішча, а потым памочнікам капітана грузавога карабля.



У 1965 годзе на адной падводнай лодцы на Фінскім заліве здарыўся пажар. Там загінулі некалькі маракоў і намеснік камандзіра ТВМБ па камсамоле Максімаў? Тады з крэйсера на вызваленую пасаду перавялі сакратара камітэта камсамолу, старшага лейтэнанта Белага Аляксандра. Я быў намеснікам і па апошнім годзе службы стаў вызваленым сакратаром камітэта камсамолу на правах райкама на афіцэрскай пасадзе (камсамольцаў было больш за 600 чалавек). Была выдзелена двухмесная каюта, павысілася грашовае забеспячэнне, харчаванне ў кают-кампаніі. У падначаленні: два афіцэры і мічман, клубная каманда. У кіраўніцтве былі рэдакцыя і друкарня карабельнай газеты, карабельны клуб, духавы і вакальна-інструментальны аркестры.

Мы ведалі, як важна арганізаваць вольны час для маракоў, бо яны падоўгу разлучаны з сям'ёй , а ў доўгіх, далёкіх марскіх паходах ізаляваныя і ад зямнога побыту. Таму на крэйсеры весела і цікава праводзіліся вечары адпачынку, канцэрты мастацкай самадзейнасці, навагоднія латарэі, КВН.







***У клубе спявае спявачка Усесаюзнай радыёстанцыі "Юнацтва"-Маргарыта Суворава з удзелам і кампазітара Арно Бабаджаняна***

Камітэт камсамолу арганізоўваў запамінальныя сустрэчы з ваеннымі маракамі і цывільнай моладдзю сацыялістычных краін.



***Канцэрт даюць вайсковыя маракі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі***



***На рэйдзе да крэйсера прышвартавалася польская шхуна, і добры канцэрт даў Польскі вакальна-інструментальны ансамбль***

На караблі пры стаянцы ў порце часта прымалі артыстаў.



***На карабельным юце: Усевалад Санаеў, Наташа Вялічка, Ніна Дробышава, Роза Макагонава***

Са студэнцкага досведу арганізаваў выпуск светлагукавой сатырычнай газеты "Камсамольскі фіціль", дзе ў мяккай сатырычнай і гумарыстычнай форме з музыкай і вершамі дэманстравалі крыкатуры негатыўнага флоцкага жыцця. Заўсёды перад кінафільмам часта паказвалі чарговы выпуск. Гэта выклікала вялікую цікавасць у сяброў-маракоў па службе і адабрэнне ў камандавання.




У ліпені 1965 года святкавалася 20-годдзе вызвалення Эстоніі ад нямецка-фашысцкіх ахопнікаў. Здаецца, у Талін прыехала ўсё насельніцтва маленькай краіны. Месцаў у гасцініцах не хапала, размяшчаліся ў школах, дзіцячых садках, клубах і проста ў палатках у скверах і на лужках. Народ святкаваў, весяліўся, была ўсеагульная эйфарыя свята. Мне сёння цяжка ўявіць, як рэзка памянялася палітычная накіраванасць цяперашняга кіраўніцтва. На дзяржаўным узроўні прапагандуецца антырусізм, рускамоўныя грамадзяне ўціскаюцца, перанеслі помнік воіну-вызваліцелю, знеслі ўсе помнікі савецкай эпохі, перайменавалі вуліцы... Нам, маракам, у дні святкавання давялося ўдзельнічаць у забеспячэнні парадку ў горадзе, ахове шматлікіх дэлегацый, кіраўнікоў рэспублік і Саюза ССР. На святкаванні прысутнічаў старшыня Вярхоўнага Савета СССР Анастас Мікаян, аднак, пасля заканчэння афіцыйнай часткі захварэў і з'ехаў.

Гасцям было прапанавана здзейсніць марскую прагулку на цеплаходзе, рыбалоўным сейнеры або ваенным караблі. Выбар упаў на наш крэйсер "Камсамолец", на якім служылі каля тысячы ваенных маракоў розных нацыянальнасцей Савецкага Саюза і, натуральна, кожнаму было цікава сустрэцца з дэлегатамі сваёй рэспублікі. Сустрэчы праходзілі па кубрыках. Мы, маракі-беларусы, сабраліся ў карабельным клубе. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Сурганаў Ф.А. і іншыя члены дэлегацыі цікава распавядалі пра родную Беларусь.

Крэйсер выйшаў у мора, узяў курс на востраў Саарэма. Добрае надвор'е, ціхае мора, канцэрт на верхняй палубе, флоцкая вячэра прывялі ў захапленне гасцей ... Але калі іх правялі па кубрыках, яны памацалі матрацы і падушкі з корку, спусціліся па трапах у кацельнае і машыннае аддзяленне, дзе тэмпература больш за 40 градусаў, ціск на вушы, шум працуючых механізмаў, госці прыйшлі да заключэння: "Хто на моры не бываў - той і гора не відаў!"

На юце карабля маракі сустрэліся з лётчыкам-касманаўтам № 2 Героем Савецкага Саюза падпалкоўнікам Цітовым Г.С. Ён распавёў аб Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў, пра сяброў-касманаўтаў, аб



сваім палёце ў космас на караблі "Усход-2".

На першы палёт рыхтавалі яго і Ю.А. Гагарына. У апошні момант выбар упаў на Юрыя. Цітову затым выпала больш адказнае і цяжкае выпрабаванне, больш доўгае знаходжанне ў космасе. Першыя касмічныя караблі дрэнна абаранялі касманаўта ад шкоднага ўздзеяння космасу. Асабліва цяжка пераносіліся перагрузкі пры старце і вяртанні на зямлю. Было ўсё ўпершыню і невядомае: бязважкасць, цесната і тэмпература ў кабіне, забеспячэнне паветрам, харчаванне з цюбікаў. За 25 гадзін палёту "Арол" (пазыўны) Цітова Г.С. 17 разоў абляцеў Зямлю і прызямліўся каля Саратава на парашуце, ледзь не сеўшы на праходзіўшы цягнік.

Герман Сцяпанавіч пакарыў нас сваёй прастатой, падцягнутасцю, эрудыцыяй, вострым розумам, гумарам.

У вечары ў кают-кампаніі для гасцей была дадзена капітанская вячэра па вышэйшым класе: вытанчаныя стравы, гарачальныя напоі "Пасольская гарэлка", рыжскі чорны бальзам, эстонскі лікёр "Вана Талін". Матроскі ансамбль даў добры канцэрт, а затым іграў танцы. Госці, раздабрэўшы ад надзённай і духоўнай ежы, далёка за поўнач працягвалі весяліцца.

Герман Сцяпанавіч ліха танцаваў модны ў той час твіст і чарльстон. Яму ўторыла на більярдавым стале сімпатычная карэспандэнтка "Известий " і ліпла да яго ў каюце...

У фае выйшаў старпам і даў каманду, нам дзяжурным, перанесці адпачываць Германа Сцяпанавіча ў сваю каюту.



*Мы в море выходим, в открытое море.*
*Большая дорога у нас впереди.*
*Гуляет волна на широком просторе,*
*и песня сама закипает в груди.*
*Над палубой чайки проносятся мимо,*
*скривается берег вдали за кормой,*
*И ширится песня про город любимый,*
*где скрылся платок голубой…*

Да раніцы крэйсер падышоў на рэйд вострава Саарэма. Стаяла выдатнае ліпеньскае надвор'е: ціхае, зацішнае, на моры поўны штыль, скрозь ранішні туман прабівалася сонца. На досвітку кацер спусцілі на ваду. Па трапе сышлі і селі ў кацер першыя "турысты" ў спартыўных касцюмах з вудамі (у іх планах была добрая рыбалка).

На прычале кацер сустракала мясцовае кіраўніцтва, забіралі гасцей і ад'язджалі на аўтамашынах. Тут жа была і група дзяўчат з кветкамі, якія прагнулі сустрэцца з касманаўтам № 2. Але ён усё не з'яўляўся. Мы зрабілі з дзясятак рэйсаў, і толькі апоўдні Герман Сцяпанавіч сышоў з крэйсера і спусціўся да нас у кацер. Я запрасіў касманаўта ў рубку за штурвал.



Гэты момант я зафатаграфаваў.

Адчаліўшы ад трапа, кацер узяў курс на востраў. Я спытаў у Германа Сцяпанавіча, ці ёсць падобны штурвал у касмічным караблі? Ён адказаў: "Там усё паіншаму. На старце ракета выстрэльвае на калязямную арбіту, а там невялікія манеўры "Усход-2" ажыццяўляў за кошт рухавікоў, як на аўтаматычным, так і ручным рэжыме. Спытаўшы ў мяне, ці ўстойлівы кацер на вадзе пры рэзкіх паваротах, Герман Сцяпанавіч рэзка штурвал пакруціў злева-направа, і так некалькі разоў. Кацер на поўным ходу пачаў рабіць "зігзагі", што ў прынцыпе пры спакойным моры бяспечна, але па інструкцыі недапушчальна. За што ў наступстве мне давялося выслухаць разнос старпама і даваць тлумачэнні: "Гэта ж сам Цітоў!"

На прычале дзяўчаты, а іх стала яшчэ больш, радасна сустракалі, кінуліся да Германа Сцяпанавіча, закідалі кветкамі і павялі з сабой.

Да вечара пачалі вяртацца падвыпіўшыя турысты. Да самых прыцемкаў мы іх кацерам дастаўлялі на крэйсер. Апошнімі прыбылі Цітоў Г.С. і аматары ры-

балкі.




На памяць Герман Сцяпанавіч даў аўтограф на кнізе "На космодроме". Гэтая дарагая для мяне рэліквія была выстаўлена ў музеі "Зямля і людзі", які размяшчаўся ў былым панскім палацы в. Дварышча. На жаль, кніга знікла разам з усімі экспанатамі разрабаванага і разламанага музея.

У лютым 1966 года прызначылася справаздачна-выбарная камсамольская канферэнцыя Талінскай ВМБ. А камсамольцы крэйсера "Камсамолец", які стаяў у доку ў Ліепаі Латвійскай ССР, складаючы палову базавых, былі ўдалечыні. І трэба было абавязкова даставіць дэлегатаў у Талін. Хто вырашаў, нам незразумела, але нас, крэйсерскіх камсамольцаў, чалавек 50 загрузілі на невялікі цывільны буксір, і выйшлі ў мора. Нас адразу сустрэла зімовая непагадзь: мароз градусаў больш за 20, моцны шквалісты вецер, вялікія хвалі. Трое сутак гэты маленькі караблік кідала па хвалях так што маракі валяліся па калідоры, ляжалі ў гальюне. Іх ванітавала, вырывала з жоўцю, рыгалі на палубу і пад ляжачых. І хоць я быў на флоце ўжо чацвёрты год і на крэйсеры часцяком пераносіў прыстойную гайданку-такога яшчэ не адчуваў ... ванітавала і мяне, балелі вантробы, сэрца стукала, задыхаўся, галава трашчала, не знаходзіў сабе месца прылегчы - усюды валяліся мараходы ...На трэція суткі пачулі, што падыходзім да Таліна. Я выпаўз на палубу, падняўся да борта і збянтэжыўся: надстройкі, мачты, палуба, борты - усё ў тоўстым абледзяненні, нават фалы сталі таўшчынёй 10-15 см, што жэрдкі…

На прычале Купецкай гавані нас сустракалі духавы аркестр і група афіцэраў. Я чуў: "Яшчэ б пару гадзін, і караблік пад цяжарам лёду, нажаль, пайшоў бы ў бездань"…

Ісці да палаца ВМФ было больш за кіламетр. Ногі не слухаліся, цела хістала, галава трашчала... Дапаўзлі і мы заселі ў канферэнц-зале на заднія рады, а сёй- той ўлёгся і захроп. Быў я ў спісе для выступу, але не памятаю як адсталі ... Гэты жудасны і рызыкоўны марскі пераход стаіць у маёй памяці! На каляндарыку дні затушаваны па-чорнаму. Назад на Ліепаю нам далі вагонныя купэ.




За поспехі ў баявой і палітычнай падрыхтоўцы і актыўную камсамольскую працу быў узнагароджаны Ганаровай граматай ЦК ВЛКСМ, Граматай ЦК ЛКСМ Эстоніі, Граматамі камандзіра карабля, сфатаграфаваны каля разгорнутага сцяга крэйсера.







Тры разы быў заахвочаны кароткатэрміновымі адпачынкамі на радзіме з наведваннем акрамя малой радзімы і бацькоўскага дома Менска, Масквы, Красноярска, Вільні.



*Храню, словно честь, словно знамя побед*
*Родной боевой комсомольский билет.*
*Пусть кончилась флотская юность моя,*
*Прощай комсомольская наша семья!*
*С тобою я к цели уверенно шёл,*
*Мне крепкие крылья вручил комсомол...*

Напрыканцы службы стаў членам Кампартыі і была прапанова перайсці сакратаром камсамольскай арганізацыі Талінскага мараходнага вучылішча, але трэба было вяртацца на радзіму да састарэлых бацькоў… Ды і абставіны так складваліся: старэйшы брат паехаў па камсамольскай пуцёўцы ў Казахстан на будаўніцтва шахты, малодшыя браткі былі яшчэ малыя, бацькі ніяк не маглі дабудаваць хату.



З сабою прывёз дзве карціны, намалёваныя алеем, як памяць аб службе на флоце і пра актыўнае камсамольскае жыццё.



***Талін. Купецкая гавань. 1966 год***

У лістападзе 1966 года, калі вярнуўся на радзіму, прыехаў сакратар РК камсамолу Вяселік Яўген (напэўна ён прачытаў дасланую ў раён камсамольскую характэрыстыку) з прапановай узначаліць камсамольскую арганізацыю саўгаса "Тарнова," с перспектывай на райкам камсамолу. Але старшыня роднага калгаса Атрошчанка П.А. настойліва запрасіў мяне на працу заатэхнікам. І я ўзяўся з ахвотай, бо жыў дома ў бацькоў і будавалі хату.



***Кудла Віктар Іванавіч, 1941 г.н., з камсамольскім значком***

Памятаю, як перад кастрычніцкімі святамі ў 67 годзе мы, маладыя партыйцы і камсамольцы, рыхтавалі месца пад манумент у Дроздаве. На той час экскаватараў не было, і мы рыдлёўкамі капалі глыбокую траншэю пад фундамент помніка. Быў мітынг, мора народу….



***Манумент-стэла ў роднай вёсцы Дроздава пастаўлены ў гонар загінуўшых камсамольцаў і аднавяскоўцаў, патрабуе на наш погляд, рэканструкцыі і добраўпарадкавання. Прапанова дзесятка драздаўцоў напраўлена райвыканкаму***

Далей, працуючы дырэктарам эксперыментальнай базы "Ніва, падтрымліваў моладзь, якая цэлымі класамі заставался ў гаспадарцы. У камсамольскай арганізацыі было больш за 100 камсамольцаў і 70 партыйцаў.



Дзякуючы злажанай працы будаўнічай брыгады ў складзе поўсотні чалавек, а ў летні перыяд дадаваўся студэнтскі будаўнічы атрад "Граніт" палітэхнічнага інстытута рэвлізаваў уласны праект стварэння этнаграфічнасядзібнага комплекса з былых панскіх памяшканняў, і за некалькі гадоў рэстаўраваў вежу пад музей "Зямля і людзі", млын - пад рэстаран і гасцінніцу, зрабілі дзіцячую пляцоўку каля школы.



Студэнцкім будатрадам "Маладосць" былі пабудаваны: ферма "Марысева", аграхімцэнтр, сенасховішча і буракасховішча з кармацэхам, склады для будматэрыялаў, новыя гаражы і навесы для сельгас-тэхнікі.





***Будатрад "Маладосць"***

Санітарная дружына з актыўных камсамольцаў займала першыя месцы ў раёне і вобласці.



**P.S.**

Яшчэ ў 2018 годзе з нагоды 100-годдзя камсамолу, я перадаў копіі камсамольскіх дакументаў у Лідскі райкам БРСМ. Аднак, ні на сустрэчу ветэранаў-камсамольцаў з моладдзю ў Лідскі гістарычна-мастацкі музей, ні ў родную вёску Дроздава на 50-ці годдзе ўстаноўкі манумента не запрасілі ні мяне, ні былых мясцовых камсамольцаў - будаўнікоў стэлы. Тое самае і зноў на 105-ю гадавіну ВЛКСМ.

Хочацца пажадаць Лідскаму райкаму БРСМ збіраць матэрыялы пра гісторыю камсамольскага руху на Лідчыне і падтрымліваць сувязь з былымі камсамольцамі, а ідэалагічнаму аддзелу райвыканкама больш адказна рыхтаваць мерапрыемствы.

Мой жа святы абавязак - пастарацца зрабіць як мага больш, каб гісторыя Радзімы засталася ў памяці нашчадкаў.

*Леанід Лаўрэш*

# Маёнтак Падварышкі і суседнія Гайцюнішкі

Самая старая згадка пра Падварышкі датуецца 1690 годам, калі Стэфан Корф (?-? гг.), канонік Жамойцкі, набыў маёнтак Гайцюнішкі, у склад якога ўваходзілі Падварышкі, у Магнуса Корфа за 35 тысяч злотых. Падварышкі былі часткай маёнтка Гайцюнішкі, і таму ў галоўным іх гісторыя да XIX ст. супадае.

На пачатку XIX ст. Падварышкі разам з Гайцюнішкамі і Беняконямі належаць Каралю Остэн-Сакену (сыну Ульрыка) і яго сыну Станіславу[1]. У 1835 г. дачка Караля Вераніка Остэн-Сакен (пра якую я раскажу трошкі ніжэй), як пасаг перадала Падварышкі, Падэгуці, Лоўцы, Варнакелі, Забалаць, Ленцішкі, Беняконцы - разам 3300 дзесяцінамі зямлі і 426 душ свайму мужу Адаму Рымшу (сыну Ануфрыя), у 1844 г. Рымша меў ужо толькі 885 дзесяцін зямлі[2]. У 1842 г. у Падварышках меўся двор з трохпакаёвым домам з часанага дрэва, крыты саломай. Пад адным дахам з домам месцілася людская і варыўня (памяшканне для захоўвання садавіны і гародніны). На гаспадарчым двары меліся адрыны для жывёлы, хлеба, сена і саломы, валоўнік, птушнік, свіран, ледавік і бровар. У вёсцы Падварышкі стаяла карчма з дзвюма хатамі і стайнямі[3].




***Вераніка Рымша з Остэн-Сакенаў і яе муж Адам Рымша каля 1837 г.. Малюнак Рамана Вільчыньскага***

На працягу XIX ст. Падварышкі належалі роду Рымшаў герба Газдава. Ганна Рымшанка, дачка Рамана († 1919 г.) і Антаніны (з сям'і Бярновічаў), выйшла замуж за Тадэвуша Кярсноўскага († 1971 г. у Лондане) і перадала маёмасць Рымшаў сям'і мужа. Апошнімі ўладальнікамі Падварышак да 1939 г. былі Ганна і Тадэвуш Кярсноўскія. У 1939 г. Падварышкі разам з прылеглымі хутарамі Рымшышкамі, Мядзінамі і лясной гаспадаркай Геленава, займалі плошчу каля 800 га.

Стары сядзібны дом разбурыўся яшчэ ў XIX ст. і на яго месцы быў пабудаваны новы. Трэці сядзібны дом пастаўлены ў 1930-1931 гг. па праекце архітэктара прафесара Стэфана Нарэмбскага, але будаўніцтва было амаль што скончана толькі да 1939 г. Новы сядзібны дом не толькі добра ўпісваўся ў фон старога парку, але і меў характэрныя рысы абшарніцкіх маёнткаў. Аднапавярховы, ён быў пастаўлены на высокіх падмурках у форме прастакутніка і меў двухпавярховую сярэднюю частку. З пярэдняга боку размяшчаўся традыцыйны, адносна вузкі і неглыбокі порцік з чатырма стройнымі калонамі, увянчаны трохкутным франтонам. Увесь дом быў накрыты высокім гладкім чатырохсхільным дахам[4].



***Падварышкі ў першай палове XX ст., фота Яна Булгака***

Перад домам меўся вялікі газон, акружаны шырокай дарожкай, якая падымалася ад пад'езда да невялікага насыпу. Кярсноўскія лічылі, што пад'язная дарожка і ганак - гэта як быццам твар іхняга дома, які павінен мець свае асабістыя рысы і выраз твару. Сын апошніх уладальнікаў, гісторык, прафесар-медыявіст

[1] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 178.

[2] Там жа. S. 177.

[3] Федорук. Старинные усадьбы Гродненщины. Берестовицкий-Ивьевский районы. Минск, 2014. С. 256.

[4] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wroclaw - Krakow, 1993. T. 4. S. 288.

Рышард Кярсноўскі ў сваіх мемуарах пісаў: *"Навокал меліся асабнякі з класічнымі рысамі, з ганарыстым і прахалодным выразам твару, іншыя былі з ганкамі на нізкіх слупах, агорнутых вінаградам, гэтыя мелі далікатныя, прыязныя і цёплыя рысы твару. Часам сядзібныя дамы былі пазбаўлены ўсялякага выразу, але тады яны ўжо не цалкам заслугоўвалі сваю назву "шляхецкі двор". Наш сядзібны дом меў выцягнутыя ў вышыню рысы твару, пазначаныя чатырма белымі калонамі, ён меў нейкі адасоблены выраз, які змякчаўся вялікім чырвоным дахам, што апускаўся да вокнаў, як лісіная шапка, насунутая на вочы"* [5].

Рышард Кярсноўскі, успамінаючы бацькоўскі дом, пісаў далей: *"Жылы дом быў новы, мураваны, пакрыты чырвонай дахоўкай. Бацькі пабудавалі яго ў 1930 г. на месцы былой сядзібы, якая згарэла падчас Першай сусветнай вайны з-за нядбайнасці немцаў, якія тут стаялі. Дабудаваць яго не ўдалося, бо надышлі гады крызісу, а потым, калі пачаўся росквіт, больш актуальным стала будаваць чвартакі* (дом для работнікаў на 4 сям'і - *Л. Л.*), *а таксама амбар, стайні і адрыну.... Паставілі хлеў, ... пабудавалі вялікую піўніцу на сыры, асушылі лугі. Дом застаўся неатынкаваным і не меў каналізацыі, але яго корпус з вялікім, ламаным дахам, ганкам, прарэзаным высокімі калонамі, якія падтрымлівалі порцік, здолеў урасці ў пейзаж, на фоне зялёных ліп, елак і каштанаў"* [6].

Інтэр'ер дома меў традыцыйную планіроўку, з калідорамі па абодва бакі залы. Пярэднія памяшканні рознай формы і памеру служылі жылымі пакоямі, кабінетамі і г. д. З падоўжанага вестыбюля са скляпеністай столлю, з дзвюма калонамі і дубовымі лесвіцамі, якія вялі на другі паверх, можна было наўпрост увайсці ў вялікі квадратны салон, да якога з адваротнага баку дома, падыходзіла садовая дарожка. Два пакоі, якія з бакоў прымыкалі да салона, стваралі з ім адну анфіладу[7]. Дом меў чатыры ўваходы: *"З фасаду праз ганак, з саду праз дзверы на тэрасу, агароджаную аркадамі з чатырох слупоў і арак, якія падтрымлівалі балкон, а таксама выхад на дзіцячую пляцоўку, і ўваход на кухню і ў службовыя пакоі. Кожныя дзверы мелі сваё прызначэнне і жылі сваім жыццём, абслугоўваючы насельнікаў дома і іх гасцей, слуг і інтарасантаў. Толькі нядаўна, у канцы ліпеня* (1939 - *Л. Л.*), *на імяніны маёй маці перад гэтым ганкам збіраліся госці; пасля вячэры яны выходзілі на тэрасу, а потым у сад, бо вечар быў ясны і цёплы, і я таксама са сваімі аднагодкамі дапазна блукаў па алеях і сцежках, старанна ўпрыгожаных з гэтай нагоды. Якраз ад гэтага ганка мы ад'язджалі на свежанабытай машыне - цёмна-сінім Шэўрале - з візітамі да далёкіх і бліжэйшых суседзяў: у Яшуны Солтанаў, у Сядлішча Дэмбіцкага, у Яварава Вендзягольскага. Мы не прадбачылі лёсу, які ўжо навіс над будучыняй гэтых сядзіб і іх гаспадароў. Таксама мы ездзілі па справах бацькоў у Ліду, Наваградак, на бацькаву радзіму ў Гарадзілаўку, Чамяроўку і да Свіцязі, дзе мне казалі:*





***Сядзібны дом у Падварышках, 2023 г.***



***Заходні (задні) фасад сядзібнага, 2023 г.***



***Былы паўночны ўваход у сядзібны дом, 2023 г.***

[5] Kiersnowski Ryszard. Tam i wtedy w Podweryszkach, w Wilnie i w puszczy 1939-1945. Warszawa. 2007. S. 5.
[6] Там жа. S. 5.
[7] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji … T. 4. S. 289.

*"Хто б ты ні быў... не забывай сваю радзіму". Нават марылася нам далёкае падарожжа на захад, на Аўгустоўскія азёры"* [8].

Заўважу, што тэрасы, *"агароджанай аркадамі з чатырох слупоў і арак, якія падтрымлівалі балкон"*, і самога балкона сёння няма, засталіся толькі падмуркі, па наяўнасці якіх можна здагадацца, што тут было раней.

Паколькі амаль усё ўбранне ранейшага сядзібнага дома XIX ст. было знішчана ў выніку пажару ў 1919 г., да 1939 г. толькі некаторыя пакоі новай сядзібы атрымалі стыльнае аздабленне. Зала была ўпрыгожана двума рагамі лася і іншымі паляўнічымі трафеямі, такімі, як рогі казла, пудзіла рабчыка і інш. У гасцёўні стаяў гарнітур з чырвонага дрэва ў стылі бідэрмаер[9], які складаўся са стала, канапы, двух фатэляў і чатырох крэслаў. На сценах красаваліся маляўнічыя літаграфіі з відамі Вільні і невялікім партрэтам вядомай сваёй прыгажосцю Веранікі Рымшынай, народжанай Остэн-Сакен (каля 1800-1843), партрэт гэты паходзіў з 1820-1830 гг. Вераніка была стрыечнай сястрой мужа Марылі Верашчакаўны Ваўжынца Путкамера з Бальценікаў. Пра красуню Вераніку Остэн-Сакен пісалі розныя мемуарысты, таму я не магу не расказаць пра гэтую незвычайную жанчыну[10].



***Вераніка Рымша з Остэн-Сакенаў, магчыма, той самы партрэт з Падварышак ці яго копія***

З віленскіх успамінаў Станіслава Мараўскага мы даведваемся пра рамантычную натуру Веранікі: *"У баранесы Сакен была малодшая дачка цудоўнай, анёльскай прыгажосці - Вераніка. Забраўшы яе з вучылішча ў 1820 г., баранеса жыла з ёй за Вострай Брамай у доме Мінінавай. Другую палову дома займалі мае бацькі, якія прыехалі на зіму ў Вільню. У маіх бацькоў было столькі знаёмых, што яны не мелі патрэбы сустракацца з суседзямі па гэтым доме, тым больш, што мая мачыха пастаянна хварэла.*

*… Паміж Вострай Брамай і домам Мініных ёсць даволі вялікі пляцык. Праз гэты пляцык, я, задуменны, з апушчанай галавой, .. не маючы ахвоты і звычкі глядзець у вокны, праходзіў два разы на дзень на працягу ўсяго часу знаходжання тут маіх бацькоў. […]*

*Раз ці два мачыха мне расказвала, што да нас прыязджалі яе суседзі, Сакены. Але гэта мяне не зацікавіла… пакуль аднойчы мой добры сябар Лахніцкі, сустрэў мяне на вуліцы і адразу накінуўся за тое, што я збаламуціў яго кузыну! Я глядзеў яму ў вочы і імкнуўся зразумець чаго ён хоча - ці не звар'яцеў ён? Толькі, калі, пачаўшы смяяцца, Лахніцкі сказаў мне, што панна Вераніка самым рамантычным на свеце чынам, бачачы толькі праз акно, калі я ішоў па пляцыку, закахалася ў мяне, а яе бацькі, якія любяць дачку больш за ўсё на свеце, не могуць даць сабе рады. Таму яны, як сваяку і як сябру абодвух дамоў, даверылі гэта яму і папрасілі сасватаць мяне з Веранікай. Я тады быў дзевятнаццацігадовым блазнам і папрасіў яго некаторы час нічога не расказваць пра гэта маім бацькам, а потым, пачырванеўшы, прызнаўся яму, што ніколі ў жыцці не бачыў панну Сакен, што нават не ведаю, ці наогул яна існуе на свеце. Я абавязаў сябра хаця б здалёк паказаць мне яе, таму што, калі я пачну глядзець ў іх вокны і ўбачу яе, я зраблюся дурнем і пачырванею, як вішня. Ён зрабіў гэта. Але як той дурань, Лахніцікі ўсё гэта "патаемна" разнёс па горадзе, так што праз некалькі дзён справа дайшла і да майго бацькі.*

*Убачыўшы панну, узрадавалася душа мая! Сапраўды, было тут ува што закахацца! І я таксама імгненна закахаўся ў яе. Але мая любоў была ад удзячнасці, а, можа, і каб проста дагадзіць сапраўднай багіні. Я палюбіў яе, але, на жаль без жарсці, і гэтых пакут ад пачуццяў! Тады ж паспеў завесці з ёй самае жывое і палкае сяброўства. Я хутка даведаўся, што яна прызначаная для кагосьці іншага! Яе пачалі выводзіць у свет, і ўсе размовы ў ім былі толькі пра яе. Мой бацька таксама быў вельмі ўсцешаны яе прыгажосцю, да таго ж яна мела добры пасаг і чакала яшчэ большага пасагу пасля сваёй гарбатай старой сястры. Што таксама ў вачах маіх старых зусім не псавала ўсю справу. Дайшло да таго, што мой бацька нават пачаў віць нам гняздо. Але калі даведаўся, што яна пратэстантка, дык ашчацініўся, як певень і не хацеў больш нічога пра яе чуць. Не таму, што быў фанатык, а таму, што, на яго думку, у жыцці столькі*

[8] Kiersnowski Ryszard. Tam i wtedy w Podweryszkach… S. 6.

[9] Бідэрмаер (ням., Biedermeier) - мастацкая плынь у нямецкім і аўстрыйскім мастацтве, якая атрымала развіццё ў 1815-1848 гг. Мэбля эпохі бідермайера вольная ад архітэктурных формаў і вялікай колькасці дэкору. Крытэрам якаснасці мэблі лічылася зручнасць формаў і бездакорная сталярная праца. Прастата формаў мэблі кампенсавалася яркай расфарбоўкай абіўкі і г. д.

[10] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji … T. 4. S. 289.

*прычын, якія ўвесь час працуюць на раскол шлюбу, што не трэба яшчэ цягнуць сюды рэлігію, якая па сваім уплыве, калі яе шчыра несці ў сэрцы, адзіная здольная злучыць новымі вузламі нават тое, што раз'яднана.*

*Вядома, Вэрця, як мы яе звалі, нічога пра гэта не ведала і з поўным даверам маладой дзяўчыны яшчэ доўга ў марах будавала ружовыя замкі на лёдзе. Ва ўсіх жанчын паўсюдна ёсць свае шпіёны … таму ўвосень, як толькі Сакены даведаліся, што я ўсё яшчэ бываю ў Мюлераў, яны знялі ў іх доме кватэру і адразу пачалі іх наведваць…"* [11].

А сябар Міцкевіча Антоні Адынец заўважаў: *"Вераніка Остэн-Сакен, дачка барона (з Гайцюнішак), па прыгажосці, гумары і манерах, як дзве кроплі вады была падобная да вобраза Дыяны Вернон з аповесці Вальтэра Скота пад назвай "Роб Рой", тым больш, што, як і тая, насіла свой зялёны капялюшык, як амазонка. Прыхільнікам яе быў пан Адам Рымша, сусед і вайсковы таварыш пана Ваўжынца (Путкамера), які па яго пратэкцыі праз пару гадоў ажаніўся з ёю"* [12].

Шлюб абшарніка Навагрудскага павета і ўдзельніка напалеонаўскіх войнаў Адама Рымшы з Веранікай Остэн-Сакен адбыўся ў суровых, рамантычных і нават авантурных абставінах. Рымша ў 1833 г. быў арыштаваны і абвінавачаны ў тым, што ведаў пра экспедыцыю Юзафа Заліўскага, якая мусіла стаць пачаткам агульнага паўстання, ад яго эмісара Шыманскага[13]. Паколькі даказаць дачыненне Рымшы да справы не атрымалася, рашэннем віленскага генерал-губернатара князя Далгарукава ён быў высланы на пасяленне ў Вяцкую губерню. Туды ў 1835 г. прыехала да яго баранеса Вераніка Остэн-Сакен, дзе маладыя былі павянчаныя ссыльным ксяндзом Шыманам Гілеўскім без дазволу ўладаў[14].

Цікава, што ў свой час бацькі Вернікай не далі дазволу на шлюб з Адамам Рымшам, і той, у роспачы ажаніўся з іншай жанчынай і, магчыма, меў з ёй сына. Але ад свайго кахання не адмовіўся і працягваў патаемна падтрымліваць адносіны з Веранікай.

Да 1835 г. бацькі баранесы Веранікі Остэн-Сакен ужо памерлі і не маглі ёй перашкодзіць. Вераніка адправілася да жанатага мужчыны, які знаходзіўся ў ссылцы і выклікала гэтым гучны скандал і асуджэнне з боку грамадства. Нават яе апякун Ваўжынец Путкамер выказваў сваё абурэнне з гэтай нагоды. Пасля атрымання звестак аб смерці жонкі Адама яны ўзялі шлюб[15].

У жніўні 1835 г. устрывожаны вяцкі паліцэймайстар Катані (адзін з герояў "Былае і думы" А. Герцана) даносіць губернатару, што ў Вятку да Рымшы прыехала баранеса Вераніка Остэн-Сакен, "девица", абшарніца Віленскай губерні, якую 21 жніўня без ведама і дазволу ўладаў абвянчаў з Рымшам ссыльны ксёндз Шымон Гілеўскі. Катані абураны "непаслушэнствам Рымшы ў дачыненні да ўлады", бо на патрабаванне з'явіцца ў паліцыю для тлумачэння, ён адказаў, што не мае вольнага часу, паабяцаў прыйсці ў іншы дзень, але так і не прыйшоў. А Вераніка стала "гераіняй Вяткі" - так назвалі яе ў вершы, які хадзіў паміж ссыльнымі. Усе ведалі, што адважная дзяўчына аформіла праязныя дакументы да Масквы і… прыехала да каханага мужчыны ў Вятку. Яна грунтоўна падрыхтавалася да будучага сямейнага жыцця: прывезла з сабой двух лёкаяў, кухара, фурмана, пакаёўку і прачку[16].

Праўнучка ўладальнікаў суседніх Бальценікаў, Ваўжынца і Марылі Путкамераў (з Верашчакаў) Яніна Жалтоўская, праз больш, чым 100 гадоў, пісала пра гэтую гісторыю як пра яшчэ больш авантурную і можна не сумнявацца, што менавіта ў такім выглядзе яна і засталася ў памяці грамадства: *"Вераніку, чароўную Вэрцю, выкраў Рымша, які, як і многія дастойнікі таго часу, быў ужо жанаты. Ён адвёз заможную дзяўчыну ў Вятку і толькі праз гады, і толькі пасля смерці сваёй першай жонкі ўпарадкаваў адносіны з ёй. Калі я была маладой, такая авантура здавалася мне малаверагоднай. Адам Рымша і Вераніка мелі некалькі сыноў і адну надзвычай непрыгожую дачку Марыю, якая выйшла замуж за свайго стрыечнага брата Рымшу"* [17].

Які з варыянтаў гісторыі кахання гэтых маладых людзей адпавядае праўдзе, сёння высветліць ужо немаг-

---

[11] Morawski S. Kilka lat mlodosci mojej w Wilnie. Warszawa 1924. S. 262-264.

[12] Адынец А. Э. Успаміны пра мінулае. Мінск, 2020. С. 212.

[13] Юзаф Заліўскі - адзін з арганізатараў паўстання на землях былога ВКЛ. Пасля паразы паўстання 1830-31 гг., на эміграцыі, пад уплывам руху карбанарыяў, была створаная арганізацыя "Помста народа". Часткай планаванага паўстання была так званая "Экспедыцыя Юзафа Заліўскага". "Экспедыцыя Заліўскага" ўяўляла сабой спробу ўзнаўлення барацьбы за незалежнасць супольна з агульнаеўрапейскім рэвалюцыйным рухам. Для гэтага, на пачатку 1833 г., на тэрыторыю Беларусі, Літвы і Украіны былі накіраваны эмісары, якія павінны былі падрыхтаваць новае ўзброенае выступленне. У адпаведнасці з распрацаваным у эмігранцкіх колах планам у Гарадзенскі і Лідскі паветы быў накіраваны ўраджэнец г. Гародні Марцэлі Шыманскі - актыўны ўдзельнік паўстання 1831 г. Яму ўдалося завязаць кантакты з многімі жыхарамі Лідчыны. Аднак Шыманскі не паспеў распачаць рэалізацыю распрацаванага ў Парыжы плана. 25 траўня 1833 г. ён быў схоплены ўладамі. На следстве ён выдаў усіх асоб, з якімі сустракаўся на працягу некалькіх месяцаў. За дапамогу эмісару Шыманскаму ў чэрвені 1833 г. былі арыштаваны Ваўжынец і Марыля (з Верашчакаў) Путкамеры з Бальценікаў. Толькі зімой 1833 г. Путкамеры змаглі вярнуцца ў Бальценікі. Па гэтай справе быў высланы Рымша і некалькі дзесяткаў іншых асоб з Лідчыны.

[14] Адынец А. Э. Успаміны пра мінулае. С. 324., 352.

[15] Інфармацыя Юрыя Валевіча. Гл: https://m.facebook.com/story.php?id=100002061810705&story_fbid=6988347974577194.

[16] Дворецкая Т. А. Вятские знакомства А. И. Герцена. Загадочный сармат // Герценка: Вятские записки / Киров. ордена Почёта гос. универс. обл. науч. б-ка им. А. И. Герцена. Киров, 2012. Вып. 22. С. 19.

[17] Janina z Puttkamerow Zoltowska. Inne czasy, inni ludzie. Londyn, 1998. S. 94.

чыма.

У Вятцы ў шматгадовых ссылках ў той час знаходзілася шмат нашых землякоў. Аляксандр Герцан пісаў: *"Адзін закаснелы сармат, стары уланскі афіцэр яшчэ Панятоўскага, які зрабіў частку напалеонаўскіх паходаў, атрымаў у 1837 годзе дазвол вярнуцца ў свае літоўскія маёнткі. Напярэдадні ад'езду стары паклікаў мяне [...] паабедаць. Пасля абеду мой кавалерыст падышоў да мяне з куфлем, абняў мяне і з ваеннай прастадушнасцю сказаў на вуха: "Ды навошта ж вы рускі?!" У адказ я не прамовіў ні слова, але гэта заўвага моцна запала мне ў душу ..."* [18].

Зрабіўшы вялікую працу з архіўнымі дакументамі, даследчыца з Вяткі Т. Дварэцкая вылічыла, што гэтым *"старым"*, *"закаснелым сарматам"* мог быць толькі Адам Рышма, які меў на той момант 41 год і тагачаснаму 25-гадоваму Герцэну мог здавацца старым[19]. Рымша і насамрэч ваяваў у 1812-1814 гг. Вядома, што калі ў 1812 г. у Наваградку фармаваўся 19-ы уланскі полк ВКЛ, адным з яго галоўных арганізатараў быў капітан Ксаверый Рымша, старэйшы брат Адама Рымшы, вопытны воін, кавалер французскага ордэна Ганаровага Легіёна[20], які не змог бы адмовіць свайму 16-гадоваму брату Адаму.

У 1837 г. Адам Рымша быў памілаваны і атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 26 жніўня 1837 г. Герцан пісаў з Вяткі да Наталлі Захар'інай: *"Учора прыйшло вызваленне дзвюм сасланым сямействам. Радасць, захапленне ад таго, што яны едуць на радзіму…"*. Гаворка ідзе пра сем'і Адама Рымшы і яшчэ аднаго ссыльнага. Вызваленне было звязана з прыездам у Вятку ў 1837 г. спадчынніка-цэсарэвіча, будучага цара Аляксандра II. Ссыльныя скарысталіся магчымасцю асабіста падаць прашэнні аб сваім вызваленні, і іх спроба ўвянчалася поспехам. Будучы імператар наведаў губернскую выставу натуральных рэчаў і вырабаў гэтага краю, арганізацыя якой была даручана чыноўніку канцылярыі губернатара Герцану. Сярод яе экспанатаў - *"кошык для папер, дастаўлены на выставу спадаром цывільным губернатарам, рукадзелля спадарыні Рымшы, народжанай Остэн-Сакен"* [21].

Увечары 14 верасня 1837 г. чарга падвод сямейства Рымшаў з маёмасцю і людзьмі адправілася ў далёкі шлях на радзіму. А ў Вяцкай кватэры Рымшаў застаўся цяжка хворы выпускнік Віленскага ўніверсітэта, філамат Тэадор Лазінскі, якому ўлады адрасавалі шэраг прэтэнзій, якія не паспелі выказаць Адаму Рымшы.

Расейская даследчыца Т. Дварэцкая, якая шмат працавала з дакументамі ссыльнага Рымшы, гэтак заканчвае свой вельмі змястоўны артыкул: *"Што звяртае на сябе ўвагу ў двух, здавалася б, розных гісторыях з жыцця Рымшы - гісторыі жаніцьбы і гісторыі з кватэрай? У іх пры ўсёй непадобнасці ёсць адна агульная ўласцівасць - грэбаванне, калі не пагарда да мясцовых улад (будзь то паліцэймайстар ці домаўладальнік), - да тых самых рускіх, аб прыналежнасці да якіх Герцана, так шкадаваў наш герой. Спакойна і стрымана ён ігнаруе ўсе іх патрабаванні. [...]*

*Напрыканцы жадаю спыніцца на адным, быць можа, некалькі суб'ектыўным уражанні ад архіўных спраў [...] Рымшы, які цікавіць нас як персанаж "Былога і дум" - чалавека з ярка выяўленым моцным, ганарлівым і незалежным характарам. Рымша [...] прапануе губернатару "не рабіць распараджэнняў аб выдачы яму падарожных, прагонных грошай", адпраўляецца ў дарогу за ўласны кошт і на ўласных конях. Наш герой адносіцца да тых, пра якіх Герцэн пісаў: "…У рускіх яны не прасілі нічога". І яшчэ адна дэталь, якая характарызуе Рымшу, - паводзіны на следстве. Следчым не ўдалося яго зламаць: ён не выдаў нікога. Пра сустрэчу Рымшы з эмісарам паўстанцаў М. Шыманскім, якая стала прычынай яго высылкі, распавялі следству сам Шыманскі і яго сястра, якая пазнаёміла іх. Такія моцныя людзі вабілі маладога Герцэна, надоўга заставаліся ў памяці"* [22].

У 1843 г. газета "Кур'ер Варшаўскі" паведаміла: *"10 ліпеня ў Вільні закончыла дні свайго жыцця Вераніка з баронаў Сакенаў Рымшына, пакінуўшы ў няўцешнай жалобе мужа і некалькі малых дзяцей"* [23].


W dniu 10 Lipca w *Wilnie* zakończyła dni życia Weronika z Baronów Sakenów *Rymszyna*, zostawiwszy w nieutulonym żalu Małżonka i kilkoro małych Dzieci.

***Некралог па Вераніцы Рымшы з Остэн-Сакенаў***

Вераніка Сакен фон Остэн (?1800-1843), унесла маёнтак Гайцюнішкі, часткай якога былі і Падварышкі ў пасаг свайму мужу Адаму Рымшы гербу Газдава, капітану французскіх войскаў. Іх дачка Хелена Рымша выйшла замуж за Рамуальда Рымшу і маёнтак атрымаў у спадчыну іх сын Раман Рымша (1867-1919). Дачка Рамана Рымшы і Антаніны з Бярновічаў (1870-1963) Ганна ўнесла Падварышкі ў пасаг свайму мужу Рышарду Кярсноўскаму (гл. ніжэй).

Сучаснікі пісалі пра фотаздымак Адама Рымшы, зроблены ў Парыжы ў 1863 г. На ім бачны моцны плячысты мужчына з выразным шрамам на падбародку[24].

Партрэт красуні Веранікі Рымшы, які знаходзіўся ў Падварышках, загінуў падчас Другой сусветнай вайны, але засталіся яго копіі.

Аднак, вернемся да апісання дома ў Падва-

[18] Герцен А. И. Собрание сочинений в 30 томах. Т. 8. Былое и думы. Москва, С. 248-249.

[19] Дворецкая Т. А. Вятские знакомства А. И. Герцена. Загадочный сармат. С. 15.

[20] Лаўрэш Леанід. Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне. Гродна, 2016. С. 39.

[21] Дворецкая Т. А. Вятские знакомства А. И. Герцена. Загадочный сармат. С. 18.

[22] Там жа. С. 20.

[23] Kurjer Warszawski. 1843. № 218. S. 1044.

[24] Skuza Zenon. Szlakiem Adama Mickiewicza po Bialorusi. Warszawa 1997. S. 39.

рышках.

Сталовая сядзібнага дома была цалкам абстаўлена новай мэбляй, зробленай у Вільні па праекце мастака тэатра на Пагулянцы В. Макойніка. Гэтая мэбля стылізавалася пад эпоху бідэрмаера, зроблена была з ясеню з ўстаўкамі чорнага дубу. Абедзенны гарнітур складаўся са стала на лірападобных ножках, 18 крэслаў, буфета, кутняй шафы, канапы і самаварнага стала. На сценах вісела серыя рэпрадукцый "Літвы" Артура Гротгера ў чорных рамках. Усе гэтыя прадметы былі страчаны ў 1939 г.[25]

Верагодна, сядзібны парк плошчай у 3 га, быў заснаваны каля 1820 г. У старой частцы парку знаходзілася вузкая алея даўжынёй у 200 м з высокарослых ліп, пасаджаная ў выглядзе літары "L". Выгін яе галінаў ствараў сапраўдны тунэль[26].

Рышард Кярсоўскі ўспамінаў: *"У доўгай, але ўсяго ў некалькі метраў шырынёй, алеі з густа пасаджаных высокіх ліп, галіны дрэў на невымернай вышыні над галавой злучаліся як быццам скляпенні арак вузкага нефа ў гатычным саборы. Алея, пачыналася за некалькі дзесяткаў крокаў ад задняга ганка і потым паварочвала пад прамым вуглом. Такім чынам, з двух бакоў (з усходу і з поўдня) яна стварала перы-метр парку. Пасярэдзіне, паміж гэтымі алеямі, мелася як быццам круглая альтанка, якая складалася з аднолькавых ліпаў, іх ствалы датыкліся адзін да аднаго ўнізе і крыху разыходзіліся ўверсе … і здалёк выглядалі вялізным букетам.*

*Такія ліпавыя алеі з альтанкай пасярэдзіне меліся і ў іншых суседніх сядзібах, ... але гэткіх, як у нас, ліп я ніколі больш не бачыў, нідзе больш ні на свае вочы, ні нават на фота не бачыў і такой альтанкі, як у Падварышках. Таму гэтая алея была прадметам асаблівай увагі фатографаў. Сам Ян Булгак, наш сябар і далёкі сваяк, доўгія гадзіны праводзіў у альтанцы, пісаў за садовым сталом свае нарысы з серыі "Блуканні фатографа" ("Wedrowki fotografa"), а прыгажосць дрэў, ствалоў і галін фіксаваў на шматлікіх фотаздымках, якія потым, да маміных імянін аформіў у тоўсты альбом. Гэты альбом, нягледзячы на яго дзіўны лёс, захаваўся і ляжыць сёння ў мяне на стале, таму, пакуль я гэта пішу, хоць алей ужо няма, яны не толькі стаяць маіх ў вачах, але і перад вачыма"*[27].

Парк, занядбаны пасля Першай сусветнай вайны, упарадкавалі падчас будаўніцтва новага сядзібнага дома. Былі расчышчаны зарослыя пляцоўкі і пасаджаны новыя дрэвы, кусты і кветкі, галоўным чынам перад пад'ездам і ў непасрэднай блізкасці ад яго. Каштоўным помнікам у складзе сядзібных забудоў з'яўляўся стары драўляны шасціграны будынак лядоўні, накрыты саламяным дахам. Лядоўню шчыльна абкружалі ліпы, падобныя да тыя, што былі на алеі. Гэта пабудова згарэла ў 1944 г.[28] Прафесар Кярсноўскі пісаў: *"Асабліва захапіла мастака* (Яна Булгака - *Л. Л.*) *лядоўня - шасціграння пабудова з тоўстых бярвенняў, складзеных у зруб, накрытая канічнай саламянай страхой, накшталт футравай шапкі. Нізкія дзверы вялі ўнутр, у цемнату і прахалоду ад вялікіх кавалкаў лёду, якія ляжалі глыбока ў яме і былі пакрытыя пілавіннем. Лёд паходзіў з сажалкі ля млына, наразаўся і звозіўся на санях у канцы зімы, калі яго таўшчыня дасягала некалькіх дзесяткаў сантыметраў. Ён трымаўся ўсё лета, бо да ўсяго, лядоўня была акружана цесным колам цяністых ліп, такіх жа, як і ў алеі, з якой ён суседнічаў, і ліпы ледніка, можна сказаць, складалі арганічнае цэлае з ліпамі алей. Ствалы чапляліся за сцены будынка, угрызаліся ў яго дах і падпіралі яго, а гэта значыць, што лядоўня і дрэвы былі аднолькава старыя. Адны казалі, што пабудова гэтая нагадвае нейкае паганскае капішча, іншыя здзіўляліся, што ж такога цікавага ўбачыў у гэтай халупе добры фатограф, які зняў яе з усіх бакоў і такім чынам выратаваў ад забыцця помнік, якога ўжо няма, бо ў канцы вайны агонь перакінуўся з палаючага побач хлява на саламяны дах, ахапіў ляднік і абвугліў навакольныя ліпы"* [29].

У другой палове XIX ст. у парку з'явілася алея каштанаў, якая ішла паралельна галоўнай восі дома і заканчвалася высокай лістоўніцай. Пад лістоўніцай ляжаў прывезены з поля вялікі і шурпаты валун, які нібыта быў метэарытам. Яловая алея аблямоўвала больш новую частку парку. Сярод многіх іншых відаў дрэў у парку раслі вялізныя бярозы[30].

*"Над алеямі, над альтанкай, над вялізнай лістоўніцай, над домам і над усім светам было неба, адрознае ад усіх нябёсаў у блізкіх і далёкіх краінах. Гэта ведалі ўсе, хто нарадзіўся пад гэтым небам, ці доўга пад ім жыў. Менавіта пра гэтае неба калісьці казаў граф Тадэвуш Сапліца, а Фердынанд Рушчыц маляваў гэтае неба, пагрозліва завіслае над раллёй, і Ян Булгак здымаў яго ў прыгажосці аблокаў, што бялеюць над паркам. Як сцвярджаў селянін Балуць, які пасля свайго нараджэння нікуды не сыходзіў з сядзібы больш, чым на некалькі дзён, менавіта тут быў цэнтр неба, тут была самая высокая кропка, і таму, калі часам ішоў дождж у Рымшышках ці Беняконях - у Падварышках было суха, а часам здаралася і наадварот, бо самі ведаеце - усё ж тут "сярэдзіна нябёс". Больш пераканаўчымі былі сведчанні метэарыта. Яшчэ перад Першай сусветнай вайной плуг наляцеў на ўкапаны ў зямлю валун. Калі яго адкапалі, дык убачылі дзіўны камень, які меў форму амаль паўсферы, дыяметрам амаль што ў метр, цёмны, нібы жалезны, шчыльны, увесь пакрыты глыбокімі звілістымі дзіркамі, як нейкі шлак, губка, ці*

[25] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji … T. 4. S. 289.
[26] Там жа. S. 290.
[27] Kiersnowski Ryszard. Tam i wtedy w Podweryszkach… S. 4.
[28] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji … T. 4. S. 290.
[29] Kiersnowski Ryszard. Tam i wtedy w Podweryszkach… S. 4.
[30] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji … T. 4. S. 290.

*кавалак дрэва, з'едзены гіганцкімі караедамі. Мой дзед загадаў прывезці яго ў парк і паставіць каля лістоўніцы - ніхто не сумняваўся, што гэта метэарыт. Мне ніколі не ўдавалася сустрэць падобнага экзэмпляра ні ў геалагічных музеях, ні ў іншых парках, і таму, напэўна, менавіта тут быў цэнтр неба, з якога некалі зваліўся такі ўнікальны камень. Магчыма, гэта здарылася ў канцы жніўня, бо тады часцей за ўсё мы бачылі падаючыя зоркі*[31]*, якія згасалі над дрэвамі саду Падварышак"* [32] - гэтак рамантычна апісваў родныя мясціны гістарычнай Лідчыны Рышард Кярсноўскі.

Заўважу аднак, што гэты дзіўны камень, пра які так прыгожа расказаў Кярсноўскі, на жаль, - не метэарыт. Высновы спецыялістаў адназначныя - гэты камень з'яўляўся жвірова-галечна-валунным кангламератам. Гэтая парода ўтварылася пад ціскам ледніка пры ўдзеле мінералізаваных раствораў. Такіх камянёў шмат, і яны не ўяўляюць ніякай цікавасці для навукоўцаў з пункту гледжання навукі метэарытыкі[33].

Але, бясспрэчна, галоўным і самым прыгожым для кожнага з нас з'яўляецца неба нашай радзімы, неба нашага дзяцінства: *"Нябесны купал быў не вельмі шырокі. Ён ахопліваў мястэчка Беняконі, дзе ўзвышаліся дзве касцельныя вежы, а таксама воданапорную вежу на чыгуначнай станцыі, званую па-руску "водокачка". Пад гэтым купалам знаходзіўся склад і сядзібны дом у Старых Беняконях, абаронены высокімі дрэвамі - нашым бліжэйшым наваколлем і месцам летніх шпацыраў да сажалкі, у якой мы купаліся"* [34].

Кярсноўскі апісвае і маёнтак Старыя Беняконі з сямейнымі могілкамі свайго роду: *"Захапленне выклікала вісеўшая на сцяне у сядзібе Старыя Беняконі мядзведжая шкура - былы трафей аднаго з паноў Галімонтаў - мядзведзяў тут даўно ўжо не было. Меўся тут таксама фотаздымак гэтай сядзібы ў рамцы з подпісам Юзафа Пілсудскага, зробленым на памяць пра начлег у Старых Беняконях, куды ён увайшоў вясной 1919 г., калі ішоў з войскам па лідскай дарозе на Вільню. У той жа час і ў нашы Падварышкі зайшлі некалькі маладых жаўнераў, якія пагрозліва патрабавалі ежы, з якой, пэўна, мелі цяжкасці. А мой дзед Раман Рымша шырока-насцеж раскрыў рукі і сказаў: "Бярыце ўсё, што трэба", - і радаваўся, што дажыў да гэтай хвіліны. Аднак радасць яго была нядоўгай, бо праз некалькі месяцаў ён захварэў на тыф. Калі памерлі мой дзед, а потым яго брат Эдвард з Гайцюнішак і сястра Марыя, - яшчэ раней, усе разам для сябе яны пабудавалі дом і двор на ўскрайку лесу, паміж двума радавымі сядзібамі і назвалі іх Рымшышкамі, тут для нашых сямейных магілак адвялі месца на невялікім пагорку і першым прынеслі ў ахвяру майго дзеда. Пазней тут дадаліся яшчэ дзве рымшаўскія магілы ..."* [35].

Пра ўнукаў Адама і Веранікі Рымшаў - Эдварда і Рамана пісала Яніна Жалтоўская: *"Два браты Рымшы з нашых ваколіц яшчэ не былі жанатыя, але здаліся мне старымі людзьмі. Атрымалі вышэйшую адукацыю, Эдвард быў інжынерам, як і мой бацька. Кожны з іх з замілаваннем і нават з азартам працаваў у сваім фальварку, устаючы на досвітку на ўдой кароў, а ўдзень кантралюючы работу ў полі. Яны былі занадта незалежнымі [...]. Хадзілі ў доўгіх ботах і кажухах, на лоб спадалі пасмы нячэсаных валасоў, яны пагарджалі раскошай і жылі па-спартанску. Браты стварылі сапраўдны сямейны клан, але шляхецкі гонар злучаўся ў іх з дэмакратычным пазітывізмам. Калі Часлаў Янкоўскі ў сваім "Павеце Ашмянскім" непрыязна напісаў пра Рымшу - ці пра іхняга дзеда, ці пра прадзеда, усе браты Рымшы выбраліся да яго і гэтак яму прыгразілі, што Янкоўскі забраў назад раней напісанае* [36]*. Сям'я Рымшаў у нядзелю не хадзіла ў*

[31] Маецца на ўвазе метэорны паток Персяіды, актыўнасць якога прыходзіцца на жнівень.

[32] Kiersnowski Ryszard. Tam i wtedy w Podweryszkach… S. 8.

[33] Бутов Илья, Алексинский Вадим. Аномалии и загадки Вороновского района // https://www.ufo-com.net/publications/art-8936-anomalii-voronovskogo-raiona.html

[34] Kiersnowski Ryszard. Tam i wtedy w Podweryszkach… S. 10.

[35] Там жа.

[36] У Часлава Янкоўскага знаходзім наступныя, не самыя лепшыя радкі пра Ксаверыя Рымшу ў 1812 г. (цікава, што ж яшчэ больш горшае, Янкоўкі напісаў першапачаткова?): *"Было загадана сабраць кантаністаў (прызыўнікоў) з конькмі. Для іх прыняцця ў Ашмяны накіраваны Ксаверы Рымша, афіцэр польскага войска, які, выконваючы гэтае даручэнне, праявіў свае самыя дрэнныя схільнасці. Ён бракаваў коней, найперш для таго, каб вымагаць грошы з грамадзян. Для закупкі аднаго каня было прызначана па 20 чырвоных злотых, а ён купляў за 10 ці трошкі болей .... Карацей, быў самым нахабным рабаўнікам! Аднойчы здарыўся смешны выпадак. Эканом Валадковіча з Лаздун, Макарэвіч здаваў коней і кантаністаў, а калі Рымша ўсіх забракаваў, у разгубленасці, забыўшыся, хто перад ім, працытаваў звычайную прымаўку: "Пан Бог лепшы за пана Рымшу", пасля чаго пайшоў. Гэты Рымша ўдаваў з сябе за вялікага героя. Між тым аднойчы Тэафіл Камар, чыноўнік новай паліцыі, данёс з Сурвілішак, што там з'явіліся казакі. Гэта так напалохала Рымшу, што на вачах у шматлікай публікі, галодны, ён кінуўся за парог і, забраўшы кантаністаў, уцёк у Вільню з тым, што сабраў раней. Але, сустрэты ў Медніках Абрамовічам, вярнуўся і гэтак выратаваўся, бо мог бы быць моцна пакараным за тое, што самавольна з'ехаў і прыпыніў набор у войска. Пазней высветлілася, што Камар, убачыўшы італьянскіх гвардзейцаў у доўгіх цёмна-сініх шынялях, не задумваючыся, і з-за страху, даслаў ілжывае паведамленне пра казакоў, ад якога потым адмовіўся ... Вярбоўка кантаністаў была вельмі лёгкай. Сяляне прыходзілі амаль што добраахвотна і, будучы прынятымі, хадзілі па горадзе і не ўцякалі"*. - цыт па: *Jankowski Czeslaw. Powiat oszmianski: materjaly do dziejow ziemi i ludzi. Cz. 1. Krakow, 1896 S. 39-40.*

*касцёл, але, па словах пані Трыпольскай* (суседкі - *Л.Л.*), *яны мелі свайго Пана Бога і свае могілкі, дзе хавалі толькі сваіх нябожчыкаў, каб не змешвацца з іншымі людзьмі* (былі пратэстантамі - *Л.Л.*). *Госці да іх прыязджалі не на падвячорак, а на вячэру, якую падавалі а сёмай гадзіне - летам яшчэ пры сонечным святле. Вячэра складалася з кіслага малака, гарбаты, хатняй вэнджанай палянгвіцы, чорнага хлеба, выдатных варэнняў, агуркоў з мёдам, г. д. [...]*

*Сям'я Рымшаў не ездзіла на брычцы, запрэжанай чацвёркай коней, іх фурман не меў ліўрэі, а меў толькі бурку. Дарога, якая вяла ў Падварышкі, была адной з самых праклятых маім бацькам. Як правіла, сям'я Рымшаў не рамантавала яе, таму што гэта была сумесная ўласнасць вёскі і двара, і яны хацелі прымусіць сялян да адпрацовак, але сяляне не клапаціліся пра дарогу. Калі наш экіпаж даязджаў да іх грэблі, ён захрасаў у ямах, поўных гразі, коні нерваваліся і баяліся дзіравага моста. Мы з маці ў парадных сукенках выскоквалі на край слізкай канавы, поўнай вады. Таму для візіту мы выбіралі сухое, летняе надвор'е..."* [37].

І напрыканцы некалькі слоў пра апошняга гаспадара Падварышак Рышарда Кярсноўскага. Ён нарадзіўся 4 лістапада 1925 г. у Вільні ў сям'і абшарніка і віленскага адваката Тадэвуша Кярсноўскага і Ганны з Рымшаў (дачка Рамана), дзяцінства правёў у Вільні і ў Падварышках. Вучыўся ў славутай Віленскай гімназіі імя Жыгімонта Аўгуста. Прафесар Рышард Кярсноўскі, быў членам Польскай акадэміі ведаў і Варшаўскага навуковага таварыства, напісаў 11 кніг і каля 200 артыкулаў, пераважна ў галіне нумізматыкі і гісторыі грошай у Сярэднявеччы. Памёр у Варшаве 7 ліпеня 2006 г. пасля працяглай і цяжкай хваробы. Пахаваны на Павонзкаўскіх могілках.

**Дадатак**

***Рышард Кярсноўскі***

### Гісторыя Гайцюнішак

Сярод нешматлікіх помнікаў ваеннай архітэктуры асабліваe месца займае замак у Гайцюнішках, мястэчку, якое знаходзіцца за 45 кіламетраў на поўдзень ад Вільні.

Гэты аб'ект, які называюць замкам ці ўмацаванай сядзібай, не толькі рэдкі ўзор невялікай фартэцыі пачатку XVII ст., але таксама месца, дзе адбываліся значныя гістарычныя і літаратурныя падзеі. Прыгледзімся да гэтага будынка і ягоных ваколіц больш уважліва

#### Водны замак

Гэты мураваны двухпавярховы будынак, які мае форму прамавугольніка з памерамі каля 35 на каля 20 метраў, з круглымі вежамі на ўсіх чатырох кутах, якія маюць вузкія байнічкі. Вежы злучаны са сценамі таўшчынёй у паўтара метра, а ў цэнтральнай частцы маецца квадратная ў плане, трох'ярусная вежа па тыпу рызаліта, пад якой знаходзіўся ўваход у замак і лесвіцы. Высокі вальмавы дах, першапачаткова быў пакрыты дахоўкай, пазней замененай на гонту. На першым і другім паверхах ёсць вокны, першапачаткова крыху вузейшыя, чым зараз. Замак быў акружаны няісным сёння ровам, які забяспечваўся вадой з ракі Жыжма, што цячэ побач і ўпадае ў Гаўю (правы прыток Нёмана). Унутраная частка замка падзелена на некалькі пакояў, на першым паверсе размяшчалася вялікая зала, якая займала палову будынка. У склепе меўся калодзеж. Самую раннюю выяву гэтага замка зрабіў Напалеон Орда ў 1877 г., а самы старыя фотаздымкі - Ян Булак у 1912 г.

Такі тып невялікіх, можна сказаць, кішэнных замкаў, якія з'яўляліся рэзідэнцыямі буйных рыцарскіх родаў, вядомы ў Нідэрландах, а таксама ў паўночнай Францыі і Вестфаліі, дзе яны атрымалі агульную назву "замкі на вадзе" (Wasserschlasser), бо звычайна размяшчаліся "на вадзе", на востраве, да якога можна дабрацца толькі па мосце. Нягледзячы на тое, што гэтыя цвердзі было няцяжка заваяваць, яны давалі абарону ад малых вайсковых частак, а таксама ад розных бандытаў і марадзёраў, якіх было шмат падчас войнаў, асабліва ў XVII ст. Замак у Гайцюнішках добра ўпісваецца ў гэтую схему, што нядзіўна, калі ўспомніць, што ён быў пастаўлены ў 1611-1612 гг. віленскім гараднічым, галандцам па паходжанні Пятром Нонхартам, які ў 1590 г. атрымаў набілітацыю за свае заслугі падчас войнаў Баторыя і набыў шмат зямлі, на якой пабудаваў сваю ўмацаваную рэзідэнцыю. Фактычным будаўніком замка быў іншы галандзец, Ван Данэн, які, верагодна, для гэтай мэты прыехаў з Нідэрландаў. Абодва яны, дзейнічаючы разам, перанеслі на землі Вялікага Княства той заходні ўзор, якога раней у нас не было.

Гайцюнішкі, аднак, не ствараліся на цалкам пустым месцы. Прыкладна за паўкіламетра ад замка, таксама на беразе Жыжмы, знаходзіцца мясціна, вядомая ў народзе як "Стары замак" або "Старае замчышча". Таму можна меркаваць, што і раней тут існаваў падобны аб'ект, але пра яго нічога не вядома з пісьмовых крыніц, таксама не засталося і слядоў якой-небудзь пабудовы, застаўся толькі невысокі вал, які даходзіць да Жыжмы і зарослы рэдкім хмызняком невялікі прырэчны пагорак. Гэта можа сведчыць аб тым, што раней тут было старажытнае паселішча. Аднак ніякі археолаг рыдлёўкай тут не капаў. а апошнія ўладальнікі і жыхары Гайцюнішак казалі, што ў міжваенны час на гэтым месцы часта з'яўляліся ваўкі, магчыма, спакушаныя таямніцай нашай глушы.

Неўзабаве маёнтак Гайцюнішкі папоўніўся пратэстанцкім зборам, пабудаваным у 1633 г. дачкой Пятра Нонхарта Зузаннай за некалькі сотняў крокаў ад замка. Гэта быў аднанефавы прамавугольны ў плане будынак з аднасхільным дахам і сігнатуркай, з масіўнымі контрфорсамі, крытымі шыферам. Шырокая

[37] Janina z Puttkamerow Zoltowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 94-95.

піўніца служыла некропалем для ўладальнікаў Гайцюнішак, якія ад Пятра Нонхарта і далей, былі ў асноўным евангелістамі. Гэта сведчыць аб тым, што замак, акрамя абарончых функцый, быў яшчэ і рэзідэнцыяй, цэнтрам дысідэнтаў (пратэстантаў), пра што сведчаць імёны наступных мецэнатаў ажно да XVIII ст. У той час на Жыжме тут жа існаваў невялікі гаспадарчы комплекс з млыном, сажалкай, карчмой і маставым мытам, а таксама з папяровай фабрыкай, будынак якой стаяў на беразе ракі і бачны на згаданым вышэй малюнку Напалеона Орды.

**Уладальнікі**

Праз спадчыну, арэнду ці продаж, а перш за ўсё ў выніку шлюбаў маёнтак Гайцюнішкі пераходзіў у рукі ўсё новых і новых гаспадароў. Першыя звесткі пра іх паходзяць з 1562 г., калі маёмасць была перададзена ўрадніку вялікага князя Лукашу Ленскаму, але неўзабаве, ужо ў 1589 г., Ленскі прадаў маёмасць Себасцьяну Пакошу, у якога каля 1600 г. яе набыў ужо вядомы нам Пётр Нонхарт. Яго дачка Зузанна прынесла Гайцюнішкі ў пасаг ваяводзе наваградскаму Юрыю Храптовічу. Гайцюнішкі заставаліся ў руках гэтага магутнага роду прыкладна да 1660 г., калі за 45 000 злотых былі набыты палкоўнікам Вільгельмам Корфам, прыдворным Яго Каралеўскай Мосці.

У той час, згодна з купчай, у маёнтку (меўся на ўвазе, верагодна, сам замак, маёнтак Бальценікі і іншыя маёнткі, якія межавалі з Гайцюнішкамі) мелася "мураваная камяніца". Потым, каля 1700 г. Гайцюнішкі перайшлі да Шротараў, а за імі ў 1753 г. у якасці пасагу Дароты Шротараўны яны сталі маёмасцю роду Путкамераў, маёнтак якіх Бальценікі межаваў з Гайцюнішкамі.

Мужам Дароты быў лівонскі стольнік Ваўжынец Путкамер. Потым маёмасць перайшла ў рукі Рымшаў, гэты род згас толькі пасля Другой сусветнай вайны са смерцю дзвюх апошніх Рымшаўнаў: Гелены і Зоф'і, дачок Эдварда, апошняга ўладальніка замка, які памёр у 1937 г. Менавіта ён, рыхтуючыся да шлюбу, выкупіў у віленскай евангеліцкай грамады Гайцюнішскую капліцу і каля 1910 г. правёў мадэрнізацыю замка, лепш прыстасаваўшы яго пад патрэбы жылой рэзідэнцыі. У гэты час на вышыні першага паверха з фронту на масіўных слупах была прыбудавана вялікая тэраса, крыху пашыраны аконныя праёмы і лесвіца. У ходзе гэтых работ былі выяўлены насценныя роспісы са сцэнамі палявання, якія, на жаль, не захаваліся. Магчыма, гэта былі фрэскі, выкананыя віленскім жывапісцам Шротарам у той час, калі Гайцюнішкі належалі яго роду.

Калі Эдварда Рымшу абвінавацілі ў знішчэнні праз перабудову каштоўнага помніка, ён адказаў, што калі б нічога не змянялася ў часе, дык і на Вавелі да сёння было б толькі логава Цмока[38]. Трэба, аднак, прызнаць, што і пасля ўсіх перабудоваў замак у Гайцюнішках быў адным з самых захаваўшыхся будынкаў такога тыпу ў нашым краі.

**Розныя завірухі**

Гайцюнішскі замак не быў бы сапраўдным замкам, калі б у яго гісторыі не было б рэальных ваенных падзей. У 1708 г. у Гайцюнішках шведы Карла XII паспяхова абараняліся ад войскаў Аўгуста II Саксонскага. Ва ўсялякім выпадку, памяць пра шведаў у Гайцюнішках захавалася надоўга і заставалася на мемарыяльнай дошцы над уваходам у замак, якая знікла на пачатку XX ст. Змест надпісу на дошцы невядомы, але можна меркаваць, што ён не абмяжоўваўся ўшанаваннем абароны Гайцюнішак ад саксонскага войска, як мяркуе традыцыя і літаратура, таму што падобных сутыкненняў і сутычак было шмат. У той час было не прынята рабіць памятныя дошкі, і наяўнасць яе была хутчэй праявай гонару за знаходжанне ў Гайцюнішках караля Станіслава Ляшчынскага. Для тагачасных уладальнікаў замка шведы маглі быць толькі фонам для гэтай падзеі.

**Легенды**

Гайцюнішскі замак не быў бы сапраўдным замкам, калі б у ім не з'яўляліся прывіды. Гэта здарылася ў пачатку XIX стагоддзя, калі служанка, спускаючыся ў склеп, знайшла там невядомага чалавека ў дзіўным касцюме, з белай гаргерай[39] на шыі. З яе далейшага аповеду бясспрэчна вынікала, што гэта быў шведскі салдат, які, відаць, загінуў пры абароне замка два стагоддзі таму. Жанчына так напалохалася, што з таго часу не хацела спускацца ў падполле. Толькі пасля таго, як склеп быў асвечаны святаром, прывіды, як запэўніваюць апошнія ўладальнікі замка, перасталі з'яўляцца.

Былі і іншыя падобныя гісторыі, звязаныя з магіламі ў навакольных лясах, верагодна, з гадоў паўстання 1863 г. Пра гэта могуць сведчыць строі прывідаў, падобныя да чамаркаў. Менавіта ў чамаркі былі апрануты прывіды, якіх сяляне зімой сустракалі ў гайцюнішскіх лясах. Прывіды блукалі ў адзіноце каля заснежаных магіл, а можа і на раніцы, перад усходам сонца, проста вярталіся ў магілы. Пра тое, што 100 і больш гадоў таму, гэтак жа было і ў іншых мясцінах, можа сведчыць радок аднаго з нашых паэтаў, у якім згадваюцца падобныя таямніцы:

*Moze jakis zblakany*
*Rycerz polski albo szwedzki*
*Noca wracal na kurhany,*
*A ty zlakl sie...*

[38] Яма Цмока - карставая пячора ў межах Вавеля, адна з турыстычных славутасцяў Кракава. З пячорай звязана легенда пра Вавельскага Цмока. У 1972 г. перад уваходам была ўстаноўлена скульптура Вавельскага цмока. - *Л. Л.*

[39] Гаргера (ісп.: gorguera) ці фрэза (фр. fraise), мае і іншыя назвы - круглы гафрыраваны каўнер з накрухмаленай тканіны або карункаў, якія шчыльна ахоплівае шыю. Атрыбут адзення прадстаўнікоў вышэйшага і сярэдняга класаў Еўропы XVI-XVII ст. - *Л. Л.*

*Можа, заблканы*
*Польскі або шведскі рыцар*
*Ноччу вяртаўся ў курганы,*
*А ты спужаўся...*

**Гайцюнішкі Міцкевіча**

Акрамя гэтых больш-менш значных фрагментаў гісторыі Гайцюнішак, асобнае, а можа, і самае важнае месца займае яшчэ адзін літаратурны тэкст асаблівай значнасці, напісаны іншым аўтарам і заснаваны непасрэдна на рэаліях ці ўспамінах, якія былі забыты да нядаўняга часу. Нагадаю:

... o dwa tysiace krokow zamek stal za domem
Okazaly budowa, powazny ogromem...

А замак быў за домам - тысячы дзве крокаў,
Ён веліччу сваёй паважнай вабіў вока,
*(Пераклад: Пятро Бітэль.)*

Той замак шагоў дваццаць сотняў
стаяў па-за домам,
паказны будоўляй, паважны вялізным агромам.
*(Пераклад: Браніслаў Тарашкевіч.)*

Мы ўжо ведаем, што замак Гарэшкаў у "Пане Тадэвушы" ў многіх дэталях уяўлены паэтам на ўзор рэальнага прататыпа. Міцкевіч бываў у Гайцюнішках, пра што да нядаўняга часу было невядома даследчыкам, якія рупліва сачылі за кожным крокам паэта. Гэтая інфармацыя захавала сямейная традыцыя роду Рымшаў, апошніх уладальнікаў замка. Згодна з гэтай інфармацыяй, у прылеглым да замка парку пад назвай Сола, што ў перакладзе з літоўскай мовы азначае "востраў", раней была садовая альтанка, невялікі зашклёны павільён, у якім госці, якія наведвалі Гайцюнішкі, часам ставілі свае подпісы ці пісалі кароткія тэксты. Былі тут, між іншым, над дзвярыма напісаны трыялеты А. Адынца, якія ўсхвалялі прыгажосць пані Остэн-Сакен, тагачаснай уладальніцы Гайцюнішак.

Томаш Зан, вярнуўшыся сюды з ссылкі, гуляў у Солах у "хованкі" з паннамі з навакольных двароў, і ўрэшце - увага! увага! - Меўся подпіс Адама Міцкевіча, зроблены брыльянтам на шыбе альтанкі. Брыльянт, верагодна, быў устаўлены ў пярсцёнак паэта. Падобныя надпісы малады Міцкевіч пакідаў і ў іншых месцах. На жаль, сёння немагчыма праверыць гэтую інфармацыю, бо ў другой палове XIX ст. альтанку разабраў арандатар, які трымаў Гайцюнішкі. Аднак памяць пра гэта захавалася ў вусных сямейных паданнях.

Міцкевіч мог апынуцца ў Гайцюнішках у 1820 г., калі з сябрамі ехаў з Навагрудка ў Вільню, па дарозе, што пралягала побач з замкам, ці ў траўні 1822 г., калі ён на некалькі тыдняў знаходзіўся ў суседніх Бальценіках Путкамераў і адкуль разам з Марыляй рабіў конныя вандроўкі па ваколіцах. Безумоўна, яны разам наведвалі і Остэн-Сакенаў, блізкіх сваякоў і суседзяў Марылі, да якіх маглі прыязджаць як у Гайцюнішкі, гэтак і ў Падварышкі, якія таксама належалі Сакенам. Ва ўсякім разе, гэтыя мясціны ляжалі ад Бальценікаў на зручнай для верхавой язды адлегласці, а іншых падобных месцаў паблізу не было. З успамінаў мы ведаем, што гаспадары гэтых дзвюх сядзіб мелі цесныя сямейныя кантакты і часта наведвалі адзін аднаго, таму Міцкевіч меў магчымасць убачыць і зафіксаваць у сваёй памяці рэаліі, звязаныя з замкам і ваколіцамі, якія ён перанёс потым на старонкі сваёй паэмы.

Нягледзячы на тое, што замак у Гайцюнішках не быў "вялізным", ён значна перавышаў сярэднія навакольныя сядзібы, вядомыя Міцкевічу, такія як тагачасныя Бальценікі ці Туганавічы Верашчакаў і іншыя, апісаныя ім у паэме. Замак Гарэшкаў, як і замак у Гайцюнішках, уяўляў сабой двухпавярховы "адзінокі будынак" ("Пан Тадэвуш", V, 788), з выступаючай вежай, з высокім, бачным здалёк дахам і ганкам, на які выходзіў стольнік і дзе ў яго стрэліў Яцак. У Гарэшкаве, як і ў Гайцюнішках, мелася вялікая зала (сені) накшталт трапезнай з выпуклым скляпеннем на слупах, "з падлогай высланай каменнем" (I, 292). Якраз у Гайцюнішках, у зале да нядаўняга часу была каменная падлога.

І яшчэ: *"У гэтай вялізнай брукаванай зале не знойдзеш столькі камянёў, колькі тут выпіта бочак віна"* (II 221 - 222). Аналагічным запазычаннем бачыцца і матыў абароны замка Гарэшкаў супраць рускіх, узяты магчыма, на ўзор ранейшай абароны замка Гайцюнішак, пра што паэт мог ведаць з вуснага падання ці з нейкіх іншых крыніц. Здагадкі можна множыць, напрыклад, улічваць тапаграфію мясцовасці: месцазнаходжанне сядзібы (той, што з жабкамі, адлегласць паміж замкам і сядзібай), размяшчэнне і выгляд капліцы ў Гайцюнішках, дзе быў пахаваны Яцак, і іншыя супадзенні і падабенства (размяшчэнне млына).

Акрамя замка, у першай палове XIX ст. непадалёк ад яго ў Гайцюнішках меўся жылы дом, меншы і, напэўна, больш зручны за замак. Аднак яго знеслі гэтак жа, як і садовую альтанку. Падчас знаходжання Міцкевіча ў Гайцюнішках прасторавая кампаноўка маёнтка складалася з сядзібы і замка, што стала асновай для вобраза замкаў Гарэшкаў і Сапліцава. Хаця іх раздзялялі не "дзве тысячы", а ўсяго некалькі дзесяткаў крокаў, дзеля сюжэту паэт павінен быў разлучыць іх. У выніку на старонках "Пана Тадэвуша" Гайцюнішкі ператварыліся ў Сапліцава з сядзібай і замкам. Падобныя ж метамарфозы зведалі і іншыя часткі гэтага краявіду, напрыклад, блізкі лес ператварыўся пад пяром паэта ў бяздонную пушчу.

Акрамя рэалій пейзажу, паэт выкарыстоўваў і вобразы некаторых асоб, перш за ўсё постаць Адама Рымшы, школьнага сябра Міцкевіча з Наваградка, у якім і варта было б бачыць прататып Яцка Сапліцы. Напэўна, невыпадкова постаць стольніка мае эквівалент у асобе Ваўжынца Путкамера, інфлянцкага стольніка, які ў 1737 г. разам з Даротай Шротараўнай сварыўся з-за сялян, што ўцяклі з Гайцюнішак. Можа, мілыя нам героі драмы менавіта тут мелі свае прататыпы, і па іх лёсах можна больш расказаць пра тыя часы і людзей, але гэта зусім іншая гісторыя.

***Віктар Кудла, дроздавец***

# Д Р О З Д А В А
## *Віткі жыцця родзічаў*

*(Працяг. Пачатак у №№70,71,92,93,99-103.)*

**Раздзел № 9**

**Хутарызацыя**

Людзям патрэбна праўда, якая б горкая яна ні была. І калі мы не на словах, а на справе хочам добрасуседскіх адносінаў з палякамі, а гэтага якраз і патрабуюць доўгатэрміновыя інтарэсы незалежнай Беларусі ў сувязі з апошнімі еўрапейскімі санкцыямі, мы павінны перш за ўсё расчысціць поле непаразуменняў.

Важнейшым метадам такога ачышчэння з'яўляецца ўзаемнае праўдзівае асвятленне ўсіх выкрунтасаў і закрутаў ранейшай гісторыі.

Каб дайсці да сутнасці падзеяў, якія адбываліся ў заходніх абласцях Беларусі да 1939 года, трэба яшчэ раз звярнуць позірк у мінуўшчыну рэгіёна, часткова апісаную ў рабоце "Віткі жыцця маіх родзічаў пры Польшы", і дабавіць атмасферу грамадска-палітычнага жыцця, сялянскага быту ва ўспамінах аднавяскоўцаў у даваенныя гады …

Успамінаю, як бацька і аднавяскоўцы расказвалі пра старэнькую вёску Дроздава.

Вёсачка раскінулася па брукаванай вуліцы, па баках яе стаялі густа хаты, а на падворках хлявы, гумны, студні, у кагосьці свіраны са збожам і іншым хатнім дабром. Уздоўж гравейнай шашы з высокімі таполямі, каля кавалачка лесу, а ў нізіне аселіца з плыткімі сажалкамі і альховымі кустамі. А праз балотца праходзіць чыгуначная алея з трыма масткамі. Старэнькія хаты, вядома, бярвеністыя, ад часу пачарнелыя, часткай запушчаныя, абламаныя і неахайныя; у самых бедных сышлі ў зямлю і падобныя на хлявы. Каміны цагляныя, абгрызеныя і абкурадымленыя; акенцы пакрывіліся, раскрыўленыя дзверы на баку. Большая частка хат проста была крытая азімай саломай - кулямі пасля абмалочанага хлеба.



***Вось такі ўзор на фатакартцы: на выгане старэнькая з саламяным дахам хатка Курылавай Алесі***

Таму пры абвяшчэнні польскай хутарызацыі сяляне актыўна ўзяліся разбіраць у вёсцы хаткі і актыўна перабудоўваць на выдзеляных добрах.

Рашэнне польскага ўрада павярнуцца да гэтай прагрэсіўнай формы землеўпарадкавання па ўкараненні хутарной сістэмы знайшло ў вёсцы станоўчыя водгукі, і вынікі не прымусілі сябе доўга чакаць.

По расказах майго бацькі Вані пры хутарызацыі за "польскім часам" у Дроздава прыслалі актыўнага землямера (тата называў прозвішча і імя, але не збераглося ў памяці), солтыс прывёў каморніка, і ў нашай хаце ён пасяліўся ў каморы. Там былі тры акны, дашчатая падлога, печка-буржуйка, дубовы стол, газавая лямпа, новае віленскае крэсла і пасцель, дзе ён начаваў.

Бабуля ці мама гатовілі "ядзэнне" і заносілі ў камору. Быў ён гаваркі і ўдзячны. Некалькі месяцаў праводзіў абмер выдзеленых участкаў зямель дроздаўцам і даваў зямлю ў адпаведнасці з кадастрам на хутар, нарысаваў дроздаўскую карту хутаран. Нашай радні выдзелілі найбольш урадлівую зямлю на правам баку каля самай шашы перад вёскай. А на аселіцы насупраць хаты - сенакос і пашу з невялікай лапінай алешніку. Усе нашыя гаспадарчыя пабудовы, разбураныя за гады бежанства, пасля вяртання былі адбудаваны, застрахаваны. Ад падворка да зямельнага ўчастка цераз шашу было не болей паўвярсты, і ў бацькі не было сэнсу пераносіць пабудовы на хутарскі зямельны надзел.

Хутарызацыя за польскім часам карэнным чынам змяніла жыццё сялян.

Калі гаспадары даведаліся, як вёска будзе расселена па хутарах, то пачалі рыхтавацца да пераезду. Хаты на хутар пераносілі з вёскі і будавалі большыя і святлейшыя. З некаторых старых хат мянялі ўсе бярвёны аж да вокнаў, або часткова падваліны, паточаныя шашалем. Каб зрабіць такую перабудову, давялося купіць лесу і скарыстоўваць пад будоўлю абчэсаныя бярвёны.

Хаты, будаваныя на хутарах, мелі палепшаную





планіроўку: светлы пакой, спальня (адгароджаная шафай, печкай-стойкай і занавескай), кухня, сені, камора і ганак. Вокны майстравалі з дубэльтамі на тры шыбы. У вёсцы ў большасці яны былі меншыя і на шэсць маленькіх шыб без дубэльтаў.

Падлогу ў новых хатах слалі з дошак, а ў сенях, каморы і ў кухні насупраць печы з гліны. Зразумела, такая перабудова патрабавала ад гаспадара будаўнічай здольнасці і пэўнага майстэрства.

Хаты, гумны і хлявы таксама будавалі на дастатковай адлегласці адно ад другога. Месца стараліся выбіраць пясчанае - шкада было лепшага кавалачка зямлі.

Паколькі большасць пабудоў крылі кулявой саломай, то зеленкаватае жыта нізка зжыналі сярпамі. Затым, абмалаціўшы яго цапамі, абмалочаны сноп развязвалі і стукалі камлём аб ток, каб ён выраўноваўся, потым, узяўшы сноп за каласы вытрасалі кароткія саломіны і зелле.

На прыкладзе сваёй вёскі бацька выказваўся, што матэрыяльнае становішча сялян змянілася да лепшага ўжо праз пару год пасля хутарызацыі. У вёсцы стала менш гаспадарчых пабудоў, вызваліліся ўчасткі, пагарадзілі платы.

Адметна змяніўся маральны клімат. Зніклі сваркі, спыніліся ўсякія сходы і разборкі, і ўся энергія мужчын сыходзіла на будаўніцтва пабудоў, на ўладкаванне свайго хутара, на земляробства. Нават некаторыя бедныя сяляне ў адпаведнасці з кадастрам атрымалі больш па плошчы ворыўны ўчастак і часткова забалочанай зямлі пад пашу і сенакос.

Паралельна вясковай вуліцы за шашой на адлегласці 400-500 метраў на захад ад самой вёскі, утварылася **Хутарская вуліца**. Туды перасяліліся жыхары вёскі, тыя, чые зямельныя надзелы знаходзіліся ў асноўным за ёй. Пачыналася палявая вуліца ад дарогі на Масявічы, недалёка ад гэтай вёскі і заканчвалася каля Качавінкі, ад якой было рукой падаць да рэчкі Дзітвы і чыгункі.

Першы дом ад масявічскай дарогі быў сям'і Кудлаў (Юльчыкаў), затым па адным баку вуліцы ішлі дамы: Дзявятага (Каласка), гумно і зруб хаты Сымона Шута, Міцюкевічаў, Школка, Дзевятага (Анупрык), Белавуса. Па другім: Дзявятага (Антась), Быстрыцкага Косці, Кудлаў (Унучкаў), Кудлы Аляксея, Грыня Пятра, гумно і зруб хаты Сцяпана Шута, і ў канцы вуліцы дзве пабудовы братоў Кудлаў (Янчыкаў).

Паімённы спіс жыхароў вёскі і перасяліўшыхся хутаран ўдалося скласці на аснове вяскова- гаспадарчых дадзеных Ганчарскага сельсавета: прозвішчы, імёны, па бацьку, гады нараджэння ўсёй сям'і, гаспадарчыя пабудовы, колькасць выдзеленай зямлі.

Вялікую інфармацыю пра насельніцтва вёскі і пераселеных на хутар, мне яшчэ многа расказваў тата, і я памятаю, як наведвалі хутаран, бо актыўна пераэкылі акупацыю і час да калектывізацыі.

Запісаны ўспаміны актыўных аднавяскоўцаў: Каханоўскай Ядвігі Міхайлаўны, Максімовіча Васіля Аляксандравіча, Дзявятай Веры Іосіфаўны, Кудлы Віктара Юльянавіча, Кудлы Лідзіі Міхайлаўны, Шут Ніны Канстанцінаўны і іншых.

Пры правядзенні Свята вёскі 27.08.2011 года арганізацыйны камітэт сабраў многа архіўных матэрыялаў, фатакартачак, аўдыёўспамінаў.

Актыўная вяскоўка Казак Кацярына Аляксандраўна дапамагла дэталёва ўстанавіць усе добры, заселеныя хутаранамі. У асноўным да ўсіх прозвішчаў запісалі "вясковыя мянушкі", як іх вымаўлялі і абзывалі вяскоўцы ў гутарках паміж сабою.

На 15-ці дроздаўскіх добрах у 54 хутарскія сядзібах жылі:

**№ 1. Жвіркі - 1 гаспадар:**

**Шут Міхаіл Міхайлавіч** (Мацалкі) - 1902 г.н., жонка Аляксандра Іосіфаўна - 1884 г.н., сын Віктар - 1927 г.н., дочкі Марыя - 1931 г.н., Галіна - 1936 г.н. Старэнькія пабудовы на падвораку - 50 сотак, побач Папковічы. Зямліца жвіравая, ворыва толькі - 4,50 га, няўдобіца -3,50 га.

**№ 2. Заецкія - 2 гаспадаркі:**

**Курыла Сяргей Філіпавіч** - 1906 г.н., жонка Рыбак Вера Міхайлаўна - 1910 г.н. з Дакудава, сыны: Мікалай - 1935 г.н., Міхаіл - 1938 г.н., Вячаслаў - 1947 г.н. Хата, 1926 г., хлеў, гумно. Зямля пясчаная - 6,30 га, ворыва - 3,75 га, сенажаці - 1,25 га, выган - 1,19 га.

**Козел Іосіф Лявонцьевіч** - 1880 г.н., жонка Арсенія Ануфрыеўна - 1889 г.н. (Арсенька), сыны Ваня - 1912 г.н., Мікалай - 1915 г.н. На хутары пасля Першай Сусветнай вайны былі старэнькія хатка з хлявом і адры-

**Карта Дроздава пасля хутарызацыі**




***На 15-ці добрах па нумарах размясціліся 54 хутарскія сядзібы: 1. Жвіркі - 1; 2. Заецкія - 2; 3. Цімошкаўня - 3; 4; Глінішча - 2; 5; За пераездам - 3; 6. Гарбачова - 1; 7. Качэвінка - 7; 8. За шашой - 6; 9; За Ройстам - 5; 10. Выган - 2; 11. За Аселіцай - 6; 12. Любаўшчына - 3; 13. Замасток - 3; 14. Тарасаўшчына - 7; 15. Клюкава - 4.***

най. На гумнішчы - гумно і свіран. Усёй зямлі было 17 гектараў, а ворнай толькі - 6,42 га, сенажаці - 4,38 га, выгану - 4 га, неўдобіцы - 2,50 га.

**№ 3. Цімошкаўня - 3 гаспадаркі:**

**Пазняк Мікалай Аляксандравіч** (Пазнячкі) -1909 г.н., жонка - Антаніна Пятроўна - 1901 г.н., дачка Фаня - 1939 г.н. На хутары Цімошкаўня пабудовы: хата, гумно, адрына, свіран, стаўленыя яшчэ пры царскай уладзе. Зямлі мелі слаба - 7,46 га, а ворнай толькі - 3,18 га, астатняя выган - 4,22 га.

**Жамойцін Канстанцін Іванавіч** - 1899 г.н., жонка - Фёкла (Тэкля) Юльянаўна - 1884 г.н., полька, дзеці: Ніна - 1921 г.н., Уладзімір - 1926 г.н., Ірына - 1934 г.н., Косця - 1939 г.н. Пабудовы старыя, 1880 года. Зямлі - 10 га., ворыва - 5 га, выган - 4 га, неўдобіца - 2 га.

**Шут Юльян Іосіфавіч** (Юльяновы) - 1893 г.н., жонка Дзявятая Вольга Данілаўна - 1899 г.н., дачка Марыя Юльянаўна -1932 г.н., была замужам за Пазняком Анатолем, разышліся і памерла. Да 1939 года перанеслі і пабудавалі хату, хлеў, гумно. Мелі зямлі 7 га, ворыва - 4,36 га, выган - 3 га.

**№ 4. Глінішча -2 гаспадаркі:**

**Шут Канстанцін Іванавіч** - 1904 г.н. (Кастусь Янаў). У Першую Сусветную вайну выязджалі ў бежанства, вярнуліся ўжо пры Польшчы, перагналі з вёскі на хутар. Жонка Антаніна Міхайлаўна - 1904 г.н., маці - Агаф'я Лаўрэнцьеўна - 1858 г.н., дочкі: Зоя -1931 г.н., Зінаіда - 1936 г.н., Марыя - 1938 г.н. Далі зямлі 9 га,з іх было ворыва 4,5 га, сенажаці - 16 сотак, выганау - 64 соткі, няўдобіцы - 75 сотак, лесу - 1,54 га. Жылі на ўскрайку лесу паміж чыгункай і шашою каля скрыжавання дарог на Слонім-Навагрудак і Ліду на хутары Глінішча. Хату, хлеў і гумно пабудавалі ў 1938 годзе. Трымалі кабылу, карову, свіней, авечак і курэй…

**Ненартовіч Пётр Юльянавіч** (Петрашы) - 1897 г.н., католік, польскі лігіянер. Жонка Вера Аляксандраўна - 1903 г.н. Дзеці: Вацлаў - 1923 г.н., Уладзімір - 1928 г.н., Генрык-1930 г.н., Гелена - 1934 г.н., Мечыслаў - 1937 г.н., Ірэна - 1941 г.н. Каля чыгуначнага пераезда старэнькія: хата, хлеў, гумноз 1890 года. Зямля пясчаная - 13 га, пад ворыва - 6 га, выгану - 3 га, няўдобіцы - 3 га.

**№ 5. Перад пераездам - 3 гаспадаркі:**

**Шут Мікалай Міхайлавіч** (Гарбаценькі) - 1895 г.н., жонка Серафіма Адамаўна - 1892 г.н., малаграматная, цётка Кудла Алена Георгіеўна - 1865 г.н., сыны Іосіф - 1925 г.н., Коля -1934 г.н. Каля чыгуначнага пераезда. Хата старэнькая -1880 года, хлявушок закінуты, так што і жывёлы трымалі мала. Зямлі - 3,31 га, ворыўнай зямлі - 2,50 га., выган - 0,75 га.

**Шут Філіп Міхайлавіч** - 1909 г.н. (Крывашэйка). На выдзеленую зямлю недалёка ад пераезда перанеслі хатку, хлеў, а гумно не закончылі да 1940 года. Зямлі - 3,70 га, ворыва - 2,70 га, астатняе выган і крыху лесу.

**Кудла Уладзімір Мікалаевіч** (Юрчыкавы), родны брат Івана, Фёкла Міхайлаўна - 1897 г.н. з Пятроў. Хатка без хлявушка. Зямля пустуе.

**№ 6. Горбачова - 1 хутаранін:**

**Шут Канстанцін Ануфрыевіч** (Разумеш) - 1905 г.н., жонка Вольга Іосіфаўна -1904 г.н. (Шашок з Навасадаў). Старэнькая хатка, хлевушок каля чыгункі і мосціка. Зямлі - 7 га, пад ворыва - 4 га, балоцістыя сенажаць - 1,10 га і выган - 1,28 га.

**№ 7. Качэвінка - 7 гаспадарак:**

**Кудла Іван Адамавіч** (Янчыкавы) - 1874 г.н. (брат солтыса Косці), жонка Праскоўя Гаўрылаўна - 1879 г.н. непісьменная, сын Сяргей + Анастасія. Сына Аляксандра

перад вайной узялі на зборы. Прапаў без вестак. Хату і хлеў перанеслі да 1938 года. Зямлі - 3 га, ворыва - 2,50 га, выган - 0,45 га.

**Дзявяты Ануфрый Георгіевіч** (Ануфрык) - 1886 г.н. Пры польскай хутарызацыі на Качэвінцы пабудавалі хату і хлеў, далі ім дзясяць гектараў зямлі, ворыўнай - 8 га, выган - 3 га. Сеялі жыта - 1 га, пшаніцы - 42 соткі, ячменю - 15 сотак, аўсу - 30 сотак, грэчкі - 6 сотак, гароху - 4 соткі, ільну - 4 соткі, бульбы - 30 сотак, агарод - 1 сотка, лубіну - 14 сотак, лубіну пад заворванне - 1,20 га.

**Белавус Канстанцін Васільевіч** - 1907 г.н. На хутары пабудавалі хату, хлеў, гумно ў 1938 г. Зямлі -12 га., ворыва - 7,20 га, сенажаці - 2,67 га, гарод - 0,25 га, выган - 1 га.

**Грынь Пётр Іванавіч** -1908 г.н., жонка Надзея Міхайлаўна - 1908 г.н., дзеці: Зіна - 1932 г.н., Віктар - 1934 г.н., Уладзімір - 1936 г.н., Мікалай - 1940 г.н. На хутары Качэвінка ў іх былі старыя збудаванні: хата, хлеў, гумно - 1871 года. Зямлі - 5 га, ворыва - 3,47 га, выгану і неўдобіцы - 1 гектар.

**Кудла Сяргей Іванавіч** (Янкавы) - 1916 г.н., жонка Антаніна Ануфрыеўна - 1919 г.н. (Кудаса). Перасяліліся з вёскі да 39 года. Зямлі далі слабой 9 га, а ворыва толькі - 2,50 га, выгану і неўдобіцы - 6 га.

**Кудла Уладзімір Іванавіч** (Янкавы) - 1926 г.н., Жонка Марыя Пятроўна - 1924 г.н., руская з Ёдак. Перасяліліся з вёскі да 39 года, зямлі - 9 га, ворыва - 3 га, сенажаці - 2 га, выгана - 2 га, няўдобіцы - 3 га.

**Грынь Мікалай Іванавіч** - 1912 г.н., жонка Марыя Юльянаўна - 1909 г.н., дзеці: Вячаслаў - 1939 г.н., Клаўдзія - 1936 г.н. На Качэвінку перанеслі хатку і хлявушок, зямлі выдзелілі 5,25 га, з іх ворыва - 4,34 га, каля гектара выган з няўдобіцай.

**№ 8. За шашой - 6 гаспадарак:**

**Кудла Канстанцін** (Унучкавы) - 1889 г.н., граматны, разумны, жонка Ганна Канстанцінаўна -1889 г.н., родам з Дзітрыкаў. Пры першых Саветах быў дэпутатам. Перанеслі хату, хлеў і гумно. Зямлі далі 3 га, ворыва - 2,18 га, сенажаці - 0,60 га.

**Кудла Аляксандр Іванавіч** (Аляксеявы) -1908 г.н., маці Марыя -1864 г.н., жонка Антаніна Мікалаеўна - 1909 г.н. Перанеслі хату ў 1938 годзе. Зямлі далі 5,58 га, ворыва - 4,21 га, выгану - 0,75 га, няўдобіцы - 0,37 га.

**Школка Сцефаніда Іванаўна** (Школкавы) - 1888 г.н., муж Міхаіл - невядома дзе знік… Дачка Надзея Міхайлаўна - 1927 г.н., судзілі і завезлі ў Карэла-Фінскую ССР. Сын Іван - 1932 г.н. А быў і Мікалай - ?. Зямлі -8,46 га, ворынай - 5,16 га, выган - 2,7 га, пад Унучкавых хату, хлеў і адрыну перанеслі пры Польшчы.

**Школка Мікалай Міхайлавіч** - 1914 г.н., жонка Таццяна - 1909 г.н., сын Мікалай - 1940 г.н. Пры Польшчы загналі на хутар за шашой, перанеслі толькі маленькую хатку. Зямлі далі 2,37 га, ворыва - 1 га, выган - 1,25 га.

**Быстрыцкая Ганна Іванаўна.** Зямлі - 10 га, ворыва - 3 га, сенажаці - 5 га.

**Шут Сцяпан Сямёнавіч**, баптыст. Гумно і зруб хаты. Зямлі лічылася 5 га, ворыва - 3 га.

**№ 9. За Ройстам - 5 гаспадарак:**

**Быстрыцкі Канстанцін Іванавіч** (Сівы) - 1908 г.н, жонка Вера Аляксандраўна - 1906 г.н., дачка Ніна выйшла за Міцюкевіча Віктара. На хутар за Ройстам, перанеслі ўсе пабудовы з вёскі за польскім часам. Зямлі толькі - 1,40 га, ворнай - 1 га, выган - 0,40 га.

**Дзявяты Антон Данілавіч** (Антосевы) - 1903 г.н., жонка Валянціна Янаўна -1903 г.н. дзеці: Галіна - 1931 г.н., выйшла за Курылу Гену, Фаня -1939 г.н., была за Кумпяком (Сымонкавым) Валодзем. Развяліся, з'ехаў у Расію. Потым выйшла за Карабача Васю, брат Мікалай - 1941 г.н. Да 1939 года на хутар за Ройстам, за бульбянымі вясковымі ямамі перанеслі з вёскі ўсе пабудовы. Добра зрабілі ў хаце залу, спальню, кухню.Зямлі далі амаль 7 га, з іх ворыва - 4,56 га, выган - 1,67 га, няўдобіца - 0,72 га.

**Дзявяты Міхаіл Анонавіч** (Каласок) - 1902 г.н., жонка Вера Іванаўна - 1895 г.н., дачка Александра (Алечка). Зямлі - 10 га, ворыва - 6 га, сенажаці - 3 га, выган - 1 га. Мелі спрытнага каня па мянушцы Каласок, кароўку, свіней і авечак.

**Міцюкевіч Ганна Аляксандраўна** (Шамшоркі) - 1898 г.н., дачка - Вольга Канстанцінаўна - 1931 г.н., сын Віктар Канстанцінавіч - 1933 г.н., кульгавы+Быстрыцкая Ніна, сын Уладзімір - 1935 г.н., дачка Надзея - 1937 г.н. Хату і хлеў перанеслі ў 1939 годзе. Зямлі - 6,83 га, ворыва - 5,21 га, выган - 1,53 га.

**Кудла Юльян Адамавіч** (Юльчыкаў) - 1875 г.н. Вёска пачыналася з Шута Зянона. Да хутарызацыі, побач ад Альжбеты жылі сем'і Кудлаў - дзядзькі Костуся, дзядзькі Юзіка, Кудлы (Юльчыкавы) - ззаду іхніх хат. Там было цесна, нават гарод малы. Старэнькія хату і хлеў да 1918 г. і гумно1890 г. перанеслі на хутар за Ройстам. Зямлі - 8 га., ворыва - 5 га, сенажаці - 2 га, выган -1 га, няўдобіцы - 0,67 га. Жонка Юлія Іванаўна - 1889 г.н., сыны: Уладзімір - 1923 г.н., Віктар (Юльчыкаў) - 1933 г.н.

**№ 10. Выган - 2 гаспадаркі:**

**Быстрыцкі Мікалай Іванавіч** -1920 г.н., жонка Лукашэвіч Вера (Філіпаўна) - 1916 г.н., радня Курылавай Веркі. Хлеў, адрына - 1937 г. Зямлі - 8 га, ворыва -5 га, сенажаці - 3 га, выгану - 1 га.

**Курыла Піліп (Дарафей) Рыгоравіч** - 1870 г.н., жонка Аляксандра Міхайлаўна Чыжык з Дзітрыкаў (баба Алеся) - 1889 г.н., сыны: Федзя Дарафеевіч - 1922 г.н., Генадзь - 1928 г.н., дачка Ніна - 1934 г.н. Зямлі - 5,31 га, ворыва - 3,38 га, выган - 0,63 га, няўдобіца - 1,13 га.

**№ 11. За Аселіцай - 6 гаспадарак:**

**Кудла Канстанцін Адамавіч** - 1886 г.н (Солтысавы, Кастуськовы). Пабудовы перанеслі за балота каля чыгункі да 1939года. Зямлі выдзелілі 4,40 га, ворыва - 2,39 га, выган - 1 га, няўдобіца - 0,80 га. Пры Польшчы быў солтысам, пагульваў з Алесяй Курылавай.

**Кудла Васіль Васільевіч** (Базыль) - 1887 г.н., Васіль быў адукаваны, у польскі час быў старшынём "Грамады", жонка Антаніна Іванаўна - 1888 г.н. (Васілёва), дачка Валя - 1929 г.н. Пры хутарызацыі перанеслі хату і хлеў. Зямлі - 4,50 га, ворыва - 2,50 га, выган і неўдобіца - 2 га.

**Трапіла Мікалай Міхайлавіч** - 1912 г.н. Хутар за балотам каля Салькоўскіх. Старыя хату і хлеў перанеслі

да 1939 года Зямлі мала - 4 га, ворыва - 3 га., выган -1 гектар.

**Трапіла Міхаіл Вікенцьевіч** - 1874 г.н., жонка Марыя Міхайлаўна - 1875 г.н,, дачка Вольга Міхайлаўна - 1919 г.н. Хутар за аселіцай каля чыгункі. Хату, хлеў і адрыну перанеслі ў 1939 годзе. Зямлі - 4 га, ворыва - 3 га.

**Трапіла Ніна Міхайлаўна** - 1910 г.н. За аселіцай пад чыгунку. Хата і хлеў - 1918 г. Зямлі - 1га.

**Сяргеева (Шут) Серафіма Іосіфаўна** - 1895 г.н. (Крывашэйка). Жылі на хутары за балотам ў Трапілы Ніны Міхайлаўны. Свае невялікія ворыўныя землі не апрацоўвалі, бо не мелі ні каня, ні прыладаў. Потым усе з'ехалі ў Расію ва Уладзімірскую вобласць, туды, дзе былі ў бежанцах…

**№ 12. Любоўшчына - 3 гаспадаркі:**

**Дзявяты Іосіф Рыгоравіч** - 1890 г.н. (Салаткавы), жонка Дзявятая Надзея Іосіфаўна (Салаткава) - 1892 г.н. За чыгуначнай паласой на хутар Любоўшчына перанеслі хату, хлеў, гумно. Мелі 8 га зямлі, ворыва - 5 га, сенажаці - 3 га.

**Кудла Юлія Ігнацьеўна** (Папкавы) -1877 г.н., дочкі: Марыя Міхайлаўна - 1925 г.н., Валянціна -1921 г.н. Хату і хлеў перанеслі ў1939 годзе. Зямлі - 3 га, ворыва - 1,50 га, выган - 1,30 га.

**Козел Аляксандр Вікенцьевіч** (Гадковыя) -1913 г.н., жонка Вера Міхайлаўна - 1917 г.н. Хутар Любоўшчына за чыгункай, побач з ганчарскімі балотамі. Там яшчэ бацька Вікенцій у 1895 годзе пабудаваў хату з хлявом і адрынаю, на падворку - гумно. Набраў 6 гектараў зямлі, у асноўным сенажаць і выган для пашы, ворыва толькі - 2,24 га.

**№ 13. Замасток - 3 гаспадаркі:**

**Данейка Антаніна Іванаўна** - 1889 г.н., сястра Нюшкі Бляўскай, каля чыгункі пры мяжы з Супраўшчынай. Зямлі - 6,24 га, і з іх ворыва - 2,28 га, сенажаці - 1,39 га, выган - 2,58 га. Сын Данейка Леанід Канстанцінавіч - 1923 г.н.

**Дзявяты Філіп Антонавіч** (Малашкі) - 1907 г.н., жонка Мялання Васільеўна - 1914 г.н. Сыны: Уладзімір - 1934 г.н., Мікалай - 1936 г.н. Хату, хлеў і адрыну перанеслі ў 1938 г. Зямлі - 7,41 га, ворыва - 3,50 га, выган - 3,40 га, няўдобіца - 0,25 га.

**Кудла Іван Мікалаевіч** (Ванюсі) - 1902 г.н., жонка Вольга Нікадзімаўна - 1902 г.н. Бяздзетныя. У 1938 годзе каля пераезда чыгункі і недалёка ад паўстанка Ганчары пабудавалі добрую хату, асобна хлеў з адрынай. Абгарадзілі падворак і агарод лазовым плотам, што нават куры не вылазілі. Зямлі - 4 га, ворыва - 3 га, выгану - 1га.

**№ 14. Тарасаўшчына - 7 гаспадарак:**

**Кумпяк Семён Якаўлевіч** (Сымонкавы) - 1905 г.н., маці Алена Адамаўна - 1859 г.н., жонка Вольга Іванаўна - 1904 г.н., сыны: Мікалай - 1934 г.н., Уладзімір - 1939 г.н., жанаты з Дзявятай Фаняй. Хату, хлеў і гумно пабудавалі ў1937 годзе ў сувязі з перасяленнем на хутар. Мелі плуг, барану, воз, сані, сячкарню, манеж-прывад. Зямлі - 8,5 га, ворнай - 6 га, астатняя - выган і няўдобіца - 2,5 га.

**Максімовіч Аляксандр Ігнацьевіч** - 1889 г.н. Зямлі - 4.90 га, ворыва - 2,17 га, выган - 1,62 га, няўдобіца - 0,25 га. Завялі кабылу, карову, свіней, авечак і курэй. Брат Ваня жыў у Петрах, не выязджаў, меў двух коней, жарабё, 4 каровы. Меў добрую гаспадарку. Даў нам карову, каня і насення збожжа і бульбы.

**Данэйка Надзея Кузьмінічна** - 1883 г.н. З вёскі перанеслі хату, хлеў і гумно. Зямлі - 8,60 га, ворыва - 4,18 га, сенажаці - 1,48 га, выган - 2,30 га.

**Данэйка Міхаіл Іванавіч** - 1907 г.н. Хата і хлеў. Зямлі - 3,77 га, ворыва - 2,89 га, выган - 1,46 га.

**Кудла Іосіф Адамавіч** (Юзюк Адамаў) - 1879 г.н. Быў у бежанцах на Расеі настаўнікам, дурнаваты, прывёз другую жонку валынку Марыю Антонаўну -1886 г.н., а тут засталася жонка з Агароднікаў Марыя Уладзіміраўна - 1886 г.н., выганяў, але так і жылі…. На хутар перанеслі з вёскі ў1939 годзе хату, хлеў. Зямлі - 4,50 га, ворыва - 2,50 га, выган - 1,44 га.

**Козел Міхаіл Міхайлавіч** (Міхалюковы) - 1882 г.н., жонка Вольга Восіпаўна - 1884 г.н., дзеці: Ніна - 1921 г.н., Ваня - 1923 г.н., Марыя - 1928 г.н. Пры Польшчы выканалі хутарызацыю, атрымалі 6 га зямлі пры самай дарозе, перад грэбляй. У 1938 годзе перанеслі старыя пабудовы, крыху паднавілі і з дзецьмі вялі гаспадарку.

**Данэйка Мікалай Іванавіч** - 1916 г.н. Хату і хлеў перанеслі і адбудавалі да 39 года. Зямлі -2,50 га, ворыва - 1,27 га, сенажаці - 1,23 га. Служыў у польскай арміі, быў у палоне.

**№ 15. Клюкава - 4 гаспадаркі:**

**Салькоўскі Філіп Нікадзімавіч** - 1887 г.н., родны брат Міхаіла. Жонка Антаніна Іосіфаўна -1898 г.н., дзеці: Вера - 1926 г.н., Коля - 1921 г.н., Сяргей - 1922 г.н. Хата, хлеў з 1900 года. Зямлі - 9 га, ворыва - 4,41 га, сенажаці - 2,37 га, выган - 2,69 га.

**Дзявятая Алена Георгіеўна** (Хведаравы) -1864 г.н. Пабудаваны ў 1884 годзе хатка, хлеў, гумно з саламянымі стрэхамі. Зямлі мелі 10 га, ворыўнай - 7 га, сенажаці - 1 га і выгану каля 2-х гектараў.

**Быстрыцкі Іван Людвікавіч** (Мар'яшэвы) - 1873 г.н., жонка Вера Якаўлеўна - 1884 г.н., дзеці: Вольга - 1925 г.н., выйшла замуж за Лапцева ў Ташкент, Марыя -1927 г.н., Анатоль - 1931 г.н., працаваў у дэпо Ліда. Старыя пабудовы. Зямлі - 6,57 га, ворыва - 3,38 га, сенажаці - 2,53 га, выган - 0,66 га.

**Грынь Іосіф Іванавіч** - 1902 г.н., жонка Шут Праскоўя Сямёнаўна - 1906 г.н., сястра Косці, сын Генадзь - 1932 г.н. За палякамі выдзелілі на старэйшым хутары ўчастак. Пабудавалі ў 1939 годзе хату, хлеў, адрыну. Мелі зямлі 6,39 га, ворыва - 2,48 га, сенажаці - 2,4 га, няўдобіцы - 1,50 га.

Былі і добры без пабудоў: **Выжэрыны, Крупава, Рыбацкія, Каляднік**. Выкарыстоўваліся як сенакосныя, пашавыя, кустарнікавыя ўрочышчы.

Памятаю ўспаміны майго бацькі:

*"Сераднякі ўзялі зямлю лепшую на Тарасаўшчыне, але воддаль ад вёскі. Бяднейшыя пасяліліся на*

*пясчаных добрах. У Жвірках, каля хутароў не было лугавой зямлі, але затое вырас лес.*

*Хутарызацыя змяніла накірунак пабочных дарог, таму выбар месца пад забудову набыў найважнейшае значэнне для кожнай сям'і. Пабудовы размяшчаліся на блізкай адлегласці ад шашы: Заецкія - 2 гаспадары, Цімошкаўня - 3, Глінішча - 2, Гарбачова - 1. А вось ад чыгункі - не бліжэй, чым за метраў каля ста (з-за пажарнай бяспекі, таму што паравозы палілі вугалем) размясцілася многа хутаран: За аселіцай - 6 пабудоў, Любаўшчына - 3 гаспадаркі, Замасток - 3, Клюкава - 4, Перад пераездам - 3.*

*Каб занава перабудаваць на хутарах некаторыя вясковыя хаты, нават не спатрэбілася многа дадатковых матэрыялаў".*



***Хата з адрынаю Шута Сцяпана***

Бывала і так. Ваня Кудла з бацькам пасля бежанства за некалькі гадоў адрамантаваў разбураныя ў вайну гаспадарчыя пабудовы. Як будаўнік, многім дапамагаў перабудову на хутары, памеціць на зрубе хаты ўсе вянкі. Збярэцца з дзясятак вяскоўцаў, гуртам разбяруць хату, загрузяць на калёсы і перавязуць на новае месца. Вып'юць, як заўсёды, невялікі барыш і едуць з песнямі дамоў. Назаўтра гаспадар з раднёй рабілі фундамент, праз тыдзень збіралі сцены…

Хлявы будавалі большыя, каб каней, кароў, авечак трымаць асобна. Там, дзе гадавалі свіней, фундамент выкладалі вялікімі камянямі, умацоўвалі цэментам. З іх праз дзверы бліжэй і лягчэй выкідваць гной. Сцены абнаўлялі паўсюдна, знізу мянялі старэнькія падваліны і дабаўлялі тры-чатыры вянкі са здаровых бярвёнаў.

Складана было са студнямі. У вёсцы два-тры гаспадары карысталіся адной студняй. А тут па ваду не находзішся. Яна патрэбна не толькі ў дамашнім клопаце, а і многа для жывёлы. Давялося капаць амаль кожнаму гаспадару на глыбіню каля 20 і больш метраў. У гміне была форма для вырабу труб з цэменту. За невялікія грошы бралі, як казалі, "напракат" форму і "білі" трубы. Студня была важным аб'ектам перабудовы на хутары. Ваду са студні даставалі валікам з корбай і прывязаным да вядра ланцугом. Такое прыстасаванне лепш замяніла журавель. Лесу свайго не было, а купляць абыходзілася дорага.

На працягу некалькіх гадоў хутаране цалкам закончылі перабудову. Каля сядзібаў агарадзілі платамі падворак і гарод, многія пасадзілі садовыя дрэвы грушы, слівы і хтосьці - яблынькі.

Зімой сяляне ўжо жылі на хутарах: хто на кухні, а хто і ў хаце. Вясну сустрэлі на ўласным кавалку зямлі блізка ад хаты.

Цяжкім выдаўся першы земляробчы год. Вясной выраўноўвалі палеткі: аралі ўпоперак, і наўскасяк старых загонаў. Загоны сталі шырэйшыя, і не стала межаў. Землі на хутарах падзялілі на палеткі, большасць увяла чатырохпольны севазварот. Больш сеялі жыта, аўсу, канюшыны, лубіну, сырадэлі, вікі, гароху. Грэчку сеялі на пясчаных Заецкіх і Жвірках - горшых дзялянках. Аладкі і каша з яе атрымліваліся адмысловыя. Для сямейнай яды і для корму свіней гаспадары стараліся пасадзіць бульбы на ўгноеным палетку. Некаторыя саджалі бульбу ў агародзе "пад матыку", а на полі выкладвалі ў баразну і засыпалі. Бульба была пахучая і сопкая, і называлі яе варшаўкай. Пачынаўся перыяд праполкі агародаў, лёну, абгонкі бульбы. Гэта была вельмі цяжкая праца.





Земляробы праходзілі навучанне. Па ўспамінах бацькі і аднавяскоўцаў "за польскім часам" пры Ганчарскай школе для сялян навакольных вёсак працавалі "Курсы па гаспадарцы ральнічай". Там вывучалі асновы навуковай працы ў земляробстве і жывёлагадоўлі. Навуку выкладалі навукоўцы з Бердаўскай ральнічай школы і Беняконьскага даследчага ўчастка. За навед-

ванне курсаў і вучобу плацілі невялікія грошы… Па заканчэнні курсаў усе наведвальнікі здавалі залікі. Сёй-той там купляў ксёнжкі-падручнікі.

**РАЖНОВА (КАХАНОЎСКАЯ) ЯДВІГА МІХАЙЛАЎНА 08.12.1935 г.н., в. Дроздава ўспамінае:**

*Жыхары вёскі Дроздава жылі небагата. Толькі ў 2-3-х сем'яў было каля 20 га зямлі. У іншых па 10 га і меней. У нас было 1,5 дзесяціны ворыва. Дамы былі драўляныя, у асноўным з саламянымі стрэхамі. За рэдкім выключэннем хата Віткавых (Быстрыцкіх) была накрыта дранкай, наша невялікая хата - чарапіцай. Падлогі з дошак былі ў пакоях ў нас і суседа Кудла Вані (Ванюшкі), Быстрыцкага Віці, Дзікевіча Косці. У астатняй большасці жыхароў - гліняныя. І толькі пазней парабілі дашчаныя падлогі Махначы, і хтосьці ў 2-3-х хатах. Кухні ва ўсіх былі з землянымі падлогамі. Перад святамі іх мылі, як і дашчаныя і пасыпалі жоўтым пяском. Сем'і вяскоўцаў былі вялікія. Наша, напрыклад, складалася з 8-мі чалавек: 5 дзяцей, бацька, маці і бабуля (па маці).*

*Хата пачыналася з сенцаў, толькі ў Кудлаў (Ванюшкаў) быў ганак. Пасля сенцаў праз парог пачыналася кухня.*

*Спачатку стаяла вялікая хлебная печ. За печчу была асноўная частка жылля, якая ў некаторых дамах аддзялялася невялікай перагародкай, у іншых - без яе. Каля паўночнай сцяны, дзе не было вокнаў, стаялі ложкі, ля печкавай сценкі - паліцы, лаўкі для спання. Вокны звычайна размяшчаліся толькі з двух бакоў дома. Уздоўж сцен стаялі лавы: дубовыя, добра ўмацаваныя, шырокія. Уздоўж сцяны, ад вугла да дзвярэй, размяшчалася паліца, на якую ставілі гарлачыкі, слоікі, чарпакі, клалі лыжкі.*

*Было ў хаце і святое месца, якое нашы продкі называлі покуць або чырвоны кут. Тут віселі іконы, абразы, абвешаныя вышытымі ручнікамі.*



*У нашым доме стаялі дзве лаўкі з парэнчамі, іх называлі канапкамі. Ложкі былі драўлянымі, папярок выкладзеныя дошкамі..*

*На гэтыя дошкі рассцілалі кулявую жытнюю салому (з такой саломы крылі дахі ўсіх гаспадарчых пабудоў), яе накрывалі зрэбнай (ільняной) дзяружкай і спалі. У цёплы час такой жа дзяругай накрываліся, а ў халодныя ночы - "коўдрай". Гэта дзве пашытыя ўручную дзяружкі, запоўненыя ільняным пакуллем. Для тых, хто спаў на паліцах, лаўках, таксама сшывалі дзяружкі якія запаўнялі мяккай саломай або сенам і называлі сеннікамі. У асаблівых выпадках салому перыядычна мянялі. Каля драўляных ложкаў, у шчылінах сцен вадзіліся блохі і пераскоквалі ў дзяружкі і адзенне. Гэтых "кватарантаў" хапала ў кожнай хаце, у некаторых былі нават мышы і прусакі.*

*Кухонны посуд быў ў сваёй большасці драўляным: вялікія і малыя бочкі для капусты, агуркоў, кублы для сала, кошыкі для мяса і здору, кадкі з вечкам, хлебныя дзежкі, малочныя даёнкі, кадкі для вады, балеі, начоўкі, драўляныя лыжкі, пранікі для прасавання ільнянога адзення.*

*Балеі і начоўкі выкарыстоўваліся для мыцця адзення і людзей. Не памятаю, ці было мыла, але памятаю, што замочвалі вопратку і мылі "лугам".*



**Фотаздымак з верху Ванюшкінага хлява: агарод за плотам, варота, высокая чаромуха. Праз брукаваную вуліцу - атынкаваная і пабеленая хата Кудлы Вані, злева - Пазняка Юзюка старэнькая пабудова - хата з хлявом**

*Драўняны попел залівалі гарачай вадой і нейкі час настойвалі. Вопратку замочвалі ў балеі, а мылі ў начоўках. Самі ж мыліся ў балеях, у начоўках мылі галовы. Добра было летам. Балею выносілі на двор, вада награвалася, і можна было доўга плёскацца з задавальненнем. У нядзельныя дні некаторыя хлопцы і дзяўчаты хадзілі купацца на рэчку Дзітву пад Лупеніцу.*

*Павінна сказаць, што ў той час драздоўскія сем'і не галадалі. Выключэнне - 2-3 сям'і. Улетку акрамя малочных прадуктаў хацелася і мясных, часам кавалачак сала, каўбаскі, паляндвічкі. Мяса елі ў розным выглядзе практычна круглы год, выключаючы пасты. Асабліва гэтая ежа была неабходная тым, хто выконваў цяжкую працу. Мяса было не толькі свіное. У восень у многіх былі авечкі, іх рэзалі, вясной - цяляты, якія таксама ішлі пад нож.*

*Наша сям'я таксама не бедавала, хоць зямлі было мала. Бацька, Міхаіл Феліксавіч, быў таленавітым краўцом. У яго былі свае пастаянныя працадаўцы - кліенты, якіх ён абшываў. Усе яны былі ў сяброўскіх адносінах з татам. Плацілі за працу натурай: збожжам, мукой.*

**У вёсцы засталося 25 гаспадарак вяскоўцаў.**

1. **Махнач Міхаіл Аляксандравіч** - (Талкі) - 1895 г.н.,
2. **Дзявятая Анна Канстанцінаўна** (Драпячыха) -1874 г.н.,
3. **Козел Уладзімір Міхайлавіч** (Кубарчыкавы) - 1932 г.н.,
4. **Козел Юлія Міхайлаўна** (Юлька) - 1887 г.н.,
5. **Махнач Лізавета Мартынаўна** (Трусы) -1892 г.н.,
6. **Шут Канстанцін Сямёавіч** (Кочманы) - 1915 г.н.,
7. **Каханоўскі Міхаіл Феліксавіч** -1882 г.н., католік,
8. **Кудла Іван Іванавіч** (Ванюшкавы) - 1908 г.н.,
9. **Пазняк Іосіф Аляксандравіч** - 1898 г.н.,
10. **Ашмяна Уладзімір Іванавіч** ( Якоўчыкі),
11. **Ашмяна Іван Іванавіч** (Гураль) - 1913 г.н.,
12. **Данейка Міхаіл Лук'янавіч** (Лукашы) - 1904 г.н.,
13. **Бяляўскі Канстанцін Іосіфавіч** (Нюшкіны) - 1907 г.н.,
14. **Пазняк Анна Афанассеўна** - 1907 г.н.,
15. **Кумпяк Аляксандр Васільевіч** - 1895 г.н., солтыс (Кажаш),
16. **Кумпяк Міхаіл Вікенцевіч** (Вінцуковы) - 1930 г.н.,
17. **Козел Агафія Антонаўна** (Агата) - 1888 г.н.
18. **Дзякевіч Канстанцін Фёдаравіч** - 1910 г.н.,
19. **Быстрыцкі Іван Якімавіч** (Ясевы) - 1877 г.н.
20. **Быстрыцкі Віктар Міхайлавіч** (Віткавы) - 1907 г.н.,
21. **Кудла Вера Іосіфаўна** (Андрэіха) - 1874 г.н. (Стышкавы),
22. **Кудла Юстын Аляксандравіч** (Алесевы) - 1890 г.н.,
23. **Хрыстук Юзэфа Канстанцінаўна** -1899 г.н., полька
24. **Кудла Елізавета (Альжбета) Юльянаўна** - 1888 г.н.,
25. **Шут Зянон Іосіфавіч** (мянушка - "Дзескаць да").




***Карта ваколіцы Дроздава пасля хутарызацыі. На карце з паўночнага боку і ад Ліды па нумарах адзначаны пабудовы вяскоўцаў.***

**Максімовіч Васіль Аляксандравіч:**

*"Напярэдадні Першай Сусветнай вайны мой бацька -Аляксандр Ігнатавіч працаваў ліцейшчыкам у Санкт-Пецярбургу на заводзе "Рускі Рэно", быў не вельмі пісьменным. З пачаткам ваенных дзеянняў бацька пераехаў у г. Саратаў да роднага брата Сцяпана. Верагодна, пасля заканчэння Грамадзянскай вайны вярнуўся на радзіму ў вёску Пятры, дзе ў бацькоўскай хаце жыў другі родны брат Іван.*

*Мама Любоў Васільеўна таксама напярэдадні Першай Сусветнай вайны працавала ў Санкт-Пецярбургу. У свой час яна скончыла 4 класы царскай школы,*

*была пісьменнай. У пачатку вайны апынулася ў Омску, затым у Томску. Пасля шматлікіх тулянняў вярнулася ў родную вёску Драздова. Яе бацька Васіль да гэтага часу памёр, гаспадарку вяла аўдавелая мама. Неўзабаве бацька Аляксандр пайшоў у прымы да Любові Васільеўны ў вёску Драздова - яны пажаніліся. Нарадзілі двaіх дзяцей: мяне - Васіля ў 1924 г. і сястру Любу у 1927 годзе."*



По расказу Васіль Аляксандравіч у 30-х гадах ён вучыўся ў Ганчарскай шасцікласнай паўшэхнай школе, за 3 км ад роднай вёскі.



***На фота Ганчарскай шасцікласнай паўшэхнай школы: настаўнік - Маліноўскі Іналіт, Дзікевіч Мікалай, Шут Генадзь, Максімовіч Васіль, Шут Віця, Шут Жора, Каханоўскі Бронак, Курылаў Федзя, жучкоўскія хлопцы…***

*"Звычайна ў школу хадзіў пешшу, зімой - у лютыя маразы і завеі - бацькі дастаўлялі дзяцей коньмі на санях. На той час у Драздаве жыло толькі дзесятак чалавек, якія прайшлі навучанне ў царска-прыхадской школе, былі знаёмыя з граматай і ўмелі распісацца: Ванюшкаў Ваня, два браты - Кудлы Юзік і Костусь, Кудлы Васіль і Косця і Шуты Зянон і Юльян.*

*Пасля хутарызацыі на выдзеленыя каля пяці гектараў зямлі на Тарасаўшчыне, бацькі перавезлі хату і пабудовы. Для вядзення гаспадаркі завялі каня, 2 каровы, свіней, авечак ... Сала было толькі тады, калі заколюць дзіка, у асноўным яго пакідалі на касьбу і іншыя цяжкія працы. Але да гэтага часу яно было ўжо жоўтым, нясмачным, праўда ўсё яшчэ каларыйным. Асноўная ежа летам - бурачнік на хлебным квасе, гародніне, малочныя прадукты".*

*"Але былі ў вёсцы сяляне і больш заможныя. Так, моцная гаспадарка была ў Івана Кудлы - 16 га зямлі, 4 каровы, 2 коней. Але ім даводзілася вельмі і вельмі шмат працаваць: араць, сеяць, жаць, прыбіраць..., а вось аднавяскоўка ўдава Агата Козел з трыма дзецьмі жыла вельмі бедна".*

Бацька Ваня, як былы рассейскі навучэнец, прачытваў прывезеныя кнігі, а яшчэ зацікавіўся радыёперадачамі на рынку ў Лідзе. За немалы кавалак каўбасы "пальцам пханай" вымяняў дэтэктарны прыёмнік. У свабодныя ад работы вечары і святочныя дні, нацягнуўшы на вушы слухаўкі, круціў ручку дэтэктарнага прыёмніка і лавіў хвалі з усходняй Беларусі, а там часта расхвальвалі калгаснае жыццё, ды спявалі беларускія народныя песні. І бабуля Алеся, надзеўшы слухаўкі слухала радыё і пасля праслухоўвання савецкіх агітацыйных перадач расказвала: *"Якое там райскае жыццё… Трактарам узворваюць зямліцу, камбайнам жнуць…"* Баба Алеся з пачуццём захаплення гаварыла пра расейскі калгас: *"Паслухайце, як там добра, разам ідуць на працу і спяваюць, працуюць і спяваюць, дадому ідуць - таксама спяваюць. А як хораша спяваюць! Паслухайце!"* І перадавала слухаўкі яшчэ каму-небудзь. Дарослыя мужчыны ў большасці таксама цікавіліся перадачамі з загадкавай скрыні.

**Каханоўская Ядвіга Міхайлаўна:**

*"З тых часоў у маёй памяці засталася радыёскрыня са слухаўкамі, якая была ў бліжэйшага суседа Ванюшкі (Кудлы Івана Іванавіча). Мы, дзетвара, і дарослыя, таўкліся насупраць яго дома, садзіліся на дрэва, якое ляжала насупраць хаты дзядзькі Сцяпана Шута (дрэва было прызначана для запозненага будаўніцтва новай хаты на хутары) і слухалі цікавую музыку, якая лілася з загадкавай трубы грамафона. Помню, як мы некаькі раз праслухалі цудоўную песню пра савецкіх трактарыстаў. Былі неапісальныя пачуцці ад гэтай невядомасці..*

*Ужо пасля вайны нам у Ганчарскай школе паказалі кінафільм" Трактарысты " 1939 года, і мы зноў слухалі тую песню на вершы Лебедзева-Кумача "Марш трактарыстаў":*

*Ой вы, кони, вы кони стальные,*
*Боевые друзья - трактора,*
*Веселее гудите, родные -*
*Нам в поход отправляться пора.*

***Припев:***
*Мы с железным конём*
*Все поля обойдём,*
*Соберём, и посеем, и вспашем.*
*Наша поступь тверда,*
*И врагу никогда*
*Не гулять по республикам нашим!*

*Урожайный сгибается колос,*
*И пшеница стеною встаёт,*
*И подруги серебряный голос*
*Нашу звонкую песню поёт.*

*Наша сила везде поспевает,*
*И когда запоёт молодёжь,*
*Вся пшеница кругом подпевает,*
*Подпевает высокая рожь.*

*Подымайся ты, пыль золотая,*
*Улетай в голубые края.*
*Ой ты, радость моя молодая,*
*Молодая подруга моя!*

*Ой вы, кони, могучие кони,*
*Ой вы, кони, стальные бока,*
*Мы за счастьем поедем в погоню,*
*Мы любого осилим врага!"*



*Васіль Іванавіч Лебедзеў-Кумач нарадзіўся 5 жніўня 1898 года ў Маскве, у сям'і шаўца. Вучыўся ў гімна-зіі, у гады вучобы памёр бацька, на фронце Першай Сусветнай вайны загінуў старэйшы брат. Ужо ў гады вучобы Васіль зарабляў рэпетытарствам па рускай мове і латыні. Скончыў гімназію з залатым медалём. Вершы пісаў з 13 гадоў, спрабаваў пісаць і песні. Паступіў на гістарычна - філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта, дзе правучыўся тры гады (1919-1921), не давучыўся - не было сродкаў.*

*Адзін са стваральнікаў і пастаянны аўтар "Рабочай газеты" і часопіса " Кракадзіл". Напісаў тэксты песень для кіно: "Вясёлыя хлопцы", "Як шмат дзяўчат харошых", "Дзеці капітана Гранта", "Ану-ка песню нам спявай, весёлы вецер", "Волга-Волга".*

*У гэтых тэкстах гучалі патрыятычны энтузіязм, аптымізм, савецкая рэчаіснасць паўставала ў самых ідэалістычных рысах, што знаходзіла шчыры водгук у слухачоў і гледачоў.*

*У гады Вялікай Айчыннай вайны Лебедзеў-Кумач служыў у ваенна-марскім флоце, быў палітработнікам. Супрацоўнік газеты "Чырвоны флот", капітан першага рангу. У самым пачатку вайны напісаў тэкст песні " Свяшчэнная вайна " (кампазітар А.У. Аляксандраў), якая стала гімнам Вялікай Айчыннай вайны і сімвалам барацьбы з фашызмам. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (Сталінскай прэміі 2-й ступені, 1941).*

У канцы 30-х гадоў над Еўропай навісла небяспека Другой сусветнай вайны. К гэтаму часу фашысцкая Германія значна пашырыла свае межы. У 1938 г. яна захапіла Аўстрыю, у 1939 г. ліквідавала незалежнасць Чэхаславакіі, потым захапіла літоўскую Клайпеду. На чарзе стаяла Польшча. Германія запатрабавала ў Польшчы перадаць ёй Гданьск і правa будаваць у так званым "Польскім калідоры" экстэрытарыяльныя дарогі. Польскі ўрад адхіліў гэтае патрабаванне, аднак адмовіўся і ад ваеннай дапамогі Савецкага Саюза.

На працягу ўсяго 1939 года ўзмацняўся неспакой, расла напружанасць. На захадзе Германія пачала пашыраць свае межы. Супярэчлівыя весткі прыходзілі з усходу. Нягледзячы ні на што, вяскоўцы рупліва працавалі - зямлі патрэбны былі рукі. Людзі не толькі перажывалі з-за жахлівых вестак, але і цешыліся з лепшага жыцця на хутарах.




***1.09.1939 год. Салдаты Вермахта ламаюць шлагбаўм на граніцы з Польшчай***

Па ўсёй граніцы войскі Вермахта з баямі супраць польскай арміі пачалі захоп Польшчы. Гітлераўцы дзейнічалі таранньімі ўдарамі. Вермахт меў знакавую перавагу як у жывой сіле, так і ў танках, артылерыі, авіяцыі. Нягледзячы на безнадзейнасць свайго становішча, польскія вайскоўцы гераічна змагаліся.

Першыя дзесяць дзён вайны палякі фанабэрыліся, гаварылі, што "не аддамо ні гузіка", "хутка нам дапаможа Англія". Па вёсках развесілі плакаты з надпісамі ў ганарлівым тоне. Але фанабэрыстасць і ганарлівасць паступова пачалі спадаць, гарэла Ліда, у небе лятaлі толькі нямецкія самалёты. На чыгунку, станцыю, аэрадром і прадпрыемствы пасыпаліся бомбы...



***Нямецкія бамбадзіроўшчыкі знішчаюць заходнебеларускія гарады***

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Юзаф Кардаш*

# Ліда праўдзівая*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нум ары.)*

**Могілкі**

Дзе ўзнікае паселішча, там закладваюцца могілкі. У апошнія стагоддзі могілкі ў Лідзе служылі не толькі гораду. Пасля пабудовы ў 1770 годзе Фарнага касцёла карысталіся могілкамі таксама і навакольныя вёскі, якія належалі да парафіі. Мелі яны асобны кварталы, якія яшчэ і сёння, хоць з цяжкасцю, можна распазнаць па надпісах на аброслых мохам каменнях і надмагіллях. Пасля вайны палякі, раскіданыя па свеце не мелі мажлівасці часта адведваць родныя краі і тым самым апекавацца над магіламі. На могілках у Лідзе ёсць магіла Валерыі Цехановіч. Яна брала ўдзел у студзеньскім паўстанні 1863 года. Асела ў Лідзе і тут у 1933 годзе памерла. У 1919-1920 годзе ў бітве за Ліду палегла 26 польскіх жаўнераў. Парэшткі некаторых з іх спачываюць на вайсковых могілках. Палеглыя ў 1920 годзе былі пахаваны ў агульнай магіле, слядоў якой на старых могілках ужо няма. З-пад Ліды эксгумавалі парэшткі маёра "Панурага", ёсць там парэшткі падпаручніка "Малога" шасці жаўнераў аддзела. Ёсць і парэшткі польскіх лётчыкаў з 5 лётнага палка. Ёсць магіла Францішка Чарнецкага з 11 знішчальнага палка і паручніка Аляксандра Ціхоцкага.

Парафіяльныя могілкі ў Вісмантах састарэлі, былі знішчаны і закрыты. Цокалі, абеліскі помнікі на магілах былі паваляны, крыжы паламаны, а магілы затаптаны. Закрытыя вясковыя могілкі навакольных вёсак захаваліся да сёння, а нешматлікія з іх пасля вайны аказаліся прыдатнымі. Дзейныя могілкі ёсць у вёсках Цябы, Споркаўшчына і Верхліда.



***Першая за 30 гадоў святая палявая імша на старых (фарных) лідскіх могілках***



***Вясковыя могілкі ў Цябах***

Там, дзе заканчваецца вуліца Сувальскага палка, з заходняга боку перад чыгуначнай каляёй на Маладзечна насупраць завода сельскагаспадарчых машын ёсць невялікія праваслаўныя могілкі з драўлянай каплічкай. Паміж тымі могілкамі і вуліцай, якую назвалі пасля вайны Савецкай, хавалі памерлых расейцаў. Магіламі ўсалі ўсю плошчу. Калі забракла месца, заклалі новыя камунальныя могілкі па-за Лідай, а парэшшткі памерлых з-пад праваслаўных могілак эксгумавалі і перанеслі на новыя. Паміж даўнейшай вуліцай Пастаўскай і руслам ракі Лідзеі былі ў Лідзе досыць вялікія яўрэйскія могілкі. У траўні 1942 года гестапаўцы пастралялі ў Лідзе каля 7000 мясцовых яўрэяў, а ў 1943 восенню звыш 3000 вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер Майданак. Пасля вайны ў Лідзе не стала яўрэйскай супольнасці. Яўрэйскія могілкі цалкам зліквідавалі. Стаяць на тым месцы некалькі жылых дамоў. Для іх будаўніцтва ўжывалася ўсё, часта трапляліся элементы помнікаў і надмагілляў. Адзінай памяццю пра яўрэяў засталася зборная магіла на Барах, у лесе пад Зосіна. Стаіць на ёй момнік з дзвюма шыльдамі і надпісамі на яўрэйскай мове і на рускай.

**Шпацыр па вуліцах даўнейшай Ліды**

Свой шпацыр распачну з узвышша, якое знайходзілася некалі ў развілцы рэк Лідзеі і Каменкі. У далёкія часы тут узнікла малое паселішча, а сёння стаіць на ім Фарны касцёл пад назвай Узвышэння Святога Крыжа. Першую святыню ўфундаваў у 1387 годзе Уладзіслаў Ягайла, а сённяшня паходзіць з 1770 года і пабудавана ў

* *Пераклад Станіслава Судніка з кнігі: Jozaf Kardasz, “Lida prawdziwa”, Agiencja Wydawnicza, “Remix”, s.c., Olsztyn, 1997 r.*




***План горада Ліды, 1928 г.***



***Фарны касцёл з агароджай і брамай***

стылі позняга барока.

Скляпенні касцёла абапіраюцца на на чатыры гранёныя філяры з пілястрамі. На адным з іх змешчана латунная дошка з выявай Яна III Сабескага, якая нагадвае пра 250-я ўгодкі перамогі над туркамі пад Венай у 1683 годзе. Ёсць галоўны неф і два бакавыя. Вярхі калон пры галоўным алтары і бакавых закончаны валютамі. Пры галоўным алтары стаяць статуі Св. Пятра і Св. Паўла. Над алтаром у акне ў выглядзе круга быў прыгожы, які выклікаў вялікае захапленне, вітраж з выявай галубкі - цудоўны твор мастацтва. Знішчылі яго савецкія бомбы ў першыя дні ліпеня 1944 года.

У касцёле ёсць відны амбон, а таксама арган 19-га стагоддзя з прыгожым і моцным гучаннем. У той жа час не хапае званоў, зрабаваных немцамі. Некалі звон іхні быў чуцён на адлегласці пяці кіламетраў.

Касцёл стаіць пры галоўнай вуліцы Ліды - Сувальскага палка, павернуты да яе фасадам. Вуліца атрымала назву ў 1920 годзе, калі 41 Сувальскі полк пяхоты бараніў Ліду ад адступаўшых пасля паразы пад Варшавай бальшавіцкіх войскаў.

Пробашчам Лідскай парафіі і дзяканам навакольных быў моцны, у сур'ёзным веку ліцвін, канонік Гіпаліт Баярунец. Пад старасць зламаў ногу і пару гадоў аж да смерці адпраўляў набажэнства на інвалідным крэсле. Памёр у 1946 годзе. Пахавалі яго на парафіяльных могілках у Лідзе, паблізу ад могілкавай капліцы.

Касцёл быў агароджаны мурам, да якога з паўднёвага боку прымыкаў пляц. Кожны год 14 верасня адбываліся ў касцёле адпустныя ўрачыстасці і фэст. Вуліцы і пляц пры муры абстаўлялі ў той час фурманкамі, прыбылымі з мястэчка Смаргонь, са шнурамі слынных на Віленшчыне абаранкаў. З плошчы пры касцёле ў паўднёвым кірунку адходзілі дзве вуліцы. Адна з іх гэта Замкавая, якая ідзе на паўднёвы ўсход, а за мостам гэта вуліца Гарыстая, а носіць назву Гражыны, і пры ёй з заходняга боку знайходзяцца парафіяльныя рымска-каталіцкія могілкі. Другая, згаданая

ўжо, Сувальскага палка (для нас проста Сувальская), якая пераходзіць у вуліцу Мацкевіча (назвы, ужываныя намі) бегучы на поўдзень, адхіляецца на захад. У развілцы гэтых вуліц стаіць 650-гадовы замак Гедыміна, збудаваны на мысе ўзгорка, які "сплывае" з поўначы. Частка мыса аддзелена ровам шырынёй каля 20 метраў. На штучна ўтвораным насыпе насыпана пяску, жвіру і каменяў. На ім пабудаваны замак. Магутныя сцены, мураваныя з палявых каменяў, якія важаць больш за паўтоны, утвараюць чатырогвугольнік. Сцены дасягаюць вышыні 15-16 метраў. Роў, які аддзяляў замак ад падзамча, даўно ўжо знік і замяніўся на вулачку, якая бяжыць паміж сцяной замка і школай № 5, якая стаяла тут перад вайной. Хадзіла легенда, што замак гэты быў злучаны падземным ходам аж з Наваградкам (казка). Быў там таемны выхад, цераз які ў 1392 годзе князь Карыбут з малым гарнізонам ноччу пакінуў замак, не могучы абараніць яго ад крыжакоў.

На схіле замкавага насыпу раслі дзве дзіўныя сасны. Кружылі пра іх легенды, што гэта сёстры-княжны з замка, пакараныя чарнакніжнікам. Толькі пасля іхняга спілавання мелі знікнуць чары, але падчас такіх спроб цякла кроў. Кружыла таксама аповесць, што пад соснамі ляжаць парэшткі двух капланаў, замардаваных язычнікамі. Распавядалі таксама, што пад імі спачываюць старажытныя рыцары, якія прачынаюцца ў хвілю гістарычнага катаклізму, каб бараніць гэтую зямлю. І яшчэ даводзяць таксама, што дрэвы гэтыя плачуць крывавымі слязамі, калі край або горад спатыкаюць няшчасці і няласка лёсу.



***Лідская паўшэхная (усеагульная) школа № 5***

Насупраць паўночнай сцяны замка стаяла школа № 5. Да вайны ў ёй настаўнікам працаваў малады мужчына. Калі краіну ахапіла страшная вайна, адзін са "старажытных легендарных рыцараў прачнуўся", каб бараніць радзімую зямлю, а быў ім настаўнік з "пяцёркі" Ежы Баклажэц, жаўнер Арміі Краёвай падчас нямецкай акупацыі, псеўд. "Пазуркевіч".У 1944 г. бальшавікі яго арыштавалі і пасадзілі ў турму. Прысудам "суда" быў прыгавораны да смяротнай кары. 2 лютага 1945 г. каля будынка былога Народнага банка (на вуліцы Перацкага) НКВД-ысты павесілі змагара. Нават невядома, дзе ляжаць яго парэшткі.

Да 1939 года ў замку фармаваліся вайсковыя калоны для парадаў у гадавіну аднаўлення незалежнасці. Летам тут разбіваў лагер цырк Станеўскіх, які праязджаў праз Ліду, а зімой ладзіўся каток і розныя імпрэзы.

Памятаю ваенны парад у 1938 годзе. Дзень 11 лістапада быў сыры, туманны і пахмурны, нібы прадказваў набліжэнне навальніцы вайны, трагедыі і разбурэння горада. У святочнай форме ішлі калоны жаўнераў 77-га пяхотнага палка, за імі крочылі роты 5-га авіяцыйнага палка ў форме сталёвага колеру і з заплечнікамі, абцягнутымі карычневым футаркам. Ехалі вазы з новенькімі васьмю цяжкімі кулямётамі - падарункам грамадства. За імі ішлі шасціконныя запрэжкі гаўбіц 19-га палка артылерыі і эскадроны кавалерыі. Моцнае духам войска прамаршыравала ад замка вуліцай Сувальскай у паўночным кірунку да вуліцы Крупаўскай, завярнуўшы на яе, каб вярнуцца да казармаў. Апошні парад адбыўся 3 траўня 1939 года. Войска прайшло па вуліцы Міцкевіча, каля новапабудаванага будынка пошты, насупраць выгану.

Побач з заходняй замкавай сцяной з поўдня вуліца Мацкевіча вяла да вуліцы Пілсудскага, якая ў сваю чаргу вяла да чыгуначнай станцыі. Цяпер мы з вуліцы Пілсудскага пойдзем направа на вуліцу Перацкага, а прыкладна праз сто метраў павернем на захад на вуліцу Сокала. Прыкладна праз 80 метраў ад пачатку гэтай вуліцы, за драўляным плотам вышынёй 3 метры з нацягнутымі на яго некалькімі радамі калючага дроту, стаяў вялікі драўляны барак. У час вайны немцы трымалі тут прымусовых рабочых. Я быў схоплены немцамі 5 чэрвеня 1944 года: лямпачка на 15 ват, якая гарэла ўсю ноч (блохі пры святле нападаюць менш), двух'ярусныя нары, а на іх дробныя, як сечка, "змолатыя" ад доўгага выкарыстання, драўляныя стружкі. Адзін стары дзіравы коц, які адначасова служыў прасцінай і падушкай.

На сняданак "гарбата", якая мела смак, падобны да заваранага сена, пасля працы - талерка супу з пратухлай, ужо ў чэрвені гнілой бульбы і з некалькімі "ніткамі" цяляціны, што плавалі ў ёй, а на вячэру - 25 даг (250 г) хлеба, 3 даг (30 г) маргарыну і чвэрць літра кіпеню.

Вельмі цяжка было працаваць на будаўніцтве супрацьтанкавых равоў, у якіх адзін рабочы стаяў на дне, другі і трэці - на адхоне сцяны, а апошні на паверхні адкідваў і раўнаваў выкапаную зямлю. Цяжэй за ўсё было тым, якія не мелі паблізу ні сяброў, ні сваякоў (толькі старых), якія без страху, што іх забяруць працаваць, маглі прынесці і падаць нейкую ежу. Хто мог, дзяліўся кавалкам хлеба з малагадовай дзяўчынкай-сіратой Ядвігай Наражняк. 7 чэрвеня, у сераду пасля працы, начальнік нямецкага лагера Бенцка размаўляў з рабочымі на ламанай польскай мове і абвясціў: "Пасля вайны ich hundert ha Festland, poznad Dorf arbejten" ("Пасля вайны я атрымаю 100 га добрай зямлі, а жыхары суседніх вёсак будуць на мяне працаваць"). У ліпені 1944 г. ён быў схоплены і расстраляны рускімі за Лідай, на мосце праз раку Дзітву каля Мыто. Замест 100 га атрымаў адзін квадратны метр зямлі пры шашы Ліда-Гародня.

8 чэрвеня 1944 г., падобна, тры партызаны Арміі Краёвай уцякалі з Ліды праз раён Рослякі, за якімі немцы будавалі супрацьтанкавыя равы ва ўсходнім кірунку. Уцекачы не ведалі, што за горадам натрапяць на немцаў,

якія ахоўваюць рабочых. Калі яны ўскочылі ў жыта, якое расло перад равамі, адзін быў застрэлены, а другі паранены. Трэці, які ўцякаў праз Зарэчча па дарозе Ліда-Гаўя-Іўе, таксама быў паранены. Гэта адбылося на вачах у рабочых. Немец, які нас ахоўваў, нацэліў на ўцекача сваю "чэшскаславацкую вінтоўку" і стрэліў. Той канвульсіўна развярнуўся на 360° і ўжо павольна пабег далей, хаваючыся сярод будынкаў. Што з ім было далей, невядома.

9 чэрвеня з нашай групы ўцяклі Уладзіслаў Сегень і Ян Шот. У суботу, 10 чэрвеня, я зрабіў тое ж самае. Уцёкі палягчала высокае, прыгожа красаваўшае жыта. Прапаўзаючы ці ідучы на карачках каля аднаго кіламетра на поўнач у бок лесу за чыгункай Ліда-Маладзечна, я не радаваўся паху красаваўшага жыта, духмяных васількоў і кукалю. Ад нервовасці ў мяне перасохла ў роце, аж скура на вуснах і языку патрэскалася. Толькі дурань смерці не баіцца. За пуцямі быў вялікі лясны масіў, але чыгунку ахоўвалі нямецкія патрулі.

Вяртаемся да касцёла і ідзём па вуліцы крыху ўлева, на ўсход, паўз усходнюю сцяну замка, да рэчышча ракі Лідзея. Гэта Замкавая. За мастом ва ўсходнім кірунку адгаліноўваецца вуліца Вызвалення, якая раней называлася Зарэчнай. Вядзе яна праз вёскі Навасёлкі, Агароднікі, Дуброўню ў кірунку Бердаўкі, Гаўі, Іўя і Юрацішак. 26 жніўня 1953 г. каля Бердаўкі чацвёра функцыянераў КДБ былі застрэлены з засады адным мужчынам. Гэтую групу ўзначальваў капітан Стралкоўскі, з якім я пазнаёміўся падчас выбараў, калі ён быў у складзе групы аховы памяшкання камісіі. Падчас абеду (а было гэта ў лютым 1953 года), ён напяваў песню са словамі:

*"Мне до тебя далеко,*
*а до смерти - четыре шага".*

Можа, прадчуваў, што праз паўгода загіне? Дрэнныя думкі прыцягваюць няшчасце.

Хаваючыся каля вёскі Далекія (гэта былы раён дзеяння аддзела Арміі Краёвай паручніка "Рагнера" - Чэслава Заянчкоўскага, які загінуў 8 снежня 1944 года ад рук бальшавікоў), невядомы дагэтуль мужчына апынуўся ў ваколіцах Бердаўкі і ішоў па дарозе з перакінутым цераз руку плашчом. Аператыўная група, параўнаўшыся з ім, папрасіла ў яго дакументы. Той спакойна палез у кішэню марынаркі, выхапіў пісталет і бліскавічна застрэліў чатырох чалавек, пасля чаго хутка ўцёк. Праўдападобна, КДБ схапіла яго ў вёсцы Далекія толькі позняй восенню таго года. Хадзілі чуткі, што гэта быў адзін з англійскіх шпіёнаў, чатырох з якіх скінулі паміж Вільняй і Лідай. Даехалі яны потым да станцыі Гуды і накіраваліся на поўнач, праходзячы міма загроды Вітольда Свідзінскага, далей у кірунку вёсак Мар'янава, Гурыны і Уладзіславава. Высадка была ў чэрвені, і тады войска зрабіла вялікую аблаву.

Вернемся да маста на Зарэччы, дзе заканчваецца вуліца Замкавая, і ў паўднёвым кірунку ідзе вуліца Гражыны. Вядзе яна праз вёскі Навапрудцы, Шайбакі, Вінкаўцы, Ёдкі і далей на Навагрnon. За горадам, паміж вуліцамі Гражыны і Могілкавай, ёсць парафіяльныя могілкі, якія называюцца не як квартал - Вісманты, а Ешманты (мясцовае скажэнне).




***Вуліца Замкавая***

У траўні ці чэрвені 1944 г. натоўпы людзей ішлі на набажэнствы ў фарны касцёл. Сярод іх спяшаўся з жонкай паліцай (шуцман) па мянушцы Бруд, які паходзіў з мясцовага насельніцтва. Непрыкметна з натоўпу да яго падышоў цывільны, стрэліў і знік у натоўпе. Жонка забітага схапілася за карабін, каб пагнацца за выканаўцам выраку, але той ужо зліўся з натоўпам і знік.

Ад касцёла пойдзем па вуліцы Сувальскай у паўночным кірунку. Да вайны абапал яе стаялі камяніцы. Аднак увесь цэнтр горада, аж да рынкавай плошчы і вакол яе, быў спалены і разбураны падчас вайны. Сціплага кінатэатра "Эдысон" ужо не відаць.

Павернем налева на захад, на вуліцу 3 Мая, якая раней называлася Каменка. Знік з яе фотасалон Юндзіла. Ідучы далей на захад, даходзілі да вуліцы Крывой. Няма ўжо цяпер такой, і на ёй невялікай крамкі яўрэя Дубчанскага. Яго сына на кароткі час перад вайной прынялі ў першы клас гімназіі. На рагу скрыжавання вуліц 3 Мая і Пярэцкага, з паўднёва-ўсходняга боку, стаяла сапраўдная пярліна драўлянага будаўніцтва. Гэта будынак, у якім размяшчаўся Народны банк і ПКО. Прыгожы для даваенных часоў будынак, пафарбаваны ў цёмна-сіні колер з белымі, як карункі, вокнамі. Быў у Лідзе яшчэ адзін такі будынак, яшчэ большы і ўнушальны. Гэта ўзорная школа рамёстваў паміж вуліцамі




***Вуліца Каменская (3 Мая)***




***Вуліца 3 Мая***



***Скрыжаванне з вуліцай Крывой (Мацкевіча)***




***Вуліца Крывая***

Сувальскай, Вейскай (вясковай) і Хлоднай (Халоднай), побач з чыгункай Ліда-Маладзечна.

Вуліца 3 Мая вяла на захад да чыгуначных шляхоў, за якімі ляжаў раён Пескаў. Побач з ёй, з паўднёвага боку, была турма пад звычайнай назвай "Каменка", у якой за час бальшавіцкай і нямецкай акупацыі загінула шмат нявінных людзей, верных сыноў Лідскай зямлі.

У 1941 г. бальшавікі арыштавалі ўдзельніка вайны 1920 г., добраахвотніка польскай арміі Баляслава Кавалеўскага, які паходзіў з-пад з мястэчка Жалудка і набыў у вайсковага асадніка Станіслава Рыбіцкага ўчастак зямлі ў вёсцы Колышкі. Разам з ім быў арыштаваны яго 14-гадовы сын Часлаў. Для правядзення следчых дзеянняў іх спачатку трымалі ў доме Грабліса на вуліцы Фалькоўскага, дзе размяшчаўся НКДБ. Сына зачынілі ў падвале, а бацьку забралі ў турму. Дзе і як праходзіла следства над Баляславам, невядома. Падчас бальшавіцка-нямецкай вайны ўцёк з лагераў у Англію. Сын Часлаў вярнуўся праз месяц, знясілены, глядзеў на навакольны свет шалёнымі вачыма. На следстве яго называлі "польскім блядзёнкам". Колькі жаху, адчаю і нянавісці было ў ягоных апавяданнях. Як ён, будучы вязнем, зайздросціў старой худой казе, што на волі пасвілася за закратаваным акном турэмнага падвала. Летам 1941 г. Часлаў здабыў і захаваў для партызан АК ручны кулямёт Дзегцярова, некалькі магазінных талерак патронаў, каля паўсотні нямецкіх і расейскіх гранат РГД, якія перадаў яму "чорны шуцман" Лёлек Б. і яго калега і сусед Томак Петрыкоўскі. Часлаў увесь час напяваў паўстанцкую песню, якую навучыўся ад сваёй маці Браніславы:

*Чорны крук, з якога боку сюды*
*цябе бура завеяла?*
*Адкуль пярсцёнак гэты залаты*
*і рука тая белая?*

У першы дзень Вялікадня 9 красавіка 1944 г. уступіў у аддзел Арміі Краёвай. У траўні падчас сутычкі на Нёмане з чырвонымі партызанамі быў цяжка параненены ў сцягно, пры самай пахвіне. Яго перавезлі ў шпіталь аж да Вільні, пры дапамозе жонкі даваеннага войта Лідскай гміны Марыі Герасімовіч. Фронт застаў Часлава ў Вільні. Вылечыўшыся, здолеў перабрацца ў Польшчу і апынуўся ў Сямятычах у чыгуначніка, свайго дзядзькі Бранцэвіча. Бацька Баляслаў, які быў у Англіі, аформіў яму дакументы, і ў 1959 годзе Часлаў выехаў у Англію.

Акрамя турмы на вуліцы 3 Мая, у Лідзе была яшчэ адна, больш сучасная, цяжкая турма на вуліцы Сыракомлі. У 1940 г. НКУС забраў у турму загадчыка пачатковай школы ў Споркаўшчыне Андрэя Майхера і настаўніцу гэтай школы Палюхаву, колышскага солтыса Стэфана Глэмбіня, Юзафа Герасімовіча, войта Лідскай гміны, Пятра Ермака, земляроба і капрала ваенізаванай арганізацыі "Кракусы" з в. Колышкі.

10 сакавіка 1943 года з турмы на вуліцы Сыракомлі немцы вывезлі за горад дзевяць святароў і расстралялі іх як закладнікаў. Ад рук гестапа загінулі: Аляксандр Аўгустовіч - пробашч з Няцечы, Альфонс Бароўскі - пробашч з Лацка, Францішак Цыбульскі - пробашч з Трабаў, Стэфан Дабравольскі - пробашч з Беліцы, Вінцэнт Лабан - пробашч з Ліды (парафія Слабада), Люцыян Мрачкоўскі - вікарый Лідскі, Ежы Ажароўскі - пробашч з Ліпнішак, Вінцэнты Страснеўскі - пробашч з Юрацішак і Стэфан Снягоцкі - вікарый Лідскай фары.

Вясной 1944 года звязавы Мяцяшыц з 77-га пяхотнага палка ў Лідзе служыў турэмным вартаўніком. Ён псіхічна не вытрымаў бачанага і перажытага. Увечары ён вярнуўся з сутачнага дзяжурства, застрэліў сваю 30-гадовую жонку Марыю і скончыў жыццё самагубствам.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




У Менску ў выдавецтве “Адукацыя і выхаванне” выйшла 2-е выданне кнігі “Гісторыя беларускай дзяржаўнасціі” пад агульнай рэдакцыяй І.А. Марзалюка, 448 ст. Дадатковы наклад - 1400 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніга Алеся Марціновіча "Гісторыя праз лёсы”, Т. 9. 372 ст. Наклад - 500 асобнікаў.




У Менску выйшла кніга Міколы Савіцкага “Гучала - гучыць і будзе вечна гучаць беларуская мова ў незалежнай Беларусі. Барацьба за адзіную дзяржаўную беларускую мову. Асабісты архіў пад адной вокладкай”. 280 ст. Наклад 120 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшаў альбом-манаграфія "Забытая экспедыцыя 1923 года. Ля вытокаў акадэміч-най этнаграфіі ў Беларусі". Яе аўтары: Сяргей Грунтоў, Яніна Грыневіч і Надзея Саўчанка.




У Лідзе ў выдавецтве ПУП "Пружмень" (друкарня ЮрСаПрынт, Гародня) выйшаў літаратурна - мастацкі зборнік “Нясвіжскі ўток”. № 2, 319 ст., наклад 110 асобнікаў.







У Лідзе ў выдавецтве ПУП "Пружмень" выйшлі дзве кнігі Сатырычнай гісторыі Беларусі, аўтар Язэп Палубятка. Кн. 1. “Прыгоды Мармулка”, 84 ст., 120 асобнікаў. Кн. 2. “Вандроўка ў Чыкага”, 83 ст., 120 асобнікаў.

